ВІКТАР СУПРУНЧУК

# Недзе баліць ля сэрца

АПОВЕСЦІ І АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

# АПОВЕСЦІ

## Недзе баліць ля сэрца

### 1

Нібыта шукаючы паратунку, часта і нервова застукалі ў дзверы. Сяргей Сяргеевіч толькі ўвайшоў у хату, прысеў на ўслоне. Пасля доўгага дня не адчуваў ступакоў, і ў галаве нейкая была каша.

Хацелася, каб нехта пайшоў замест яго ў сенцы і адчыніў гэтаму нахабнаму чалавеку, які, напэўна, думае, што старшыня калгаса жалезны і яму не трэба хоць трохі пабыць у сваёй хаце. Вось так, выцягнуўшы ногі.

Ён заплюшчыў вочы і, каб не голад, які жыў недзе ля самага горла, бо не еў ад додніцы,— лёг на канапу і заснуў.

У дзверы перасталі барабаніць і ўжо ляпалі ў акно. Нешта гукалі. Потым сціхлі. Сяргей Сяргеевіч пачуў скрозь кашу ў галаве: «Мо ён п'яны?»

Нічога не зробіш, трэба адчыняць. «Чорт бы пабраў гіцля гэтага...» Сяргей Сяргеевіч скінуў пантофлі, так ступакам было лягчэй. Ветрык быў як бярозавік з пограба ў спякоту, прыемна казытаў стомленыя ногі.

Ён рэзка адчыніў дзверы і злосна, амаль з нянавісцю, спытаў:

— Ну, шчо такое? Пажар чы памёр хто?..

На ганку стаяла Антоля Казліха, тэлеграфістка і яна ж начальнік пошты. Баба ў целе, з ружовым гладкім тварам. Зараз яна была як смятана і дыхала з усхліпамі, нібы астматык. Відаць, і сіл не было, але жаночая прырода брала сваё: спрабавала Антоля сяк-так схаваць пад хусткай

растрапаныя валасы, падфарбавала губы, але не зусім удала. На падбародку чырванела памада.

Сяргею Сяргеевічу зрабілася смешна, і ён адвярнуўся, каб не пакрыўдзіць жанчыну. Яна маўчала, усё ўсхліпвала.

— В-вось! — нарэшце выдыхнула Антоля і падала яму скамечаную паперчыну, па выгляду — нібыта тэлеграма. Пазаўчора ў яго быў дзень нараджэння, і ён падумаў, што нехта яшчэ віншуе.

— Дзякуй! — Сяргей Сяргеевіч палажыў паперу ў кішэню і, не чакаючы, што скажа Антоля, зачыніў за сабою дзверы. Жанчына нібыта памкнулася за ім, перасмыкнула плечукамі, але ён раней ускочыў у сенцы.

У гасцінай званіў тэлефон, гэтак жа настойліва, як Антоля барабаніла ў дзверы. Сяргей Сяргеевіч не зняў трубку. Дастаў з халадзільніка мяса, нарэзаў шырокіх, з далонь, скібаў і кінуў на патэльню.

Голад ужо, здаецца, схапіў за горла. Сяргей Сяргеевіч не вытрымаў, узяў з патэльні кавалак недасмажанага мяса, адрэзаў хлеба і пачаў есці. Еў і еў, аж пакуль не асалавеў ад яды. Адразу паабедаў і павячэраў. Ці так пахудзееш? Урачыха прызнала гастрыт, і так наядацца нельга, але лепш, чым быць галодным.

Пасля яды пацягнула на сон. Час быў позні. Гадзіннік адбіў палову дванаццатай. Праз шэсць гадзін пад'ём, як у арміі. Галава — нібыта вяроўкай прывязана да падушкі. Была б на тое воля, дык і не раздзяваўся б — лёг бы ў апратцы і заснуў.

Сяргей Сяргеевіч прыслухаўся — без жонкі і сыноў у хаце было пуста і адзінока, як у склепе. Ён зазірнуў у адзін пакой, у другі і — нібыта апынуўся ў чужой кватэры. Усё было застылае і насцярожанае, як лес уначы. Быццам упершыню бачыў гэтыя дываны, што схавалі пад сабою сцены і падлогу, крыштальныя люстры, посуд у «сценцы» з югаслаўскага гарнітура. Было ўсё гэта ягонай маёмасцю, нават часткаю жыцця, бо не проста дасталося, і ў той жа момант здавалася, што нехта знарок гэта налажыў, наставіў. Калі б сказалі: аддай якомусь чалавеку, ён ні на хвіліну не задумаўся б — яшчэ памог бы вынесці з хаты. Бо адчуў раптам, што ён не ў сябе дома, а ў нейкага пана з не зусім добрым густам. «Сценка» ў гасцінай была надта вялікая, дываны заяркія, крыклівыя, як бабы на сходзе.

Штосьці ўсё было не так, як трэба, як, можа, калісьці марыў. І ад гэтага адчування з яго зляцеў сон. Ён бяздумна бадзяўся з кутка ў куток, узяў з паліцы кнігу, пагартаў яе. На кухні ўбачыў, што брудны посуд пакінуў на стале. Зняў кашулю і памыў талеркі, відэлец, лыжку, акуратна выцер іх ручнікам.

Зайшоў у спальню і сеў на чыстыя прасціны, ад якіх пахла сырасцю, уключыў таршэр і пагасіў верхняе святло. У яго была звычка пяць — дзесяць хвілін чытаць у ложку. Кніжак у спальні не было, і тут Сяргей Сяргеевіч успомніў пра паперчыну, якую прытарабаніла яму паўгадзіны назад Антоля. Ён усміхнуўся: вельмі ж яна была дзіўная, нібыта хтось яе знячэўку напалохаў.

Ён знайшоў паперу, раздзеўся і лёг на ложак. Можна было пачытаць, што жадаў яму стары сябра на дзень нараджэння.

Тэлеграма была на простым бланку, а не на святочным, з двума радкамі слоў. Ён прабег вачыма па тэксце і нічога не зразумеў, але ўсё-ткі падняўся з ложка. Нечага расхінуў фіранкі на акне, нібыта на дварэ было відно, а не стаяла ноч,— і зноў перачытаў тэлеграму. Толькі з трэцім разам ён змог асэнсаваць тое, што бегла па гэтай паперцы імклівымі тэлеграфнымі радкамі. «СЯРГЕЙ ПАМЁР БАЦЬКА ПАХАВАННЕ ЗАЎТРА ДРУГОЙ ПАЛОВЕ ДНЯ ВЫЛЯТАЙ АРСЕН...»

Сяргей Сяргеевіч палажыў тэлеграму побач на прасціну і прыціх. Гадзіннік цяжка, нібыта барабан, бухаў, як несучы на сабе сам час.

Сяргей Сяргеевіч механічна ўзяў вопратку з табурэткі і пачаў адзявацца. Адзежа не паддавалася яму, ён глянуў уніз — замест штаноў нацягваў кашулю.

Яшчэ хвіліну, а мо і крыху болей, ён быў у затарможаным стане. Потым, як уцякаючы ад кагосьці, імгненна надзеў новы цёмны касцюм, на хаду завязаў шнуркі туфляў. Кашулю, рабочыя штаны, пінжак кінуў у ваннай у скрынку для бруднай бялізны. Зазірнуў у халадзільнік, але нічога не ўзяў. За гэты ж час, які збіраўся і бегаў па хаце, ён паспеў пазваніць Аляксею і Уладзіміру Паўлавічу.

З парога Сяргей Сяргеевіч вярнуўся. Яму здалося, што малавата ўзяў грошай. Дадаў у партманэ дзвесце рублёў. Закрываючы хату на замок, падумаў пра плашч, які не пашкодзіў бы ў дарозе.

З гасцінца даляцеў трэск, быццам статак кароў убіўся ў малады ельнік. На пастаўніку хорам выспеўвалі жабы.

Паветра было празрыстае і крыху салодкае, як крынічная вада ў Падверб'і. Пазаўчора ён лёг на траве ля гэтай крынічкі і нажлукціўся, ажно вечарам забалела горла.

...Тэлеграфныя радкі беглі перад вачыма і беглі, як мурашкі. Галава зрабілася якойсь бязмозглай. «Доўбня!..» — вылаяў ён сябе.

Малады ельнік стагнаў пад ветрам, і пошум ішоў з саду, з суседніх двароў. Трывожна загаманіла лістотай яго любімая вішня, якую прывёз ажно ад крымскіх гор.

З-за хаты Восіпа Караля выскачылі два жоўтыя ваўчыныя агеньчыкі «Жыгулёў», туды-сюды прабеглі па плоце, хатах, спыніліся на Сяргею Сяргеевічу. Ён рушыў насустрач машыне.

Ля Паталёўцавага саду Аляксей развярнуўся і адчыніў дзверцу. Ён сеў у кабіну, прыціснуўся лобам да халоднага шкла. Адразу ўсё было проста: ехаць у Мінск, у аэрапорт. Заставалася толькі скамандаваць Аляксею, і ён памчыць без слоў і пытанняў. Трэба было вырашыць, і як мага хутчэй. Сяргей Сяргеевіч коратка загадаў:

— На хутар...

Як толькі ён сказаў, машына шалёна паляцела па вёсцы. Ён павінен быў заехаць да жонкі: калі хоча, хай едзе з ім. Хоць у душы хацелася, каб Марыя засталася. Навошта ёй туды ляцець, ён даніну і сам аддасць. Тым больш што яна з бацькам была амаль незнаёмая.

Аляксей гнаў машыну напрасткі — ля калгаснага аэрадрома, праз кукурузу, вузенькай дарожкай-сцежкай, якую чамусь не ўзаралі. На рачулцы быў кволы масток, па ім не ездзілі. Пра гэта Сяргей Сяргеевіч успомніў пасля таго, як ззаду засталося выхапленае з цемры люстэрка вады, як штосьці з надрывам трэснула і гахнула, нібыта чалавек жыватом аб раку. «Добра, шчо ноч»,— падумаў ён, але нічога не сказаў Аляксею.

Цешчына хата стаяла ад лесу апошняй на хутары. Суседзямі былі тэлеграфістка Антоля і тры пенсіянеры, таксама ўсе з прозвішчам Казёл. Адзін з іх, самы стары, згорблены, як пытальнік, дзед Фядул, да шасцідзесятага года быў у Самолавічах старшынёй калгаса. Сяргей Сяргеевіч даўно хацеў, каб цешча пераехала да іх, але старая ўпарцілася. І ён вырашыў: хай сабе жыве там.

Святло гарэла ў цешчынай хаце і ў дзеда Фядула, а навокал была цемра, нібы ў мяху з брызенту, ніводнага агеньчыка не відаць з бакоў.

Аляксей затармазіў ля веснічак і зноў нічога не спытаў у старшыні. Быццам яму ўсё роўна. Сяргей Сяргеевіч быў упэўнены, што ён ведае пра тэлеграму.

Дзверы былі на засаўцы. Ён за фіранкамі ўгледзеў на кухні Марыю з цешчаю, пастукаў у акно. Жонка пазнала яго, пабегла ў сенцы адчыняць.

— Добра, шчо прыехаў,— яна абхапіла яго за шыю сваімі мяккімі рукамі, моцна пацалавала. Ад яе пахла дзіцём і свежым хлебам ці нават хутчэй рошчынай. У хаце гэты пах быў такі густы, што ў яго з двара ажно кругам пайшла галава.

— Вы тут хлеб рашчынілі, чы шчо? — сказаў наўгад і зразумеў — не памыліўся. Ён, нічога больш не гаворачы, аддаў тэлеграму Марыі і выйшаў на ганак.

— Мамо! — пачуўся прыглушаны крык Марыі. Калі Сяргей Сяргеевіч вярнуўся, абедзве жанчыны плакалі. На іхніх тварах быў такі смутак, што не паверыў бы — ім хвіліну назад было весела. Ён заўсёды здзіўляўся жаночай здольнасці ўмомант пераходзіць ад смеху да слёз.

— Мо і мне з табой? — прыхілілася да яго пляча Марыя.

— Як жэ ж.— Цешча збірала яму ў дарогу торбу, паклала кумпяка, сала, трохлітровы слоік кілбасы, залітай свіным тлушчам.

— Не трэба нікому ехаць,—адрэзаў Сяргей Сяргеевіч.— Нічога не паможаш.

Да аэрапорта Аляксей давязе ў машыне, а што ён будзе рабіць з гэтым грузам потым? Рук не хопіць.

— Дай мне мяшок,— папрасіў Марыю. Ён узяў свой стары турысцкі мяшок. Так будзе лацвей, плечы гэты цяжар вытрымаюць, абы лямкі не трэснулі.

Здаецца, усё сабраў. Ён зайшоў у пакой і пацалаваў дзяцей. Яны спалі без коўдры, упокат. Сяргей Сяргеевіч накрыў іх, бо з форткі цягнула свежаком. Дзецям гэта не спадабалася — раскрыліся. Ён паціху зачыніў за сабою пакой.

— Сядзем перад дарогай,— цешча быццам адразу пастарэла.

— А мо паеду? — перапытала Марыя.

— Навошта? — Ён заспяшаўся, абняў яе і пабег.

Ля веснічак чамусьці вярнуўся і пацалаваў цешчу. Такога ад стрыманага і нават суровага зяця яна не чакала, таму аж заплакала. Ён падумаў, што сёння занадта многа вяртаецца і гэта, мусіць, дабром не скончыцца. Трэба спя-

шацца. Абы не падвяла машына. Аляксей вытрымае. Дзень і ноч можа сядзець за баранкай. І скуль сіла ў яго: худы, маленькі, нос тырчыць, як у бусла дзюба. Хоць дзед Саўка калісьці казаў, што галоўная сіла мужчыны ў носе, а ўсё астатняе ад яго.

Дарога была пустая, і Аляксей ціснуў на газ. Стрэлка спідометра дрыжала ля ста трыццаці кіламетраў. «Вось будзе, калі ўсмалімся ў шчо-небудзь». Што людзі тады скажуць пра яго? Відаць, як звычайна: міліцыі на яго не было, вялікім панам стаў. Сяргею Сяргеевічу раптам зрабілася страшна, і ён ужо хацеў папрасіць Аляксея, каб ехаў цішэй, але прамаўчаў.

Па баках нічога не было відаць. Яны рэзалі цемру святлом фар, і толькі дарога існавала для іх. Некалькі разоў штосьці глуха стукалася аб машыну, мо якая птушка альбо заяц, але яны не спыніліся.

Чым далей ад'язджаў Сяргей Сяргеевіч ад дому, тым больш спакайнеў. Памалу знікала каша з галавы. Усё роўна як не ў яго памёр бацька. Ён яго бачыў апошні раз тры гады назад у Ерэване. Яны пасядзелі трошкі ў рэстаране, гаварыць ім не было пра што. Моўчкі пілі, елі і слухалі маладую спявачку, а потым ён разлічыўся, і пайшлі — кожны ў свой бок, як чужыя людзі. Калі б хто паназіраў за імі, то не зразумеў бы, чаго яны сустрэліся, што іх яднае. Ён падумаў так тры гады назад. Бацька быў здаровы, мужчына ў сіле.

Ён не сказаў маме пра іх сустрэчу і потым доўга перажываў, усё ўзнікаў у памяці той маўклівы пасядынак. Многа што хацеў сказаць Сяргей Сяргеевіч бацьку, прыгадаць, але не змог пачаць размову. Цяпер позна ўжо...

Яму трэба было пачуць мацерына слова, пагаварыць з ёй хоць трохі, каб упэўніць сябе, што ён усё робіць правільна. І Аляксей зноў зрабіў як трэба, не пайшоў проста па шашы цераз мост, а павярнуў направа, на шурпатую гравійку — у вёску Чарцёж. Адкуль у селішча такая тэхнічная назва, ніхто дакладна не мог сказаць. Малечай чуў Сяргей Сяргеевіч ад старых людзей, седзячы з імі на прызбе, што пайшло гэта ад п'янага пана. Залез ён на дах свайго палаца, а ўнізе, нібыта пад нагамі, раскінулася вёсачка. Маленькія курныя хаткі, ціхія, спакойныя людзі на дварах, як куры. З вышыні — усё як намалявана на паперы. «Ну чыста, галгане, чарцёж!» — сказаў пан лёкаю і цівуну, якія падтрымлівалі яго. «Чарцёж, чарцёж!» — радасна гукнулі яны. А ці многа было трэба. Па панскай

прыхамаці што хочаш рабілася. Мо праўда гэта, а мо і не. Ніхто новага не прыдумаў. Сяргей Сяргеевіч гэту байку ўсім расказваў, хто здзіўляўся назве вёскі. Нават некалі бацьку.

Мама, канечне, спала. Адна ў хаце, з засаўкай на дзвярах, нібыта за ёю можна схавацца ад хваробы, непрыемных навін ці ад благога чалавека. Проста каб душа была на месцы.

Як пастукаў, падхапілася з ложка і, не пытаючы — хто, упусціла ў хату.

— Шчо-небудзь ліхое, сынок? — у мацерыных вачах трывога. Сяргей Сяргеевіч калі ехаў да яе, дык звычайна ўдзень. Мама з паўтыдня як у яго гасцявала ў Самолавічах.

Ён лічыў ужо хвіліны, і не было калі тлумачыць, што да чаго. Не стаў чакаць, пакуль мама знойдзе акуляры. Не сваім, хрыплым голасам, робячы праз кожнае слова паўзу, прачытаў: «СЯРГЕЙ ПАМЁР БАЦЬКА ПАХАВАННЕ ЗАЎТРА ДРУГОЙ ПАЛОВЕ ДНЯ ВЫЛЯТАЙ АРСЕН...»

— Ах, божачкі! — Мама схапіла тэлеграму, усё ж знайшла акуляры, перачытала ўголас сама, гэтак жа марудна, нібы шукаючы нейкі іншы сэнс.— Значыць, памёр...

І гэта было сказана настолькі спакойна, амаль абыякава, што Сяргею Сяргеевічу стала трошачкі не па сабе. Мама апусцілася на ўслон, ахінула плечы хусткай, і рукі затрэсліся. З вачэй папаўзла цяжкая і буйная, як са шкла, сляза. Ніводнага гуку не пачуў Сяргей Сяргеевіч. Мама рагамі хусткі выцерла твар.

— Свой час — ягадзе, свой час — баравічку. Едзь, сыночак, трэба па-добраму. Чы паспееш?

— Калі на самалёце...

— Тады хутчэй.— Яна перахрысціла яго, як некалі ў маленстве, і правяла да дзвярэй. Яшчэ доўга Сяргей Сяргеевіч бачыў прамавугольнік святла, які паступова звузіўся да промня, што, нібыта нож, сек цемру ад хаты да машыны, а потым зусім растаў.

Аляксей грудзьмі налёг на баранку, быццам спрабуючы гэтак павялічыць хуткасць. Абы не заснуць, падумаў Сяргей Сяргеевіч, тады паспеем.

— Колькі бацьку было гадоў? — сказаў Аляксей. Ён адхіліўся ад баранкі, зубамі выцягнуў цыгарэту з пачка.

— Шэсцьдзесят... — Сяргей Сяргеевіч заплюшчыў вочы і нібыта ўбачыў бацьку, не па гадах маладога, у джынсах, ружовай кашулі з кароткімі рукавамі. Ва ўсёй паста-

ве — самаўпэўненасць і задаволенасць жыццём. Вусікі, якія былі б да твару халасцяку гадоў трыццаці пяці. Вочы халодныя і абыякавыя, усё роўна як не сын перад ім.

## 2

— Ара, ара, арыстэ! — галёкае на ўсю вуліцу цётка Ануш і гаворыць-гаворыць штосьці, а ён амаль нічога не разумее. Вакол высокія горы пад белымі шапкамі, і ён штодня глядзіць на іх і здзіўляецца: ніяк не прывыкне. Яны з Беларусі прыехалі да бацькі ўсяго як паўгода, а там ля вёскі — лес, у якім грыбы, ягады, і проста за хатай рэчка, ■ якой, здаецца, не вылазіў бы, каб не мама з дубцом.

Аднак ён вельмі хацеў да бацькі, таму што ва ўсіх сяброў бацька быў, а ён жа не горшы за астатніх. Мама доўга думала, раілася са сваякамі, з дзядзькам Мартынам, калгасным конюхам і яго найлепшым сябрам, бо ён дазваляў Сяргею ездзіць на конях колькі хацелася. Урэшце, яны з мамай тут, з бацькам. Сустрэлі іх бацькавы сваякі цэлым кагалам, заглядвалі ў вочы, нешта гаварылі, а ён нічагусенькі не разумеў. Усе былі чорнавалосыя, з пукатымі вачмі. Ён спярша нават бацькі баяўся, але нічога, ужо прывык — і ён цяпер яму самы прыгожы і самы дужы чалавек на свеце. Толькі шкада: яны вельмі мала разам. Бацька працуе на будаўніцтве нейкай дарогі, ён начальнік, бо за ім прыязджае машына, і, відаць, большы, чымсь старшыня калгаса, які ездзіць на калёсах.

За Сяргеем наглядае цётка Ануш, бацькава сястра, вучыць яго армянскай мове. Мова падабаецца яму, таму што так размаўляе бацька са сваякамі. Здаецца, мова падобная на горы, на якія хочацца залезці, але страшна, і мама з цёткай Ануш не пускаюць.

Яму маркотна на душы, бо штосьці даўно не прыязджае з будаўніцтва бацька. Мама ўпотайкі плача, яна гэта хавае ад Сяргея, але ён здагадваецца: падушка кожны дзень мокрая. Вочы ў мамы чырвоныя. Цётка Ануш сярдзіта гаворыць ёй, што трэба думаць галавой, а не нагамі. Чаму яна так кажа? Хто ж гэта думае нагамі?

— Арыстэ, ара! — крычыць цётка Ануш, дае яму грошы, каб збегаў у аптэку па лекі для мамы. Яна ўжо тыдзень не падымаецца з ложка. Лепш, каб гэта хвароба прычапілася да яго, чымсь да мамы. Ён дужы, адбіўся б.

У аптэцы яго ўжо ведаюць. Называюць Сяргей-джан, і

як толькі ён уваходзіць, усміхаюцца, адразу аддаюць таблеткі і розныя медыкаменты, нібыта чакалі. Ён здзіўляецца, як гэта аптэкаркі могуць, толькі глянуўшы на паперку, даўмецца, што яму трэба.

Ён бегае ў аптэку летам, увосень, зімой, увесну маму забіраюць у бальніцу, праз два тыдні яна зноў дома. Цётка Ануш іх шкадуе, але часам усё ж крычыць, што яны селі ёй на шыю і чаму дарагі брат не дбае пра сваю сям'ю. Ён слухае, і яму вельмі хочацца заплакаць, а мама ледзь чутна шэпча, каб пайшоў на вуліцу пагуляў. І так штодзень. Яму здаецца, што, калі вернецца бацька, будзе інакш. Аднак бацькі няма.

Сяргей прачнуўся пасярод ночы ад яркага святла, якое чамусьці запалілі ў пакоі. І ўбачыў бацьку, што сядзеў на табурэтцы ля мамінага ложка. Яны не размаўлялі: мама плакала, а бацька, сціснуўшы далонямі твар, курыў. «Татачка!» — ён з гэтым крыкам скінуў з сябе коўдру і скочыў да яго. Аднак зацятасць не знікла з бацькавага твару. Ён глянуў на сына з такой абыякавасцю, што Сяргей спалохаўся і, не дайшоўшы кроку, спыніўся. Раптам абхапіў маму за шыю, пачаў цалаваць яе з плачам.

Ён ледзьве ўгаманіўся, і то ў пакоі цёткі Ануш, якая забрала яго да сябе ў ложак. Калі прачнуўся, у вокнах былі відаць горы і бялюткі снег ля самага неба. Мама яшчэ спала, побач з ложкам стаяла табурэтка, на якой ніхто не сядзеў. Ён выбег на двор — там нікога не было. Цётка Ануш карміла курэй і гаманіла аб нечым з суседкай Розай, у якой муж Хачык ездзіў на вялізным «студэбекеры». Сяргей некалькі разоў быў з ім у гарах ажно ля самага Раздана: адтуль вярталіся праз Эчміядзін. Хачык зайшоў у царкву і паставіў маленькія свечачкі ў металічную скрыню з пяском.

І зараз, мабыць, Хачык збіраўся ехаць у рэйс, бо паклікаў яго з сабою. Толькі як пакінуць маму? Яму вельмі хацелася залезці ў гэту вялікую кабіну ехаць, ехаць, каб з усіх бакоў узвышаліся горы. Наверсе, ля белых шапак, удзень горача, нават зімой, хоць загарай.

Ён быў ужо немалы, хадзіў у трэці клас і шмат ведаў, чаго мо і не трэба было ведаць. Цётка Ануш яму сказала, што мама прыехала з Беларусі ў Арменію ў канцы вайны па нейкім аргнаборы і працавала на тэкстыльным камбінаце, дзе і злавіла бацьку. Як гэта яна злавіла, ён не ўяўляў. Мама супраць бацькі была як кураня. Дый яна ціхая, нясмелая, доўга не магла вырашыць: ехаць назад у Арме-

нію з сынам ці не. Навошта бацька прысылаў тэлеграму? Каб пакінуць хворую, нямоглую?

Мо напісала мама альбо хто іншы, але аднойчы прыехаў дзядзька Мартын і з парога заявіў, што забірае іх у сваю вёску. Калі ўжо надумала паміраць, дык трэба на роднай зямлі, бо там мякчэй — няма столькі камення. Яны з дапамогай цёткі Ануш сабраліся ад'язджаць, і тут з'явіўся бацька на чорнай «Пабедзе». Узняўся гвалт на ўсю вуліцу, але дзядзька Мартын нікога не слухаў, рабіў па-свойму: маму неяк пасадзіў у таксі. Сяргея бацька не пусціў. Маўляў, мой сын, буду яго сам гадаваць.

Мама з дзядзькам паехалі ў вёску, а бацька — на будаўніцтва новай дарогі, дзе былі ў яго жонка і сын Арсен. Сяргей застаўся пад наглядам цёткі Ануш. Тры разы ўцякаў ад яе, і два разы здымалі яго міліцыянеры ў Ерэване з поезда. Усё-ткі ўцёк. Паехаў праз Баку са ста рублямі, і там не злавілі ўжо. Галодны і босы, у парванай кашулі, на пачатку трэцяга тыдня дабраўся ўсё ж да сваёй вёскі. Дзядзька Мартын як убачыў, толькі войкнуў, і слоў не хапіла на здзіўленне. Недзе з паўгода бацька або, можа, цётка прысылалі тэлеграмы з пагрозамі і патрабавалі вярнуць сына бацьку. Калі старшыня сельсавета спытаўся ў Сяргея, дзе застанецца — з мамай ці паедзе туды, у горны край, ён дзіка заляматаваў і выгнаў дарослага мужчыну з хаты. І адчапіліся. Бацька прыслаў пісьмо, калі яму было дзевятнаццаць год і якраз атрымаў позву з ваенкамата — забіралі ў армію.

У Чарцяжы помняць, як Сяргей з маленства пасвіў кароў; калі падрос, але быў самы малы з сваіх равеснікаў, працаваў плугавіком, ці, як там-сям называюць, прычэпшчыкам. На лекі для мамы трэба былі грошы, а ў дзядзькі Мартына сваіх сямёра дзяцей на печы і на лаўках, і Сяргей працаваў па дзве змены ў полі. Баючыся, што хлапчук упадзе з плугоў, трактарысты прывязвалі яго.

Маме была радасць, што ў яе такі сын, дый людзі нібыта ўсе родныя, кожны як мог падтрымліваў. Дзядзька Мартын не пакінуў надзеі вылечыць сястру. Апошнія грошы аддаваў на лекі, адрываючы ад дзяцей. Праз год ён знайшоў ці пазычыў тоўстую кніжку пра травы ў Беларусі. Як вольная хвіліна, бег у лес, на поплаў; толькі дзівіліся, калі нёс бярэмем кветкі, галінкі дрэў, траву. Што памагло: ці любоў сына і брата, суседзяў, ці сапраўды мо травы, але, праляжаўшы больш за пяць год, мама паднялася і пайшла нагамі па цёплай ласкавай зямлі. Хутка

яна, мусіць, нават забыла пра сваю хваробу. Мама правяла Сяргея да ваенкамата і хацела ехаць ажно ў вобласць, але дзядзька Мартын не дазволіў, усё яшчэ баяўся за сястру.

Амаль усё жыццё Сяргея прайшло на вачах у аднавяскоўцаў, і яны моцна шкадавалі, што ён не ў іх старшыня калгаса, а ў нейкіх Самолавічах, куды яго забрала жонка, з якой ён пазнаёміўся ў цягніку.

Не было ўжо і дзядзькі Мартына, чыё слова для Сяргея заўсёды было законам. Памёр ён раптоўна, урачы прызналі рак. Хоць пасля не раз думаў Сяргей, што мог дзядзька Мартын і сябе вылечыць, калі б моцна захацеў. Але за клопатамі пра іншых не было яму калі падумаць аб сваім здароўі.

## 3

У Мінск яны прыехалі рана. Золак яшчэ не прабіўся праз навіслыя над горадам хмары. Ішоў нудны дождж.

— А калі самалёты не лятаюць? — сказаў Аляксей.

Сяргей Сяргеевіч не адклікнуўся, стомленымі ад дарогі і ночы без сну вачыма ўглядаўся ў вуліцы, дамы. Раптам захацелася вярнуцца дамоў. Якраз праз тры гадзіны пачнецца ў калгасе планёрка.

У касе Аэрафлоту таўсматая кабета нібы халоднай вады ў запазуху выліла: «Білетаў няма».

— Я з тэлеграмай! — памкнуўся бліжэй да яе Сяргей Сяргеевіч.

— Звяртайцеся да начальніка змены.

У начальніка змены ён таксама нічога канкрэтнага не пачуў: «Чакайце...»

— Мо пазваніце Лезіну? — ціха сказаў Аляксей.

— Лезіну? — Ён пасварыўся з Адамам Міхайлавічам, назваў яго свалатой і злодзеем. Цяпер званіць? Не, толькі не гэта.

— Машыну закрыў? — спытаў для парадку.

— Два разы ключ павярнуў.— Аляксей быў гатовы выканаць любое даручэнне, абы скажы старшыня. Што гаварыць, калі і сам не ведаеш.

Яны ўзняліся на другі паверх аэравакзала, прыселі на жоўтых мяккіх крэслах. Вакол яшчэ спалі людзі. Насупраць Сяргея Сяргеевіча на двух крэслах, шырока раскінуўшы ногі ў кірзавых ботах, спаў дзяцюк у вышыванай кашулі. З кішэнь штаноў тырчалі дзве бутэлькі гарэлкі. Дзяцюку было ніязручна ляжаць, ён круціўся з боку на

бок, пакуль не пачуўся звон і не запахла гарэлкай. Там-сям прачыналіся людзі, падымаліся са сваіх месц, некуды сонна-заклапочана ішлі.

Сяргей Сяргеевіч успомніў, як яны сварыліся з Лезіным і той крычаў наўздагон: «Не плюй у калодзеж, бо напіцца, можа, прыйдзецца». Перад вачмі беглі кругамі нейкія чорныя кузюркі. Кінуць бы ўсё, сесці ў машыну і назад з Аляксеем. На дні два залезці на цешчын хутар, каб нікога не бачыць і не чуць.

Ніколі не думаў, што так нудна і непрыемна чакаць на вакзале — нібыта жабрак, які даўно не еў і спадзяецца на лустачку хлеба.

Побач бестурботна драмаў Аляксей. Душа ў яго спакойная, яму не трэба некуды ляцець, нечага шукаць... Сяргей Сяргеевіч глянуў на гадзіннік. Здавалася, што ён на вакзале немаведама колькі, а мінула толькі сорак хвілін. Ён паціху, каб не разбудзіць Аляксея, падняўся з крэсла і даўжэйшай дарогай, міма кафэ і розных кіёскаў, пацягнуўся да начальніка змены. Не было ў яго звычкі прасіць нешта для сябе, клянчыць. Увесь час кланяўся, шукаў знаёмых для калгаса. А цяпер білет, каб паляцець на пахаванне бацькі, не можа купіць, яго проста не заўважаюць.

Начальнік змены гаварыла па тэлефоне, а ля тамбура сабралася чалавек дваццаць мужчын і жанчын. Многія трымалі ў руках тэлеграмы, відаць, не з запрашэннем на вяселле альбо хрэсьбіны. Сяргей Сяргеевіч, узняўшы над галавой сваю тэлеграму, крыкнуў гэтай усемагутнай жанчыне: «Ёсць у Ленінград?!» Яна зрабіла выгляд ці мо сапраўды не пачула. Тады ён падышоў да тамбура, паклаў перад ёй тэлеграму на стол. Начальнік змены прачытала і, гледзячы на яго злоснымі, у густой сетцы зморшчын вачыма, сказала, каб чакаў.

Пасярэдзіне залы разгублена азіраўся Аляксей. Касцюм неадпрасаваны, на нагах боты — забыў пераабуцца,— за вярсту відаць, што хлапчына з вёскі.

— Як, Сяргей Сяргеевіч?

— Век пражыў, а розуму не нажыў. Хаджу як мыла з'еўшы.

— Навошта ж,— Аляксей загадкава падміргнуў.— Не май сто рублёў, а май сто сяброў.

— Пры чым сябры, калі білетаў нямашака.

— Не ведаю. Лепш спытаць... у Лезіна.

Ох, як не хацелася Сяргею Сяргеевічу званіць Адаму Міхайлавічу, чуць яго задаволены, хітры голас. Дый па-

сварыліся яны ўшчэнт і разышліся з нянавісцю ў вачах. А праз дзень Лезін пазваніў у калгас. Аднак Сяргей Сяргеевіч не захацеў яго слухаць, гаварыла з ім сакратарка. Амаль штодзень званіў на працягу тыдня Адам Міхайлавіч. Мусіць, моцна напалохаўся. Шкада, не здзейсніў тое, што быў надумаў: з малое іскры бывае вялікі пажар... Самому зрабілася страшна гэтага пажару.

Не заўважыў Сяргей Сяргеевіч, як спыніўся ля тэлефоннай будкі. Толькі ўзяўся рукою за дзверцы, Аляксей падаў яму дзве капейкі, нібыта трымаў іх напагатове. Зарагатаў, прыкрываючы шчарбаты рот:

— Калі топішся, дык і за брытву хопішся. Ён зробіць...

У тэлефонным нумары ўсяго шэсць лічбаў, а набраць іх — моцы няма. На сцяне аэрапорта электронны гадзіннік паказваў восем гадзін. У калгасе якраз скончылася нарада, і тэхніка выязджае з машыннага двара.

— Ну, шчо, Сяргей Сяргеевіч? — здзіўляецца Аляксей, бо ніколі не бачыў такім нерашучым старшыню.

— Закрый дзверы, гіцаль! — раз-раз, і паляцелі гудкі на нумар... Іх нібы чакалі, бо адразу Сяргей Сяргеевіч пачуў голас Лезіна. Усё роўна як ён стаяў з ім у тэлефоннай будцы. Паважлівы ў яго голас, быццам пухавік сцеле над ямай. Сказаць бы пару ласкавых слоў, ды не ўсякі дзень лыка дзярэцца.

— Няўжо Сяргей Сяргеевіч?! — так узрадаваўся Лезін, нібыта выйграў па латарэі «Волгу».— Зараз жа буду. Не-не-не...

Сяргей Сяргеевіч пазнаў яго здалёк. Быў Адам Міхайлавіч у чорным скураным пінжаку, без капелюша, у руках імпартны чамаданчык-«дыпламат» з бліскучымі замкамі. Позірк востры і пранізлівы, як цвік, невядома яшчэ, хто першы ўбачыў адзін аднаго.

Пашкадаваў старшыня, што пазваніў Лезіну, і ад гэтага ўзлаваўся на Аляксея. Скасавурыўся на яго і шафёр — адразу ўбок і да машыны. Чамусьці закіпеў старшыня, нібы апчавелае малако, а ў такі момант лепш быць далей ад яго. Значыць, штосьці Аляксей няправільна зрабіў, раз настрой у старшыні раптоўна сапсаваўся. Праз шкло з машыны было відаць, як сустрэліся Сяргей Сяргеевіч і Лезіным, паціснулі рукі. У Адама Міхайлавіча ажно твар засвяціўся. Не чуў Аляксей, як сказаў Адам Міхайлавіч, радасна вітаючы старшыню: «Не той друг, хто мёдам мажа, а той, хто праўду ў вочы кажа».

— Тэлеграма з сабой? — толькі і спытаў у Сяргея Сяргеевіча.

— З сабой.

— У начальніка змены былі?

— Быў...

— Ну і цудоўна, цудоўна... Пайшлі, Сяргей Сяргеевіч.

Яны выйшлі з аэрапорта, потым узняліся на ліфце на восьмы паверх, а можа, дзевяты — Сяргей Сяргеевіч не прыкмеціў, і праз колькі хвілін былі ў невялічкім кабінеце. «Божа мой, куды ж я падзеў свае прынцыпы? Чым далей у лес, тым гусцей»,— думаў ён, пакуль Адам Міхайлавіч абдымаўся з лысаватым вастраносым чалавекам у цёмных акулярах.

— Знаёмся, Сямён, гэта адзін з лепшых у Беларусі маладых старшынь калгаса Сяргей Сяргеевіч. У Ленінградзе ў яго памёр бацька. Сяргею Сяргеевічу трэба сёння там быць.

— Спачуваю і памагу. Ты ж ведаеш мяне, Адам Міхайлавіч.— Сямён замахаў рукамі, нібы вятрак, гаварыў настолькі хутка, што Сяргей Сяргеевіч амаль нічога не разумеў, але падумаў: гэты зробіць.

У пакоі было многа рознай апаратуры. На сцяне вісела вялікая карта свету, і там-сям на ёй блішчалі чырвоныя лямпачкі.

— Для сяброў што хочаш зраблю! — сказаў Сямён і паглядзеў на Сяргея Сяргеевіча. І ад гэтага шматзначнага погляду яму стала ліха, нібыта ўкраў нешта і злавілі за руку.

— Цяпер кажуць, што лішняя дабрата — дурнота,— Сямён паблажліва паляпаў далонню па плячы Сяргея Сяргеевіча, а ён, нібыта дурань, заўсміхаўся, бач як узрадаваўся! Стрэлкі на гадзінніку марудныя, але ж час ляціць проста жах як хутка. А тут пайшлі нейкія дурныя размовы. Сямён пытае ў Адама Міхайлавіча, як здароўе жонкі і дзяцей, што ён думае пра гульню футбалістаў мінскага «Дынама». Гавораць спакойна, пералічваюць знаёмых, як яны жывуць, што ў іх новага і старога. Сяргей Сяргеевіч разгубіўся. Яшчэ трошачкі пройдзе часу — і можна вяртацца ў вёску.

Мусіць, Сямён адчуў, што старшыня нервуецца, і заспяшаўся, схапіў са стала некалькі папак і, падскокваючы, нібы малады пеўнік, пабег з пакоя.

Усё-ткі Сяргей Сяргеевіч шкадаваў, што пазваніў Адаму Міхайлавічу. Хоць, акрамя яго, наўрад ці хто памог бы.

І прыйдзецца, відаць, шчэ неаднойчы здымаць перад ім шапку і прасіць, прасіць. «Шчо я ў каго на ласкавым хлебе...» Пакінуць бы пасаду, сесці на трактар і быць самому сабе начальнікам. Была б чыстая галава і душа на месцы. «Усё гэта і так, ды трошкі не гэтак. Нічога не кінеш, нікуды не паедзеш на трактары»,— падумаў Сяргей Сяргеевіч.

Было адчуванне, быццам ногі распухлі і іх сціснула абцугамі. Ён незаўважна для Адама Міхайлавіча павёў нагамі туды-сюды, спрабуючы неяк аслабіць гэты націск. Быццам палягчэла, але ненадоўга. Не хапала яшчэ з-за абутку сапсаваць сабе дарогу. Дый як у Ленінградзе ён будзе ў такіх кайданах? Сяргей Сяргеевіч успомніў, што старыя туфлі, у якіх ездзіць па калгасе, пакінуў у багажніку «Жыгулёў».

— Як бульба? — Адам Міхайлавіч затушыў цыгарэту і падышоў да карты.— Гэта ж колькі самалётаў лятае. Жах! А аднаго білета няма, і што хочаш рабі. Хоць аб сцяну галавой біся, але калі няма, то ні за якія грошы не купіш.

— Навошта ж аб сценку галавой біцца? Можна яе пашкодзіць.

— Каго яе? — Адам Міхайлавіч зноў сеў, тварам да Сяргея.— Галаву ці сцяну?

«Бач, які жартаўнік»,— падумаў старшыня і ўголас сказаў:

— Гледзячы ў каго якая галава.

— Вясёлы вы чалавек, Сяргей,— смяяўся Адам Міхайлавіч. Твар у яго паружавеў, на лобе — кропелькі поту ад смеху.

— Якая ўжо тут весялосць... — Сяргей Сяргеевіч падумаў, што калі праз пяць хвілін Сямёп не прынясе білет, значыцца... Ён паглядзеў на гадзіннік, устаў з крэсла і, кульгаючы на абедзве нагі, пракандыбаў да акна. На падаконніку ў паперы, на якой былі тлустыя плямы, напэўна, ляжалі Сямёнавы бутэрброды. Можа, у яго гастрыт альбо дыябет. Твар надзьмуты і шэры, пыхкае, як паравоз. Канечне, гэта не ад здароўя. У нечым ён залежыць ад Адама Міхайлавіча, бо вельмі ж шпарка пабег і так ужо лісліва заглядваў у вочы... Урэшце, іхнія гэта клопаты і інтарэс. Нейкі ж ён мае гешэфт. Зарплата невялікая, а сям'ю карміць трэба.

— Як з запчасткамі сельгасмашын у раёне? — раптам

спытаў Адам Міхайлавіч.— Нашы таварышы ездзілі, цікавіліся. Кажуць, што дрэнь.

— Не шукаючы — не знойдзеш,— сказаў Сяргей Сяргеевіч і схамянуўся, пашкадаваў гэтых слоў.

— Канечне! Тэхніка, як цнатлівая дзяўчына, патрабуе ўвагі і любові. Я калісьці, Сяргей Сяргеевіч, жыў на кватэры ў аднаго дзеда. Ён даўно пераехаў у горад, але вёскі не забыў. Дык дзед любіў гаварыць, што карова не помніць зімы, дачакаўшыся лета. Так і ў нас. Некаторыя старшыні ахаюць і вохкаюць, калі нешта просяць, а як дачакаюцца лета — пра ўсё добрае, што ім рабіў, забываюць. Але ж трэба помніць: пасля лета і восені надыходзіць зіма. І часам халодная.

— Так, так... — ясна як дзень, пра што баіць Адам Міхайлавіч. Чакае зімы ў яго калгасе, каб самому не замерзнуць. Але ж не адзін Лезін на гэтай зямлі. «Бач, які самазадаволены твар, а колькі ўпэўненасці... Сказаў бы... Хоць лепш пакуль сціснуць зубы».

Сяргей Сяргеевіч прысеў на крэсла каля акна. За спіной бубніў манатонна Лезін, гаварыў пра іхняе супрацоўніцтва.

— А вось і я! — вярнуўся Сямён. Спрытна дастаў з кішэні білет на самалёт, памахаў ім і палажыў на стол.— Фірма венікаў не вяжа.

— Выдатна, выдатна,— Адам Міхайлавіч пацісnуў руку Сямёну і павярнуўся запытальна: — Сяргей Сяргеевіч?..

— Зараз, зараз... — Ён замітусіўся, пачаў дзякаваць і няўклюдна падаў грошы. Сямён не паспеў іх перахапіць, і грошы паляцелі на падлогу. Яны з Сямёнам сабралі грошы з падлогі. Адам Міхайлавіч з цікавасцю назіраў.

Грошай было больш, чым каштаваў білет. Сяргей Сяргеевіч усе палажыў на стол. Сямён пералічыў іх. Частку схаваў у адной кішэні, а частку — у другой.

— Дзякую,— сказаў ціха, не гледзячы Сяргею ў вочы.— Будзе трэба — прыходзьце.

Да самалёта заставалася мо якіх паўгадзіны. Аляксей з машынаю быў ля ўвахода.

Сяргей Сяргеевіч пераабуўся ў старыя туфлі, нагам палягчэла. Адам Міхайлавіч не адставаў, ужо сядзеў у машыне.

Нічога не ўзяў Сяргей Сяргеевіч з таго, што палажылі ў багажнік жонка з цешчаю, схапіў толькі сакваяж і — шпарчэй у аэрапорт. Ззаду пыхаваў Адам Міхайлавіч. Пасадку на Ленінград заканчвалі. Высокі сімпатычны міліцыянер падазрона агледзеў Сяргея Сяргеевіча і папрасіў

саквояж. Яшчэ пяць хвілін — і яго ўжо везлі на аўтобусе да самалёта.

Сонца не было. У паветры нібыта павіслі кропелькі вады і ніяк не маглі ўпасці на зямлю. Сяргей Сяргеевіч прыпыніўся на трапе і азірнуўся назад. За агароджай яму махалі Аляксей і Лезіп. Ён іх адразу вылучыў сярод іншых людзей па ярка-чырвоным гальштуку Адама Міхайлавіча. Аляксей штосьці крычаў, але не было чуваць што.

Злева ад Сяргея Сяргеевіча ў самалёце сядзеў пажылы мужчына, нечым падобны на бацьку. Бровы як стрэхі, ажно закрываюць вочы. У бацькі быў лепшы выгляд, чымсь у гэтага чалавека. Ніхто не даваў яму шэсцьдзесят год. Здаровы быў, пра такіх у вёсцы кажуць, што можна агарод араць. Зайздросцілі яму сваякі, дружбакі. Усё жыццё быў пры ўладзе, пры добрых пасадах. Ніколі не ведаў нішчымніцы. Нічога не памагло. Смерць для ўсіх аднолькавая: ці ты генерал, ці ты пастух. Хоць бы, як іншыя, перанёс інфаркт альбо інсульт, а то ні разу не хварэў. Гуляў у тэніс, выходзіў на валейбольную пляцоўку. Было, было — і мінула...

Калісьці Сяргей быў вельмі злосны на бацьку. Крыўда на яго доўга жыла ў душы. Не мог дараваць бацьку многага. Надта было балюча спярша, калі яшчэ не стаяў цвёрда на нагах. Нібыта на адкрытую рану пасыпалі солі і яна не давала зажыць.

Потым ён зразумеў, што бацька неяк па-свойму нават любіў яго, а цяпер і ганарыўся ім. Апошні раз з кожным сустрэчным і папярэчным знаёміў і гаварыў, што сын — старшыня калгаса ў Беларусі. Дадаваў, бачачы здзіўленыя твары, што Сяргей узначальвае лепшую гаспадарку ў вобласці. Гэта ўсё было, канечне ж, смешна, але бацька радаваўся, быццам малое дзіця. Ён ганарыўся Сяргеем, а потым у яго ўзнікла ідэя сабрацца разам і жыць у адным доме. «Дзе?» — спытаўся тады Сяргей. Бацька задумаўся, яны прайшлі крокаў трыста моўчкі і так і не вырашылі, у якім горадзе ім варта аб'яднацца пад адным дахам. Не знайшлося за гэтыя гады месца, дзе было б усім добра, дзе забылі б свае крыўды і абняліся ў знак узаемнай любові і павагі. Толькі словы, а далей іх ніхто не пайшоў. Гонар і памяць пра знявагу перамаглі ўсё астатняе.

У Ленінградзе — бацька ў гэты горад пераехаў з Ерэвана шэсць год назад — Сяргея Сяргеевіча ніхто не сустрэў. Ён спачатку трохі захваляваўся, а потым вырашыў,

што інакш і не магло быць. Хто ведаў, калі прыляціць, ды ці да яго цяпер. Сяргей Сяргеевіч увайшоў у будку тэлефона-аўтамата, набраў нумар і, калі пачуў голас Арсена, чамусьці паклаў трубку.

У Ленінградзе пагода была лепшая, чымсь у Мінску. Людзі ішлі светлыя і вясёлыя, з радаснымі тварамі. Сяргей Сяргеевіч спыніў таксі на Кіраўскім праспекце, хоць да кватэры было яшчэ далёка, і пашыбаваў пешкі.

Ён тры гады не бачыў бацьку. Цяпер мог прызнацца сабе, што і не надта імкнуўся сустрэцца з ім. Не было ў яго да бацькі ні любові, ні павагі, ні нават адчування, што ён родны і блізкі чалавек. Дзіцячая крыўда асела ў самай глыбіні душы і час ад часу непакоіла, не давала нічога забыць. Не мог Сяргей Сяргеевіч дараваць, што ў цяжкую хвіліну бацька пакінуў іх, не падтрымаў ні добрым словам, ні грашыма.

Але зараз, ідучы сярод чалавечага віру, ён не помніў усяго гэтага. Яму было страшна ад адной думкі, што ўбачыць бацьку нежывым і вакол будуць незнаёмыя людзі, невядома чым звязаныя з ім. Ён затрымаўся ля кіёскаў, глядзеў у вітрыны магазінаў, нібыта спрабуючы штосьці знайсці.

На шосты паверх ён падняўся ўжо знясілены, як цэлы дзень ездзіўшы па калгасе і не вылазячы з машыны. Дзверы ў кватэру былі прыадчынены. Сяргей Сяргеевіч крышку націснуў на іх. У калідоры спінамі да яго стаяла многа людзей. Было вельмі ціха.

Ён зачыніў за сабою дзверы і, відаць, не разлічыў сілы, бо моцна стукнула і той-сёй азірнуўся. У лысым маладым мужчыне Сяргей Сяргеевіч пазнаў брата. Аднак Арсен не заўважыў яго, абыякава глянуў па баках і зашаптаўся з масіўнай круглаплечай жанчынай у чорнай і доўгай, да падлогі, сукні. Побач з Сяргеем Сяргеевічам стаяў мужчына пажылых гадоў і неяк крыва, адной палавой твару, усміхаўся. Да грудзей ён прыціскаў пашарпаны партфель.

Сяргей Сяргеевіч паспрабаваў прайсці далей, але людзі стаялі шчыльна ў цеснаватым калідоры і прасіць, каб далі дарогу, было няёмка. Ён паставіў сакваяж на падлогу і прысеў на табурэтку. Во калі адчуў сябе бедным сваяком.

Ціха было мо хвілін дзесяць. Пасля натоўп загудзеў. Сяргей Сяргеевіч хутчэй падняўся з табурэткі, падхапіў сакваяж і прыхіліўся к сцяне, прапускаючы людзей. Цяпер яго бачылі і віталіся з ім, хоць і былі незнаёмыя.

Абліччам ён быў падобны на бацьку, нават больш за Арсена, якога нябожчык любіў і песціў усё жыццё, забываючы пра сына, што жыў у Беларусі.

— Сярожа! — да яго ішла цётка Ануш. Здаецца, ні трошачкі не пастарэла. У чорных густых валасах няма сівізны. Поўны твар без маршчын. На дзесяць год старэйшая за маму, а пасадзіць іх побач — цётка Ануш нібыта яе дачка.

Абняла пляменніка, прытуліла, і паліліся слёзы з яе вачэй. І яму б зараз заплакаць, мо лягчэй на душы было б. Толькі ён не мог, гладзіў цётку Ануш па галаве, супакойваў, а на языку свярбела. Успомніць бы той час, калі мама ляжала хворая ў яе доме. Ды не цяпер пра гэта гаварыць.

— Вай-вай, Сярожанька! Няма ўжо майго дарагога брата! Як будзем жыць без яго?

Яе вялікае цела дрыжала, і Сяргей Сяргеевіч спалохаўся, што цётка раптам пачне падаць, а ён не здолее ўтрымаць. Ён разгублена азірнуўся, шукаючы дапамогі, але цётка Ануш была намнога мацнейшая, чымсь ён думаў. Яна выцерла насавічком твар, вочы і спакойна сказала: «Ідзі за мною». Узяла яго за руку, быццам малога хлопчыка, павяла. Сяргей Сяргеевіч адразу ўбачыў бацьку, які нібыта заняў сабою ўвесь пакой. Такім вялікім ён не быў у жыцці, хоць многім людзям, з якімі нябожчык працаваў, здавалася, што ў яго высокі рост. І наогул, быццам магутны мужчына ён.

Усё-ткі гэта быў ягоны бацька, кепскі ці добры, і было шкада яго. Некалі гэтыя прыгожыя рукі, хоць і зусім мала, песцілі свайго першынца, калі бацька прыязджаў з камандзіровак, садзіў Сяргея на калені і спяваў песні, якія чуў яшчэ ад дзеда. Вусы ў яго былі чорныя і абвіслыя да барады.

Сяргей Сяргеевіч падышоў да нябожчыка, пастаяў, крыху, пацалаваў бацьку ў лоб. Зноў заплакала цётка Ануш, а за ёю астатнія жанчыны, якія паўкругам сядзелі каля труны. Было свабоднае месца. Цётка Ануш падштурхнула туды яго.

— Будзь мужчынам, сынок,— яго ўзяла за локаць бацькава жонка, маці Арсена, Алена Ашотаўна.— Ён вельмі хацеў цябе ўбачыць перад смерцю, плакаў...

Мабыць, яна любіла бацьку. Яны, пэўна, няблага жылі. Прынамсі, матэрыяльна. Калі ж любіла, дык яму і ў канцы жыцця пашанцавала.

У Алены Ашотаўны вочы былі сухія, нібы дно перасохлай рэчкі, рука халодная, і Сяргей Сяргеевіч пацíху вызваліў сваю руку. Хай сабе жылі б, усё роўна нічога нельга было змяніць, павярнуць назад.

У гэтай кватэры ён быў упершыню. І здзівіўся багаццю, якое тут было, раскошы. Нават у пакоі, дзе ляжаў нябожчык, вісела мноства карцін у дарагіх рамах. Мусіць, бацьку апанавала перад смерцю новая страсць. Раней ён скупляў значкі, хваліўся імі пры сустрэчы ў Ерэване. Ён вазіў іх з сабою, нібыта дзіця цацкі, і забаўляўся. Сяргей Сяргеевіч той раз падумаў, што бацька на старасці год здзяцінеў.

На карцінах былі ў большасці жанчыны ў старажытнай армянскай апратцы. Усе пекныя, рукі ў залатых пярсцёнках, на шыі маністы. І сукні незвычайныя, расшытыя срэбрам. У жанчыны, чый партрэт вісеў насупраць Сяргея Сяргеевіча, вочы блішчалі, усё роўна як маленькія свечкі, і водбліск ад іх асвятляў твар, падаў на тонкія рукі. Яна быццам прымушала глядзець на сябе, і Сяргей Сяргеевіч на сілу адвёў позірк.

Канечне, бацька заўсёды быў разумным чалавекам. Без дай прычыны нічога не рабіў. Ніколі і нідзе не лавіў варон. Умеў ён жыць, і людзі зайздросцілі яго розуму, хітрасці. Было такое. Мама неаднойчы апавядала пра гэта. Але як прайшлі яго апошнія гады? Хто з гэтых людзей, што сабраліся тут, быў яго сябрам альбо ворагам? Ворагі часам бываюць слязлівымі...

Арсен нахіліўся да маці, зашаптаў нешта ёй на вуха. Яна слухала яго, потым яны разам выйшлі з пакоя. Яе не было доўга, і Сяргей Сяргеевіч падумаў, што бацьку, відаць, цяжкавата даводзілася з ёй. Нядобры ў яе твар, і вусны тонкія і роўныя, быццам аркуш паперы. Як яны пазнаёміліся? Мусіць, прыступам яго ўзяла. Не такая ўжо прыгажуня, без усякай адукацыі. Намнога маладзейшая? Хоць, праўда, бацька не супраціўляўся жанчынам... Аднак шкада чалавека, вельмі шкада...

Вярнуўся Арсен, быццам брат і ў той самы час — чужы чалавек, бо яны амаль што не сустракаліся. Ён прысеў на крэсла, на якім сядзела маці. Больш падобны на яе, чымсь на бацьку. Выцягнуў доўгія, як у бусла, ногі ў вышараваных да белых нітак джынсах, уздыхнуў, пагладзіўшы сябе па лысіне. Памаўчаў і сказаў жалобна:

— Няма бацькі... — Заматляў галавою і застагнаў: —

Ён мяне так любіў... О божа!.. — Потым утаропіўся ў падлогу і замоўк.

Сяргей Сяргеевіч заўважыў, што ў яго зубы рэдкія і жоўтыя ад цыгарэтнага дыму. Пра такіх у Самолавічах кажуць: па зубах відаць, што муцяр — гэта значыць хлус. Праўда ў роце не трымаецца, выскаквае праз шчыліны. Было чутно, як у калідоры цётка Ануш нешта загадвала мужчынам, потым з імі ўвайшла ў пакой. З'явілася Алена Ашотаўна і шапнула, каб Сяргей Сяргеевіч і Арсен таксама падняліся. Бацька, здавалася, усміхаўся.

Наперадзе Сяргей Сяргеевіч з Арсенам, а ззаду незнаёмыя мужчыны — мо суседзі ці былыя падначаленыя — падхапілі на рукі труну і пад крыкі, плач цёткі Ануш і Алены Ашотаўны панеслі з кватэры. Ля пад'езда іграў аркестр, было людна. Сяргею Сяргеевічу смылелі вочы, як у маладосці, калі абпаліў іх электразваркай.

Аўтобус павёз па горадзе. Сонца не было ўжо. Дождж дробна барабаніў па даху. Нарэшце пад'ехалі да могілак. Зарослы рыжаю барадой дзяцюк штосьці спытаў у шафёра, немаладога, з сінімі парахавымі кропкамі на лобе мужчыны. Яны заспрачаліся аб нечым. У аўтобусе зацята маўчалі. Сяргей Сяргеевіч хацеў спытацца ў Арсена, што здарылася, але ў яго вочы былі заплюшчаны.

— Што такое? — спытаў ён у шафёра.

— Патрабуе грошы за ўезд. П'яны...

— Колькі? — Сяргей Сяргеевіч павярнуўся да рыжабародага. Той звузіў лупатыя, з чырвонымі пражылкамі вочы і дыхнуў перагарам:

— Пяцёрку!

Сяргей Сяргеевіч аддаў грошы, і вароты павольна расчыніліся. «О божа!» — сказаў нехта ззаду. Мільганулі за вокнамі сівыя сосны, там-сям праскочыла бярозка.

Перад аўтобусам паважна крочыў плячысты чалавек у зялёнай брызентавай куртцы. Павярнулі направа, налева, зноў направа і спыніліся на ўскрайку ляска. На грудку ля балота была выкапана магіла, у баку ад яе ляжалі трое хлопцаў і курылі. Калі пад'ехалі ўсе аўтобусы, хлопцы лянівa падняліся з зямлі і падышлі бліжэй.

Зайграў аркестр. Нехта з мужчын сказаў, які нябожчык быў выдатны кіраўнік і чалавек, што ўсе былі шчаслівыя працаваць з ім. Цётка Ануш гаварыла напалову па-армянску — і Сяргей Сяргеевіч разумеў з пятае на дзесятае,— а напалову па-руску. Наступіла невялікая паўза. Той, хто павінен быў выступіць, не мог ніяк адважыцца.

— Што, усё? — рэзка прагучаў у раптоўнай цішыні танклявы галасок чалавека ў зялёнай куртцы.— Развіталіся? Давай!

Магільшчыкі імгненна прыбілі цвікамі вечка труны, падхапілі яе на вяроўкі, і толькі завойкалі Алена Апотаўна і цётка Ануш. Праз некалькі хвілін усё было скончана. Мужчына ў зялёнай куртцы ўсклаў на магілу вянкі, кветкі і ўпоперак пасек іх рыдлёўкай.

— Навошта вы так? — не вытрымаў Сяргей Сяргеевіч.

— Каб не пакралі,—не азіраючыся, сказаў магільшчык.

Моцна пахла зямлёй. Ад ветру рыпелі дрэвы. Дождж пацішэў і патроху сыпаў. «Як самотна... І праўда няма бацькі...» — раптам з усёй выразнасцю асэнсаваў ён тое, што зараз адбылося. Ледзь стрымліваючы сябе, адышоў за раскараку-сасну і прыхіліўся да яе.

— Прабач,— Сяргея Сяргеевіча хтосьці пацягнуў за плячо. Ён выпрастаўся і выцер вочы. Каля яго стоўпіліся магільшчыкі. Чаго яны чакалі, было зразумела. Аднак ён усё роўна спытаў:

— Шчо?

Старшы магільшчык у брызентавай куртцы паказаў на кожнага свайго напарніка: «Па чырвонцу!» Хлопцы былі ўсе маладыя, але з аднолькава апухлымі тварамі, на голых руках — татуіроўка. Ноччу не хацеў бы з такімі стрэцца дзе-небудзь у глухім месцы.

— За шчо?

— Дзіўны чалавек,— зарагатаў магільшчык, засмяяліся і яго памочнікі.

Сяргей Сяргеевіч больш не гаварыў з імі, аддаў грошы. Яго ўжо клікалі да аўтобуса. Ён яшчэ на некалькі хвілін спыніўся ля бацькавай магілы, укленчыўшы, паправіў вянкі і кветкі. Зямля была сырая, і ён выпацкаў штаны. Усягды вельмі акуратны, нават не звярнуў увагі на гэта. «Хай будзе табе зямля пухам...» — прашаптаў задрыжэлымі губамі.

Зноў загукалі, каб хутчэй ішоў у аўтобус, бо трэба ехаць. А ён усё цягнуў час, не мог развітацца з бацькам.

## 4

Назаўтра Сяргей Сяргеевіч прачнуўся па звычцы, калі за вокнамі была яшчэ цемрадзь. Ён асцярожна падняўся і, каб не шумець, басанож выйшаў у калідор. Вобмацкам

набраў нумар аэрапорта і, дыхаючы ў трубку, спытаў, калі рэйс на Мінск.

Вылецець можна было толькі вечарам.

— Куды вы, Сяргей? — выглянула з дзвярэй Алена Ашотаўна.— Трошкі забаўцеся. Пачакайце.

— Не ведаю... — Сяргей Сяргеевіч паціснуў плячыма.

— Я вас прашу,— настойвала Алена Ашотаўна.— Трэба тое-сёе вырашыць, а без вас немагчыма. Мо наліць кавы?

— Можна...

Яна была ў квяцістым халаце, адпачыла пасля ночы, але ўсё ж бледная, з запалымі шчокамі. Выглядала надзвычай маладой, і гэта падкрэслівалі трохі падфарбаваныя вусны. «Калі толькі паспела?» Значыцца, яна ненамнога старэйшая за яго. Розніца сем-дзесяць гадоў. Мо і больш у яе ўзрост, але жыла лёгка дый амаль не працавала. Спіну ў полі, на фабрыцы не гнула. Клопат быў адзін: як прычоску зрабіць ці модную сукенку пашыць. Бацькавай зарплаты хапала і на жонку, і на лысага бэйбуса з тоўстымі мокрымі губамі.

Алена Ашотаўна зварыла кавы і разліла па маленькіх блакітных кубачках. Яна была добрая кухарка. Толькі раз Сяргей Сяргеевіч піў такую смачную каву на кірмашы ў Сухумі. Пасля спрабаваў сам навучыцца варыць. У яго кава атрымлівалася як у сталоўцы альбо ў райвыканкомаўскім буфеце.

— Смачна.

— Піце яшчэ.

— Дзякую...

— Ніяк не прывыкну, што Сяргея Арцёмавіча няма з намі. Заплюшчу вочы і бачу ўсмешку, чую добры голас. Не магу ўявіць, што гэта ўсё здарылася... — яна гаварыла ціха.— Каб вы ведалі, Сяргей, ваш бацька быў цудоўным чалавекам, якога ўсе любілі. Канечне, у яго былі зайздроснікі, ворагі. Без іх таксама не бывае. Розныя пляткары, гультаі. Ён працаваў па чатырнаццаць гадзін у суткі. Усё ўшкадаваў, што трэба спаць. Сяргея Арцёмавіча любіў Арсен. Яны былі не проста бацькам і сынам, а сябрамі. Бачыце, як перажывае. Нават схуднеў з твару. Усе гэтыя дні ён зусім не есць. Не ведаю, што рабіць. Мо ўрача паклікаць?..

Голас то набліжаўся, то заціхаў, нібыта яна задыхалася. Сяргей Сяргеевіч пачуў, што адкрыліся дзверы, азірнуўся. Прыхіліўшыся да сцяны, у трусах і майцы, пера-

ступаў з нагі на нагу Арсен. Рэшткі валос, нібыта павуціне, рассыпаліся па галаве. Рукі белыя, як у жанчыны, і без мускулаў. Спадылба глянуў на брата, павярнуўся і бокам выслізнуў з кухні.

— Сяргей, вы слухаеце мяне? — спытала Алена Ашотаўна насцярожана. Твар зачырванеў плямамі, і яна стала падобная на курыцу-квактуху.

— Шчо вы, Алена Ашотаўна, я ўсё чую.

Над халадзільнікам вісела карціна, на якую Сяргей Сяргеевіч спачатку не звярнуў аніякай увагі. Відаць, намаляваў яе неблагі мастак, можа, і таленавіты. Надта жывымі былі людзі на карціне. У цэнтры невялічкай купкі людзей узвышаўся бацька, а хто з ім — не мог разабраць. Ён угледзеўся ў карціну, аж падняўся з месца, каб лепш бачыць. Бацьку абдымалі з двух бакоў Алена Ашотаўна і Арсен, а на лаўцы сядзелі чатыры мужчыны, якія пілі віно. Відаць, мастак хацеў паказаць сяброўскую сустрэчу, на якой быў сам. У бацькі выгляд пераможцы, трыумфатара.

— Гэта ў нас быў сябра, мастак... — Алена Ашотаўна насавічком выцерла пыл з рамы.— Бацька любіў яе, а мне штосьці не падабалася. Вам яна падабаецца?

— Нічога.— Сяргею Сяргеевічу вельмі захацелася пакурыць. Такое жаданне ў яго з'яўлялася, калі ён нерваваўся.

— Можаце забраць сабе... на памяць.

Насупраць іхняй кватэры свяціліся вокны дзевяціпавярховага гмаху. Людзі збіраліся на работу. Было відаць, як на кухні жанчына нешта смажыць. Нібыта адчуўшы позірк Сяргея Сяргеевіча, яна захінула фіранкі на акне.

— У мяне ёсць бацькавы фотакарткі.

— Я разумею, разумею... Вас бянтэжыць, што побач з ім мы з Арсенам?..

— Ды не.

— На вашым месцы я сказала б гэтак жа. Штосьці ў вас, Сяргей, выгляд не надта. Давайце налью трошкі каньяку.

— Не трэба.

— А я вып'ю, бо сіл у мяне ўжо няма.— Яна наліла ў кілішак каньяку і выпіла з каваю. Неяк супакоілася, адхінулася да шафы з посудам.

— Арсен! — гучна сказала Алена Ашотаўна і праз хвіліну дадала: — Не чуе. Будзьце ласкавы, Сяргей, пакліччце яго...

Ён адчыніў дзверы і ледзьве на ўпаў. Арсен, згорбіўшыся, нібыта старая баба, падслухваў іхнюю гаворку. Сяргей Сяргеевіч разгубіўся, бо вельмі ж гэта было падзіцячы, і толькі развёў рукамі. Арсен нахабна ўсміхаўся, як у сабакі вачэй пазычыўшы.

— Прабач... — Сяргей Сяргеевіч не ведаў, што гаварыць.

— Нічога, нічога, стары. Клікала, мамуся? — Арсен пацалаваў маці і сеў насупраць брата.

— Нашы спяць? — у Алены Ашотаўны зноў стомлены голас.

— Спяць, мамуся.

— Вось што, дзеці... Цяжка гаварыць, але ж трэба. Сяргей, прашу мяне правільна зразумець. Мы павінны гэта вырашыць, тым больш што вам трэба вяртацца на работу. Вы яе, пэўна, любіце?

— Як жа ж, люблю,— не даўмеў ён, куды хіліць Алена Ашотаўна.

— Сяргей Арцёмавіч таксама моцна любіў сваю работу...

— Мамуся... — Арсен зарагатаў, і ў роце заблішчалі залатыя зубы. Алена Ашотаўна палахліва глянула на яго, нервова ўскінула галаву. Сяргею Сяргеевічу зрабілася шкада гэтых людзей, якія з-за нечага дробязнага нервуюцца. Яго ж недзе чакаюць. Як там парторг Уладзімір Паўлавіч кіруе, хоць бы нічога не здарылася. Ад гэтай думкі захацелася як мага хутчэй паехаць адсюль. Толькі пазваніць, каб Аляксей стрэў у Мінску.

— Дык, Сяргей!.. Арсен ужо ведае, хачу сказаць і вам. Сяргей Арцёмавіч пакінуў завяшчанне. Я пазнаёмілася з ім. Мне вельмі непрыемна. Нічога і ніколі кепскага Сяргею Арцёмавічу не рабіла. Аддала яму ўсё здароўе і маладосць. Я... — Алена Ашотаўна заплакала, і твар стаў непрыгожы і стары. У Арсена на вуснах тая ж крывая ўсмешка, рукой гладзіць сябе па ружовай лысіне.

— Наследнікамі ўсёй маёмасці Сяргей Арцёмавіч пакінуў вас з Арсенам. Большую частку адпісаў вам, Сяргей. А я, я... — усё-ткі яна авалодала сабой, выпрасталася, і голас зазвінеў, як напятая струна.— Мне нічога не трэба, у мяне хопіць сілы. Я знаю, што рабіць.

— Пачакайце,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.— Як у Беларусі гавораць, згодаю двор пабудуеш, а нязгодаю — гатовае разбурыш. Не будзем спяшацца. Да майго самалёта ёсць час, пасядзім і нешта вырашым.

— Ой, як мне баліць галава! — на кухню заплыла цётка Ануш, пацерла скроні, лоб.— Можа, воцату крыху знойдзеш?

Алена Ашотаўна як і не чула цётку Ануш. Глядзіць у падлогу, думае аб сваім.

— Алена, мо заснула? — цётка Ануш паглядзела на Сяргея Сяргеевіча, Арсена. У шафе знайшла воцат, намачыла ў ім кавалачак бінту, прылажыла да лоба.

— Ану дай месца жанчыне,— яна бокам штурхнула Арсена, і той ледзьве не ўпаў з крэсла.— І гэта мужчына. Ні сілы, ні валасоў на галаве... Паглядзі на Сяргея. Во, гэта мой пляменнік. Мужчына на ўсе сто. Чаго кіслыя, нібыта воцату напіліся? Няма Сяргея, і пуста ў доме.

— Перас-тань! — выгукнула Алена Ашотаўна і аж затупала нагамі.— Перастань, перастань!

— Во як! — сказала басам цётка Ануш.— Выйдзіце, пляменнікі. Ну... І ты таксама, лысунчык,— яна выштурхала ўслед за Сяргеем Сяргеевічам і Арсена, які не хацеў выходзіць.

Кватэра была вялікая нават для Ленінграда. Сяргей Сяргеевіч прыкінуў: недзе пад сто квадратных метраў. У калідоры можна было гуляць у футбол. Падлогу ўсцілалі дываны. Яны з Арсенам перайшлі ў кабінет. Тут уразіла колькасць кніг, з якіх, здавалася, зроблены тры сцяны. На чацвёртай вісеў надзвычайнай прыгажосці дыван, у цэнтры якога быў вытканы партрэт бацькі. Здалёк ён нібыта жывы глядзеў на сына. Майстар, здаецца, нават перадаў ягоную хітрасць. Над партрэтам золатам палалі радкі па-армянску і па-руску: «Пакуль я жыву, я жывы...»

Каму патрэбны гэтыя штучныя словы, гульня, у якую ён гуляў усё жыццё? Нікому. Прынамсі, не мне. Сяргей Сяргеевіч праз шкло шафаў чытаў назвы кніжак. Чаго толькі тут не было! Любы кніжнік пазайздросціў бы гаспадару гэтай бібліятэкі. І ўсё — у большасці класіка і сучасная замежная літаратура. У трох шафах былі дзвесце тамоў бібліятэкі сусветнай літаратуры, акуратна агорнутых цэлафанавымі вокладкамі.

— Што, поўны рот сліны? — Арсен адкінуўся на крэсле, нага за нагу.— Зайздросціш?

Ён не адказаў, гартаў кніжкі. Ці чытаў іх бацька? Наўрад, бо за работаю не бачыў свету. Мусіць, думаў на пенсіі пачытаць. Наўрад ці будзе чытаць іх Арсен. Каму збіраў гэтыя кніжкі бацька? Ці не ўсё роўна цяпер?

Сяргей Сяргеевіч адсунуў шкло ў шафе і дастаў томік

паэзіі Бацюшкава, раскрыў на вершы «Да сяброў». Ён быў закладзены паперкай. Прачытаў верш раз-другі. Радкі «Наш друг был часто легковерен; Был ветрен в пафосе; На Пинде был чудак; Но дружбе он зато всегда остался верен» былі падкрэслены. Ён разгарнуў паперку, на ёй тры разы было напісана: «Дарагі сынок...» Да яго ці да Арсена звяртаўся бацька ў сваіх думках, што хацеў сказаць?

— Што знайшоў? — спытаў Арсен.

Ён памаўчаў крыху і сказаў, што нічога. Проста прачытаў вершы Бацюшкава, якія некалі яму падабаліся.

— Вазьмі іх сабе,— сказаў Арсен.— Я вершаў не люблю.

Сяргей Сяргеевіч сеў каля Арсена на другое крэсла. І яны аднačасова глянулі адзін аднаму ў вочы. Тое, што адчуў і ўбачыў ён, здзівіла і збянтэжыла. Вясёлай нахабнасцю і вульгарнымі паводзінамі Арсен спрабаваў схаваць нянавісць, якая цякла з яго, нібыта з перапоўненага вядра вада.

Яны маўчалі, быццам разам пражылі ў гэтай кватэры ўсё жыццё і не было ўжо аб чым гаварыць альбо сустрэліся ворагі. У калідоры цяжка бухаў маятнік гадзінніка. З кухні былі чуваць галасы цёткі Ануш і Алены Ашотаўны. У пакоі пахла нечым затхлым і старым. Сяргей Сяргеевіч адкрыў фортку і на поўныя грудзі ўдыхнуў саладкаватага халоднага паветра.

Ужо быў дзень, і праз акно відаць, як бягуць, спяшаюцца людзі. З дома, што насупраць, выскачыў малады мужчына, на хаду зашпіліў гузікі на плашчы і пашыбаваў да аўтобуснага прыпынку. «І як можна жыць у такой бегатні?» — падумаў Сяргей Сяргеевіч. Ён яшчэ паназіраў за мужчынам, бачыў, як, дачакаўшыся аўтобуса, той ледзьве ўціснуўся ў яго.

— Табе далёка да работы? — сказаў, каб неяк парарваць цішыню, што панавала не толькі ў пакоі, але і ва ўсёй кватэры.

— Не лезь у душу,— усё роўна як прыклеіў усмешку да вуснаў Арсен.

Няма чым крыць Сяргею Сяргеевічу. Як сябе паводзіць з гэтым братам, якога б век не бачыў і не чуў. «Як-небудзь паўдня вытрымаю»,— падумаў, а перад вачмі — могілкі і бацька ў труне. Магільшчыкі цягнуць яе на вяроўках, не даючы нават развітацца. На іхніх тварах нахабныя ўсмешкі, у вачах здзек з людзей. Ад гэтага ўспаміну нібыта хто сціснуў да болю скроні. Зараз ён мог бы прабачыць бацьку

і забыць усё: і крыўду, і знявагу, і пакуты, але яго ўжо не было. Ці быў ён сам заўсёды справядлівы з бацькам? Пуста на душы, як і ў гэтай вялізнай чужой кватэры.

«Чаму бацька напісаў такое завяшчанне? Мо перад смерцю вырашыў зняць з душы грэх? Але наўрад ці мучыў ён калі яго». А гадзіннік стукае і стукае, адбівае час, адкрэслівае хвіліну за хвілінай. Быццам нічога не адбылося ў гэтай кватэры.

У калідоры нетаропкія цяжкія крокі, што аж паркет стогне пад нагамі. Цётка Ануш засланіла сабой дзверы.

— Ну што? — сказала яна, і яе голас нібыта ўскалыхнуў у пакоі паветра.— Галубочкі-браточкі. Кава зварылася.

Пад вачыма ў Алены Ашотаўны былі сінія дугі, хоць яна і трохі начапурылася. На ёй ужо была доўгая чорная сукня, на плечы накінула чорную газавую хустку. Зніклі з вушэй брыльянтавыя завушніцы, зняла з рук пярсцёнкі.

Калі Сяргей Сяргеевіч з Арсенам селі, цётка Ануш абвясціла, узняўшы над сабою два пальцы левай рукі:

— Воля вашага бацькі і майго брата і твайго мужа — закон. Астатняе вырашайце самі. Дай паперы і аловак,— загадала яна Арсену. Потым напісала вялікімі літарамі ў слупок: «ЖЫГУЛІ»; ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ; «ДАЧА».

— Дапішы і кнігі,— сказаў Арсен.— На іх палажыў вока Сяргей.

— Значыць, «Жыгуль», дзесяць тысяч, дача і кнігі...

— А хто возьме мяне?

— Ты патрэбен як сабаку пятая нага,— адрэзала цётка Ануш.— Дык вось, я старэйшая сястра нябожчыка брата, таму...

— Хочаш адцяпаць самы смачны кавалак.

— Магу вырашыць...

— Што і ты любіш смачна паесці.

— Па-справядліваму, каб без крыўд...

— Адгрызі кус мяса...

— А во, на, з'еш! — тыцнула цётка Ануш вялікую дулю Арсену.— Бачыў? Смаркач!

— Сынок, я прашу цябе! — Алена Ашотаўна ўсхліпнула.— Пашкадуй хоць мяне!

— Пашкадуй, а гэтыя аглаеды забяруць усе башлі, і мы застанемся з носам.

— Людцы родныя, што гэта робіцца! Цётку, сястру нябожчыка, называюць аглаедам.

— Як вас называць? Наляцелі, нібыта крумкачы. Цётка, дзядзька, брацік,— Арсен забегаў па кухні.— А сама з'еш!— выставіў ён пад нос цётцы Ануш дулю.— Не выйдзе! Я — нашчадак і нікому не аддам нават капейчыны. Вось так, паважаныя цётка Ануш і брацік Сяргей.

— Я, я, я... — штосьці хацела сказаць цётка Ануш і змоўкла, пастаяла трохі і — да дзвярэй.

Арсен скокнуў, нібы кот, і стаў перад ёй на дарозе. Цётка Ануш націснула грудзьмі на пляменніка, ён пахіснуўся, але не ўпаў. Ён расчырванеўся і што сілы ўхапіўся рукамі за дзверы, каб не выпусціць цётку. Якую хвіліну было чуваць, як яны абое пыхкаюць, спрабуючы перамагчы адно аднаго.

— І-ірад! — пасінелымі губамі вымавіла цётка Ануш і адступіла, успацелая, з растрапанай прычоскай. Валасы кудламі навіслі над тварам, халат на грудзях расшпіліўся — гузік адарваўся з мясам.

— З глузду з'ехаў! — не вытрымаў Сяргей Сяргеевіч, падхапіўся з крэсла, каб спыніць Арсена.

— Не падыходзь! — вызверыўся Арсен.— Не адказваю за сябе. Чаго выкаціў бельмы?

— Не чапайце яго, Сяргей,— папрасіла Алена Ашотаўна.— Ён хворы.

— Во-во, я хворы. Мне ўсё трын-трава.

— Будзь ты пракляты! — вярнула мову цётцы Ануш.— Бандыт! Ты яшчэ пашкадуеш, што падняў руку на сваю цётку! А ты чаго? — павярнулася яна да Сяргея Сяргеевіча.— Па мордзе яго трэба, па мордзе! Эх-эх, сядзем.

Зноўку прыселі на сваіх месцах. Арсен вартаваў дзверы, прыціснуўшыся да іх спіною, і грыз пазногці. У кутку ля стала зазвінела муха. Недзе ў кватэры зверху лаялася жанчына і плакала дзіця.

— Божа, божа! — сказала Алена Ашотаўна і ціхенька заплакала. Двойчы паўтарыла: — Сяргей Арцёмавіч, Сяргей Арцёмавіч!

Арсен са сваёй ідыёцкай усмешкай пазіраў на маці і пакуль маўчаў. Сяргей Сяргеевіч здзіўляўся з сябе, з нерашучасці, якая ахапіла яго. Хоць, калі пакласці руку на сэрца, Арсена ён спыніў бы. Аднак ці мае ён права камандаваць у гэтым доме і што, зрэшты, яны надумалі? Не надта пакрыўджаны выгляд у цёткі Ануш, вочы нешта завясёлыя. «Ці не ламаюць яны камедыю...»

— У мяне мала часу,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.— Ха-

чу заехаць шчэ на могілкі і адтуль у аэрапорт. Ну?!. Цётка Ануш?

— Цётка Ануш, цётка Ануш!.. Без мяне ніколі і нічога не могуць.

— Ты ж усюды без мыла лезеш,— выскаліўся Арсен.

— Маці ў грош не ставіш — ад мяне плакаць будзеш,— цётка Ануш стукнула сябе па калене.— Язык свярбіць — аб вушак пачашы.

— Я нічога, нічога не хачу, Ганна Арцёмаўна,— умольна сказала Алена Ашотаўна.— Мо пасля?

— Толькі цяпер,— адрэзала цётка Ануш.

«Каб пазнаць чалавека, трэба даць яму багацце, хай убачыць яго, патрымае ў руках. Мо каб гэтага ўсяго не было — лепш жылі б? Наўрад, свіння заўсёды гразь знойдзе»,— думаў Сяргей Сяргеевіч, скроб патыліцу і не мог вось так проста плюнуць на ўсе гэтыя размовы і паехаць дамоў. Дачы, якая была недзе далёка за горадам, яму не трэба. На бацькавай машыне таксама не ездзіў бы, у калгасе наездзішся, вантробы баляць. Дзесяць тысяч рублёў напалову з Арсенам, які, нібыта воўк, скрыгоча зубамі?

Перад смерцю бацька паспеў адпісаць гэта двум сынам, пакінуўшы Алене Ашотаўне кватэру і ўсё, што ў ёй было.

Арсену, відаць, надакучыла стаяць пад дзвярыма, і ён апусціўся на падлогу. Нахіліўшыся, дацягнуўся да стала і забраў з яго бутэльку каньяку, наліў сабе паўшклянкі.

— Будзьце здаровы! — выпіў і прыцмокнуў, падміргнуўшы Сяргею Сяргеевічу.— Смаката! Хто хоча? Ніхто. Тады вып'ю шчэ трохі.

— Арсен! — прастагнала Алена Ашотаўна.— Табе нельга піць.

— Мне ўсё можна. Я не хлопчык. Буду жыць так, як хачу, а не як вы ўсе хочаце. Грошы трэба мне. Вы сваё з'елі. Пакуль бацька быў жывы, ты, цётка Ануш, колькі з яго пацягнула? Э, маўчыш?.. Хочаш, скажу?

— Сваллата, скаціна! — істэрычна закрычала цётка Ануш.— Ублюдак. Усё, я вам не памочніца.

— Толькі праз мой труп.— Арсен падняў над сабой бутэльку і ўзмахнуў ёю.— Спярша падзелім па-справядліваму, што пакінуў мой, мой,— ён ударыў сябе кулаком у грудзі,— бацька, а потым я вас ні на хвіліну не затрымаю. І, калі ласка, хутчэй. Прапаную свой варыянт: мне —

башлі і машыну, мамусі — дачу, брацiку — башлі. Вам, цётка Ануш, тое-сёе.

— Ах ты, г...— жвава ўскочыла цётка Ануш і па носе, і па носе Арсена.— Я цябе ў баранаў рог сагну... Тое-сёе!

Арсен перахапіў яе руку і так завярнуў, што цётка Ануш завойкала і закрычала Сяргею Сяргеевічу:

— Чаго глядзіш? Памажы, ідал!

Ён ледзьве расштурхаў іх. Арсен ірваўся з рук, лаяўся і хацеў даць здачы. Цётка Ануш праз Сяргея Сяргеевіча лезла да ягонай галавы, каб ухапіць за рэшткі валасоў.

— Здурэлі? — ад валтузні Сяргей Сяргеевіч узмакрэў, стала душна, і ён зняў гальштук, расшпіліў кашулю.— Ці не сорамна? Алена Ашотаўна, хоць вы скажыце ім.

— Хто паслухае мяне? Сяргей Арцёмавіч, Сяргей Арцёмавіч, лепш, каб ты гэтыя грошы аддаў якому-небудзь дзетдому.

— Вар'ятка! Падумай пра сябе! — Цётка Ануш выхапіла з рук Арсена бутэльку, наліла каньяку, выпіла і неяк адразу паслабела. Хоць круць-верць, хоць верць-круць, але ж гадоў ёй было багата. З потам сцерла яна хусцінкаю з твару пудру і фарбу. Зморшчыны, нібыта раўчукі, і вочы ўжо выцвілыя. Рукам ніяк не знойдзе месца: то ў кішэні халата ўсуне, то далоні трэ, то спіскае ў кулакі. Збоку смешна, быццам гульня ў цёткі такая. А чырвань з твару перайшла паласою на шыю. Гэтак жа чырванеў бацька, калі моцна злаваўся.

Дзве гадзіны ўжо валтузіліся, і па ўсім — канца не відаць. Арсен па-ранейшаму займаў сваю пазіцыю пад дзвярыма, а вочы ў цёткі Ануш запальваліся агнём.

— З мяне хопіць,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.— А вы... Як кажуць, гарбатага магіла выправіць. Дача, машына — ды гарадь яны гарам!

— Паспееш з козамі на торг,— апчаперыўшы сваю галаву, Арсен хістаўся з боку на бок. Моўчкі падышоў, мабыць, з хвіліну якую пастаяў, гледзячы яму проста ў вочы. Бадай, нешта зварухнулася ў Арсене, хоць ён і злосна замармытаў. Сяргей Сяргеевіч узяўся за ручку дзвярэй, і ён адпусціў іх.

Борзда пераадзеўшыся, склаў рэчы ў саквояж. Першы і апошні раз ён быў у гэтай кватэры. Канечне, тут жыў бацька, якога, на жаль, ён не любіў, нават дакладней будзе так: не хацеў любіць. Хоць у думках альбо ў сне яны з бацькам былі разам. Міжволі ён успамінаў бацьку, бо яго вельмі не хапала. Позна ўсё-ткі прыехаў у гэту квартэ-

ру, трэба было крышку зацiснуць свой гонар. I, можа, iм усiм лепш стала б. Эх, каб сённяшнi розум ды на той час!

Сяргей Сяргеевiч прыслухаўся: такое адчуванне, нiбыта шматтонны цяжар апусцiлi на кватэру. Нiякiх гукаў, i здэцца, праз iмгненне нiчога не будзе... Жах падпоўз да сэрца, у нагах з'явiлася млявасць, хацелася як мага хутчэй выйсцi адсюль. Ён прымусiў сябе спынiцца ў кабiнеце. Бацька, нiбыта жывы, глядзеў на яго з дывана. Позiрк такi, быццам просiць застацца, пагаварыць з iм...

Не чуў, як увайшла цiхмяная i маркотная Алена Ашотаўна. У твары нi крывiначкi. Абняла яго, прыцiснулася да грудзей. Ён адчуў, як трымцiць яе маленькае цела.

— Прабачце, Сяргей, яго. Ён без злосцi.

«Няўжо яе бацька кахаў, песцiў, хоць чаму ж i не».

— Вам спадабаўся дыван? — Вiдаць, яна вельмi хацела, каб ён без крыўды пакiнуў гэты дом, i нечага баялася, бо страх быў у яе вачах.— Таму што на iм партрэт Сяргея Арцёмавiча? — Яна падбегла да дывана, пацягнула ўнiз, але ён быў моцна прыбiты.— Вазьмiце яго.

— Не трэба.— Сяргей Сяргеевiч узяў яе за локаць, прытрымаў.

— Тады вышлю,— яна знясiлена апусцiла рукi.— Адрас у мяне ёсць.

— Навошта? — Яму было шкада гэтай жанчыны.

— Для памяцi,— сказала яна.— Сядзем на дарогу.

Ён падумаў, што варта было б развiтацца з цёткай Ануш. Алена Ашотаўна здагадалася, клiкнула яе. У цёткi Ануш настрой ужо змянiўся, яна зноў была спакойная i ўпэўненая. Абхапiла пляменнiка магутнымi рукамi, цмокнула яго ў лоб.

— Дурань, дурань! Iдзi,— i падштурхнула да дзвярэй.

У памяцi надоўга засталiся дзве постацi ў напаўасветленым калiдоры: мажная, шырокая — цёткi Ануш i кволая, маленькая — Алены Ашотаўны. Яны панура глядзелi яму ўслед. Праз акно ў кабiнеце бачылi, як ён спынiў таксi, паставiў саквояж у багажнiк, а пасля азiрнуўся на дом i, мусiць, адчуў, што жанчыны сочаць за iм, узмахнуў рукою. Яшчэ iмгненне — i на месцы таксi ўжо спынiўся аўтобус. I нiбыта нiкога не было.

Маятнiк гадзiннiка дзёўб i дзёўб цiшыню. Iмклiва i няўмольна.

## 5

Ад гасцінца метраў за пяцьсот з усходняга боку вёскі Самолавічы пачынаўся машынны двор. Яшчэ здалёку былі відаць бялявыя, з сілікатнай цэглы, будыніны, пастаўленыя роўненька, як пад шнурочак, воданапорная вежа, пафарбаваная ў срэбраны колер і ад таго бліскучая, што новенькі цвік. З усіх бакоў пад'езды к машыннаму двару заасфальтаваны; у самую непагадзь, калі ног з калэчы не выцягнуць, тут можна шпацыраваць у паўбацінках. Пад'ездаў было многа, але заехаць у гараж альбо ў майстэрню можна толькі праз адзін, і то — праз металічныя вароты, якія адчыняюцца пасля таго, як дзед Саўка націсне кнопку ў сваёй будцы. Вароты з ціхім шоргатам распаўзаюцца, і дарога адкрыта. Такога машыннага двара яшчэ не было ні ў кога ў раёне. Самыя багатыры, у каго поўная, пад завязку, машна грошай, і то не мелі. У Самолавічах вароты з кнопкай стаяць ужо год. Дзед Саўка зрабіўся важны, абы з кім не гаварыў, дазваляў выехаць з двара толькі з пуцёўкай на руках. Спярша лаяліся шафёры і трактарысты, а потым — прывыклі.

Сонца было высака, піло расу з травы, а пасярэдзіне машыннага двара, якраз там, куды дзед Саўка забараняў ставіць тэхніку, стаялі два зусім новыя кормаўборачныя камбайны. І не абы-якія: былі яны замежнай вытворчасці. Старшыня калгаса Сяргей Сяргеевіч прыгнаў іх сваім ходам аж з-пад Мінска перад першымі замаразкамі.

Трава ў Самолавічах узнялася, нібы пірог у печы на дражджах, высокая, цёмна-зялёная і густая, што ног не выцягнуць. Уся надзея была на новыя камбайны, а яны пасталі, і хоць каравул крычы.

Механік Сухоцкі, абмацярыўшы дзеда Саўку за тое, што доўга не расчыняў вароты, нібыта шалёны, паляцеў на матацыкле ў раён. Нешта зламалася ў камбайнах, і не было чым замяніць.

З першымі промнямі як залез у кабіну свайго камбайна Мацвей Пранузa, так і сядзеў, аблакаціўшыся на баранку. Дзверцы за сабой шчыльна зачыніў. Праз пярэдняе шкло была відаць чорная кудлатая галава, а збоку, на нейкім рычажку, вісеў саламяны капялюш. Пранузa некалі ездзіў на ўборку на Украіну і, пэўна ж, упадабаў, як там у капелюшах працуюць пад сонцам. Як уборка ці іншая работа летам, Мацвей, нібыта малады фарсун, з'яўляецца

на машынным двары ў белых штанах, белай з кароткім рукавом кашулі, а ў руках — капялюш. Ніхто, праўда, не бачыў шчэ, каб ён насіў яго на галаве. Павесіць у кабінцы, і той матляецца, быццам які абруч. Пасмяяліся механізатары, раз нават схавалі капялюш у саломе і пашкадавалі, бо такім злосным Пранузa ніколі не быў. Твар як сцяна ў майстэрні, вочы вылупіў і крычыць, хоць хавайся ад яго. Ледзь супакоілі, аддалі капялюш і болей не звязваліся з Мацвеем. Бабы, здагадлівыя і быстрыя на язык, умомант вырашылі, што без дзеўкі тут не абышлося. Пра тое, што было Мацвею за сорак, ніхто не падумаў. Усе так шкадавалі яго жонку — бедную бабу паклалі ад нерваў у бальніцу.

Крокаў за дзесяць ад Пранузы ля другога камбайна сядзеў, падаслаўшы зашмальцаваную ватоўку, Кастусь Яргун. У яго былі заплюшчаны вочы, рукі складзены на жываце, і здавалася, нібыта ён спаў. Нават мух, якія танцавалі на лобе, не зганяў. Усягды бачылі, што, як вольная хвіліна, Яргун прыслоніцца да чаго-небудзь і адразу сапе носам. Жартавалі з яго, што сіл пасля ночы набіраецца: малых, як грыбоў, насыпаў у спадніцу Яргуніхі. На грамніцы, калі на Падрэччы вылі ваўкі, вяселле гулялі (бабка Саўчыха на свае вушы чула), восьмага сына паднесла жонка Яргуну. Ці быў ён на восьмым небе ад шчасця, ці лаяўся апошнімі словамі — сведак не было. Слова з яго не выціснеш: альбо працуе, як звер, альбо сапе носам, заплюшчыўшы вочы.

На машынным двары, калі нарадзіўся восьмы сынок — ■ быў ён як кропля вады — бацька,— пачаў паяўляцца Кастусь штодня з раніцы амаль першым. Яргун заўсёды браў на пуп — ледзь жылы з яго не лезлі, а Пранузa, у яго дзяцей не было, рабіў спакойна, як рыбу лавіў вудай.

Додніцай прыбег Яргун на машынны двор і Сухоцкага загрудкі: давай запчасткі, мне дзяцей карміць трэба. Куды і сон падзеўся, крычыць, слінай пырскае. А дзе ўзяць гэты маленькі валік? Усюды быў механік, ні ў кога няма. Імпарт, дэфіцыт. Ну што рабіць?

Пабегаў Яргун за Сухоцкім, налаяўся, аж у вушах звінела, кінуў пад камбайн ватоўку, і — гары яно гарам. Сапе носам, нібы выцягвае штосьці з трубы, і сядзіць. Рукі, як у гультая, вось-вось ад безрабоцця забаляць. Слесары з майстэрні павыходзілі, смяюцца, вачам сваім не верачы, што Яргун прыладзіўся пад колам.

У душы Кастуся — злосць, таму што з-за бязглуздых

начальнікаў ён губляе заробак, грошы на вецер ляцяць, замест таго каб у кішэню легчы.

Усе кінуліся па запчасткі, і, можа, хто прывязе. Галоўны інжынер Капарэйка падаўся ажно ў Пружаны, недзе там у яго блат ёсць.

«Ай, усім да фені!» — узрываецца Яргун, са злосцю глядзіць на Пранузу. Мацвей можа быць спакойным, яму ўсё роўна, колькі заробіць, дзяцей нямашака, жонка загадчыцай у сталоўцы. Што, не цягне мяса дамоў? Мне альбо суседу не дасць, сама з'есць. Дый на дваіх не надта ўжо многа і трэба, калі свая бульба, гурок, сала дый кумпяк, гусі, куры, качкі. Усяго поўна — па самае горла. «Уф!» — выціскае з сябе Яргун, зайздросна яму і шкада, што бязглузда бавіць час.

Яшчэ хвіліну-другую пасядзеў Кастусь і больш не вытрымаў. Падняўся з зямлі, ватоўку кінуў на плячо, стукнуў кулаком па жалезе. Балюча ўдарыў костачку пальца і скрывіўся, як ад аскомы,— не любіў кіслага. Абышоў камбайн, нібыта круг пашаны зрабіў. У майстэрні гулі станкі, грукала жалеза аб жалеза. Яргун натапырыўся, і асалавелыя ад сонца і спакою вочы пасвятлелі. Ён раптам падскочыў, адкрыў дзверцы кабіны і, знайшоўшы пад сядзеннем у скрынцы з інструментам абедзве часткі валіка, з подскакам шыбануў у майстэрню.

Токар Макар Сальвесь — прыблуда з-пад Мінска, служыў недалёка ў войску — рабіў нейкую фінціфлюшку. Яргуну яна не патрэбна, ёсць свая турбота — нічога не гаворачы, выключыў станок. Сальвесь ад здзіўлення і такой нахабнасці рот адкрыў, ды мову адняло. Чорны, як грак, а сваю Зосю што не па яго, лупіў не шкадуючы. Аднак сварыліся яны пры зачыненых дзвярах, без сведкаў. Усё збіраўся Сальвесь пакінуць калгас і з'ехаць да бацькоў.

— Ты ч-што? — залыпаў вачмі Сальвесь і працягнуў руку, каб лацвей узяць Яргуна за каўнер. Кастусь і не думаў ухіляцца, палажыў Макару ў руку паламаны валік і папрасіў: «Вытачы».

— Бяжы ў краму,— сказаў Сальвесь і зноў да сваёй фінціфлюшкі.

— З авансу,— яшчэ раз выключыў станок Яргун.

— Бяжы ў краму,— даўно забылі, калі Кастусь ставіў каму-небудзь бутэльку. На дурніцу сам мог нажлукціцца.

— З авансу,— пішчом лез Яргун і не даваў рабіць Сальвесю.

— Ладна,— падумаўшы, сказаў Сальвесь.— Ідзі паспі. Прыйдзеш праз...— паглядзеў на гадзіннік,— дваццаць мінут.

— Малаток,— павесялеў Яргун і нават, мусіць, у лесе нешта здохла, пачаставаў Макара цыгарэтай. Пакруціўся крыху ў майстэрні і пацягнуўся да камбайна. Зноў кінуў пад кола ватоўку, але не сеў. Абышоў Пранузаў камбайн, здзекліва падумаў; вось табе і майстар. Ва ўсіх аднолькава ламаецца, нягледзячы хто за рулём. А то Пранузу першаму новы камбайн, а яму пасля. Дык хто лепшы майстар? Бач, галаву палажыў на руль і не падыме... Адкрыў Яргун дзверцы, крануў Мацвея за калена: «Шчо рабіць? Сонца ўжо во!» — тыцнуў пальцам у неба. Пpануза здрыгануўся, нібыта ад холаду ці ад спалоху, глянуў чырвонымі вачмі.

— Вяроўку на сонца не закіну.

— Ну-ну,— Яргун усміхнуўся ў свае рудаватыя, як у ката, вусы, прыгладзіў іх і, пасвістваючы, вярнуўся ў майстэрню. Станок быў выключаны, а Макар Сальвесь курыў і гаманіў з слесарамі. У майстэрні прахалода, цішыня, як на сенавале. Сабраліся, байкі расказваюць адзін аднаму, а грошы ідуць. «А мне пуп трэба рваць»,— ад злосці і крыўды немаведама на каго ў Яргуна вочы памакрэлі. Ён падышоў да Сальвеся, перапыніў яго на паўслове: «Давай!» Слесарам не даспадобы, што перапыніў, ім абы языкі памянціць. Таксама ў іх цвёрдыя грошы: як ні рабі — хоць вышэй майстэрні падскоч — а болей ні капейкі.

— Адчапіся! — дастаў з кішэні Сальвесь валік і лёгенька кінуў, ледзьве злавіў Яргун. Дарослы чалавек, а паводзіць сябе так, што хоць стой, хоць падай — не скажаш, ён разумны ці ёлупень. Паспрабуй скажы гэта яму, дык пакрые мацерна, і ўсё з рук сыходзіць. «Усё ад таго, што начальнікаў у калгасе многа, а токар адзін — вось ён і круціць хвастом, як семнаццатка»,— думае Яргун. «Сядзі, сядзі!» — кажа ён сабе пад нос, пасміхаючыся з Пранузы.

Вось якая дзіўная рэч: дзве хвіліны — і валік стаіць там, дзе яму і патрэбна быць, а без яго камбайн — бязмозглае жалеза. Яргун завёў рухавік, пракруціў жняярку: працуе, халера. «Паехалі!» Прытармазіў ля Пранузы і засігналіў. Мацвей падняў галаву ад руля, відаць, здзівіўся, нахіліўся да дзвярэй. Яргун націснуў на газ і да варот. Дзед Саўка не паверыў сваім вачам, таму не заглянуў у

кабіну — адкрыў вароты і яшчэ памахаў на дарогу рукою, нібыта якое дзіця.

На вуліцы пуста, толькі бабка Саўчыха на лаўцы, падперла бараду кульбакай. Газануў, што аж пыл клубам: Яргун едзе. І з гадамі не выйшла дзіцячае жаданне вычварыць што-небудзь такое, каб усе ахкалі і вохкалі. Як колісь у маладосці, прыехаўшы з заробкаў з Поўначы. На чатырох таксі падкаціў да бацькавай хаты. Вадзіцелі спярша не хацелі ехаць, даў удвая больш грошай — паехалі. У першую машыну палажыў чамадан, у другую — капялюш, у трэцюю — сеў сам, а ў чацвёртую — паставіў скрынку віна. Але купіў самага таннага. Многа адзін не вып'еш, а на халяву і воцат пойдзе. І цяпер мужыкі зрэдзь успаміналі і здзіўляліся, як гэта Яргун грошай не пашкадаваў.

Мінуў Кастусь вёску і за цвінтаром павярнуў на Алендры. Тут дарога была лепшая, чымсь цераз Прадмесце, дзе машыны ўвесну павыбілі калдобіны. Камбайнам па гэтай вуліцы было ехаць небяспечна.

Яргун з'ехаў ціхенька з узгорка, які ўжо на ягонай памяці зарос ядлоўцам і крывымі, нібыта стары Юль, соснамі, і праз пастаўнік — ён пасля меліярацыі стаў раўнюткі, як стол,— па плітніцу. Летась ніхто не верыў, калі была сяўба, што на гэтай пясчузе вырастуць райграс і віка з аўсом. За панамі на плітніцы, канечне, сеялі жыта, але даўшы на сотку па добрым возе гною. А тут во як! Насыпалі калійных, фосфарных угнаенняў і пра гной не забылі. Яргун помніць, як напрадвесні прычэпамі з Сашыцы вазіў ад фермы «дабро». Днёўка была па чырвонцу.

Ён прабег па полі, глянуў на траву там-сям і пераганаў камбайн на процілеглы бок, дзе была маса гусцейшая, райграс і віка перапляліся ў букет. Павольна, яшчэ пакуль з асцярогаю, апусціў жняярку і падагнаў яе так, каб рэзаць траву амаль пад корань; камення чамусьці не пабаяўся, што можа ўскочыць у камбайн. Аж горача стала, расшпіліў да пояса кашулю, выціснуў счапленне і даў хуткасць. Жняярка ўздрыгнула і закруцілася, пацягнула траву, авёс, кветачкі, як у прорву. Яргун касіў і рагатаў з Пранузы, механіка, галоўнага інжынера. Шукаюць нечага як у полі ветру. За дваццаць хвілін Сальвесь з жартачкамі зрабіў валік. «От дурні!»

Смяяўся і паглядваў у бакі: не было каму адвозіць, ужо валіў на зямлю. І зноў злосць, як кіпень у ім. Не дай

бог каму і начальнікаў чуць, што ён выліў з сябе. Брыдота ляцела з Яргуна, як з праламанай каналізацыйнай трубы.

Аднак Яргун заўважыў, што ад Алендары завярнула да поля машына і, падскокваючы на купінах, таксама праз пастаўнік, але там, дзе скаціна павыбіла нагамі, панеслася к полю. Пазнаў ён у вадзіцелю Пляменніка, Генуся Бочкеля, з якім ён не любіў рабіць на пару. Дый наогул не было паміж імі міру. Як дзе збяруцца, там адразу лаянка, крык, гвалт. Не мог дараваць Яргун Пляменніку, што Шурку Чымбарову адбіў у яго, калі ён, Кастусь, быў у арміі. Хоць яму даўно гэная Шурка, рапа ссівелая і ўсягды хворая, была як пазалеташняя перакіслая капуста. Але ж свярбела ў душы, смактала пад лыжачкай.

Пляменнік падагнаў машыну ўпоравень з камбайнам, нешта закрычаў праз свае пракураныя зубы. Крычы, хоць лопні, а Яргун цябе не пачуе. «Па-мочнік!» Кастусь паявлічвае хуткасць, і жняярка тарабаніць, аж пішчыць ад напругі. «Маць вашу, знайце Яргуна!» — Кастусь ад радасці паціраe рукі. Трава ляціць з зялёнымі пырскамі, шырокаю стужкаю. Усё перабльгталася, збілася ў адно: і райграс, і віка, і авёс. Пляменнік замахаў, як баба, рукамі, круціць пальцам ля скроні, а потым гэтым пальцам паказвае наперад. «Каб цябе!» Яргун рэзка затармазіў, здаецца, камбайн, як конь, узняўся на дыбкі. Пляменнік не чакаў гэтага і праскочыў, а зялёная маса сыпанула проста на зямлю.

— Шчо?! — гукнуў Кастусь Бочкелю і хацеў сказаць яму, каб не лез, куды не просяць. Але глянуў на жняярку, і стала кепска, гарачыня ад твару пайшла да ног, нібыта лінула на яго гарачым маслам з трубкі. Жняярка была скрыўленая, быццам дзед Саўка, незразумела, як ён касіў гэтыя астатнія метры. Яшчэ б трохі — і ад яе засталася б куча жалеза. Валік, які вытачыў Макар Сальвесь, быў як пажаваны. Усё-ткі ён паспеў накасіць Пляменніку травы на машыну. Ухапіўся абедзвюма рукамі за жняярку, пакруціў яе ўніз — ані з месца. З гарачкі пацягнуў з усяе сілы ўгору, рукі не ўтрымалі слізкае жалеза, і Яргун балюча стукнуўся падбародкам, ажно нагарнуліся слёзы. Ён пачуў, як загула машына і, буксуючы ў каляіне і пыхкаючы, ад'ехала. Пляменнік, напэўна, смяяўся з яго. Яргун не мог зразумець, што здарылася з камбайнам, чаму зламаўся валік. Ён утаропіўся на жняярку і так бяздумна стаяў, нібыта штосьці сапсавалася ў ім самім. Абышоў

вакол камбайна і, размахнуўшыся, ударыў нагой па жняярцы, лупіў ботамі па жалезе мо хвіліну.

Востра пахла сырой травою. Да неба высака і далёка, як да маладосці, у якую ўжо немагчыма вярнуцца. Яргун азірнуўся і, узяўшы з кабіны ватоўку, лёг у траву. На сцяблінцы ля твару караскаўся ад зямлі да сонца чорненькі вусаты жук. Яргун прыціснуў яго між пальцамі, яшчэ б трохі — і няма жука. Патрымаў яго і, бачачы, як той палахліва шавеліць вусамі, адчувае небяспеку,— шпурнуў у траву.

Доўга ляжаць не мог, у душу запоўз страх — а раптам ён вінаваты, што пакруціла жняярку, паспяшаўся, не дачакаўся інжынера альбо механіка. Бухгалтэрыя возьме дый вылічыць за ўсё грошы. Не рубель і не два каштуе жняярка, тут сотнямі пахне. Во будзе ліха на галаву.

Яргун ад гэтай думкі падняўся з зямлі. Мусіць, Пляменнік не заехаў у майстэрню, бо рамонтнай «лятучкі» не было відаць. Яргун дастаў з кабіны лом і паспрабаваў ім раскачаць жняярку, але яе нібыта заціснула пад прэсам. Тады ён пачаў выбіваць скрыўлены валік і таксама не здолеў. Пачуў, што недзе на Алендрах стогне машына, па рухавіку пазнаў: «лятучка». Яргун з яшчэ большай апантанасцю замалаціў малатком па валіку. Нават не павярнуўся, калі машына спынілася побач. Адчуў, што падышлі да камбайна, падняў галаву. За «лятучкай» стаяў старшынёўскі «козлік». Сяргей Сяргеевіч з механікам Сухоцкім і Сальвесем глядзелі на Кастуся. Сальвесь скаліў зубы, механік быў злосны. Старшыня, здавалася, схуднеў за гэтыя дні, як ездзіў на пахаванне. Па ўсім калгасе Антоля Казліха разнесла, што ў Сяргея Сяргеевіча памёр бацька. Старшыня гэтак жа, як і Яргун, паспрабаваў пакруціць жняярку сваёй маленькай, парослай густым чорным воласам рукой.

— Хана? — Сяргей Сяргеевіч вельмі лагодна пытаўся ў Кастуся.

— За-а-клі-ніла,— чамусьці заікаючыся, сказаў Яргун.

— Эх! — выгукнуў механік Сухоцкі, і было ўсім зразумела, што ён хацеў вымавіць.

— Ладна,— спыніў яго Сяргей Сяргеевіч.— Шчо ўжо тут... Кастусь жа хацеў як найлепш...

Сухоцкі не знайшоў у раёне валікаў для гэтых камбайнаў. Мо ў каго яны і былі, але хто дасць, калі самому трэба касіць. Сальвесь развёў рукамі: вытачыць, як бачыце, магу, але з якой сталі? Нагрузку не вытрымліваюць.

— Ну, дык шчо будзем рабіць? — Старшыня прыплюшчыў вочы, неяк вывернутай рукой навёў вакол: — Час жа...

Трава яшчэ была ярка-зялёная, сакавітая, але пару дзён пякельнага сонца — і гэтыя кветачкі і сцяблінкі засохнуць, як для гербарыя. Сяргей Сяргеевіч нарваў жмут райграсу з вікай, удыхнуў у сябе сыры пах.

— Шчо, Сухоцкі? — Ён спадылба паглядзеў на старога, з азызлым чырвоным носам механіка, які пяць год назад быў у калгасе галоўным інжынерам, і, каб толькі воля старшыні, дык і цяпер займаў бы гэту пасаду. Выйшла нейкая пастанова: дарогу дыпламаваным спецыялістам. Хоць і любіў Сухоцкі дзёбнуць калі-нікалі чарку, але як спецыялісту яму не было цаны: што ў рухавіку расклеілася, на слых распазнаваў.

— Мо, Сяргеевіч? — пытаннем на пытанне адказаў Сухоцкі.

— Відаць...— Сяргей Сяргеевіч памарудзіў трохі і загадаў: — Здымайце жняярку.

Старшыня, мусіць, нешта хацеў дадаць, але толькі скрывіўся, нібыта ад болю, і палез у машыну. Зароў, як перапалоханы, рухавік, «козлік» ірвануўся ўперад і гэтак жа раптоўна спыніўся. Сяргей Сяргеевіч, не вылазячы з кабінкі, паклікаў Сухоцкага, але не па прозвішчы, як усягды, а па бацьку: «Казіміравіч!» Механік трушком, расчырванеўшыся, падбег да машыны. «Сядай!» — паказаў старшыня рукой на задняе сядзенне.

Яны ад'ехалі ад поля аж да Свіной вуліцы, гэта недзе два з прычэпам кіламетры, а Сяргей Сяргеевіч усё маўчаў. Нарэшце, за крамай, калі павярнулі са старой польскай шашы, якую паклалі пры панах, у трыццатым годзе,— старшыня трохі павярнуўся тварам да механіка: «Трэба ехаць, Казіміравіч...» І праз паўзу, як ужо аб вырашаным: «На маіх «Жыгулях». З Аляксеем».

З шашы Сяргей Сяргеевіч павярнуў на Асаду, дзе за мостам, ля Завадзіча, жыў Сухоцкі. Машына бегла, падскокваючы на камянях, нібы хлапчаня, і хто быў на вуліцы, канечне, бачыў, што старшыня за рулём, а механік, як пан, сядзіць ззаду, быццам ён ужо ходзіць не ў зашмальцаваным камбінезоне, а ў касцюме, пры гальштуку.

Вароты былі насцеж, і Сяргей Сяргеевіч заехаў на двор да самага ганка. Механік быў напагатове, чакаў, адчыніўшы дзверы, калі машына затармазіць. Спачатку ён хацеў адмовіцца ехаць, але, падумаўшы, што забяжыць

да сына, які вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце на інжынера, здаваў якраз сесію (шматок сала яму не пашкодзіць) — вырашыў, што паедзе.

Сухоцкі мігам, як у далёкія салдацкія часіны, пераадзеўся ва ўсё новае. Месяц назад жонка яму купіла шэры чэхаславацкі з іскрынкай касцюм. Надзеў яго, з цэлафанавага пакета выцягнуў светлую, у чырвоныя квадрацікі кашулю. Не хапала гальштука, і механік, нядоўга думаючы, накінуў на шыю чорны і вузенькі, абсыпаны нейкімі бліщчастымі каменьчыкамі. Гадоў пятнаццаць таму Сухоцкі быў на УВДНГ у Маскве, тады і набыў гэты гальштук. Ні разу яго не надзяваў, сын у маленстве з ім гуляў. Паглядзеў механік на сябе ў люстэрка: нічога, нават, можна сказаць, першы клас.

На двары запіпікаў сігнал: падганяў старшыня. Сухоцкі бегма ў камору, дастаў з кубла кавалак сала і з соллю, не было калі ачысціць, загарнуў у ручнік. З шафы ўзяў яшчэ слоік вішнёвага варэння і ўсё паклаў у торбу, якую жонка пашыла са старой сукні. «Бягу!» — гукнуў у адкрытае акно з нацягнутай на рамцы марляй супраць мух і сам падзівіўся свайму спрыту. Аднак калі сеў у машыну, ледзьве аддыхаўся, як рыба на беразе, хапаў паветра шырока раскрытым ротам.

Выехалі з двара, і Сухоцкі, азірнуўшыся да хаты, успомніў, што ў садзе плот упаў і жонка другі тыдзень просіць, каб адрамантаваў. Дый у хляве нешта святло не запальваецца. Карову блага даіць у цемры. Таксама ж абяцаў жонцы паглядзець, што там здарылася. Мо ў нядзелю якая гадзіна будзе вольная, падумаў ён і ўжо слухаў Сяргея Сяргеевіча. Старшыня глухаватым голасам — ён зрэдзь пакашліваў пасля Ленінграда, прастыў у дарозе — спытаў, ці помніць механік Лезіна. Сухоцкі, вядома ж, гэтага Лезіна не забыў, бо летась у жніво ездзіў да яго з галоўным інжынерам. Акрамя таго, неяк восенню перад Кастрычніцкімі святамі адвозіў на станцыю, і яны разам выпілі ў буфеце на развітанне па сто грамаў каньяку. Усяляк можа быць, сказаў старшыня, запомні яшчэ яго хатні тэлефон.

На машынным двары яны не спыніліся. Старшыня затармазіў ля складаў. З краю ад дарогі іх чакалі «Жыгулі». Аляксей старанна шараваў анучкай шкло і штосьці бурчаў. Сяргей Сяргеевіч уздыхнуў і сказаў: «Аддасі яму «свіныя плечы» і ўсё астатняе». У багажнік палажылі яшчэ штук пяць рыбін, кожная не менш чымсь па кіла-

граму. Была б яго воля, не паехаў бы Сухоцкі да гэтага Лезіна. Але ж камбайны стаяць, і нідзе ніхто палец аб палец не стукне, каб памагчы.

— Адна нага там, другая тут,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.

Машына адразу набрала хуткасць амаль пад сто кіламетраў. З бакоў толькі мільгацелі і скакалі дрэўцы, тэлеграфныя слупы, прыдарожны хмызняк. Сухоцкі на паваротцы ад вёскі заўважыў, як з Асады выязджае машына Пляменніка. Пляменнік быў яго суседам, і механік падумаў, што варта было б перадаць праз Генуся жонцы, каб не турбавалася, але «Жыгулі» ляцелі, як шалёныя, і ён змаўчаў, не папрасіў Аляксея затармазіць.

Калі б яму загадаў не Сяргей Сяргеевіч, а хто-небудзь іншы, ён не паехаў бы. «Восенню, пасля ўборкі,— падумаў раптам Сухоцкі,— напішу заяву, каб перавялі ў шафёры». У яго за плячыма не было ні тэхнікума, ні тым больш інстытута. Шафёрам стаў выпадкова ў арміі. На першым годзе пастроілі іхнюю роту, і маёр з эмблемамі аўтамабільных войск спытаў: хто хоча вучыцца на вадзіцеля. Калі Сухоцкі ішоў у армію, у Самолавічах было два шафёры: шчарбаты Зацірка, які ездзіў на калгаснай «палутарцы», і Ясь Копшталь, які рабіў у райвыканкоме і прыязджаў да маткі на пабітай франтавой «эмцы». Сухоцкі выйшаў са строю і праз дзень быў курсантам вучэбнай аўтамабільнай роты. А потым пайшло-паехала... Сівы ўжо, палову зубоў згубіў, і да пенсіі асталося: на пальцах адной рукі палічыш. Пяць год адбыў нават галоўным інжынерам. Гэта калі Сяргея Сяргеевіча толькі выбралі старшынёй. Як зараз помніць: надвячоркам зарыпелі ля хаты тармазы і, далікатна пастукаўшы, увайшоў новы старшыня. Малады, з-пад кепкі чорная чупрына, як у данскога казака. З ім быў нябожчык Каляда, галоўны бухгалтар: прычыкільгаў, дробна стукаючы мыліцамі па падлозе. Жонка забегала, заскакала, завохкала, не ведаючы, куды іх пасадзіць, усё цягнула на чыстую палавіну, пад бажніцу. Дый, па шчырасці, ён таксама крышку разгубіўся. Не мог здагадацца, з якой нагоды завярнуў да іх старшыня. Праз некалькі год Каляда прызнаўся за чаркай, што гэта ён пасватаў Сухоцкага на галоўнага інжынера. Эхма-хохма! Колькі ён паездзіў па аўтамабільных, трактарных і іншых заводах, дык гэта хай жонка скажа, бо яна помніць усе яго паездкі па падарунках. З Арэнбурга прывёз знакамітую хустку. Дый, відаць, адусюль вазіў

ён хусткі. Летась з Тальяці — чырвоныя, з пеўнямі гумовыя боты. «Вярнуся,— падумаў стары механік,— заяву на стол. До...»

Засмактала ў страўніку, і рука сама палезла ў кішэнь і нічога не знайшла. Паспяшаўся, не пераклаў са спяцоўкі ў касцюм папяросы.

— Дай цыгарэту,— папрасіў ён у Аляксея, закурыў і закэхкаў ад дыму, які, здалося, трапіў не ў тое горла.

— Чытаў у газэце, нешчо не помню ў якой,— сказаў Аляксей.— Ад раку паміраюць найбольш тыя, хто курыць. Нейкі стронцый ёсць у табацы, і ад яго капцы ў воду. Не баішся, Казіміравіч?

— Халера яго бяры. Хай гэны стронцый сам баіцца,— Сухоцкі закашляўся.— Надта крэпкая гадасць. «Беламор» мякчэйшы, і кашаль не б'е. Як ты курыш?

— Як і ты, Казіміравіч, рэгулярна.

Ноччу альбо на золку яны вернуцца ў калгас. «Ці здагадаўся Сяргей Сяргеевіч пазваніць Лезіну, каб ён быў на месцы?..» Да горада, калі глядзець у бакі, дык звар'яцець можна. Сухоцкі адкінуў назад сядзенне і прылёг: што там наперадзе, халера яго ведае. Шафёру ліха, калі спадарожнік ноччу спіць, бо самога тады ціскне сон. Думаў механік — не засне, але ж змарыла. Мо таму, што перад гэтым дзве ночы амаль не спаў: мучыў зуб. Анальгін глытаў, цёплае прыкладаў да шчакі — і нічога. Боль лучыць аж да пятаў. Ранкам глянуў на сябе ў люстэрка і жахнуўся: дзед. Вочы глыбака ўваліліся, зморшчыны пасеклі твар, як нажом, і сівое шчаціння ад шыі да вушэй. Сабраўся, паеўшы, у паліклініку, каб вырваць праклятьі зуб, а ён перастаў балець. І ўжо яго шкада.

Сухоцкі паспаў, бадай, не больш дзесяці-пятнаццаці хвілін, а здэцца — паўдня. Захацеў сесці і не змог: правая нага як драўляная. Курч, сабака, улез. Спакваля пачаў масіраваць мускулы, адчуваючы, як мякчэюць пад рукой, нага ўсё роўна як ажывае. «Фу!» — ухапіўшыся за ручку на дзверцах, ён падцягнуўся і сеў. Успомніў, што ўзяў для сына гасцінец, і падумаў, як спланаваць, каб заехаць да яго ў інтэрнат. Будзе радасці, што бацька прыехаў. Калі сын быў на канікулах дома, яны чамусьці ўсягды сварыліся. Сын крычаў, навошта ён ездзіць невядома куды па запчасткі і вязе «свіныя плечы», што гэта сорамна, а ён даказваў, што покуль інакш немагчыма. «Усё-ткі канец. Апошні раз...»

За мостам, прыхіліўшыся да невысокай крывулі-бярозы, стаяў міліцыянер. У галаве інстынктыўна мільганула: «Спыніць?» Міліцыянер махнуў палачкай уніз. Аляксей мармытнуў нейкі мат сабе пад нос і націснуў на тормаз. Машына слізганула ўправа, потым улева і спынілася насупраць бетоннага слупа з абабітай плешкай.

Міліцыянер быў з шырокай пасачкай старшага сяржанта на пагонах. Ён нетаропка, пачакаўшы, калі міне зялёны самазвал, перайшоў дарогу, сам адкрыў дзверку і аддаў чэсць.

— Жыць надаела? — ён пытаўся не ў Аляксея, а ў Сухоцкага.

— Чаму? — Аляксей радасна ўсміхаўся.

— Дакументы,— на сяржанта ўсмешка падзейнічала, як чырвонае на індыка. Паўнаваты для свайго ўзросту, з прыкметным жывоцікам, ён надзьмуў грыбаты твар, і ніжняя губа яшчэ больш абвісла.

Сухоцкі маўчаў, у машыне гаспадар — шафёр. Уставіш сваіх пяць капеек — толькі пашкодзіш. Ён адышоў убок, але слухаў гаману. Сяржант, здэцца, праверыў усё, аднак яшчэ шукаў. Не было да чаго прычапіцца. Аляксей машыну глядзеў, як добрая матка дзіця. Але вось голас у сяржанта пагучнеў. Праз хвіліну Аляксей падбег да механіка ўспацелы і бледны: «Казіміравіч, дай чырвонец, а то дзірку праб'е...» Яны адышлі за машыну, і сяржант усё нешта пісаў, а потым аддаў чэсць і пашыбаваў на другі бок дарогі. Крутаплечы і зашырокі ў клубах і таму, здалося, няўклюдны, як мядзведзь.

Ад'ехаўшы ад моста кіламетраў два-тры, Аляксей затармазіў, рукі ў яго дрыжалі. Ён закурыў, і толькі тады рушылі далей.

— Знайшоў-ткі... Во г... Каторы раз бачу яго на гэтым месцы. Распасвіўся, шчо баба...

І зноў неяк трывожна стала на душы ў Сухоцкага. Яму ўсягды было не па сабе перад чужымі людзьмі, нерваваўся, і ў сэрца нібыта калолі голкай; боль быў такі ж, як праб'еш палец. Яму здалося, што кальнула, і ён схапіўся рукой. Але боль схаваўся глыбака ў грудзях.

## 6

Адправіўшы Сухоцкага ў Мінск, Сяргей Сяргеевіч зайшоў на склад. Ля ўваходу за парэпаным сталом сядзела кладаўшчыца Зося Апрасіч, сярэдніх гадоў жанчына

ў чорным халаце. На галаве паркалёвая хустка ў сініх кветачках, на левай руцэ танны, за якi рубель, пярсцёнак, што дзецi купляюць у сельмагу. Твар гладкi i чысты, толькi ад вачэй ледзь прыкметныя маршчынкi. Губы свежыя i сакавiтыя, усё роўна як мокрыя.

Зося пакiнула свае паперы, убачыўшы старшыню. Паднялася насустрач, невысокая i акуратная, у адпрасаваным халаце. У яе на складзе, што ў добрай гаспадынi ў хаце: нiякага смецця i ўтульна. Да Зосi быў кладаўшчыком Восiп Кароль. Сяргей Сяргеевiч, можна сказаць, злавiў яго за руку: кiлаграмаў дзесяць нёс ноччу мяса са склада. Пашкадавалi за ўзрост, а то як пiць даць пасадзiлi б. Ён прасiўся i плакаў, як хлапчаня. На таварыскiм судзе аштрафавалi на дваццаць пяць рублёў. I тады нахабнiк стукнуў дзвярыма, зразумеў, што больш не дадуць. Сяргею Сяргеевiчу пасля перадавалi не раз: Восiп Кароль п'яны крычаў, што пасадзiць старшыню, выведзе яго на чыстую ваду.

Зося сама, яшчэ не паспеў запытаць, адкрыла абодва халадзiльнiкi, каб паглядзеў, што ў iх. Па накладных паказала, колькi мяса паступiла на склад, куды пайшло i колькi. Яна вiнавата залыпала вачмi: як афармiць мяса, што ўзяў Аляксей. Не ведала, куды падзець паперы, камячыла iх у руках: урэшце палажыла накладныя на стол.

На каго запiсаць гэтыя дзесяць кiлаграмаў мяса: не на абед жа механiзатарам i не на дзiцячы садзiк? Ён сабе не ўзяў яго, не занёс дахаты сваiм жонцы i дзецям. Хоць, вядома, мог бы, i Зося яшчэ загарнула б у паперу. Старшыня — гаспадар у калгасе, яму многа дазволена... Ён раптам заўважыў, што Зося спачувальна глядзiць на яго, быццам хоча аддаць свае грошы, абы ён не хваляваўся, не перажываў. Да сэрца прыхлынула гарачая хваля, яму чамусьцi захацелася сказаць штосьцi ласкавае, пагладзiць гэту жанчыну па галаве. Сяргей Сяргеевiч ужо падняў руку, каб зрабiць гэта, але стрымаўся i, засмяяўшыся, прамовiў: «Запiшы на мяне». У яе вачах успыхнулi ад здзiўлення агеньчыкi, паскакалi i патухлi, як iскры ад вогнiшча ў цемры. Мабыць, Зосi хацелася нешта сказаць, але цi саромелася, цi баялася. «Усё?» — Сяргей Сяргеевiч пераступiў парог i азiрнуўся.

— Хлопцы дываленгi вычвараюць.— Зося трымала накладную.— Я iм даю — кажуць, мала...

Накладныя былi выпiсаны на Андрэева, брыгадзiра брыгады, што будавала чатырохкватэрны дом.

— Нібыта я абманваю. Нашто мне ета...

— Ладна. Пагавару з імі.— Ён завёў рухавік у машыне і падумаў, што за некалькі дзён, як прыехаў з Ленінграда, не пабыў на будаўнічай пляцоўцы. Не можа ж так быць, каб усё ішло гладка. Пры кожнай сустрэчы Андрэеў патрабуе то адно, то другое, то трэцяе. Не хапае цэглы, цэменту, жалеза... Ой, ці мала што трэба і чаго пакуль няма. Дзе знайсці, як узяць, хто паможа?.. «Думай, старшыня, думай».

Сяргей Сяргеевіч па рацыі перадаў дыспетчару Ігнату Літвінчуку, былому калгаснаму эканамісту, а цяпер пенсіянеру, што ён на будоўлі, калі якая будзе патрэба. Цераз Асаду каля Завадзічавай хаты па мосціку, які летась зрабілі на канале, паціху пераехаў да вуліцы Здановіча. Вуліца пачыналася ад бярозавага ляска трыма дамамі. Трошкі далей за імі роўненькай пасачкай чырванелі яшчэ тры каменіцы, але без дахаў.

Старшыня любіў сюды прыязджаць, калі быў сапсаваны настрой. Адразу адлягала на душы, і здавалася, што паўгадзіны назад яго не лаялі ледзь не апошнімі словамі, а хвалілі, гладзілі па галоўцы, як ён хацеў пагладзіць Зосю. Гэта вуліца была пачаткам ягонай задумы зрабіць калгас магутнай гаспадаркай. Што людзям трэба спярша? Кватэра, і, пажадана, з умовамі не горшымі, чымсь у горадзе. Хоча чалавек мыцца ў ванне — калі ласка! Хоць, канечне, для яго ванна — тая ж балея. Лазня з сухой парай, з басейнам — хай будзе радасць людзям!

Ля заселеных дамоў на вяроўках пад вокнамі была развешана бялізна: дзіцячыя калготкі, трусікі, кашулькі. Ён задаволена пасміхнуўся, паглядзеў цераз плот на агароды, дзе раслі бульба, цыбуля, гуркі, памідоры, капуста. Нават нехта сыпнуў па полі семак. Цыбаты сланечнік узнімаў маленькія пакуль галоўкі. Насупраць дамоў было пасыпана свежым жвірам, які рыпеў пад нагамі, што снег. Пляменнік прывёз жвір з рэчкі ад Першага моста, і цяпер тут нібыта пахла цінай, чаротам, рачной вадою. Дамы былі прыгожыя, быццам дзеці. Ля кожнага — высокі ганак, на другім паверсе невялікі балкон, франтоны пафарбаваны ў жоўтае. Сцены чырвоныя, з бярозаўскай цэглы, якую рабіла на заводзе калгасная брыгада.

Сяргей Сяргеевіч пакінуў машыну на пачатку вуліцы, таму на будаўнічай пляцоўцы не адразу заўважылі, як ён падышоў. Ад бетонамяшалкі былі чуваць крыкі. Старшыня прыслухаўся, каб зразумець, што там за гвалт. Праз

незашклёнае акно на верандзе былі відаць шэсць чалавек. Яны не працавалі, з рыдлёўкамі ў руках слухалі лаянку. Сварыліся сакратар парткома, ён жа намеснік старшыні калгаса, Уладзімір Паўлавіч і брыгадзір Андрэеў. Стаялі адзін насупраць аднаго, як пеўні, здавалася, праз мінуту ўчэпяцца загрудкі. Сакратар парткома быў старэйшы гадоў на пятнаццаць за Сяргея Сяргеевіча. Некалі ён сам узначальваў гаспадарку, але нешта там было, яго знялі, а потым прыслалі ў Самолавічы. Быў ён высокі, зарана пасівелы, год таму схапіў інфаркт. Рукі шырокія, як рыдлёўкі. Усягды, нібыта дэманструючы сваю сілу, ён моцна, да болю, сціскае руку.

Андрэеў даставаў галавой толькі да падбародка Уладзіміра Паўлавіча, але, як малады шчанюк, нахабна лез уперад, прыціскаў памалу парторга да плота. Па ўсім было відаць, што Уладзімір Паўлавіч вось-вось не вытрымае ў гэтай спрэчцы, замахае разгублена рукамі і давядзецца ўсё вырашаць старшыні.

У Андрэева зялёныя, як шкло бутэлькі, вочы, даўгаваты для яго росту твар з гарбатым, нібыта перабітым носам. Сёлета ён паставіў залатыя зубы. Нават на рабоце не здымае з левай рукі шырокі, з галавой нейкага звера, залаты пярсцёнак. Цяпер здалёк бліпічыць ля грудзей Уладзіміра Паўлавіча.

Сяргей Сяргеевіч нечакана для ўсіх выйшаў з-за рога дома і павольна набліжаўся, азіраючыся па баках, нібыта аглядваючы, што зроблена за час яго адсутнасці. Лаянка сціхла. Андрэеў з напружанымі сківіцамі і пачарнелымі вачмі ажно падскокваў на месцы. У сакратара парткома ва ўсёй паставе разгубленасць, лыпае вачмі, як пакрыўджанае немаўля.

— Дзень добры, працаўнікі! — прымусіў сябе ўсміхнуцца. За руку павітаўся з Андрэевым, яго памочнікамі. Усіх ведаў як аблупленых. З чорнай барадой і лысы, як доўбня, Артур Адольфавіч. Прозвішча забыў... Дай бог памяці... Шэлег. Цісне руку і заглядвае ў вочы, нібыта прыгожай бабе. Малады, з дзіцячым пухам над верхняй губой — гэта Сашка Белабоцкі. Павітаўся і скаранька за спіну Андрэева. Ягоны ад'ютант. Сапсуе хлопца, сабака.

— Шанаванне! — ласкава гаворыць Васіль Аляксандравіч, якога яны называюць між сабой Дацэнтам. Ён сапраўды дацэнт, кандыдат тэхнічных навук. Кажа, што будаўніцтва ў калгасах — яго хобі. Больш маўчыць, чым гаворыць. Невядома, які ён дацэнт, але муляр з бoскай

іскрынкай. У раённым будаўнічым упраўленні, Сяргей Сяргеевіч упэўнены, такога майстра няма. Магчыма, толькі Іван Рыгоравіч Казакевіч, у якога ўсягды спакойная і добрая ўсмешка на твары, можа паспрачацца з Дацэнтам, хто з іх лепшы муляр. Гэта чалавек пажылы, але без сівога воласа на галаве. І ўсё кланяецца, гаворыць: «Таварыш начальнік, таварыш начальнік... грамадзянін начальнік...» Хітры, надта ўжо ласкавы: ласкавае цялятка дзвюх матак ссе.

— Таварыш начальнік...— рука ў яго слабейшая, чымсь у Сяргея Сяргеевіча, вузкая і мокрая, слізкая, быццам у кісялі.

Старшыня вярнуўся к парторгу, стаў поруч з ім, каб адчулі, што ён на баку Уладзіміра Паўлавіча, што яны тут абодва гаспадары. Мужчыны прыціхлі і чакалі, што ён скажа. Усе ў аднолькавых зялёных спяцоўках, якія выдала ім Зося па загаду Сяргея Сяргеевіча.

— Шчо за лямант на ўсе Самолавічы? — спытаўся ў парторга, хоць бачыў, што Андрэеў ледзь стрымліваецца, каб не загаварыць.

— Крычаць, шчо не даем работы,— Уладзімір Паўлавіч сказаў гэта непрыязна, і было ў яго позірку столькі пагарды да Андрэева і яго памочнікаў, што Сяргей Сяргеевіч падумаў: дарэмна, не трэба так. Тады пайшоў у наступ Андрэеў: голас у яго тонкі, слова за слова чапляецца, нібыта спіцамі вяжа, а не гаворыць. Сяргей Сяргеевіч падняў далонь, каб перапыніць гэты славесны залп. Змоўкнуў Андрэеў, на лобе буйныя кроплі поту.

— Шчо трэба?

— Цэмент! — выгукнуў Сашка Белабоцкі.

— Цэгла,— дадаў Іван Рыгоравіч.

— Дошкі, вапна, фарба,— сказаў ужо спакойна Андрэеў і азірнуўся на сваіх памочнікаў.

— Больш мяса,— ціха вымавіў Васіль Аляксандравіч.

— Усё дадзім. Толькі без гвалту. Мяса — не знаю. Быкоў рэзаць не будзем.

За Асадай у хмызняку гадоў пару як зрабілі невялікую свінаферму на трыццаць галоў для сваіх патрэб. Людзей карміць у сяўбу, на жніве, восенню нечым трэба. Адтуль бралі мяса і для будаўнікоў. Спачатку Сяргей Сяргеевіч цішком ад начальства трымаў гэту свінаферму, а неяк на пленуме райкома партыі Жытліцкі афіцыйна дазволіў мець усім гаспадаркам такія свінафермы. Аднак калі каолі парсюка, дык толькі з дазволу і пад кантро-

лем Сяргея Сяргеевіча альбо Уладзіміра Паўлавіча. Усё яшчэ помнілі выпадак з Восіпам Каралём.

— Таварыш начальнік,— нахіліўся Іван Рыгоравіч і паўтарыў: — Таварыш начальнік... Кватэрачкі, як лялечкі, людзям хутчэй трэба... Да зімы здадзім. Што, блага?

— Вельмі добра.

— Таварыш начальнік, дык паклапаціцеся...

— Зробім.— Сяргей Сяргеевіч запытаўся ў парторга: — Так?

Уладзімір Паўлавіч супакоіўся пасля спрэчкі з Андрэевым і быў ужо не такі разгублены, трымаўся ўпэўнена.

— Пабачым,— сказаў ён і шматзначна глянуў на брыгадзіра.

— Можна і пабачыць,— неяк стомлена сказаў Андрэеў.

Сяргей Сяргеевіч засмяяўся, усё-ткі ён быў задаволены работай гэтых «вучоных», як называлі будаўнікоў у Самолавічах. За два месяцы яны ўзвялі тры прыгажуны-дамы. Дай бог, працуюць, што папа Карла, як гаворыць Аляксей.

Ён пакіраваў у сярэдні ад дарогі дом, у якім ужо былі дзверы і вокны. Следам за старшынёй пайшлі парторг і Андрэеў, які адамкнуў дзверы і першым увайшоў у кватэру.

Жоўтыя, нібы ад алею, масніцыны былі падагнаны шчыльна і не рыпелі. Уладзімір Паўлавіч падскочыў раздругі, прайшоў па падлозе ўдоўж і ўпоперак, пастукаў нагой у кутках і шчыра прызнаўся: «Малайцы!»

Кватэра была на два паверхі. Унізе планаваліся кухня і гасціная, якая была пяць крокаў у даўжыню і тры ў шырыню. У гасцінай на сценах светлыя шпалеры з залатымі кветачкамі. Сяргею Сяргеевічу не спадабалася лесвіца на другі паверх: занадта крутая і з вузенькімі, нібыта для дзіцячай нагі, прыступкамі. Каб ззаду яго не падтрымаў Уладзімір Паўлавіч, упаў бы. Пачакаў, калі падымецца Андрэеў, і, паказваючы на лесвіцу, іранічна спытаў:

— Дыверсія?

— Праект,— зморшчыўся Андрэеў і развёў рукамі: маўляў, я ні пры чым.

— Замяніць,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.— Робім кватэры для людзей, а не шпакоўні для птушак.

На другім паверсе па праекце, як помніў старшыня, павінны быць спальня, дзіцячы пакой, кабінет. Шпалеры

тут яшчэ не наклеілі, але падлога была. Сяргей Сяргеевіч прыкінуў у думках і вырашыў, што недзе пад восень можна засяліць людзей. Гэта было б раней, чымсь ён планаваў, калі пачыналі работы.

Андрэеў заўважыў, што ў яго ўзняўся настрой, і, адштурхнуўшы парторга трошкі ўбок, зазірнуў Сяргею Сяргеевічу ў вочы, твар скрывіў і ціха, каб чуў толькі старшыня, шапнуў: «Вазьміце заявы...»

— Якія? — таксама ледзь чутна спытаў Сяргей Сяргеевіч.

— Вось,— Андрэеў з кішэні спяцоўкі выцягнуў пяць лісточкаў паперы, вырваных са школьнага сшытка. Старшыня ўважліва прачытаў іх і перадаў Уладзіміру Паўлавічу. Гэтага Андрэеў не хацеў, таму што ў роспачы махнуў рукою і адвярнуўся к акну.

Парторг, пакуль чытаў паперы, некалькі разоў хмыкнуў і пахітаў галавой.

— Ну не!..— выдыхнуў ён.

Андрэеў яго не слухаў, чакаў, што скажа Сяргей Сяргеевіч. Старшыня маўчаў, бо не такое ўжо і простае пытанне ўзняў Андрэеў. «Вучоныя» прасілі, каб іх прынялі ў калгаснікі. Для чаго гэта ім было трэба — ясна і дурню. Ніхто б не вылічваў з іх падаходны падатак. «Вучоныя» зрабілі калгасу нямала, але такое пытанне Сяргей Сяргеевіч сам вырашыць не мог. Па-першае, гэта парушэнне закона, а па-другое, ён прынцыпова не хацеў, каб хтосьці на два месяцы ці тры толькі лічыўся ягоным калгаснікам. Сёння будуюць, а заўтра... Цю-цю на Варкуцю... Усё-ткі гэтыя «вучоныя», хоць ніколі ніхто не чуў, каб ён гэтак гаварыў, былі для яго «варагамі».

Яго маўчанне было занадта доўгім, і, мабыць, тое, пра што ён думаў, адбілася на твары. Вочы ў Андрэева зноў пацямнелі, як пры сварцы з парторгам, на лобе паскам зачырванеў шрам.

— Не будзь, старшыня, фраерам,— раптам сказаў ён.

— Кім?

— Фраерам! — выразна паўтарыў Андрэеў.

— Шчо-шчо? — з пагрозай спытаў Уладзімір Паўлавіч.

— Свіное пішчо! — Андрэеў крутнуўся на месцы, нібыта пчала джганула яго ў зад, і зачасціў абцасамі па лесвіцы.

— Вось так,— Сяргей Сяргеевіч паглядзеў на парторга.— Шчо скажаш?

— Разлічыць і выгнаць,— доўга не думаючы, адрэзаў Уладзімір Паўлавіч.

— Чужы раток — не каўнерык, не зашпіліш... Ты за іх кватэры даробіш? Не? І я таксама не... Хай закончаць. А там, як кажа дзед Саўка, бог-бацька. Дацэнты і працэнты... Дацэнты з кандыдатамі...— Сяргей Сяргеевіч падышоў да акна.

Андрэеў, відаць, пераказваў іхнюю размову, бо ўзбуджана махаў рукамі.

Не з добрага жыцця ён узяў гэтых «вучоных». Навошта шукаць здарэнні на сваю галаву, калі б былі свае будаўнікі, якія рабілі б гэтак жа хутка і якасна. Можа, так і будзе, але не сёння і не заўтра. Хацеў сказаць гэта парторгу, падумаў і змоўчаў. Некалі з-за такіх жа «вучоных» Уладзіміра Паўлавіча знялі з работы. Што там было, невядома; казалі, нібыта на бюро райкома партыі яго абвінавацілі ў тым, што «вучоныя» аддавалі яму частку грошай. Не паверыў гэтаму Сяргей Сяргеевіч, хоць і многа плялі кашалёў пра ягонага парторга. Ёсць жа людзі, якія проста шчаслівыя, калі некаму ліха. Не можа быць, лічаць яны, каб ва ўсіх быў парадак. Зрабі толькі старшыня гэтых «вучоных» калгаснікамі, як назаўтра прыціснуць да сцяны.

Яны з Уладзімірам Паўлавічам ужо сядзелі ў машыне, як падбег Іван Рыгоравіч, са спрытам не як для яго ўзросту ўлез з галавой у кабіну.

— Таварыш начальнік, падумайце...

— Я падумаў,— пацягнуў на сябе дзверцы Сяргей Сяргеевіч.

— Не спяшайцеся...— усё не адыходзіў Іван Рыгоравіч. Кепка спаўзла на патыліцу, адкрыўшы круглую ружовую плешыну.

Сяргей Сяргеевіч выціснуў счапленне і ўключыў хуткасць, машына рванулася, і Іван Рыгоравіч ледзьве паспеў адскочыць. «Шчо гэта робіцца? — думаў старшыня.— Усё роўна як свет перавярнуўся ці прыйшоў канец свету. Звар'яцелі з-за гэтых грошай...» Арсен з нажом ля горла крычаў пра грошы. Дацэнтам давай грошы! Калі б зараблялі, дык хрэн з імі, а то ж усе квапяцца на дармшчыну. Во, дулю вам з макам — ніхто ніводнай капейкі за прыгожыя вочы не атрымае з калгаса. Закон не дышаль, што куды павернеш, туды і выйшаў.

— Як там Сухоцкі? — перабіў думкі парторг.

— Ноччу вернецца,— Сяргей Сяргеевіч успомніў, што

не пазваніў Лезіну. А калі яго не будзе на рабоце, некуды ж мог з'ехаць? Аднак размаўляць з Адамам Міхайлавічам па тэлефоне яму не хацелася.

Дзед Саўка, мусіць, здалёк прыкмеціў машыну старшыні калгаса, таму што вароты расчыніў, не выходзячы са сваёй будкі. Сяргей Сяргеевіч памахаў вартаўніку рукой, бо, калі б не павітаўся, стары пасля ўспомніў бы. Машыну ён спыніў за варотамі, і яны з парторгам прайшлі метраў дваццаць, калі Сяргей Сяргеевіч сказаў:

— Забыў. Пазвані Лезіну. Раптам з'едзе куды... Тэлефон помніш?

— Помню.— Уладзімір Паўлавіч знайшоў у кніжачцы нумар, угалас прачытаў яго.

— Правільна. Давай...

Паглядзеў, як парторг, перавальваючыся з боку на бок, пабег у будку да дзеда Саўкі, і пайшоў у майстэрню. Ён заўважыў, што, калі заязджалі на двор, у дзверы шмыгнуў Яргун, і здзівіўся, чаму ён тут, а не ля камбайна.

Старшыня ўвайшоў у майстэрню і чамусьці адразу накіраваўся ў кутні пакой, дзе паставілі новы фрэзерны станок. Пасярэдзіне майстэрні над ямай стаялі гусенічны трактар і «Беларус». З «Беларуса» былі зняты рухавік і кабіна. Пад ім у яме сядзеў слесар крывы Антось Яроцкі па мянушцы Кабыя-Жаяб'я. Ён моцна картавіў і ў дзяцінстве, калі пасвіў на пастаўніку гусей, убачыўшы буланую кабылу з жарабём, сказаў на сваю галаву: «Вунь, кабыя і жаяб'я». Цяпер ніхто яго за вочы інакш і не называў. Бывала, пад чаркай мужыкі гаварылі ў вочы.

— Санаванне, таваіш стайшыня,— сказаў Кабыя-Жаяб'я і вылез з ямы.— Сягей Сягеевіч, папытаць хачу.

— Шчо, Антось?

— Каёва ў мяне ліхая. Маяка не дае. Як бы тка мне памяняць каёву?

Смех бярэ, слухаючы Яроцкага, але ж няёмка. Выгляд у гэтага мужчыны смешны. Вочы глядзяць у бакі, як у зайца, камбінезон такі брудны, нібы пад колы машыны падкладалі, каб выехаць з гразі.

— Пішы заяву,— ледзь вымавіў.

— Сягей Сягеевіч! — забег наперад Кабыя-Жаяб'я.— Ці п'яўда, што...— падумаў і выдаў: — Камуністы ў Ф'янцыі захапілі ўяду?

Калі ў чалавека ўзнікла такое пытанне, дык чаму ж не растлумачыць. Толькі штосьці раней Яроцкі не ціка-

віўся палітыкай. Аднак усе адукаваныя, чытаюць газеты, слухаюць радыё, тэлевізар, дык і ён жа.

— Ёсць некалькі міністраў-камуністаў,— сказаў старшыня,— але ўладу яны не захапілі. Вось так...

— А чаму ета такога ў Амеіцы нямашака? — не адыходзіў Кабыя-Жаяб'я.

— Спытай у камісара, ва Уладзіміра Паўлавіча. Зараз ён падыдзе...— павярнуўся Сяргей Сяргеевіч і ўжо хацеў спытаць у Яроцкага, дзе людзі, а яны выходзяць з кутняга пакоя. Гаваркія ўсе, расчырванелыя і кураць. «Ну-ну,— падумаў старшыня.— Пабачым...» У дзвярах твар у твар сутыкнуўся з Сальвесем і Яргуном.

— Ну, шчо, хлопцы? — тыя не чакалі, што старшыня спыніцца, і разгубіліся, не ведаючы, што гаварыць. Змікіціў Сальвесь.

— Шчо з камбайнам рабіць, Сяргей Сяргеевіч?

— Рамантаваць.

— Ды вось...

— Усё будзе, Сальвесь. Колькі ў цябе дзяцей, Яргун?

— Восем, таварыш старшыня,— прабурчаў Яргун.

— Есці хочуць?

— Ого, яшчэ як!

— Шкада мне іх.

— Чаму ета? — насцярожыўся Яргун.

— Бацька п'яніца. Значыцца, будуць галодныя.

— Не кажыце, не кажыце.— Яргун мільгануў і прапаў за трактарамі.

— Шчо думаеш, Макар? — не адпусціў старшыня Сальвеся і заглянуў у пакой. Ля акна на табурэтцы сядзеў у сваёй белай апратцы Мацвей Пранузa.

— Працую, Сяргей Сяргеевіч,— з выклікам сказаў Сальвесь, падняў каўнерык спяцоўкі, пераступіў скрынку з гайкамі, якую вынес з пакоя Яргун, і пайшоў нетаропка, нават патыліцай паказваючы, што ні на грам не баіцца старшыні, дый наогул сабе цану ведае.

У пакоі пахі мазуту і машыннага масла перабівалі смурод, нібы аблілі гарэлкай альбо «Агдамам» усю падлогу, станкі, сцены. Сяргей Сяргеевіч адкрыў акно.

Пранузa не зварухнуўся, галавы не падняў, толькі рукі варушыліся. Старшыня прысеў побач на лаўцы, пакашляў — ніякай рэакцыі. Крануў камбайнера за плячо і трошкі штурхнуў. Пранузa расшчаперыў рукі і падняў галаву. На белай кашулі і на штанах расплылася вялікая, з падцёкамі чырванаватая пляма, як ад чарніла.

— Заснуў? — узлаваны яго паводзінамі, Сяргей Сяргеевіч ужо намерыўся вылаяць як след, выліць з сябе злосць, якая аж лезла, ціснула, нібы паветра з дзіцячага шара. Старэйшы за яго мужчына, з пасівелымі скронямі, плакаў. Слёзы буйнымі кроплямі падалі з вачэй, і ён, не саромеючыся старшыні, усхліпнуў, як малы, носам.

— Мац-вей?! — чамусьці шэптам прагаварыў Сяргей Сяргеевіч.— Шчо такое? — А ў галаве ранейшая думка: — Ты п'яны?

Прануза замахаў галавой і, яшчэ больш скрывіўшыся, горка плакаў. Мусіць, усё-ткі п'яны, падумаў старшыня. Ці будзе цвярозы мужчына нюні распускаць? Баба альбо дзіця — зразумела. У іх вочы на мокрым месцы.

— Пазваніў! Лезін ёсцека,— ужо ад дзвярэй загаманіў Уладзімір Паўлавіч, уваходзячы ў пакой. Нібыта наткнуўшыся на штосьці вострае і небяспечнае, змоўк і асцярожна прымасціўся ля старшыні.

— Шчо з ім?

— Спытай сам.

— Ды не п'яны я, не п'яны...— Прануза дастаў з кішэні насоўку, выцер твар.— Эх, каму б расказаць...

— Раскажы.

— Ну, вось шчо рабіць? Мне на пяты дзесятак перавал іла, а ці жыў я?

— Не горш за людзей,— сказаў парторг.

— Горш за ўсіх,— як конь, што бароніцца ад мух, заматляў Прануза галавой і выгукнуў: — Горш!

— Чаму ж? — дапытваўся Уладзімір Паўлавіч.

— Няма ў мяне ні сына, ні дачкі. Чаго пражыў жыццё, хрэн яго ведае. Ні сына, ні дачкі,— зноў паўтарыў і з такім сумам, што Сяргею Сяргеевічу захацелася скончыць хутчэй гэту размову.— Як мне далей жыць? Сына не калыхаў... Каго ж пасля сябе на зямлі пакіну?

— Вазьмі ў дзетдоме,— параіў парторг.— Там многа.

— Мне свайго трэба,— задуменна гаварыў Прануза.— Каб у яго былі мае вачаняты, нос, губы...

— Дзеўкі не будуць любіць,— засмяяўся Сяргей Сяргеевіч.

— Вам жартачкі, а мне гора. Мая жонка на гэта не здатная. Не падумаў, конь божы, трохі раней, мо было б інакш. Ну, вось, шчо мне рабіць, таварышы начальнікі?

— Цяжка штосьці параіць.— Сяргей Сяргеевіч падумаў, што ў чалавека сапраўды трагедыя і няма як памаг-

чы яму.— Думай, браце, сам. Тут ні партком, ні праўленне нічога зрабіць не могуць.

Вазьму сабе дзеўку маладую,— сказаў як аб вырашаным Пранузa.— Хай народзіць мне сына і дачку. Эх, позна надумаў. Прабачце, прабачце мне,— замітусіўся Мацвей і кінуўся з пакоя — ад старшыні і парторга...

— Паспеў хлапчыска,— сказаў Уладзімір Паўлавіч і зарагатаў. Нейкі дурны смех напаў і на Сяргея Сяргеевіча. Яны смяяліся да слёз. Аддыхаліся, але ніяк не маглі супакоіцца. Парторг папіў вады і падаў конаўку Сяргею Сяргеевічу. Ён глынуў і паставіў конаўку на лаўку. Вада была цеплаватая, за ноч злецілася, а прыбіральшчыца Гандзя не наліла свежай. Ды хлопцы і самі маглі гэта зрабіць: кран у кутку.

Парторг падышоў да металічнай скрынкі, куды скідвалі стружку і смецце, нагнуўся і выцягнуў пустую бутэльку з-пад віна. Падняў за рыльца над сабой, дэманструючы старшыні, і кінуў назад, але няўдала: пачуўся звон разбітага шкла.

— Пілі?! — нібыта пытаючы ў Сяргея Сяргеевіча і адначасова сцвярджаючы, сказаў парторг.— Трэба караць!

— Трэба! — згадзіўся Сяргей Сяргеевіч.— Бачыў, хто тут быў?

— Бачыў.

— Перапішы прозвішчы і зрабі што-нэбудзь без праўлення. Хай паўплывае грамадскасць, не дамо ім прэміі за год. Колькі ж будзем пра гэта гаварыць... Значыць, Лезін?

— Так, чакае Сухоцкага. К яго прыезду падрыхтуе валікі і яшчэ тое-сёе, каб маглі адразу ехаць дахаты.

— Добра... — Сяргей Сяргеевіч падумаў, што мо лепш было б пазваніць куды-небудзь у іншае месца. Але ж не варта. Ва ўсіх тэхніка ламаецца, запчастак няма, а ў старшыні пытаюцца, чаму камбайн альбо трактар не ў полі, не на сенажаці, а ржавее на машынным двары.

— Як ты думаеш — не ведаю, але з Лезіным трэба парваць,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.— Таму што... Таму што ён... бр! — старшыня грэбліва замыляў вуснамі і, нібыта выпэцкаўшыся, пайшоў да крана мыць рукі. Ручніка не было, ён выцер іх насоўкай.

Недзе далёка ўзнікла музыка, і яму здалося, што чуе, як іграе аркестр у двары шматпавярховага гмаху, многа людзей і ўсюды чорны колер. Твар бацькі і могілкі... Ён заплюшчыў вочы. Некалькі хвілін пастаяў, адчуваючы, як

млоснасць, быццам вада, абліла ўсё цела, высунуў твар у адкрытае акно і падставіў яго пад свяжак.

— Шчо з вамі? — занепакоіўся парторг.— Вады?

— Не трэба... Пройдзе.— Ён апусціўся на лаўку, баючыся страціць прытомнасць, і аслабелымі пальцамі пачаў расціраць скроні, лоб, патыліцу. Музыка сціхла, і толькі ў галаве застаўся трэск, нібыта соль кінулі на распаленую патэльню.

— Ета ад стомы, дый...— Сяргей Сяргеевіч не дагаварыў, але парторг зразумеў яго, уздыхнуў: маўляў, нічога не зробіш, такое жыццё: сёння здаровы і на нагах, а заўтра невядома што можа быць. Мітусіцца чалавек, злуе, нервуецца, а яго з-за рога па галаве, нібыта калатоўкай, агрэе што-небудзь — і прапаў, бо не кожны выстаіць пасля ўдару. А іншы як сыр у масле з маладосці і да могілак — усё ў яго ёсць, нервы на месцы, сэрца спакойнае і здароўе — нібыта ў цяляці. Каму лепш, хто меў больш шчасця?..

Сяргей Сяргеевіч усё-ткі выпіў вады, памыў твар і грудзі, і яны выйшлі з майстэрні. Камбайн Пранузы стаяў на ранейшым месцы, хоць у кабіне Мацвея не было. Не відно і Яргуна. Сальвесь з Кабыяй-Жаяб'ём здымалі нешта з гусенічнага трактара. Дзед Саўка сядзеў на прыступках ганка і курыў, пасля кожнай зацяжкі адстаўляючы руку з цыгарэтай, нібы дзеўка ў рэстаране.

— Паедзь па фермах, на поле,— сказаў Сяргей Сяргеевіч,— а я заскочу дахаты, трохі перадыхну. Штосьці...

— Я сам ужо хацеў вам сказаць,— парторг спачувальна глядзеў на старшыню, але чым ён мог яму памагчы. Хай трошкі з дзецьмі, з жонкай пасядзіць дома — дый усё лякарства.— Мо я за руль сяду?

— Нічога. Я паціху.— Сяргей Сяргеевіч на прахадной памахаў дзеду Саўку, які доўга адкрываў вароты. Машына на малой хуткасці выехала з двара і, завярнуўшы за хату Яроцкага, знікла з вачэй. Парторг пастаяў крыху, думаючы, куды спярша рушыць, і ўжо хацеў садзіцца ў «каблучок» — двухмесны чырвоны «Масквіч», як ад прахадной закрычаў дзед Саўка. Ён нават забыў зачыніць за старшынёй вароты — клікаў Уладзіміра Паўлавіча да тэлефона.

## 7

Сяргей Сяргеевіч паставіў машыну ад плітніцы за хлявом. Навошта, каб людзі бачылі, што старшыня сярод дня ў хаце. Адхіліўшы ўбок адарваную штыкеціну, пралез у дзірку. Дзверы ў хлеў былі адчынены, і адтуль моцна пахла свежым гноем, струхлелай саломай і чамусьці вясеннім полем.

Тарзан, пачуўшы гаспадара, вылез з будкі. Ён быў чорны, з белымі плямамі, з дужымі лапамі. За некалькі крокаў ад Сяргея Сяргеевіча Тарзан упаў на зямлю і папоўз, віляючы доўгім хвастом. Палажыў вострую морду на нагу гаспадару. Сяргей Сяргеевіч пачасаў сабаку за вушамі, лёгенька ляпнуў па спіне.

З кастра ўпала бярэмя дроў. Ён падабраў іх, паклаў на месца. У садзе ад ветрыку шапацела лістота. Было многа яблыкаў, галіны ледзь не дакраналіся да зямлі. На зялепухах ужо чарнелі кропелькі, увесну Сяргей Сяргеевіч забыў за клопатамі пакрапіць дрэвы купарвасам. Лісце там-сям скруцілася трубачкай, пажаўцела ад чарвякоў. Не даспеўшы, яблыкі глуха падалі на зямлю, шмат насыпалася па садзе. Сабраць бы іх, каб не гнілі, ды зварыць хоць свінням. Але ж наўрад ці будуць есці, бо смаку ў гэтых зялепухах няма.

Даўно ён не займаўся сваёй гаспадаркай; калі б не цешча — бо і ў жонкі не вельмі ёсць часу,— завёз бы на мясакамбінат і свінні, і карову. Хоць Лысуху пакінуў бы, таму што дзецям малака дай. У калгасе браць не з рукі, купляць у суседзяў — таксама нечым тады абавязаны: памагай з сенам, не пашкадуй камбікорму. Людзі глядзяць: адзін правільна зразумее, а другі — перакруціць шыварат-навыварат, і будзеш дурнем немаведама за што.

Дзяцей у двары не было. У пяску купаліся куры, а збоку паважна хадзіў, як вартаўнік, певень Антон з яркачырвоным грэбенем на высака ўзнятай галаве. Убачыўшы гаспадара, Антон заляпаў крыламі, закрычаў і адагнаў курэй з дарогі ў цень пад паветку. Бег і касіў налітым крывёю вокам на чалавека.

Жонка з дзецьмі і цешча абедалі, і калі ён увайшоў у хату, узняўся вэрхал. Ледзь супакоілі дзяцей і зноў пасадзілі за стол.

Марыя завіхалася каля стала лёгка і весела, ёй гэта было ў радасць, бо сабралася разам сям'я, што бывае рэдка. Сяргей Сяргеевіч додніцай ішоў з хаты і зацемна

вяртаўся. Нібыта пастаялец, а не гаспадар і бацька гэтых дзяцей, якія пішчом лезуць да яго на калені.

— Татачка, а Толік забраў мой пісталет,— гэта меншанькі, Мікіта, чарнявенькі, носік маленькі, а дзюбка задрана ўгору. Вачанятамі лучыць аж да сэрца, вось што значыць сваё, роднае. Тварыкам быццам не падобны на бацьку, а выхадкі, грымасы і нават як зморшчыў лобік — ну чыста Сяргей Сяргеевіч. Калі б і не ведаў, чыё дзіця, дастаткова ўбачыць бацьку. Хвіліны спакойна не пасядзіць, толькі чуваць: Мікіта, Мікіта!..

Арцём жа як сеў за стол, дык пакуль не даесць, не зварухнеш. Ён бацькавага мала ўзяў, больш ад мамы. Вейкі светлыя і доўгія, як у дзяўчыны. Валасы ў яго бялявыя, а ў Марыі карычневыя. Мусіць, ад цешчы перайшло, хоць ужо ў яе вочы, нібы зімовае неба, час выстудзіў.

Пасядзіш у хаце з жонкай і дзецьмі і адчуваеш сябе, быццам пасля курорту. Душа на месцы, працей усе праблемы. Паслухаеш Мікіту і Арцёма, а яшчэ калі яны закілзаюць як каня і ўдвух залезуць на спіну — дык потым усё вакол хараша: і сонца, і неба, і лес, і поле, і нават Пляменнік альбо Яргун, для якіх чарка, што жонка.

Абедалі доўга, таму што Марыя несла і несла на стол, быццам якое свята. Як дзеўка, бегае па кухні. Даўгалыгая, фігура — нібы і не раджала. За работай зусім забыў, што жонка маладая і турботы ў яе маладыя. Прыціснулася плячом да Сяргея Сяргеевіча, што аж горача і неяк няўтульна, бо не прывык надта да пяшчоты. Усё падбегам, усё гарыць, забыў, калі абдымаў жонку. Яна ж, як кошка, мела б хвост, дык завіляла б. Не многа трэба бабе: ласкавае слоўца, хвіліну ўвагі, абдымак... Эмансіпацыя!.. Пра яе гавораць, яе хочуць бабы, якія не адчулі ласкі мужчыны, каго не любілі і ўжо, пэўна, не будуць любіць. Бабы, бабы...

У канцы абеду Марыя прынесла торт, заварыла чай. Дзецям не забаранялі лыжкай есці варэнне, і яны выпэцкалі свае майкі і нават нагавічкі. Маці не сварылася, таму што за сталом сядзеў бацька, які неспадзявана прыехаў на абед.

Сяргей Сяргеевіч вырашыў яшчэ з паўгадзіны пабыць дома, а тады ехаць спачатку да Яргуновага камбайна, а потым на пасяджэнне парткома. Марыя выправіла хлопцаў на двор, каб далі бацьку адпачыць, і падсела да яго, паклала галаву на плячо, лашчылася, нібыта нявеста. Ён абняў жонку, пацалаваў, адчуваючы, як дрыжыць яе це-

ла. Падумаў, што нічога не здарыцца, калі пад'едзе на поле і на паўгадзіны пазней. Усягды абед, як у зайца, на хаду, укусіў і пабег.

У хаце ціш, нават дзяцей не чуваць на двары. На кухні цешча бразгае посудам, нешта гаворыць сама сабе. Праз акно пахне садам і кветкамі, якіх поўна ў гародчыку: і настурцыі, і ружа, дый ці ўспомніш усё. Ад цішыні звініць у вушах. Чамусьці гэты звон мацнее, і ўжо ў гасцінай чуваць, як раззлавана крычыць цешча.

— Сярожа, звоняць,— Марыя хуценька паднялася і выйшла. Падхапіўся і ён з канапы, прычасаў грабеньчыкам валасы, якія стаялі тарчма, нібы ў вожыка. У акно заглянуў Арцём, вочы і нос відаць.

— Тата! — і паляцеў уніз.

— Шчо, сынок? — Сяргей Сяргеевіч падхапіў яго за рукі і падняў, але на падаконнік не пасадзіў.

— З пошты Антоля.

— Не Антоля, а цётка Антоля,— паправіў сына.

Адразу ўспомніў тэлеграму, калі памёр бацька, і спалохаўся: што магло быць? Яго ўжо клікала цешча, і ён, адгукнуўшыся, паспяшаўся на двор.

Антоля стаяла ля ганка, прыхіліўшы к сцяне ровар, на раме якога ляжаў шырокі белы мех.

— Памагайце, Сяргеевіч,— жанчына ўздыхнула з палёгкаю, калі ён перахапіў руль і скінуў з рамы на ганак мех.

— Забраў бы сам.

— Эге, напісана з дастаўкай. Цяжкае, нібы бульбы насыпана. Дайце вады, бо кончуся. Як старая Паталёўчыха дыхаю, а няма чым.

— Забраў бы і сам,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.

— А можа, мне прыемна наведаць нашага старшыньку,— павяла вачыма, заўсміхалася Антоля.

— Ну дык добра. Дзякуй! — узяў вялікую Антоліну руку з сінімі жыламі і пацалаваў.

— Які гжэчны кавалер! — засаромелася Антоля.— Няма за шчо, на здароўе. Вось хацела б спытаць...

— Калі ласка, Антоля Іванаўна.

— Ці не возьмеце маё цялятка ў калгас?

— Чаму ж. Падгадуй да жніўня і прыводзь.

Хацелася Антолі паглядзець, што ў мяху. Ніколі не бачыла такой вялікай пасылкі. Летась на грамніцы Яргун атрымаў цяжкую скрынку, але ў ёй, акрамя старых дзіцячых чаравікаў, боцікаў і лахманоў, якія прыслалі родзі-

чы з горада, нічога не было. У старшыні штось іншае, ды, напэўна, дарагое. Каб хоць вокам зірнуць, дык увечары было б што расказаць бабам на лавачцы. І на пошце ўсім цікава, што гэта прыйшло Сяргею Сяргеевічу з Ленінграда. Ведалі, што ездзіў ён у гэты горад хаваць бацьку. Значыцца, атрымаў нейкае багацце. Многія ў калгасе чулі, што нібыта старшынёў бацька быў немалым начальнікам, шышка на роўным месцы. Дык няўжо ж сыну нічога не пакінуў? Не можа такога быць. Прыкладна так назаўтра загаманілі ў Самолавічах пра пасылку, якую на ровары даставіла Антоля старшыні дадому.

Калі жанчына зачыніла за сабою веснічкі, Сяргей Сяргеевіч падхапіў з ганка мех і перанёс яго на кухню. Падышла жонка, не разумеючы, адкуль пасылка, спытала: «Шчо ета?»

— А! — прачытала адрас, на твары было здзіўленне.

Сяргей Сяргеевіч нажом разрэзаў мех, і на падлогу выпала папера. Почырк быў незнаёмы, і ён глянуў на подпіс: Алена Ашотаўна. Яна пісала, што, слава богу, усё абышлося без крыўды, дасылае тое, што абяцала. Радкі ішлі няроўна, літары скакалі, нібыта ў чалавека, які пісаў пісьмо, дрыжалі рукі.

Марыя разгарнула прасціну, у якую была запакавана пасылка. Гэта быў складзены ў столкі і звязаны ў трох месцах дыван. Удваіх яны перанеслі яго з кухні ў гасцiную і разгарнулі на падлозе. Зноў падзівіўся майстэрству людзей, што зрабілі гэты дыван: быццам жывы, з усмешкай на паўнаватых губах, з поўнымі агню вачмі, глядзеў на яго бацька. Марыя маўчала, ўражаная прыгажосцю, якая была разгорнута перад імі. Яна прыхілілася да Сяргея Сяргеевіча, нібы шукаючы абароны. Ён зазірнуў ёй у твар: ледзь прыкметна мыляла вуснамі, усё роўна як не магла знайсці слова, каб перадаць сваё захапленне.

— Дзе павесім? — ціха спытаў ён, яшчэ не зусім асэнсаваўшы ўчынак Алены Ашотаўны. Падумаў, што, мусіць, адправіла пасылку, не сказаўшы Арсену, бо ён не дазволіў бы. Канечне, так і было. Ён некуды паехаў, а яна згарнула дыван і на пошту.

— Тут... — Марыя паказала на сцяну, на якой вісеў дыван з мядзведзямі і зайцамі, што купілі яны на першым годзе сумеснага жыцця.

— Ладна... — Сяргей Сяргеевіч асцярожна, нібыта баючыся, што парвецца, падняў дыван і палажыў на канапу.— Хай паляжыць.

На століку сярдзіта і глуха загудзеў тэлефон. Яны, як загіпназаваныя, глядзелі на апарат і не падымалі трубку.

— Паслухай,— папрасіў Сяргей Сяргеевіч.

— Не даюць і хвіліны пабыць дома,— Марыя гняўліва бліснула вачмі.

— Такі хлеб,— ён падштурхнуў жонку к тэлефону.

— Парторг,— Марыя зацiснула рукою мікрафон і чакала, што муж скажа.

— Зараз еду.

— Едзе! — кінула трубку і раптам усхліпнула, скрывілася, як ад болю.

— Чаго ты?

— Штосьці неспакойна. Не глядзі на мяне,— яна адвярнулася, хаваючы твар.— Ідзі...

На кухні цешча ўключыла дынамік. Яна любіла паслухаць, як усе старыя, міжнародныя навіны. Выходзячы з хаты, ён пачуў, як дыктар загаварыў пра вайну ў Нікарагуа, што амерыканцы памагаюць Ізраілю. Сяргей Сяргеевіч прыпыніўся на ганку, слухаючы, што і ў Анголе, і ў Ліване, і ў В'етнаме — па ўсім свеце ваююць, людзі страляюць адзін у аднаго. І так штодзень: у газетах — вайна, па тэлевізары — вайна і па радыё — вайна... Калі ўжо людзі будуць думаць толькі пра хлеб, бульбу, кнігі, кветкі, каханне...

Ён успомніў, што, калі прыехалі з мамай з Ерэвана ў вёску да дзядзькі Мартына, па радыё таксама многа гаварылі пра вайну. Людзі былі напалоханыя, збіраліся купкамі. Прыбег да дзядзькі Мартына яго сябра Казімір Губаты. Хтосьці быў яшчэ з мужчын.

— Будзе, мусіць, вайна? — гаварыў Губаты.

— Не брашы,— перабіў яго дзядзька Мартын.

— Кажуць, халодная пачалася...

— Спярша — холад, потым — голад.

Назаўтра яны з мамай і дзядзькам Мартынам, як развіднела, рушылі ў краму, што была ў старой рамізні. Выстаяўшы ў даўжэзнай чарзе, прынеслі паўмяшка солі, запалак з паўсотні скрыначак, тое-сёе з мануфактуры. Накупілі на ўсе грошы, якія былі ў хаце. У краме пасля доўга гулялі скразнякі.

Недзе праз тыдзень Казімір Губаты быў з каровамі ў лесе і ўбачыў чорны шар, які нізка ляцеў над дрэвамі. Халера яго ведае, адкуль ён выскачыў. Штосьці жудаснае і пагрозлівае здалося ў гэтым шары Казіміру. Надта ціха і нібыта хаваючыся за дрэвамі, як цецярук, ляцеў ён. Гу-

баты расказваў, што ад нечаканасці аслупянеў, аж рот разявіў ад здзіўлення. Затым прысеў і схаваўся пад таўсматую сасну. Яму спачатку здалося, што кулямёт тырчаў з шара. Калі шар праплыў над ім, Казімір Губаты, забыўшы страх і кароў, рушыў следам. На Прадмесці ён паклікаў на дапамогу людзей, і хутка натоўп мужчын і малых, сярод якіх быў і Сяргей, бег ужо з ім. Ля гаю шар апусціўся і чорнай плямай выцягнуўся на траве. Здалёк шпурнулі па ім камянямі і па камандзе Казіміра Губатага дружна ўпалі на зямлю. Пачакаўшы крыху, некалькі адчаюг, а ззаду іх Сяргей, за што пасля дзядзька Мартын папесціў лазовым дубцом,— крок за крокам наблізіліся да шара. Нічога ў ім не было, толькі вакол ляжалі на маладой зялёнай траве стосікі жаўтаватых паперак. Казімір Губаты падняў адзін лісток, прабег па ім вачыма і, не звяртаючы ўвагі на дзяцей, голасна вылаяўся.

— Панская агітацыя,— дадаў ужо спакайней. Яшчэ хтосьпрачытаў тыя паперы і моўчкі кінуў да шара. Потым участковы міліцыянер аддаў гэты шар дзятве. Яны налілі ў яго вады і скакалі па ім, аж пакуль, як бомба, не трэснуў на часткі.

Бабскае радыё паведаміла, што шароў было процьма. І нібыта ў Сашыцы Хведар Сакута зрабіў з гэтай гумы сабе і жонцы боты і ўжо касіў у іх сена. Вельмі ж някепская гума, шкада, што ўсім не хапіла.

— Хай у гэтай гуме самі немцы чы каленцы ходзяць,— казаў дзядзька Мартын.

Тады яшчэ ў вёсцы Сяргей мала каго ведаў. Хоць яго пазнавалі амаль усе бабы і мужыкі: Надзькі Гаеравай сын ад армяніна. Неяк сябрукі паказалі яму дзеда па мянушцы Дожджык, што жыў у Грудку за мостам. Ён хадзіў з крывой бярозавай кульбай і ні з кім не вітаўся. Яны крычалі гэтаму старому ўслед:

Дожджык, дожджык, секані,
Бабу з поля прагані...

Сяргей спытаў у дзядзькі Мартына пра гэтага дзеда і пачуў, што ён за Польшчай меў кавалак лесу і лічыў сябе заможным панам. Чамусьці пасля вайны застаўся ў вёсцы, не з'ехаў нават у сорак шостым, калі можна было выехаць. Яму ўлады нічога благога не зрабілі, бо не знайшлі за ім крыміналу. Быццам чысты быў, як боская сляза. Гэта дзед сам усім гаварыў. Толькі помніць Сяргей Сяргеевіч, калі паляцелі шары над вёскай, павесялеў дзядок. Праходзячы

міма хлопчыкаў, якія шчыравалі ў былым панскім садзе, працадзіў скрозь зубы: «У, быдла, яшчэ надыдзе свята!» Не дачакаўся Дожджык свайго свята, памёр вясной, якраз радыё перадала, што на ракеце паляцелі ў космас Белка і Стрэлка. Нікога з родзічаў у дзядка не было (пасля знайшоўся ў Самолавічах Восіп Кароль), і хавалі яго суседзі. Дожджык ляжаў пад печчу, а ў зубах была з'едзеная напалавіну папера, у якой было напісана, што ён гаспадар лесу ў пяць дзесяцін. Каб не загад старшыні сельсавета, то наўрад хоць адна баба ці мужчына зайшлі б у хату, дзе даўно не пахла жывым...

...Парторг званіў, але адкуль — жонка не спытала, цяпер шукай. Ён прыкінуў, дзе можа быць Уладзімір Паўлавіч, і, вырашыўшы, што ў канторы, пагнаў машыну цераз Фурштат і Свіную вуліцу, каб наўпрост выскачыць да складаў, а там пяць хвілін язды. Мабыць, хто прыехаў з раёна, падумаў Сяргей Сяргеевіч і вырашыў, што сёння дахаты вернецца раней. Яны з Марыяй возьмуць Мікіту і Арцёма, праскочаць у Лагеры, дзе нібыта з'явіліся лісічкі і сыраежкі. З гадзінку пабадзяюцца ў лесе, а потым — па раку. Трэба ж нейкі падарунак дзецям зрабіць, каб не забылі бацьку. Гэта ён абяцаў ім ужо месяц, і ўсё не было часу. Турбот і праблем не зменшылася, а павялічылася, раслі, як пухір на апаранай скуры.

Відаць, пачуўшы гул машыны, са склада выскачыла на ганак Зося. Замест халата на ёй са штучнага шоўку сукня ў вялікія чырвоныя макі. Валасы, як жытняя салома, густыя і закручаны ззаду тоўстай гуляй. Была ў чорным халаце, на галаве хустка — і быццам нічога здатнага: жанчына як жанчына. А пераадзелася — і нібыта падмянілі чалавека.

Ён хацеў паехаць, але па Зосіным твары здагадаўся, што нездарма выбегла. Сяргей Сяргеевіч думаў пагаварыць з ёй з машыны. Зося не падышла, а, загадкава ўсміхнуўшыся, дачакалася, пакуль ён не вылез з машыны, і, дзіўна азірнуўшыся па баках, вярнулася ў склад. Штосьці незразумелае было ў паводзінах кладаўшчыцы, і Сяргей Сяргеевіч, зацікаўлены гэтым, па прыступках падняўся на эстакаду, якая дугой прымыкала да складаў, зазірнуў у памяшканне. З вуліцы нічога не было відаць, толькі чуўся смех Зосі. Тады ён пераступіў парог і зрабіў гэта так асцярожна, што каб хто бачыў, дык жывот надарваў бы.

— Шчо, Зося?

— Ідзіце сюды, Сяргей Сяргеевіч, не бойцеся.

— Я не баюся,— сказаў ён, невідушчымі вачмі спрабуючы разгледзець, што там такое і куды яго Зося кліча. Убачыў у паўзмроку склада яе за сталом, на які яна вельмі спрытна ставіла, дастаючы з падлогі, талеркі з ядой. Ён толькі ў здзіўленні вадзіў вачыма па Зосі, па стале, не ведаючы, злавацца альбо смяяцца. Яна, пэўна, адчула, што Сяргей Сяргеевіч збянтэжаны, і, прыціснуўшы рукі да грудзей, пакланілася:

— У мяне дзень нараджэння, Сяргей Сяргеевіч. Сорак лет — бабін век. Выбачайце, шчо я гэтак.

— Ну дык... Віншую. Падарунка нямашака, вінаваты.

— Ой, нашчо ўжо... — змоўкла і дадала праз імгненне: — Можна і пасля... Прашу к сталу.

— Зося, на рабоце?

— Яшчэ ж абед.

— Усё роўна. Можна б вечарам.

— Ой, пра шчо гаворыце, Сяргеевіч! — уздыхнула Зося.— У мяне тут мо адзіная радасць.

— Не ведаю, шчо і рабіць. Ладна. Піць не буду, а мінуту пасяджу.

Цяпер ён даўмеўся, што Зосін муж — гэта токар Макар Сальвесь. Яна ж пісалася пад дзявочым прозвішчам — Апрасіч. Быў у іх сын, пяцікласнік Лявон, а як яны жылі, спраўна ці ў лаянцы, старшыня нават не думаў пра гэта. Зося не жалілася на Макара, як іншыя бабы на мужоў, якіх потым цягнулі на таварыскі суд. Гэта ж баба цвіце, як ружа, ніколі не дасі яе гадоў. Маладая, у саку, нібыта антонаўка.

— Жывем мы з Макарам як кот з сабакам. Зачынімся ў хаце і грызем адно аднаго. Дзякуй богу, шчо не б'емся на вуліцы, як Кундзель з Кундзеліхай. Ой, што ета тралю. Прысядзьце, калі ласка, Сяргеевіч. Усё роўна шчэ абед.

— Зося, вы не баіцеся, шчо я раптам зазлую? Усё-ткі старшыня... На рабоце нельга ета... — нерашуча мямліць ён, праклінаючы сябе, што зайшоў сюды.

— Шчо мне рабіць? Дома не хачу святкаваць, але ж сорак год адзін раз у жыцці. Ой, прабачце ж мне, Сяргеевіч. Я да вас як да чалавека, якога паважаем і любім...

— Ужо і любім! — паспрабаваў перавесці размову ў жарт.

— А як жа ж. Адны любяць, другія не, а нехта мо і ненавідзіць. У вас жа такая пасада, Сяргеевіч.

— Ну, ладна, давай, калі ўжо так, патрохі шампанскага, а гарэлку схавай, схавай. За тваё здароўе і любоў.

— Ой, шчо кажаце,— засаромелася жанчына, закрыла рукою твар.— Вы ешце. Во, ета, ета...

Яна нахілілася над Сяргеем Сяргеевічам, і ён праз кашулю адчуў, якое гарачае ў яе плячо і патыхае цяплом, як ад печкі. Ён крышку адсунуўся з табурэткай на другі канец стала. Есці не хацелася, толькі ж абедаў, дый піць сярод дня, хоць і ў дзень нараджэння Зосі, гэта занадта. Ён прыгубіў шампанскага, памачыўшы рот і губы. У складзе было цемнавата, і здавалася, што ў шклянцы пуста.

— Вы харошы, Сяргеевіч, у вас вочы добрыя. У майго Макара яны злыя і пустыя, як бочка без дна.

— Шчо ты кажаш, Зося... Прыгожая баба, якіх у вёсцы нямнога. Цябе ў модныя транты адзець, дык усе мужчыны раты разявілі б.

— Вы гэта бачыце, а Сальвесь толькі сварыцца, хоць з хаты ўцякай. А куды ўцякаць? Ад самой сябе не ўцячэш.

— Калі цяжкае жыццё, падавай на развод, а мы пасля табе дадзім асобную кватэру, толькі працуй чэсна, без туману.

— Дзякуй, Сяргеевіч. Вы нічога не ясцё,— яна зноў нахілілася над ім, і шыю казытнулі валасы, у спіну ўперліся па-дзявочы пругкія грудзі. «Зусім здурнела баба»,— падумаў ён і хацеў яшчэ адсунуцца, але ўжо не было куды: табурэтка ўперлася ў парог.

— Больш не магу, Зося. Мне пара.

Не хапала, каб хто ўбачыў, як ён з чужой жонкай, ды яшчэ на рабоце, піў, а языкі доўгія і без касцей, напляузгаюць, потым за год канцоў не знойдзеш. Дый што можна казаць, калі ён сядзіць пры закрытых дзвярах і баба ходзіць вакол, як кошка ў сакавіку. Але ж і ён чалавек, а не кавалак лёду ці бервяно, нездарма ўсё гэта...

— Сядзь, Зося, бо няёмка. Усё-ткі баба,— просіць Сяргей Сяргеевіч.— Інакш я паехаў. Дый зойдзе хто, а потым...

— Шчо потым? Я не баюся, а вы ж мужчына. За ўсё мы, бабы, плацім... Дый закрыла я дзверы на засаўку...

Зося паднялася з табурэткі, адышла некуды ў глыбіню склада. Ён пачакаў хвіліну і вырашыў ісці. Ад гэтай бабы, якая здавалася спакойнай, невядома што можна чакаць. Ён павярнуўся і аслупянеў. Зося была ў паўрасшпіленым чорным халаце, але без сукні, і белая камбінацыя ў

паўзмроку была як ліхтар. Жанчына наблізілася да яго і, абхапіўшы за шыю, пачала, нібыта звар'яцеўшы, цалаваць твар, рукі. Яна бязгучна плакала і штосьці шаптала.

— Супакойся! — ён страсянуў яе.— Каму гавару!

— Пацалуй мяне... — шаптала Зося, усё мацней прыціскаючыся да яго.— Вельмі... Люблю, люблю цябе...

Ён даткнуўся губамі да яе лоба, які быў надзіва халодны. Пасля пагладзіў жанчыну рукой па валасах. Яна гарнулася да яго ўсё бліжэй, і ён раптам спалохаўся, што не вытрымае, не суладае з сабой.

— Адзявайся! — прымусіў сябе сказаць Сяргей Сяргеевіч і дадаў рэзка: — Здурнела, чы шчо?

— Ну... — яна зноў працягнула да яго рукі.— Прашу цябе...

— Зося, адзенься,— падумаў, што ёй сказаць, каб неяк супакоіць.— Тут не месца і не час...

Яна ўсё-ткі паслухала Сяргея Сяргеевіча і, ужо не саромеючыся яго, зняла халат і надзела сукенку, прысела на табурэтцы, і слёзы пацяклі з вачэй.

— Лічыце мяне немаведама якой бабай. Я ж не такая...

— Зося, я нічога не чуў і не бачыў. Схавай усё,— ён паказаў на стол.

Ён паціху выйшаў са склада, пастаяў на ганку. Побач нікога не было. Ля машыннага двара зароў, нібыта ад болю, трактар.

Высака ў небе пакінуў за сабою белы і пушысты, як бавоўна, след рэактыўны самалёт. Ён ішоў ледзь прыкметнай кропелькай, быццам маленькі жучок поўз па блакітнай цыраце. З далёкіх вышынь даляцеў да Сяргея Сяргеевіча гул, які заціх, а пасля вярнуўся на зямлю. Нібыта ўпершыню бачачы, ён сачыў за самалётам, аж пакуль не стала відаць белага следу.

У вышыні ад сонечных промняў пачало спакваля звінець паветра. Самалёт не вярнуўся. Замест яго ўзляцеў над лугам трапяткі жаўрук. Песня птушкі была нібы цурчанне крыніцы.

Ззаду ляпнулі дзверы, і паказалася Зося ў зашпіленым на ўсе гузікі рабочым халаце, хустку завязала ледзь не на вочы. На губах вінаватая і разгубленая ўсмешка.

— Усё добра, Зося,— ён пагладзіў яе па руцэ. А што ён павінен — біць яе ці лаяць? Можа, прыціснула бабу так, што хоць на сцяну лезь...

Ён саскочыў з эстакады на зямлю і толькі завёў рухавік, як убачыў у люстэрка, што з-за павароткі да складаў

завярнуў чырвоны «Масквіч» парторга. Сяргею Сяргеевічу трэба было хоць пяць хвілін, каб прыйсці ў сябе пасля Зосінага абеду, і ён як хутчэй пагнаў машыну. Пашнарыў левай рукой унутры левай дзверкі і сярод гаек, балтоў у торбачцы, зашморгнутай дротам у чырвонай ізаляцыі, знайшоў валошскі арэх. Разламаў яго і з'еў: калісь чуў, што валошскі арэх перабівае пах спіртнога.

Праехаў трохі па шашы і пачуў, як загудзеў сігнал машыны. У люстэрку ўбачыў, што парторг на «каблучку» выскачыў са Свіной вуліцы і цяпер спрабуе дагнаць па прамой. «Масквіч» лягчэйшы за «козліка», яго так не шпурляе па выбоінах, і ён можа набраць большую хуткасць.

Трэба было спыніцца, таму што невядома чаго ляціць стрымгалоў Уладзімір Паўлавіч, і ён, аб'ехаўшы вялікую лужыну насупроць Кундзеля, затармазіў ля хаты Антося Званара. Вылез з машыны і адразу падняў капот, нібыта штосьці з рухавіком. Парторг падагнаў «Масквіча» ўпрытык, ледзь не стукнуў у старшынёву машыну. Сяргей Сяргеевіч краем вока глянуў на яго: твар злосны і пакрыўджаны. Мабыць, думае, што старшыня здзекуецца. Падышоў, стаў побач, чуваць, як цяжка дыхае, нібыта на сваіх дваіх даганяў, і маўчыць. Сяргей Сяргеевіч, не падымаючы галавы, спытаў: «Шчо такое?» — і дадаў, што не варта з такой хуткасцю гнаць машыну па вёсцы. Раптам выбежыць дзіця на вуліцу, а калі і не дзіця, то можа патрапіць пад колы якое свінчо альбо гусь.

Пакуль Сяргей Сяргеевіч гаварыў, не даючы парторгу нават вымавіць слова, яны абодва не заўважылі, як з процілеглага канца вёскі, ад Асады, з-за хаты Кіжука пад'ехаў такі ж, як у старшыні, «козлік». Выйшаў з яго мужчына трохі вышэйшы, чымсь Сяргей Сяргеевіч. Ён быў у белай з расшпіленым каўняром ільняной кашулі, у цёмна-шэрых, з сіняй ніткай штанах. Каштанавыя валасы коратка падстрыжаны. На пераноссі зморшчына. Нячутна падышоў, ледзь не на дыбачках, паслухаў, як старшыня выгаворвае парторгу, і раптам чыхнуў. Сяргей Сяргеевіч і Уладзімір Паўлавіч, нібыта па камандзе, адначасова павярнуліся. Мусіць, у іх былі смешныя твары, таму што мужчына зарагатаў. Гэта быў першы сакратар райкома партыі Міхаіл Восіпавіч Жытліцкі.

— Маё шанаванне самолаўскім хлопцам,— сказаў ён, паціскаючы рукі старшыні і парторгу.— Што паны начальнікі не падзялілі?

— Усё нармальна,— хоць і нечаканы быў прыезд першага сакратара, але ж ён не збянтэжыў Сяргея Сяргеевіча, бо ўсягды было прыемна з ім сустрэцца. У раёне не помнілі, каб Жытліцкі кагосьці несправядліва пакараў або зняў з пасады. Умеў з людзьмі гаварыць, калі трэба — і пажартаваць, а то і песню заспяваць. У яго шырокі і просты сялянскі твар, але вочы глыбокія і разумныя: гляне спадылба — і захочаш схлусіць, ды нібы язык праглынеш. Так гаварылі старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў між сабой пра першага сакратара райкома партыі.

Родам ён быў з суседняга раёна. Сяргей Сяргеевіч помніць, як на пленуме райкома прадстаўнік ЦК КПБ коратка прадставіў Жытліцкага: служыў у арміі, скончыў політэхнічны інстытут, працаваў інжынерам-механікам. Пасля дадаў, што мае вопыт камсамольскай і партыйнай работы. Перад тым як прыйсці да іх першым сакратаром, Міхаіл Восіпавіч быў інструктарам Цэнтральнага Камітэта КПБ. Недзе на другім годзе яго работы Сяргей Сяргеевіч блізка пазнаёміўся з сакратаром.

Была зіма, і яны вярталіся з нарады з абкома партыі. Ехалі на райкомаўскай «Волзе». Пакуль зайшлі ў магазін, тое-сёе купілі — на вуліцы ўжо цёмна. Надвячоркам усхапілася завіруха. Дарогу занесла снегам, нібыта раніцай яе і не было. Ехалі памалу, каб чагосьці ліхога не здарылася. А ля Кобрына машына слізганула і з'ехала ў кювет, ледзь шафёр паспеў націснуць на тормаз. Рухавік заглух. Як ні спрабавалі яго завесці, і не пыхнуў.

Да гарадскіх агеньчыкаў яшчэ было кіламетраў пяць, і яны з Жытліцкім пайшлі па дапамогу. Пра многае па дарозе перагаварылі, знайшліся для абодвух даўно знаёмыя людзі. Потым у раёне сталі лічыць, што Сяргей Сяргеевіч сябруе з першым сакратаром. Ён не адмаўляўся ад гэтага, хоць, чуючы, як некаторыя старшыні кажуць: «Во, у цябе Жытліцкі друг», сам сабе ўсміхаўся. Яны з першым сакратаром ніколі не пасядзелі за адным сталом. Канечне, ніхто з кіраўнікоў не мог гэтым пахваліцца. Праўда ці не, але Міхаіл Восіпавіч быццам наогул не піў. Да аматараў гарэлкі ён быў вельмі жорсткі.

Праклінаючы Зосю за абед, Сяргей Сяргеевіч вырашыў меней гаварыць, не набліжацца да Жытліцкага і падштурхнуў наперад парторга.

— Што з тваімі камбайнамі? Чаму не на сенажаці? Маўчым?

І ў гэтым «маўчым» здалося Сяргею Сяргеевічу, што

першы сакратар ужо аднекуль ведае пра іхнюю сустрэчу з Зосяй. Толькі не хоча пачынаць пакуль аб гэтым. Нікога ж не было каля склада, якраз абед. Добра, што не затрымаўся там. Во была б карціна, каб першы сакратар райкома партыі ўвайшоў: не адхрысціўся і не адмаліўся б. На стале талерка з закуссю і гарэлка з шампанскім. Вывад — амаральны тып. Значыцца, на бюро райкома партыі і заяву на стол. «Дурная баба! Здаецца ж, не б... Не шанцуе з кладаўшчыкамі: адзін краў, другая — чорт ведама шчо...»

Ужо месяц, як не заязджаў у калгас Жытліцкі, а цяпер — нібыта пазванілі; падазрона глядзіць, і вочы халодныя, усё роўна як здымаць прыехаў. Яшчэ раз глянуў Сяргей Сяргеевіч першаму сакратару ў вочы і засумняваўся: не, мусіць, нічога не ведае. Проста ў дрэнным настроі. Хоць таксама блага, але калі не датычыць іхняга калгаса, то адыдзе.

— Куды паедзем? — спытаў Жытліцкі і накіраваўся да машыны, запрашаючы з сабой старшыню і парторга.

— Мо на будаўніцтва? — Сяргей Сяргеевіч хацеў выгадаць час, каб папярэдзіць людзей на полі, у майстэрні.

— Пасля... Давай дзе камбайны,— загадаў Жытліцкі.

Яны падаліся дарогай, якой старшыня ехаў раніцай: праз Грудок на Алендры. Машына была новая, сядзенні накрыты чырвоным танным дыванам, такі ж быў у «Жыгулях». Да моста ехалі моўчкі. Жытліцкі сядзеў прама, як праглынуўшы кол, патыліца ў яго была паголеная, і маладая скура блішчала, нібыта намазаная крэмам. Насустрач ім паказаўся самазвал Пляменніка. Іншым разам Сяргей Сяргеевіч спыніў бы яго за тое, што ездзіць з пустым кузавам сярод дня, і нават пад настрой загадаў бы бухгалтэрыі вылічыць з шафёра грошы за бензін.

Для Пляменніка было нечаканым убачыць столькі начальства. Ён занерваваўся, і машына завіляла ўправа-ўлева, і каб райкомаўскі вадзіцель быў менш вопытны, яны лоб у лоб сутыкнуліся б. Добра, што нікога не было на вуліцы. Сяргей Сяргеевіч заплюшчыў вочы — страшна падумаць.

Метраў за дваццаць ад іх Пляменнік спыніўся. Падбег сам, твар белы, губы дрыжаць.

— П'яны? — спытаў Жытліцкі не ў яго, а ў Сяргея Сяргеевіча.

— І ў рот не браў,— Пляменнік ледзь не плакаў, на лобе буйны пот, а ў вачах страх і маўклівая просьба да стар-

шыні, каб падтрымаў. Сяргей Сяргеевіч прымусіў сябе праз сілу вымавіць:

— Ён не піў. Цішэй едзь, а то...

Пляменнік неяк хіснуўся, як і сапраўды п'янаваты, і пашыбаваў ад іх да самазвала. Вуліцу заслала доўгім хвастом пылу, і ён зачапіў мост і машыну, якая ўткнулася буферам у тонкую і высокую, як маладая дзяўчына, ліпу. Да дрэва не дацягнулі чатыры-пяць сантыметраў. Гуллівы і лёгкі ветрык з Ясельды забаўляўся з ліпай, і яна трымцела, як напалоханая машынай.

— Не к дабру,— падаў голас Уладзімір Паўлавіч і яшчэ хацеў нешта сказаць, але старшыня зусім па-хлапечы наступіў яму на нагу, і, мабыць, балюча, таму што парторг войкнуў ад гэтага жарту.

Калі пад'ехалі на поле, Яргун з Сальвесем і Прануза знялі жняярку з камбайна.

— Камбайн, хлопцы, пойдзе? — пытаўся Жытліцкі, паціскаючы запэцканыя мазутам рукі, трактарысты, саромеючыся, хавалі іх за спіны.

— Хоць цяперака,— азваўся смялейшы за ўсіх Макар Сальвесь.

— Ну, дык калі ласка! — сказаў Жытліцкі, і Сяргей Сяргеевіч убачыў, што ў яго твар памякчэў.

— Ага, рыхтык, так,— хіхікнуў Яргун.— Слухайце болей. Сухоцкі прывязе валік — і паедзем.

— Адкуль? — Жытліцкі ажно, здаецца, напяўся.

— А гендо ж, з Мінска... Як мае быць... — падняў галаву ад жняяркі Прануза.— Каб ім рукі паадрывала за такую работу.

— Ясненька-красненька!— сказаў першы сакратар і паглядзеў на Сяргея Сяргеевіча і Уладзіміра Паўлавіча, якія ад гэтых слоў неяк замітусіўся і, быццам забыўшыся пра Жытліцкага, памкнуўся да старшыні, каб, мабыць, нешта сказаць. Аднак як напароўся на позірк сакратара райкома, ступіў за спіну Сяргея Сяргеевіча. Ён нават згорбіўся, каб зрабіцца ніжэйшым і менш прыкметным.

— Сухоцкі ў Мі... — зашаптаў Уладзімір Паўлавіч і не дакончыў, дзе цяпер Сухоцкі, бо сакратар райкома паранейшаму вельмі ўважліва глядзеў на старшыню калгаса і, пэўна ж, прымеціў гэты манеўр.

— Што як дзеўкі перад кавалерам? — грубавата сказаў Жытліцкі.

— Шчо з Сухоцкім? — у Сяргея Сяргеевіча ад прадчування чагосьці непрыемнага, а мо і страшнага, пахаладзе-

ла ўнутры. Нездарма глядзеў на яго, як на ворага, Жытліцкі. У яго такая пасада: пра благое і добрае даведвацца першым.

— Ну?! — ад іх да сакратара райкома было крокаў дзесяць, якраз хопіць часу, каб сказаць тое, што Уладзімір Паўлавіч не паспеў. Тады можна нешта прыдумаць для абароны.

— Сухоцкага затрымала міліцыя,— зашаптаў Уладзімір Паўлавіч.

— Ну і шчо? — адлягло ад сэрца. Іх з Аляксеем не раз спыняла ДАІ. «Нават калі дакументы забралі ў Аляксея, усё роўна можна знайсці выйсце»,— думаў Сяргей Сяргеевіч.

— Затрымалі разам з Лезіным,— перапалохана гаварыў парторг.

— Шчо? Як?.. — ён не закончыў таго, што збіраўся дадаць, бо Жытліцкі ўжо стаяў ля машыны.

## 8

Што чалавеку трэба, каб быць шчаслівым? Быццам і нямнога: работа, хата і жонка з дзецьмі. Гэта калі надта не думаць: мінуў дзень — дый на бакавую.

Калі ж паездзіць па свеце, а потым башкаўнёй трохі пакруціць, многа з'явіцца розных думак... Рэстараны, тэатры, у суботу і нядзелю ў двары пад ліпай даміно і — ніякіх турбот пра запчасткі, малако, мяса. Чымсь ён, Сухоцкі, горшы за гэтых шмэндрыкаў, якія жывуць у кааператыўных кватэрах, што паны, і ля пад'езда вечарам ставяць «Жыгулі». За якія заслугі? «Эхма-хохма. Вярнуся — і маё табе шанаванне, Сяргей Сяргеевіч»,— думаў і думаў Сухоцкі. Захацелася яму плюнуць на ўсё на свеце, аднак спярша возьме гэтыя валікі, адправіць з імі Аляксея, а сам — застанецца ў гасцях у сына, а вечарам пойдзе з ім у рэстаран, дый каб з музыкай. Колькі таго жыцця...

Канечне, перш-наперш трэба было ехаць да Лезіна, таму што хоць у сына і сесія, але мог, сукін кот, пацягнуцца куды-небудзь. Хто ж у гэткія маладыя гады выседзіць летам у чатырох сценах?

Насустрач машыне па тратуары, абняўшыся, ішлі маладая і прыгожая, як галінка бэзу, у белай сукенцы дзяўчына з хлопцам у сініх, нібы зрэбных джынсах. Летась сын прасіў грошай на гэткія ж. Даў, сваё дзіця, не чужое. Мо дзе таксама ходзіць з каханкай па завуголлі.

Аляксей павярнуў на вуліцу, ад якой рукой падаць да ўпраўлення. Калі валікі на базе за горадам, дык адтуль назад не дабрацца, пагоніш дамоў. А калі... «Эх, дзе наша не прападала!»

Сухоцкі папрасіў Аляксея пад'ехаць да сынавага інтэрната. Гэта крыху ўправа ад вуліцы, завярнуць за рог і метраў трыста ўперад. Аляксею не трэба тлумачыць, бо з механікам быў тут мо разоў дваццаць.

На ўваходзе ў інтэрнат сядзела старая з нафарбаванымі вуснамі, якая не менш пяці хвілін убівала Сухоцкаму ў галаву, што яна як былая юрыстка не можа яго пусціць у інтэрнат, бо гэта парушэнне рэжыму. Нарэшце, калі ён страціў надзею, гэта развэра дазволіла яму на хвілінку зайсці.

Сына, як і думаў, не было ў пакоі. Даўгавалосы і ўвесь у рабаціннi хлапчыска сказаў, што Толік у дацэнта. Ён пакінуў сала, варэнне і запіску, што вечарам заскочыць, каб чакаў.

Гэта затрымка была не больш як на гадзіну. Значыцца, у яго час яшчэ быў. Сухоцкі з тэлефона-аўтамата пазваніў Лезіну. Гудкі былі роўныя, спакойныя, але трубку ніхто не падымаў. Ён падумаў, што Сяргей Сяргеевіч не пазваніў з Самолавіч гэтаму Лезіну і цяпер шукай ветру ў полі. Калі другі раз ён набраў нумар, трубку паднялі і нябачны Сухоцкаму чалавек незадаволена, не выгаворваючы «л», сказаў: «Свухаю». Мар'ян Казіміравіч адазваўся; спатыкаючыся на словах, перадаў прывітанне ад старшыні калгаса і дадаў, што тэрмінова неабходна сустрэцца.

— Добра,— Лезін падыхаў у трубку і ледзь чутна назваў адрас, куды ім пад'ехаць і дзе чакаць яго. Сухоцкі яшчэ ў тэлефоннай будцы, каб не забыць, запісаў адрас на паперцы. Аляксей прачытаў і здагадаўся: — Яго кватэра. Мы былі з Сяргеевічам.

— Значыць, на базу не трэба ехаць. Мо пачакаем тут. Раптам мой салапэй прыйдзе.

— Пасля, Казіміравіч, заскочым,— Аляксей, адкінуўшы сядзенне, выцягнуўся назад на ўсё сваё хударлявае цела, паляжаў крышку і падхапіўся.— Даць бы храпака мінут на шэсцьсот.

— Вернемся, і дасі.

— З табой прыедзем, а з Сяргеевічам паедзем. Эхмахохма, як ты кажаш, ездзім, кланяемся, просім нібы для сябе... На завод пайсці, чы шчо? Адбыў восем гадзін і прывітанне, субота і нядзеля — выхадныя. Шчо, мо не так?

«Як падслухаў мяне. Але ж я — гэта не тое. Я жыццё палажыў на калгас, а ён, смаркач, захацеў лёгкага хлеба»,— непрыязна падумаў Сухоцкі, і прапала жаданне застацца ў горадзе, пайсці вечарам у рэстаран з музыкай. Зазлаваў механік, хоць і не было ўдаць па ім, крыўдна яму, што маладзён ганьбіць жыццё, якім ён столькі год жыў, аддаў здароўе і сілы. Ад гэтай блытаніны ў душы як на двары ўвосень, калі лье дождж і калэча, што не выцягнуць ног. Быў бы гэта не Аляксей, а якісь Пляменнік, ох і рэзнуў бы слоўцам, не блямкаў бы языком, як малатком па бочцы.

Ехалі яны к дому Лезіна завулкамі, вулачкамі, але ж патрапілі якраз. Аляксей вывучыў Мінск не горш за Самолавічы. Заехалі ў двор не з шырокай галоўнай вуліцы, па якой шаргацеў рагамі тралейбус, а праз суседні двор проста на тратуары, хоць і вісеў між плотам і домам дарожны знак з чырвонай цаглінай пасярэдзіне.

Тут было ціха, як у вёсцы. Вакол дома раслі ліпы, клёны, таполі. Ім было гадоў, пэўна, па дваццаць — дваццаць пяць. Столькі ж і дому, таму што цяпер не будуюць пяціпавярховыя дамы з пограбам і хлеўчукамі на двары. Насупраць першага пад'езда, у якім жыў Лезін, укапаны ў зямлю пачарнелы ад дажджу і снегу стол і абапал яго лаўкі. Бліжэй да вуліцы падковай раслі кусты язміну. Ля іх таксама быў такі ж стол.

Яны паставілі машыну, пазванілі ў кватэру, але ніхто не адкрыў, пачалі чакаць Лезіна. Можна было б перакусіць, але вырашылі за горадам забегчы ў сталоўку ля запраўчнай.

Аляксей з Сухоцкім селі за стол, на якім, магчыма, у вольны час Лезін забіваў «казла». На таполі ціўкала птушка, і, нібыта з ёй перагаворваючыся, гаманілі лістотай дрэвы, якія шчыльна пераблыталіся галінамі. З кустоў язміну з вясёлым смехам выбеглі хлопец і дзяўчына, нечым падобныя на тую пару, якую стрэлі пры ўездзе ў горад. Толькі хлопец быў высокі, з шырокімі плячыма і, мабыць, старэйшы па ўзросту. Яны прыселі на стол ля язміну і ўсё: «Ха-ха-ха» і «ха-ха-ха!..» Маладосць, любоў — кроў, што ртуць. З добрай усмешкай глядзеў Сухоцкі на юнака з дзяўчынай: «Эхма-хохма! Як гэты грузін пяе: мае гады — маё багацце. Аддаў бы палавіну гэтага багацця, каб хоць трошкі пабяднець».

— Як галубкі,— сказаў Аляксей.— Мала ім ночы. Шчо значыць, горад. У дзярэўні сярод дня не пасядзеў бы з дзеўкай пад грушай.

— Хто захоча, пасядзіць,— супакоіў яго механік.

— Можна ў вас цыгарэтку? — папрасіў у іх хлопец.

Цяпер Мар'ян Казіміравіч разгледзеў яго як мае быць. Хлопец быў у гадах, на скронях зрэдку сівізна і на лобе зморшчыны. «Мусіць, развядзёны»,— падумаў Сухоцкі.

— Рубель штучка,— сказаў Аляксей, але цыгарэту даў і запаліў сернік, каб ён прыкурыў.

З апошняга пад'езда выйшла маладая жанчына з каляскай, у якой плакала дзіця, ад'ехала да ліпкі з рэдкімі галінкамі, пагушкала малое і, дастаўшы кнігу, пачала чытаць. У двары суседняга дома, было відаць праз язмін, спынілася «Волга», з яе вылезлі два мужчыны ў шэрых касцюмах і накіраваліся сюды ж. Гучна перамаўляючыся аб нечым, яны мінулі Аляксея з Сухоцкім і, глянуўшы на іхнія «Жыгулі», зайшлі ў пад'езд, дзе жыў Лезін.

— Казіміравіч, ты не пераблытаў, куды ён сказаў ехаць? — спытаўся Аляксей.

— Ці ж я дурны...

— Дык ужо ж пара,— Аляксей паказаў на гадзіннік.

— Мо начальства трымае?

— Эх, ё-маё. Хоць кладзіся ды спі. Пазвані яму.

— Куды?

Час цёк, нібыта вада скрозь пальцы. Лезіна ўсё не было. Мо ён і пераблытаў што? Сухоцкі пачаў сумнявацца, ці правільна зразумеў Лезіна. Падумаў, што пачакае яшчэ трохі і пойдзе шукаць тэлефон, каб пазваніць.

— Ідзе! — штурхнуў яго Аляксей.

Ад вуліцы проста да іх шыбаваў высокі чарнявы мужчына ў ружовай кашулі з шырокім рукавом і ў джынсах. Сухоцкі прыгледзеўся да яго і таксама пазнаў Лезіна. Быў у Адама Міхайлавіча нейкі напалоханы выгляд. Яшчэ не павітаўшыся, ён перадаў Аляксею ў рукі невялікі пакунак.

— Што прасілі. Сам па склад ездзіў. Як Сяргей Сяргеевіч?..

Аляксей спрытна ўхапіў пакунак і нырнуў у машыну, схаваў яго. Сухоцкі затаптаўся на месцы, не знаходзячы слоў, каб перадаць Лезіну падарунак з багажніка. Колькі ўжо рабіў гэта, а ніяк не мог прывыкнуць, было самому брыдка: аддаваў і хаваў вочы. Адам Міхайлавіч памог яму:

— Рыба ў Ясельдзе ёсць яшчэ?

— А як жа ж! Плаваець па дне. Па дарозе злавілі крыху... — адкрыў багажнік, ухапіў за рагі цэлафанавы мяшок, у якім была рыба, пацягнуў на сябе.— На юшку...

— Ого, тут і пасмажыць будзе.— Лезін, адтапырыўшы пальцы, каб не выпацкацца, прыняў мех і зазірнуў у багажнік.

— Тут шчэ свініна,— сказаў Сухоцкі.— Нясіце рыбу, а я мяса.

— Навошта столькі?! — гаворыць Лезін, а сам глядзіць, ці не мала прывезлі. Мабыць, задаволіўся, таму што замармытаў нешта вясёлае, падхапіў зручней мех з рыбай і пацягнуўся ў кватэру. Аляксей нечым заняўся ў машыне, і Сухоцкаму нічога не засталося, як самому несці мяса. Ён гэткім жа чынам, як Лезін, прыціснуўшы да правага боку «свіныя плечы», падаўся за ім. Калі браў мяса з багажніка, выпадкова заўважыў, што хлопец з дзяўчынай падняліся з лаўкі і памалу ідуць к дому.

Хоць і затрымаўся Лезін, час трацілі, седзячы ў двары, аднак можна было яшчэ заехаць к сыну. Летам сонца заходзіць позна, і к ночы, пэўна ж, заедуць у вёску. Па «алімпійскай» дарозе «Жыгуль» ляціць, як страла.

— Многа не пі, Казіміравіч,— падміргнуў Аляксей,— сам знаеш.

— Праз мінуту едзем.

Хлопец з дзяўчынай падышлі к сталу, за якім яны сядзелі, абняўшыся, умасціліся на лаўцы. «Ці гэтак абдымаюць,— падумаў Сухоцкі,— паклаў руку на плячо, а сам зыркае вачмі не на дзеўку, а ў другі бок. Мо дамоў прывёў і баіцца жонкі, каб не з'явілася?.. Эхма-хохма!»

Ліфта ў гэтым доме не было. Эх, не ў яго ўзросце хадзіць па такіх лесвіцах. Ледзь усцягнуўся на другі паверх, перадыхнуў. Зазлаваў на Аляксея — малады хлапчыска, мог бы падняць зад і занесці мяса — карона не ўпала б.

У пад'ездзе не чуваць ні гуку. Дайшоў да кватэры Лезіна і здзівіўся, што той не адкрыў дзверы і не чакае яго. Апусціў пакунак на падлогу і націснуў на кнопку званка, які дзынкнуў пранізліва. Мар'ян Казіміравіч аж здрыгануўся.

Дзверы адчынілі насцеж, у калідоры Лезіна не было, але Сухоцкі на гэта не звярнуў увагі. Ён прайшоў якіх пару крокаў і ўспомніў, што не закрыў за сабой дзверы. Павярнуўся і ўбачыў незнаёмага мужчыну ў шэрым касцюме, які ўжо зрабіў гэта замест яго і прыветліва ўсміхаўся. «Можа, сваяк?..»

— Калі ласка, на кухню. Адам Міхайлавіч там,— запрасіў мужчына.

«Чарнявы і высокі, як Лезін. Сваяк»,— падумаў Сухоцкі. Хоць якая яму розніца. Загад старшыні выкананы, і можна са спакойнай душой ехаць у Самолавічы.

На кухні з Лезіным быў яшчэ адзін мужчына, таксама ў шэрым касцюме. Яны абодва, не размаўляючы, сядзелі на табурэтках, а на стале перад імі ляжала рыба. Ля яе Сухоцкі палажыў і мяса.

— Кладзіце ў халадзільнік, а я пабягу. Шчэ к сыну хачу заехаць.

— Які халадзільнік?! Якое мяса?! Гэта правакацыя!— раптам закрычаў Лезін і, размахваючы рукамі, пайшоў на Сухоцкага.

— Не правакацыя, а мяса, і не выдумляйце, Адам Міхайлавіч! — цвёрда сказаў механік.

— Нічога не знаю! — крычаў Лезін. Ён паспрабаваў скінуць мяса са стала на падлогу, але мужчына, які сустрэў Сухоцкага, націснуў Адаму Міхайлавічу на плечы, і ён змоўк. Быццам язык праглынуў. Мар'ян Казіміравіч спытаў у яго, што перадаць старшыні, ён і не глянуў. І тут цюкнула старому механіку: чагось Лезін паводзіць сябе з нейкімі выбрыкамі. І гэтыя хлопцы-мацакі, што прыехалі на «Волзе» і зайшлі крышку раней за іх у пад'езд. «Ох, чуе сэрца — быць бядзе!.. Нешчо ўсё тут нячыста...»

— Бывайце здаровы, мне шчэ далёка.

Мусіць, сумненні, якія зараз узніклі ў яго наконт паводзін Лезіна, адбіліся на твары. Дый наогул яму стала так страшна, як ніколі не было. Захацелася хутчэй ускочыць у «Жыгулі» і чым на большай хуткасці пакінуць горад.

Мужчына, што быў з Лезіным на кухні, пасміхнуўся і палез рукою ў кішэню свайго пінжака. Праз імгненне ён трымаў на далоні чырвоную кніжачку і падаў Мар'яну Казіміравічу паглядзець яе. Сухоцкі з асцярогай, нібыта вужаку, прыняў дакумент, разгарнуў яго. І ад страху адчуў, што самлелі ногі, няма сілы зрабіць хоць бы крок.

— Прабачце, таварышок, без акуляраў не бачу,— толькі сказаў ён і падумаў, што ў такім дурным становішчы яшчэ не быў.

— Калі ласка. Мы з міліцыі. Капітан Матылец. Вы затрыманы з грамадзянінам Лезіным: ён за тое, што ўзяў хабар, а вы за тое, што яму далі.

— Які хабар? Ды шчо вы, людцы?! Мне ехаць трэба, камбайны стаяць,— фальцэтам выгукнуў Сухоцкі, а сам ліхаманкава думаў, як гэта ўцячы з кватэры. Аднак куды ўцячэш, напэўна ж, яны запісалі нумар машыны і ведаюць, з якога калгаса. «Самому ўжо як там будзе, а Сяргея Сяргеевіча падвёў дык падвёў... Бяда, ой бяда!»

— Хто-небудзь прыйдзе яшчэ, Адам Міхайлавіч? — спытаўся капітан Матылец.

— Не... — выціснуў з сябе Лезін.

— Бярыце рыбу, мяса і пойдзем.

Быццам не дзесяць, а сто кілаграмаў трымаў у руках Сухоцкі: здавалася, што такога цяжару ён яшчэ не нёс. Кожны крок па прыступцы ўніз аддаваў тупым болем у сэрцы. Забалела галава, і ў вачах пагойдваліся сцены, неба ў вузкіх, закратаваных, як у турме, вокнах. Спераду ішоў міліцыянер, за ім Мар'ян Казіміравіч, Лезін, а замыкаў шэсце капітан Матылец.

На двары нібыта нічога не змянілася, толькі хлопец з дзяўчынаю стаялі ля «Жыгулёў». Аляксей жа, вядома, спаў як пшаніцу прадаўшы. Ён, мабыць, вырашыў, што без чаркі Лезін не выпусціць механіка з кватэры. Выпусціў без чаркі, але з міліцыянерам. «Адама Міхайлавіча пасадзяць — гэта сто працэнтаў, а мяне за шчо?.. Эх, Аляксей, праспаў ты ўсё на свеце».

Дзеўка, відаць, таксама з міліцыі, разбудзіла Аляксея, і ён са сну, не разумеючы, чаго столькі людзей, разгублена залыпаў вачмі, закруціў галавой. Нарэшце, калі ў «Жыгулі» разам з Сухоцкім селі капітан Матылец і дзеўка з хлопцам, да яго дайшло, і ён вылаяўся.

— Супакойся,— сказаў міліцыянер,— а то мігам на пятнаццаць сутак.

— Можаце. На гэта вы вя-лі-кія майстры,— уеў яго Аляксей.

Потым для Сухоцкага ўсё было як у сне. Ён ніяк не мог ачомацца ад таго, што яго, быццам злодзея, схапілі і трымаюць у міліцыі. Капітану Матыльцу на ўсе пытанні Мар'ян Казіміравіч казаў адно: ён клапоціцца пра калгас, а не пра сябе. Не шукаў сабе ніякай выгады, усё для калгаса.

— Вы ашукалі дзяржаву,— стаяў на сваім капітан.

— Оно шчо. Выбачайце, таварышок! Калгас шчо — не дзяржава?

— Дзяржава... — згадзіўся капітан.

— Дык вы замест таго, каб забяспечыць нас запчасткамі, думаеце, як арыштаваць, схапіць, таму шчо мы абакралі дзяржаву.

— Вы далі хабар?

— Не даў. Чалавеку мяса прывёз, хай пакаштуе свежага...

— Ён вам сваяк?

— Не...

— Карацей, хабар!

Аляксея дапытвалі, што яму перадаў Лезін у пакунку. Шафёр заўпарціўся, а ў машыне нічога не знайшлі, бо ляжалі там гайкі, балты, і яго адпусцілі. Сухоцкага ж затрымалі. Аляксей ад міліцыі імпэтна дамчаў да паштамта і, аддаўшы сувязістцы пяць рублёў, праз хвіліну пазваніў у Самолавічы. Каб бабы ў калгаснай канторы не ведалі, бо паляціць па ўсёй вёсцы,— заказаў тэлефон прахадной і адразу натрапіў на дзеда Саўку, які паклікаў парторга. Выслухаўшы яго, Уладзімір Паўлавіч загадаў Аляксею ехаць дамоў, а як выратаваць Сухоцкага, яны падумаюць з Сяргеем Сяргеевічам.

Аднак неяк было не па-чалавечы пакідаць аднаго Мар'яна Казіміравіча, прыехалі ж разам. Хоць вышэй пупа не скочыш. Нешта сур'ёзнае, відаць, маюць супроць Лезіна. Але ж што Сухоцкаму да яго? Успомніў Аляксей, што механік вельмі хацеў пабачыць сына і той, пэўна, чакае бацьку. Пад'ехаў к інтэрнату і ў цёткі на ўваходзе выпытаў, у якім пакоі жыве Толік Сухоцкі. Аднак смеласці не хапіла зайсці да хлопца. Што сказаць яму, калі спытае пра бацьку: ілгаць Аляксей не хацеў, а праўда... праўда — вочы коле. Не вельмі любяць людзі слухаць яе.

Патоўкся з паўгадзіны перад інтэрнатам, усё вагаўся, а потым вырашыў — узяў кірунак на Самолавічы.

## 9

— Ну, дык што ў вас? — дапытваўся Жытліцкі ў Сяргея Сяргеевіча. Твар нахмураны, рука нервова выбівае па біле сядзення за шафёрам нейкі рытм. Моцна сціснуў зубы, нібыта поўны рот вады і баіцца разліць яе.

— Ну?! — не адставаў Жытліцкі. Пры былым сакратару Канцавым Сяргей Сяргеевіч нічога не сказаў бы, перачакаў бы, штосьці прыдумаў бы, каб захаваць тайну. Жытліцкаму ж ён давяраў і адчуваў сябе з ім, як сын з бацькам: той пакарае, але і паможа, калі трэба.

— Значыць, так,— пачаў Сяргей Сяргеевіч і ўздыхнуў, бо вельмі непрыемна было гаварыць. Яшчэ сам не асэнсаваў усё, што здарылася з Сухоцкім. Не хацеў жа ехаць стары, як сэрца яму падказвала, а ён прымусіў. Як жонцы растлумачыць, людзям, бо гэткую навіну не схаваеш.

Пачаў расказваць Жытліцкаму, і крыху на душы лягчэй стала. Быццам частку цяжару пераклаў на ягоныя плечы. Гаварыў пра Лезіна, як сустрэліся з ім, калі ляцеў на пахаванне бацькі і не мог купіць білет на самалёт, а ён памог яму. Гаманіў, гаманіў Сяргей Сяргеевіч і думаў: а раптам памыліўся ў першым сакратару, можа, не зразумее яго, а значыцца, праблемы калгаса. Кожны старшыня, вырашаючы іх, б'ецца часам як рыба аб лёд. Хто больш настойлівы, нахабны і ўмее арганізаваць розныя гешэфты, той нечага дасягае. Ён, Сяргей Сяргеевіч, быццам не самы горшы са старшынь у раёне, а ці многа трэба цяпер, каб яго зняць з работы і пасадзіць за краты? Падстаў больш чым дастаткова. Іншыя кіраўнікі, навучаныя гэткім прыкладам, сваю ініцыятыву замкнуць у сейф і пачакаюць, калі тая ж «Сельгастэхніка» забяспечыць іх запчасткамі, тэхнікай. І што з гэтага атрымаецца?.. Хто-небудзь гарантуе пастаўкі? Магчыма, словамі і паперай, але ж не запчасткамі...

Вылажыў Сяргей Сяргеевіч Жытліцкаму як на духу і нібыта схадзіў у лазню. Яшчэ б толькі змяніць бялізну і з сынамі сесці за стол дый напіцца чаю ад пуза.

Ездзілі яны па калгасе з сакратаром райкома, ездзілі і маўчалі. Нават калі Сяргей Сяргеевіч расказваў, Жытліцкі ніводным словам яго не перапыніў.

Вечар папоўз на вёску, сінімі крыламі ахапіў яе. Машына ездзіла па калгасе, і Жытліцкі глядзеў, глядзеў, нічога не пытаючы, быццам не Сяргей Сяргеевіч, а ён ведаў, чаму гэта стаіць пасярод вуліцы паламаны бульдозер, чаго лаецца на прахадной з трактарыстам дзед Саўка. Многа яны ўбачылі, многа пачулі, і як успрыняў усё сакратар райкома, было невядома. Ён падвёз Сяргея Сяргеевіча і Уладзіміра Паўлавіча дахаты, яны запрасілі яго павячэраць, але ён адмовіўся.

Доўга было чуваць, як роўна, без надрыву гудзе машына. Потым заціхла.

У суседзяў у двары забразгалі вядром, збіраліся даіць карову. Недзе ў канцы вуліцы п'яна крычаў мужчына, пасля зацягнуў песню, якую на цвярозую галаву не спяваў бы.

— Глянем? — сказаў парторг.

Галава ў Сяргея Сяргеевіча ажно пухла ад думак, як выратаваць Сухоцкага. Ні за што пасадзілі чалавека. Найбольшая віна тут яго, старшыні. І калі, руку на сэрца паклаўшы, спыталі б, каго садзіць, дык за кратамі яму месца, бо паслаў Сухоцкага і даў мяса на гэтыя праклятыя запчасткі. Адчуваў, што трэба завязаць з Лезіным, і на — апошні раз. Сораму колькі...

— Ноччу падумаем... — Сяргей Сяргеевіч знізу глянуў на цёмны ад сонца і пылу твар парторга. Цяжка было зразумець, што ў яго на душы. Круцілася нешта на языку, хацеў спытацца і забыў, усё роўна як склероз.

Зноў наперадзе закрычаў мужчына, непрыемна, з істэрычнымі ноткамі. Можа, дарэмна яны пайшлі. Сямейная сварка. Трэба было пазваніць участковаму, каб супакоіў гэтага хулігана. Але ж як яго прасіць, калі ў самога рыла ў пушку. Напэўна ж, загадалі сачыць за ім. «Эхма-хохма, як кажа Сухоцкі...» І ўсё ж без гэтых запчастак калгасу не абысціся. Каб прыдумалі машыны для вёскі, якія б не ламаліся.

— За шчо цябе з старшынь скінулі? — раптам спытаў ён у парторга.

— За шчо? — Уладзімір Паўлавіч памаўчаў, дастаў з кішэні цыгарэту. Не падпаліў яе, кінуў пад ногі.— А мяне не вызвалялі, я сам пайшоў...

«Сам дык сам. Не хочаш казаць — і не трэба».

— Хоць, канечне, мяне скінулі,— сумна сказаў Уладзімір Паўлавіч.— Падвялі пад манастыр шабашнікі. Будаваў я многа, а сваіх людзей не было. Набраў гэтых «вучоных»... Спярша чын чынам, яны мне работу, я ім — грошы. Адзін дом, паскудзяры, зрабілі як на здзек: падлога крывая, дах дзіравы... Не паправілі. Я ім урэзаў заробак. Яны згаварыліся і падалі на мяне ў райком, што я браў ад іх грошы. Выставілі сведак, усё як трэба... Дык дзякуй Жытліцкаму, а то сядзеў бы зараз... Штось ціха, можа, вернемся?

Яны толькі спыніліся, як за павароткай вуліцы, праз хату-дзве ад іх, пачуўся жаночы крык. Перабіваючы яго, пачулася брудная лаянка. Ясна як дзень, што сварацца муж з жонкай. Гэта іх справа...

— Дарма ідзем,— сказаў Уладзімір Паўлавіч.— Ведаю, хто крычыць. Заўтра з цвярозым пагавару, цяпер не варта.

Сварыліся кладаўшчыца Зося са сваім мужам Макарам Сальвесем. І не проста сварыліся, таму што ў Зосі

пад вокам ужо цямнеў сіняк. Халат на плячы быў парваны. Макар з сукаватай палкай ганяў жонку па двары.

— Ах ты, лярва! — ён размахнуўся і кінуў палку ёй у спіну, але не папаў.

— Ой-ёй-ёй, ратуйце, забівае! — галасіла баба, аднак не ўцякала з двара.

— Макар! — крыкнуў Сяргей Сяргеевіч.— Ідзі спаць, не смяшы людзей.

— Спаць! — зароў Сальвесь, нагнуўся і пачаў нешта шукаць па зямлі. Захістаўся і ледзь не ўпаў, але ж утрымаўся на нагах. У яго руках быў камень. Ён падкінуў яго на далоні і, павярнуўшыся тварам да старшыні і парторга, нечакана шпурнуў проста ў іх. Аднак яны паспелі нахіліцца, і камень праляцеў над галовамі.

— Супакойся, Макар! — Сяргей Сяргеевіч падышоў да веснічак, каб адчыніць іх.— Ідзі спаць.

— А ты, огер, з маёй жонкай на склад. На, з'еш! — Сальвесь зрабіў непрыстойны жэст.

— На які склад? — ажно вытарашчыў вочы старшыня і паўтарыў:— Які склад?

— Людзі, огер, усё ведаюць! — крычаў Макар.— Не падыходзь, не падыходзь!..

Сяргей Сяргеевіч усё ж адчыніў веснічкі і крок за крокам набліжаўся да Сальвеся. Ззаду тупаў парторг.

— Ідзі спаць, ідзі...— прасіў Сяргей Сяргеевіч. Краем вока заўважыў, што Зося села ля кастра дроў і плача, а побач з ёй сын.

— Не падыходзь! — заверашчаў Макар асіплым ад крыку голасам.— Апошні раз прашу, не падыходзь, старшыня!

У старшыні быў намер падысці да Сальвеся, супакоіць, калі ж кінецца на яго, звязаць і пакласці спаць. Прачнецца і прыбяжыць прасіць прабачэння. Але ж Макар па тым, як асцярожна і паціху, нібы да звера, падыходзілі старшыня з парторгам,— вырашыў, што яго будуць біць. Ён з сярэдзіны двара адышоў да хаты і прыціснуўся да сцяны.

— Не возьмеш, огер! — хрыпеў Макар, а старшыня быў ужо зусім блізка. Здаецца, працягнуць руку.

— Шчо ты, Макар,— Сяргей Сяргеевіч гаварыў лагодна і мякка, хоць ажно калаціла ад «огера».

— Назад! — неяк вельмі спакойна сказаў Сальвесь, неспадзеўкі для старшыні хітнуўся ўлева, скочыў на ганак і — у дзверы. «Хай ідзе»,— з палёгкай падумаў Сяргей

Сяргеевіч і павярнуўся, каб пайсці нарэшце дамоў. Відаць, жонка паслухала ўжо бабскае радыё, будзе канцэрт.

— Пайшлі,— сказаў ён парторгу.

— Сяр-гее-віч... — у парторга чамусьці пабялеў твар. Старшыні нібы хто ўдарыў у спіну, ён рэзка абярнуўся і аслупянеў: Сальвесь стаяў на ганку з накіраванай проста на яго стрэльбай.

— Маліся, огер! — Ён зарагатаў, і стрэльба хітнулася ў руках.

З неба дайшоў гуд самалёта, быццам чмяліны, а мо гэта і быў чмель, толькі як ён заляцеў так высака, дый позна ўжо. І зараз, нібы здурнеўшы, каля Зосі загаласіў певень і пайшоў, прытанцоўваючы, па двары. Праз некалькі метраў зноў сваё: «Ку-ка-рэ-ку!»

«Ці ёсць у яго білет паляўнічага? — чамусьці падумаў Сяргей Сяргеевіч.— Дый дзе ўзяў гэту стрэльбу? Яна, напэўна, не зараджана...»

Здалося, што недзе далёка-далёка зайграў аркестр і чуваць, як плачуць людзі. Ён бачыць бацьку, яго партрэт на дыване. Усё-ткі Алена Апотаўна неблагая жанчына... А цётка Ануш, цётка Ануш... Вельмі шкада, што ён раней, калі бацька быў жывы, не паехаў у Ленінград. Мусіць, зашмат і ў яго гонару... Вось, як Сухоцкі...

Сяргей Сяргеевіч паспрабаваў забыць, куды і чаго ідзе. Ён адчуваў і таму баяўся, што раптам яго можа ахапіць страх і тады спыніцца, адступіць, а Сальвесь, калі стрэльба зараджана, пачне страляць. За плотам сабраліся людзі, якія сачылі за кожным яго крокам, нехта з іх мог загінуць ад дурнога стрэлу. «Каб толькі не было тут Марыі і сыноў»,— падумаў ён.

— Татачка! — залямантаваў нейкі малы, і па голасу старшыня пазнаў Мікітку.

Да ганка было ўжо некалькі крокаў, і Сяргей Сяргеевіч працягнуў руку:

— Дай стрэльбу!

Ён сказаў гэта спакойна, нібыта ў Сальвеся была не зброя, а якая-небудзь бярозавая палка. І раптам усё роўна як кінуў ён гэту палку. Стрэлу Сяргей Сяргеевіч не чуў, перад вачмі шугапула полымя — і тут жа рэзкі ўдар у правае плячо. Ён здзівіўся, што падае, круціцца, круціцца юлою Макар, а ў парторга чамусьці разяўлены рот. Аднекуль узніклі цётка Ануш і Арсен. Мільганула думка, што ён у Ленінградзе, а не ў сваёй вёсцы Самолавічы. І што вось-вось падыдзе бацька, жывы і здаровы, што нехта ўсё

наблытаў, навыдумляў... Ужо надышла ноч, і святло гасла, ператвараючыся ў маленькую кропельку, і знікла...

У той самы момант, як Макар Сальвесь стрэліў у Сяргея Сяргеевіча, Аляксей пад'ехаў к свайму дому. Стрэл ён пачуў і падумаў, што забаўляюцца малыя з самапаламі. Тыдзень назад ён адабраў у Яргуновага смаркача самапал, які быў зроблены з ключа. Аднак услед за стрэлам загаласіла баба, закрычалі мужчыны, і гэта Аляксея насцярожыла. Хоць і стаміўся, бо гнаў «Жыгулі» з вялікай хуткасцю і ні разу па дарозе не размяў ног, сеў зноў у машыну. Нібыта хтосьці падштурхнуў яго, прымусіў ехаць, не зайшоўшы у хату.

Калі ж Аляксей пад'ехаў да Сальвесевага двара, то забыў пра стому і сон. Перад хатай ляжаў Сяргей Сяргеевіч, а Макар Сальвесь трымаў на прыцэле парторга. Ля плота збіліся нейкія незнаёмыя людзі, сярод якіх галасіла жонка старшыні. Зося Сальвесева таксама крычала. А Макар, нібы звар'яцелы, рагатаў і хістаўся, стоячы на ганку.

Аляксей прыпыніўся ля машыны на якую хвіліну і, не раздумваючы, пайшоў у двор.

— Стой! — Макар павёў стрэльбай, не ведаючы, каго браць на прыцэл. Аляксей, як і не чуў яго крыку, падхапіў старшыню, з натугай ускінуў на плечы — хоць і невысокі быў Сяргей Сяргеевіч, але грузны — і панёс к машыне. Нешта крычаў Макар, але не стрэліў. Адкінуўшы сядзенне, Аляксей палажыў старшыню ў машыну. Калі ад'язджалі, застракатаў матацыкл участковага.

## 10

Ачуўся Сяргей Сяргеевіч праз двое сутак. Спярша не зразумеў, дзе ён і чаго. Паспрабаваў падняцца ў ложку, але нясцерпны боль рэзнуў, здалося, па ўсім целе, і ён, войкнуўшы, упаў на спіну. Памалу боль адхлынуў, затаіўся недзе ўсярэдзіне, каб ударыць знячэўку,— і на правым плячы застаўся лёгкі сверб. Сяргей Сяргеевіч заплюшчыў вочы, і далёка-далёка заблішчэла кропелька агню, яна то набліжалася, то амаль зусім прападала, пагойдвалася, нібыта ад ветру. Было такое адчуванне, што ён разам з гэтай кропелькай рухаецца, быццам іх знітавалі і адно без другога ўжо нікуды. Ён ляжаў, баючыся болю і гэтай кропелькі, немаведама колькі, ажно пакуль не задзеравянелі спіна і ногі. Сяргей Сяргеевіч зварухнуўся ўлева, болю не было, ён пачакаў крыху і лёг на левы бок.

Бліскучая кропелька ў вачах знікла, і ён адчуў сваё цела дужым, здаровым, аднак штосьці нервавала яго, турбавала. Калі б не боль, які назіраў за ім, як за ахвярай, ён устаў бы з ложка. І ён расплюшчыў вочы.

«Во дурань!» — падумаў з жалем пра Сальвеся. Злосці на Макара не было, стала шкада яго, бо асудзяць. Штосьці яны з Уладзімірам Паўлавічам прагледзелі? Зося ж казала, што спакою не было ў сям'і, гэта ў вёсцы не схаваеш. Пэўна, ведалі суседзі, дый яму неяк Марыя гаварыла, што ў Зосі з Макарам не ладзіцца з таго часу, як нарадзіўся сын. Быццам яна нагуляла дзіця ад некага. Сяргей Сяргеевіч гэтыя плёткі не браў на веру. Урэшце, акрамя Макара і Зосі, у калгасе каля чатырохсот сем'яў, дый штодня праблемы, якія трэба рашаць.

Усё ж шкада Макара. Хоць як чалавек ён не падарунак, але як токару яму цаны няма. Шкада і Зосі. Як гэта гадаваць сына без бацькі? Па сабе Сяргей Сяргеевіч ведаў: калі мужчына ў хаце — дзеці растуць і больш выхаваныя, і матэрыяльна забяспечаныя. Адзень, накармі на адну зарплату. «Шкада, але скуль Макар уведаў, шчо мы былі з Зосяй у складзе?!» Якая свалата падказала Сальвесю? Не было ж нікога на двары.

Сяргей Сяргеевіч пачаў хвіліну за хвілінай успамінаць, як ён пасля абеду ад'ехаў ад сваёй хаты, як перапыніла яго Зося. Яны зайшлі ў склад, потым ён выйшаў на эстакаду, паглядзеў вакол і нікога не заўважыў.

Гэта ж калі данеслі да вушэй Макара, то не абмінулі і Марыю. Хацеў гэты чалавек ці не, каб Сальвесь стрэліў у старшыню, але ясна, што ў яго быў намер папсаваць кроў абодвум. «Шчо ета за змяя падпаўзла так непрыкметна?»

Сяргей Сяргеевіч лёг і заснуў. Калі ж ачнуўся, галава была свежая, без цяжару ў патыліцы. З краю на ложку сядзела Марыя. Яна аб нечым ціха размаўляла з суседам. У Сяргея Сяргеевіча забалела спіна, і ён ужо без страху, што раптам вынырне боль, павярнуўся на левы бок. Жонка палажыла яму на лоб сваю халаднаватую руку, з пяшчотаю пагладзіла. «Пэўна, не ведае нічога... А шчо было? Цьфу!»

— Пайду пакуру,— сказаў сусед і, ляпаючы пантофлямі, выйшаў з палаты.

Марыя маўчала, камячыла крысо халата. Адчувалася ў ёй нейкая скаванасць, усё роўна як проста знаёмая жанчына, а не блізкі чалавек, жонка. Цяпер сумненняў не

было: ведае пра ўсё. Мо нават той гад печаны данёс, што і Макару Сальвесю.

— Можа, паслаць Аляксея па маму ў Чарцёж?..

— Не трэба.

Марыя не глядзіць у вочы, хавае іх. Не любіў Сяргей Сяргеевіч пяшчырасці між людзьмі і не хацеў, каб гэтак было ў іх з жонкай. Ледзьве не нагаварыў ёй розных крыўдных слоў, але ўсё ж стрымаўся, прымусіў сябе змоўчаць.

— Марыйка,— сказаў ласкава,— не слухай бабскіх плётак. Хто б ні гаварыў. Добра?

Яна схіліла галаву і ўсхліпнула.

— Ужо гаварылі?

Марыя не адказала, але яму было ясна. Калі б ёй не сказалі, ён здзівіўся б.

— Ты... паверыла?

— Не...— Марыя заплакала і, нахіліўшыся, пачала цалаваць яму вочы, лоб. Пасля неяк прыціхла і расказала, што было, як яго Аляксей павёз у бальніцу. Макар сам аддаў участковаму стрэльбу. Ён сядзіць у раёне ў міліцыі, хутка суд... А дзень назад з Мінска вярнуўся Сухоцкі. У Самолавічах кажуць, нібыта яго трымалі ў міліцыі.

— Кажуць, кажуць...— узлаваўся Сяргей Сяргеевіч.— Ён ні ў чым не вінаваты.

Ён хацеў дадаць, што сам паслаў Сухоцкага ў Мінск і мяса яму даў, каб мог атрымаць валікі для камбайнаў, але адчыніліся дзверы і сусед спытаў, ці можна зайсці.

— Дык камбайны на сенажаці? — перавёў Сяргей Сяргеевіч гаворку.

— І Яргун косіць, і Прануза. А Прануза дык пакінуў жонку. Жыве на кватэры ў дзеда Саўкі.

Карцела даведацца, як Зося, але ж пра гэта не спытаеш у Марыі. Зноўку ўсплыла ў памяці сустрэча ў складзе, іх гамана. Як паправіцца, дык першае, што зробіць,— знойдзе таго...

Яны крыху пагаварылі, пакуль не зайшоў Аляксей, які прыехаў па Марыю.

## 11

Лета мінула сваю сярэдзіну. Жыта паспела на калгасным полі. Грыбоў у той год было надзвычай багата. Самолаўцы насілі кашамі праўдзівыя і асавікі. Сушылі іх, ма-

рынавалі ў слоіках, цэбрах. З горада людзі бралі ўсё: лісічкі, сыраежкі, ласі, свінні, наогул — што траплялася на вочы.

Было лета ўраджайнае на гародніну і садавіну. Дзед Саўка ўсім расказваў, што гэтак жа ўрадзіла перад царскай вайной, калі ён яшчэ хадзіў пад стол.

У Самолавічах праз дзень-другі акурат збіраліся пачынаць жніво. А недзе ў абед Антоля разнесла навіну, што прысудзілі Сальвесю дзесяць год. Усе ведалі, што старшыня калгаса прасіў суд, каб зменшылі тэрмін пакарання Макару...

Не паспела вёска абмеркаваць гэту падзею, як Мацвей Пранузa перайшоў на кватэру да Зосі Апрасіч. Яргун у прысутнасці людзей паспрабаваў сарамаціць кладаўшчыцу, на што Зося абвясціла, нібыта сын у яе не ад Макара, а ад Пранузы, які і ёсць хлопцу бацька. Цяпер жа і яе муж.

Была яна ў белым халаце і з кароткай дзявочай прычоскай, без хусткі. Памаладзелая, не скажаш, што сорак год. Нахабнымі вачмі паглядзела на Сяргея Сяргеевіча і, здалося, нават падміргнула. Каб можна было, зняў бы яе з пасады кладаўшчыцы, але ж няма да чаго прычапіцца: на складах парадак і чысціня.

Людзі разышліся па рабочых месцах, і Сяргей Сяргеевіч сабраўся ехаць у Сашыцу на свінаферму. Зося спыніла яго, папрасіла на дзве хвіліны пагаварыць. Ён сказаў Аляксею, каб адышоў ад машыны, і, ледзь стрымліваючы сябе, кінуў: «Зноў будзеш раздзявацца?» Чырвань папаўзла па яе твары, шыі. Яна павярнулася і пайшла ад яго. Сяргей Сяргеевіч усё ж дагнаў жанчыну.

— Зося, прабач.

— Ладна... Каб не Макараў стрэл...— апусціла вочы, рукі нервова дрыжалі, яна схавала іх у кішэні халата.— Ведаеце, хто Макару данёс пра склад?

— Хто?! — ён і сам дапытваўся ў Сальвеся на сустрэчы перад судом, ды Макар не сказаў.

— Восіп Кароль...— адным духам сказала Зося.

— Адкуль? Як? — вырвалася ў яго.

— Як ты, Сяргей Сяргеевіч, паехаў, ён выйшаў вунь з тых дзвярэй. Потым я знайшла месца, дзе ён стаяў і назіраў за намі.

— Пакажы! — не папрасіў, а загадаў і першы пайшоў да таго склада, дзе былі з Зосяй. Як ён забыў, што памяшканне падзелена на дзве палавіны?

— Тут,— паказала Зося на бочку, якая стаяла ля сцяны.

Ён узлез на бочку — проста перад вачыма была між бярвення вузенькая шчыліна, праз якую добра відаць усё, што робіцца ў другой палавіне. Калі вочы прывыклі да цемры, разгледзеў стол ля дзвярэй, халадзільнікі, нейкія Зосіны транты, што віселі на цвіку побач з шафай.

Сяргей Сяргеевіч выйшаў на двор і, як ачмурэлы, стаяў мо хвілін пяць-дзесяць. Паклікаў Зосю і спытаў: «Праўда?»

— Няхай майму дзіцяці будзе дрэнна, калі хлушу! — перахрысцілася Зося.— Мне наказвала нават Караліха па сакрэту. Восіп п'яны расказваў ёй і пагражаў, што здыме вас з работы.

Відаць, у яго твары нешта змянілася, бо Зося занепакоілася, завохкала: дурная баба, навошта гаварыла. Ён ужо не слухаў яе. «Вырашыў адпомсціць, шчо зняў з кладаўшчыкоў...»

— Пачакайце! — дагнаў крык, калі выязджалі ад складоў на дарогу. Зося бегла за імі, халат ад ветру расхінаўся, і яна была падобна на вялікую белую птушку.

— Спынімся? — спытаўся Аляксей.

— Не.

— Куды?

— На Свіную вуліцу, да Восіпа Караля.

Дзікая неўтаймаваная лютасць ахапіла яго. Адно было зараз жаданне: разлічыцца з гэтым чалавекам, з-за якога трапіў у турму Макар Сальвесь, быў паранены ён, колькі сораму перанесла Зося...

— Хутчэй, хутчэй! — падганяў ён Аляксея. Лаяўся, як п'яны Яргун альбо Пляменнік, было нясцерпнае жаданне знішчыць гэтага праклятага Восіпа Караля, якога ён пашкадаваў, не аддаў пад суд за крадзеж мяса, збожжа. Але чым бліжэй было да хаты Караля, тым спакайнеў Сяргей Сяргеевіч. Злосці было па самую галаву, але ўжо мог разважаць. І калі спыніліся пад старой ліпай, ён завагаўся — ісці або не.

— Мо не трэба? — сказаў Аляксей.— Ваша права рашаць, але...

— Шчо але? — Ён ускіпеў, як чайнік, але словы шафёра астудзілі яго. І ўсё-ткі Сяргей Сяргеевіч вылез з машыны і зайшоў на двор да Караля. Хата была на замку. Ён ужо намерыўся пайсці адсюль, думаючы, што і лепш

так будзе. Аднак за хлявом зацюкала сякера, і старшыня, памарудзіўшы, накіраваўся туды.

Восіп Кароль штосьці майстраваў, часаў на варштаце невялікай цяслярскай сякерай дошку. Пачуўшы крокі, падняў ваўкаваты, у сівым шчаціннні твар і, не звяртаючы ўвагі на старшыню, далей рабіў сваю справу.

— Здароў, Восіп! — сказаў Сяргей Сяргеевіч.

— Здароў, калі не жартуеш,— крыва ўсміхнуўся.

— Я не, а вось ты, на старасці, жартуеш, і вельмі кепска для сябе.

— Ідзі, ідзі. Няма мне часу языком з табой малоць! — буркнуў Кароль.

— А ты знайдзі! — Сяргей Сяргеевіч аж здзівіўся яго нахабнасці і самаўпэўненасці. Ніколі не думаў, што Кароль такі адважны. Заўсёды ў вочы заглядваў па першым жа слове, здаецца, быў гатовы ў агонь і воду, абы задаволіць жаданне начальства. Рабіў адно, а думаў пра другое. Пакуль быў на складзе, дык, як гаворыцца, шапку ламаў, а зараз куды ўсё знікла. Вочы чырвоныя і бязлітасныя, здзеклівая ўсмешка на губах. Восіп смяецца з яго, з усіх. З нянавісцю Сяргей Сяргеевіч падумаў: «Вот бы ўдарыць па гэтай самазадаволенай пысе...» А сэрца хуценька-хуценька бегае, пот пацёк па твары. Спакойна, Сяргей, спакойна!

— Ты шчо ета нарабіў, га? — цела пачало дрыжаць, і ён ужо ледзь стрымліваў сябе.

— Не падыходзь,— Кароль ускінуў над сабой сякеру,— а то Макар не застрэліў, дык я...

— Шчо ты сказаў?!

— Тое, што чуў!

— Рукі ў цябе кароткія, гад! — Сяргей Сяргеевіч памаўчаў трохі і працягваў: — Думаеш, я цябе ўдару? Памыляешся... Мы цябе судзіць будзем.

Канечне, Восіп па ўзросту старэйшы за яго бацьку. Вунь колькі маршчын на твары, рукі дрыжаць, а сякеру не выпускае з іх. Атруты ў ім, як у гадзюкі. Чаму так бывае — бацька малады памёр, а гэты ходзіць яшчэ па зямлі. Усё жыццё бацька працаваў, будаваў дарогі, каб людзям было лепш жыць. А гэты гад толькі рабіў, што шкодзіў. І жыве, на золку бачыць сонца, чуе, як спяваюць птушкі, як пахнуць кветкі і трава. «Шчо ета за праўда такая на зямлі? Нічога, Восіп, нічога, знойдзем управу на цябе!»

Восіп Кароль быў стрыечным братам Дожджыка. Толькі дружбы паміж імі не было, хоць нібыта калісь яны сябравалі. Цешча расказвала Сяргею Сяргеевічу, што Восіп Кароль з'явіўся ў вёсцы ў канцы трыццатых гадоў. Хадзіў ён у сінім дыяганалевым галіфэ, пад гальштукам, у бліщчастых хромавых ботах. Быццам ён вярнуўся з Фінляндыі, куды ўцёк ад чырвоных з балахоўцамі. Аднойчы хацелі выбраць яго войтам, але адмовіўся. Ціха сядзеў і пры немцах, займаўся гаспадаркай. Пасля вызвалення ўзялі Восіпа на фронт, але адбыў ён год у тылавой часці. Наадрэз адмовіўся страляць, маўляў, вера не дазваляе. Ён быў тады ў секце пяцідзесятнікаў. Але чамусьці, калі прыйшоў з арміі, разлічыўся і з імі. На фэст з Дожджыкам ездзіў у касцёл ажно ў Ліду. Быў Кароль не па гадах дужы і здаровы. Ніхто не помніў, каб ён ляжаў у бальніцы. А было яму даўно за семдзесят.

Пастаяў, паглядзеў Сяргей Сяргеевіч на Караля, адчуваючы, як заныла правае плячо. Падумаў, што восенню трэба ўзяць пуцёўку ў санаторый, дый урачы раілі. Трэба крышку адпачыць, забыць пра Караля, Сальвеся, Зосю... Нервы пачалі здаваць, а гэта ўжо нікуды не варта, сэрца калацілася, нібыта авечы хвост, усё роўна як узлез на гару вышынёй у тры кіламетры.

— Ты зразумеў, Кароль? — спытаў спакойна, здзіўляючыся сам гэтаму.

— Ідзі, ідзі! Пужае...— гудзеў за спіной Кароль.— Не па таго натрапіў.

У веснічках Сяргей Сяргеевіч сутыкнуўся з парторгам. Яго чырвоны «Масквічок» прытуліўся да старшынёўскай машыны. Паспяшаўся Уладзімір Паўлавіч пасля таго, як нагаварыла яму Зося, што Сяргей Сяргеевіч сам не свой памчаў да Восіпа Караля.

— Шчо?! — выдыхнуў парторг.

— Анічога,— сказаў Сяргей Сяргеевіч.

Парторг пабег адразу да хлява, убачыў Восіпа, і ў яго адлягло ад сэрца.

— Шчо трэба? — натапырыўся Кароль.— Забегалі, заскакалі... Начальнікі...

— Чакай, чакай, Восіп, разбярэмся шчэ з табой,— сказаў Уладзімір Паўлавіч.— Дай, оно, скончым з уборкай.

— Не пужай. Бачылі мы і такіх, і ўсялякіх. Дасць бог, адужаем,— крычаў наўздагон Кароль.— А накася, выкусі!

Сяргей Сяргеевіч хадзіў узад-уперад ля машыны, чакаў парторга. Сумна яму, маркотна на душы. Настрою не

было з таго дня, як паехаў Сухоцкі ў Мінск па валікі, як стрэліў Макар Сальвесь. Дужа багаты быў на падзеі той дзень, і забыць яго немагчыма.

— Мо здаць яго ў міліцыю? — спытаўся Уладзімір Паўлавіч.

— Нашчо? Закончым жніво, збярэм сход, і хай адкажа людзям. Хай народ будзе яму суддзёй.

Варта было б, каб супакоіць нервы, паехаць у поле, дзе ўбіралі жыта, паглядзець, як працуюць на камбайнах і Яргун, і Пранузa. Аднак вырашылі старшыня з парторгам завярнуць у кантору. Здалёк, яшчэ ад Асады, прымецілі, што ля дома стаяць «Волга» першага сакратара і жоўта-чырвоная «Ніва» з мігалкай, якую з тыдзень назад атрымаў начальнік раённай міліцыі.

— Госці,— сказаў Аляксей і пакасіўся на старшыню. А Сяргей Сяргеевіч падумаў, што работы сёння ўжо не будзе. Калі сакратар райкома з міліцыяй, дык гэта надоўга.

Макара Сальвеся пасадзілі, але нічога не было чуваць, як скончылася з Лезіным.

Кабінет старшыні быў адчынены, але ні ў ім, ні ў прыёмнай нікога, акрамя сакратаркі, не было. І куды пайшоў Жытліцкі, яна не ведала. Знайшоў яго Сяргей Сяргеевіч у зале пасяджэнняў. Яны стаялі з капітанам Валянцінам Матыльцом і аб нечым размаўлялі.

— Чаму ў кабінет не зайшлі? — сказаў Сяргей Сяргеевіч.

— Без гаспадара нельга. А то што-небудзь прападзе, падумаеш на нас,— пажартаваў Жытліцкі.

— Багаты ў вас калгас, багаты! — зацмокаў Валянцін.— Во каб усе такія былі.

— Дзе парадак і лад, там і калгас багат! — пасміхнуўся Сяргей Сяргеевіч.

— Ну-ну,— сказаў Жытліцкі і рэзка павёў вачыма па старшыні і парторгу, нібыта паласнуў.— Толькі і раблю, што займаюся вашым калгасам. І вось зноў. Мне што, больш рабіць няма чаго?

Увайшлі ў кабінет старшыні, паселі вакол стала. Сяргей Сяргеевіч прапанаваў сваё месца Жытліцкаму, але той адмовіўся, маўляў, пакуль гаспадар, дык сядзі там, дзе дазволілі людзі.

Па паводзінах гасцей ён зразумеў, што яны сапраўды надоўга. Валянцін дык, можа, і не на адзін дзень. Гэта насцярожыла Сяргея Сяргеевіча.

Яны паселі і маўчалі, нібыта кожны баяўся пачаць размову і парушыць цішыню. Жытліцкі лёгенька пастукваў пальцам па стале.

— Ну, дык шчо? — сказаў Сяргей Сяргеевіч.— Можа, спярша паабедаем?

— Спярша пагаворым, а потым і паабедаем,— Міхаіл Восіпавіч павярнуўся да Валянціна.— Калі ласка, гаварыце. Я, думаю, не перашкаджаю?

— Што вы. Я хачу, каб наша размова была таварыскай і адкрытай. Будзем сёння шмат гаварыць без пратакола,— капітан змоўк і, вытрымаўшы паўзу, запытаўся: — Сяргей Сяргеевіч, вы даўно знаёмы з Лезіным Адамам Міхайлавічам?

— Даўно. Мо пяць, мо шэсць год.

— Часта сустракаліся?

— Калі трэба было.

— Канкрэтна, калі ласка.

— Як у раёне і ў вобласці няма запчастак, едзем к Лезіну.

— І што?

— Як шчо? Запчасткі ёсць.

— Чаму вы не патрабавалі запчастак ва ўстаноўленым парадку?

— Тады жыта і бульба на полі згнілі б, а каровы здохлі б.

— Не трэба катэгарычнасці,— зморшчыўся Жытліцкі.— Гавары, ды не загаворвайся.

— Шчо, можа, не так, Міхаіл Восіпавіч? Помніце, як летась наш калгас за лён узнагародзілі «уазікам»?

— Помню,— незадаволена сказаў першы сакратар.— Што з таго?

— А вось шчо! Паехалі мы з Аляксеем і механікам Сухоцкім, якога арыштоўвалі, па «уазік» на базу. Заходжу я ў кабінет, вялікі такі, каб даведацца, як забраць гэту машыну. Сядзіць у кабінеце мо чалавек дзесяць. Падыходжу да аднаго. Ветліва пытаюся: «Як мне атрымаць «УАЗ-469» — прыз за лён?» Мне праз зубы піжон адказвае, шчо ета не яго пытанне, і паказвае на другога, а другі пераслаў к трэцяму. Такім макарам я абышоў усіх дзесяць чалавек. Апошні, з чырвонай гладкай мордай, такі пухірчык, гаворыць, шчо трэба ісці ў двор і спытаць у кладаўшчыка. А кладаўшчык, вядома, самы галоўны чалавек!

— Але гэта нетыпова! — запярэчыў Валянцін.— Утрыруеце!

— Прабачце! Гэта яшчэ не ўсё. Знайшлі мы кладаўшчыка, ён паказвае на дзве машыны, якія былі пад паветкай. Абедзве «раскулачаны»: без фар, нямашака акумулятара, запаснога кола, ключоў і яшчэ рознай дробязі. Шчо думаеце — у кладаўшчыка ўсё гэта ёсць. За кожную дэталь давай на лапу па дваццаць пяць рублёў. Паабураліся і аддалі грошы. Кажаце, утрырую! Як вы думаеце, з чыёй кішэні ўзяў гэтыя грошы? Не з дзяржаўнай, а са сваёй і парторга, бо яму планавалі гэту машыну. Нетыпова?! На жаль, яшчэ як тыпова!

— Як часта вы вазілі мяса, рыбу і гэтак далей Лезіну?

— Пытаецеся пра тое, шчо вазіў Сухоцкі? Гэта я сам купіў і заплаціў грошы за мяса і рыбу.

— Пра гэта пакуль не пытаюся...

— Мо адзін раз, а мо два.

— Дык адзін ці два?

— Адзін,— усміхнуўся старшыня.— Шчо вы мяне на слове ловіце?

— Такая ўжо мая прафесія,— сказаў Валянцін,— і, думаю, не горшая, чымсь ваша. Чатыры месяцы назад вы перадалі Лезіну таксама мяса і кілбасу. Глядзіце здымкі.— Ён веерам раскінуў па стале з дзесятак фотакартак, на якіх Сяргей Сяргеевіч пазнаў сябе, Аляксея і Лезіна; яны былі ў двары ягонага дома. Потым ён запрасіў іх у кватэру, і там яны моцна пасварыліся. Ён назваў Лезіна гнідай, злачынцам, па якім даўно сумуе турма. Адам Міхайлавіч памог ім атрымаць прычэпы к трактарам. Значыцца, з таго часу, калі не раней, міліцыя ўзяла Лезіна на мушку.

— Гэта была не кілбаса, а паляндвіца,— засмяяўся Сяргей Сяргеевіч, хоць было, канечне, не да смеху, глыбака капаў капітан. Хай сабе капае, віны за ім, а тым больш злачынства,— няма. Усё, што рабіў,— дзеля калгаса, дзеля дзяржавы! А тое, што схапілі Лезіна, дык, можа, і няблага. Ужо абрыдла кожнага прасіць і маліць, каб далі калгасу, што павінны даць.

— Не там шукаеце злачынцаў, не там, таварыш капітан! — у роце перасохла, хочацца піць. У шафе было чатыры бутэлькі «Баржомі», Сяргей Сяргеевіч паставіў ваду на стол, разліў па шклянках. Выпіў і адчуў шчэ большую смагу. У кабінеце было душна, і ён адкрыў акно. Дзіўна было, што не ад'язджаў Жытліцкі, нібыта ў яго больш спраў няма, як сядзець тут і слухаць выказванні старшыні, гэты допыт — не допыт ці спектакль, у якім рэжысёрам малады капітан Валянцін Матылец. Але ж не скажаш пра

гэта сакратару райкома. Калі б яшчэ былі без сведкаў, удвух... «Бач ты, фотакартак нарабіў... Эхма-хохма!»

— Канечне, я веру, шчо прыйдзе час, калі калгасу дадуць без цяганіны і запчасткі, і будаўнічыя матэрыялы, і тэхніку. Покуль жа мне, як кожнаму старшыні калгаса, патрэбны сувязі, знаёмыя накшталт Лезіна. Мы выконваем планы па мясу і малаку, будуемся, а дзякуючы чаму? Таму, шчо я і ўсе мае памочнікі не спяць у шапку. У нашай вёсцы ёсцека дзве выдатныя лазні. У Мінску нямашака такіх. Хто мне даў абсталяванне для іх, памог будаваць? Можа, «Сельгастэхніка» ці іншая арганізацыя? Не. Памог знаёмец, які родам з Самолавіч, а ў Эстоніі займае высокую пасаду. Летам прыязджае да бацькоў, мы з ім зварым юшку, возьмем па чарцы, і я, як жабрак, прашу ў яго тое-сёе. Дык ён памагае па-зямляцку, і толькі калгасу, альбо калі папрашу зрабіць тую ж лазню ў суседнім калгасе, дзе старшынёй мой сябра.

— Гэта зусім іншае,— запярэчыў Валянцін,— вы зноў утрыруеце. Колькі грошай вы перадалі Лезіну?

— Ні капейкі.

— А колькі атрымалі ад шабашнікаў, якія, дарэчы, Міхаіл Восіпавіч, і зараз працуюць у калгасе? — павярнуўся капітан да Жытліцкага.— У нас ёсць звесткі, што іх брыгадзір Андрэеў лічыцца падрадчыкам яшчэ ў некалькіх калгасах вобласці. Усюды атрымлівае грошы. Вы ў курсе, Сяргей Сяргеевіч?

— Не... Я бачу, шчо Андрэеў з брыгадай працуе на нашых аб'ектах, будуе дамы для нашых калгаснікаў. Хоць, канечне, па сваіх патрэбах ён калі-нікалі ад'язджае. Ён не арыштант, а я не наглядчык,— зазлаваў Сяргей Сяргеевіч.— Людзі сярод іх розныя, але працуюць яны як трэба. Больш, чым зарабляюць, не плацім. Мы не можам не ўлічваць, шчо яны робяць з ранку да позняга вечара і без выхадных.

— Значыць, парушаюць Закон аб працы,— сказаў Валянцін.

— Ну! — хацеў сказаць старшыня, што языком малоць — не дровы калоць, але глянуў на пахмурнага Жытліцкага і стрымаўся.

— У мяне пытанне да парторга. Вы таксама думаеце так, як старшыня? — Міліцыянер закурыў і падаў пачак з цыгарэтамі Жытліцкаму, але сакратар райкома адмовіўся.— Як мне вядома, у вас ужо былі непрыемнасці з шабашнікамі?

Уладзімір Паўлавіч пачырванеў, як чырванеюць сардэчнікі: па твары і шыі папаўзлі плямы, нібыта хтосьці іх намаляваў пэндзлікам, такія яны круглыя. Ён, пакуль ішла гамана, маўчаў і думаў прасядзець спакойна да канца, калі гэтыя госці паедуць з калгаса. Яму не хацелася гаварыць, таму што ўсе пытанні, якія міліцыянер задаваў старшыні, ён ужо некалі чуў і адказваў на іх. І адказы былі амаль падобныя ў іх з Сяргеем Сяргеевічам. Тады з бюро райкома партыі ён прыехаў дамоў са строгай вымовай. Ледзь не паўгода ніхто ў раёне не хацеў яго браць у гаспадарку нават простым аграномам. На шчасце, першым сакратаром райкома выбралі Жытліцкага. Міхаіл Восіпавіч сам знайшоў яго, і пасля доўгай размовы хутка Уладзімір Паўлавіч быў у Самолавічах. Яму Жытліцкі гаварыў, каб зноў прыняў калгас, але Уладзімір Паўлавіч катэгарычна адмовіўся. Не без жончынай парады ён вырашыў для сябе, што больш ніколі не будзе старшынёй. У грошах ён страціў нямнога, але затое цяпер жылося спакойна. Усё-ткі, калі пакласці руку на сэрца, мог схавацца за плечы старшыні.

Калгас у Самолавічах быў багаты. Сяргей Сяргеевіч разумны чалавек і гаспадар, усе пытанні яны вырашалі разам, без крыку. Ён прывык, што іх у раёне хваляць, ніякіх здарэнняў не было. І раптам за кароткі тэрмін такая навала: Сальвесь страляе ў старшыню, Сухоцкага ледзь не арыштавалі...

Спакой, якім ён так моцна даражыў, на вачах парушыўся, і не было паратунку ад гэтага настырнага капітана. Уладзімір Паўлавіч маўчаў хвіліну, дзве, пяць — і ўсе чакалі ад яго адказу, нібыта ад таго, што ён скажа, штосьці зменіцца. Старшыня паціраў сваё параненае плячо, сакратар райкома глядзеў у акно, толькі капітан не спускаў з яго вачэй. Больш маўчаць было непрыстойна, і Уладзімір Паўлавіч прымусіў сябе загаварыць:

— Я думаю... Так, я думаю гэтак жа, як старшыня. І мне, вы мяне... І вы мяне, калі ласка, не палохайце,— ён спалохаўся, што калі будзе гаварыць яшчэ, то сарвецца і закрычыць. А гэта нікуды не варта, тым больш для сакратара парткома калгаса.

— Цікава, цікава...— Жытліцкі падняўся з-за стала, падышоў да кніжнай шафы, перабраў кнігі, адну пагартаў і паставіў назад.— Нешта мы доўга гаворым, канца няма? Так, таварыш капітан?

— Чаму ж,— загадкава прамовіў Валянцін,— усё

ёсць. Пакуль скажу адно: Сяргей Сяргеевіч парушае закон, дастаючы гэтыя свае запчасткі, прычэпы і...— засмяяўся, зачарціў штосьці аднаму яму зразумелае пальцам па стале.— Не мне рашаць, Міхаіл Восіпавіч. А да канца — яшчэ як да Мінска.

Жытліцкі, павярнуўшыся спіной, стаяў ля адкрытага акна. Ён разумеў, на што намякаў міліцыянер. Цяпер, канечне, была юрыдычная падстава, каб зняць Сяргея Сяргеевіча з работы. Мала гэтага — судзіць за тое, што даваў хабар Лезіну. Ёсць дакументы; відаць, ёсць і сведкі. Многа клопату прынёс сёлета гэты старшыня райкому. І Жытліцкі даўно прапанаваў бы на бюро вызваліць яго з пасады, калі б не ведаў, што менавіта Сяргей Сяргеевіч падняў занепалы калгас.

— Пакажы, Сяргей Сяргеевіч, як будуешся,— папрасіў сакратар райкома, даючы гэтым зразумець, што размова пакуль скончана.

Сеў не ў сваю «Волгу», а да старшыні ў «Жыгулі» і запрасіў Валянціна. Аляксей зыркнуў вачыма на капітана і ўспомніў двор у засені дрэў і Лезіна, якога выводзілі з пад'езда разам з Сухоцкім.

— Дзень добры, таварыш капітан ці, можа, маёр? Не пазнаяце старых знаёмых? — выскаліўся са штучнай весялосцю Аляксей.

— Як жа ж, пазнаў.

— Ловіце хабарнікаў?

— Бывае...

— І многа злавілі?

— Як сказаць...

— А сваіх таксама ловіце?

— Як гэта сваіх?

— Ну, каторыя ў міліцыі?

— А што?

— Ды вось было...— і Аляксей расказаў пра маладога таўстуна-сяржанта, што стаяў ля моста, калі яны з Сухоцкім ехалі ў Мінск, расказаў, як даў яму дзесяць рублёў, каб адчапіўся. Валянцін засмяяўся, але нешта запісаў сабе ў кніжачку.

Яны прыехалі на новую вуліцу, на якой дамы былі такія прыгожыя, што здаваліся цацачнымі. Работы ў брыгады Андрэева было на некалькі дзён. «Вучоныя» дараблялі дзіцячыя пляцоўкі, прыбіралі смецце з двароў. Усёй грамадой хадзілі па кватэрах, глядзелі на хараство, якое было ў кожным пакоі. Андрэеў паказваў, тлумачыў, дзе што,

а потым, улучыўшы момант, зашаптаў Сяргею Сяргеевічу, дыхаючы проста ў вуха: «Навошта міліцыянера прывёў? Падмануць хочаш з грашыма?» Нібыта не чуў старшыня гэтых пытанняў, адхіліў ад сябе Андрэева і пайшоў за Жытліцкім і капітанам.

А назаўтра додніцай, яшчэ да нарады, Андрэеў запатрабаваў для ўсіх «вучоных» поўны разлік. Старшыня не ўгаворваў іх, загадаў бухгалтэрыі выплаціць амаль усе грошы. Не далі толькі суму, якую старшыня хацеў выдаць будаўнікам прэміяй. Тое-сёе, на яго погляд, трэба было дарабіць. Атрымаўшы свае грошы, «вучоныя» зніклі з вёскі. Хоць уцякалі яны самі ад сябе, у канторы былі ўсе адрасы, і знайсці іх было б вельмі проста.

У той дзень Сяргей Сяргеевіч са сваімі гасцямі аб'ехаў увесь калгас. Валянцін дапытваў Зосю, глядзеў накладныя, калі хто выпісваў мяса і колькі.

— Што будзем з табой рабіць? — гаварыў Жытліцкі.— Абараняў цябе, абараняў, бачу, што больш нельга. Здымаць цябе трэба, хоць і шкада... Так, Уладзімір Паўлавіч?

— Не трэба, Міхаіл Восіпавіч,— парторг не мог зразумець: сур'ёзна гаворыць сакратар райкома ці жартуе.— Падтрымаць трэба.

— Падтрымаць?

— А чаму і не? — сказаў Сяргей Сяргеевіч.— Што я, забіў каго альбо абакраў калгас?

— Гэта не мне рашаць,— абарваў яго Жытліцкі.— Хутка суд над тваім Лезіным...

— Ён не мой.

— Не перабівай. Над тваім Лезіным. Покуль нічога не ведаю. Аднак пасля збярэцца бюро, якое вырашыць твой лёс. Надта многа ў цябе грахоў: Лезін, шабашнікі, гісторыя са стрэлам. Мала гэтага, раніцай атрымаў ананімку, нібыта крыўдзіш ветэранаў вайны. Гэта ведаеш чым пахне? Каб цябе зняць з работы, дастаткова аднаго пункта. Надаела займацца табой. Хоць, канечне... ты страціў на нейкі момант партыйную пільнасць і прынцыповасць... Забыў, што ты перш-наперш камуніст, а потым старшыня калгаса. Карацей, сёння я нагаманіўся досыць. Думай, як жыць далей і працаваць.

«Як жыў і працаваў дагэтуль, Міхаіл Восіпавіч»,— ледзь не выгукнуў Сяргей Сяргеевіч. Плячо ажно стагнала ад болю, і сэрца стукала часта-часта, нібыта баялася спазніцца, а куды? Яшчэ б хвіліну — і ён сказаў бы, што не

хоча больш быць старшынёй калгаса, што ён стаміўся і хворы, аддаў бы пячатку, якая здалася раптам вельмі цяжкай у кішэні.

— Пісаць заяву? — як аб нечым зусім нецікавым для яго, спытаў Сяргей Сяргеевіч.

Жытліцкі ва ўпор глядзеў на старшыню, злосці ў яго вачах не было. Нічога больш не сказаў, толькі пазіраў усё. Сяргей Сяргеевіч адчуў страшэнную стому, якая, здавалася, праз імгненне паралізуе рукі, ногі і ён не зможа зрабіць ніводнага кроку, прыхіліцца да гэтай сцяны і будзе стаяць, стаяць, ажно пакуль Аляксей ці Уладзімір Паўлавіч не памогуць сесці ў машыну. Усё-ткі авалодаў сабой, усміхнуўся, нібыта яму добра і нічога не баліць. Толькі Жытліцкі адразу заўважыў і яго крывую ўсмешку, і тое, як ён перасмыкнуў плячом.

Яшчэ не раз прыязджалі ў калгас госці, накшталт капітана Матыльца, але з дазволу першага сакратара райкома партыі з імі гаварыў і тлумачыў, што яны пыталіся, Уладзімір Паўлавіч.

Жніво канчалі, але на полі работы яшчэ было многа, і Сяргей Сяргеевіч, пасадзіўшы ў машыну сыноў, ездзіў па гаспадарцы, нават не з'яўляючыся ў кантору. План па продажы збожжа яны выканалі раней за ўсіх у раёне. У Самолавічах быў самы высокі ўраджай жыта, але ні раённая, ні абласная газеты пра гэта не пісалі. З чыёйсьці лёгкай рукі чутка, нібыта Сяргей Сяргеевіч дый яго падначаленыя парушалі закон і наогул ці не пойдуць пад суд, паляцела далёка. І там-сям, дзе ведалі гэтага чарнявага невысокага старшыню, многа пра гэта гаварылі. Амаль усе прыходзілі да думкі, што дыму без агню не бывае. Значыцца, рукі пагрэў, калі ім займаецца міліцыя. Дый амаральны ён тып, спаў з усімі даяркамі і свінаркамі. А муж кладаўшчыцы прыраўнаваў, не мог больш глядзець, як яму здраджвае жонка са старшынёй калгаса, і стрэліў у яго. Прыкладна ў такім варыянце вярнулася плётка ў Самолавічы, і яе прывезлі ажно са сталіцы сваякі Яргуна, а потым і сын Пляменніка.

Марыя з усяго гэтага захварэла. Каб не цешча — яна ўсе клопаты па дому ўзяла на сябе — Сяргею Сяргеевічу было б нялёгка. Маму ён не хацеў выклікаць, нават пісаў ёй, каб не ехала, таму што сам збіраецца да яе. Яна не ведала пра яго непрыемнасці, а ад гэтага на душы было трохі лягчэй. У пісьмах ён пісаў, што ўсё ў іх як і раней: здаровыя, працуюць. Яшчэ пра дробязі тое-сёе... Пісьмы былі

кароткія, пісаў іх рэдка. Не быў ён у мамы з той ночы, калі ехаў па тэлеграме на пахаванне бацькі. Пакуль ішло следства па калгасе і па справе Лезіна, яны не бачыліся і з Жытліцкім, хоць сакратар райкома зрэдку званіў.

Восіп Кароль хадзіў па вёсцы і лаяўся, усім гаварыў, што старшыню здымуць, выключаць з партыі, што яму так проста не сыдуць з рук шашні з Зосяй Апрасіч. На сваю галаву, ён неяк сутыкнуўся вечарам з Пранузам, і той, адвёўшы яго за могліцы — сілу Мацвей меў немалую,— збіў Восіпа на горкі яблык. Караліха прыбегла да старшыні, плакала, што ў яе не мужык, а ірад, і прасіла, каб даў машыну адвезці Восіпа ў бальніцу. Сяргей Сяргеевіч хвіліну павагаўся і загадаў Аляксею паехаць з Каралём і Каралíхай. Злосці, а тым больш нянавісці да старога не было, усё неяк перагарэла.

Думалі, ведаючы яго характар, што Кароль падасць на Пранузу ў суд, але нешта ён нікуды не пайшоў. Паляжаў тыдні два ў бальніцы, калі ж выпісаўся, прыціх, нібыта памёр. І дагэтуль дружбы з суседзямі не было, а цяпер як граніцу правёў вакол сваёй сядзібы.

Тады ж перадала Антоля пісьмо Сяргею Сяргеевічу. Ён разарваў канверт, у якім быў аркуш шэрай паперы. Пісаў Макар Сальвесь і ў першых жа радках вінаваціўся перад ім. Шкадаваў сябе, што з-за адной пачвары загубіў усё жыццё. А Зося яго нібыта скінула гадоў дзесяць, у вачах радасць. І калі ж дый адкуль выспела гэта між ёй і Пранузам любоў — а мо не было яе? Хто ведае...

Па першым, яшчэ дзіцячым, марозіку выклікалі Сяргея Сяргеевіча тэлеграмай на бюро абкома партыі. Ён ужо ведаў, папярэдзіў Жытліцкі, што з ім будзе гаворка надзвычай суровая і невядома чым яшчэ скончыцца. Адно можа выратаваць яго — гэта тое, што калгас па мясу і малаку, бульбе і збожжу абышоў усе гаспадаркі вобласці. Пры іншых абставінах можна было б спадзявацца на ордэн. А так аб гэтым лепш покуль змоўчаць. Надта многа грахоў сабралася раптам у самалавіцкага старшыні.

Зноў, як тады, калі памёр бацька, Сяргей Сяргеевіч быў вечарам адзін дома. Жонку з дзецьмі завёз на выхадныя на хутар да цешчы.

Ён крышку перакусіў на кухні і перайшоў у гасцíную. Запаліў святло і сеў з кніжкай на канапу. Тэлевізар не

хацелася ўключаць, ён парушыў бы спакой, які, здавалася, нарэшце панаваў у кватэры.

Дыван, што прыслала Алена, яны павесілі якраз насупраць канапы, і партрэт на ім, асветлены шасцю лямпачкамі люстры, нібыта нахіліўся з сцяны. Бацька ўсё роўна як назіраў за Сяргеем Сяргеевічам, падміргваў яму, смяяўся з яго, толькі не гаварыў. Ці былі ў бацькі такія ж цяжкія моманты ў жыцці, калі не ведаеш, што рабіць далей? Напэўна, былі. Са сваім няўжыўчывым характарам і каўказскім тэмпераментам наўрад ці жыў ён спакойна. Вельмі шкада, што ні разу яны не пагаварылі па шчырасці. Да самай бацькавай смерці Сяргей Сяргеевіч лічыў сябе пакрыўджаным. Цяпер ён не змог бы адразу так сказаць. Штосьці зрушылася ў ім, нібыта паламалася нейкая дэталь у гэтай крыўдзе, і некуды ўпала.

— «Пакуль я жывы, я жыву...» — гучна прачытаў Сяргей Сяргеевіч радкі над бацькавым партрэтам. «Ці такія ўжо штучныя гэтыя словы, як я думаў раней? Мабыць, меў рацыю бацька, калі так гаварыў. І правільна гаварыў. Усё-ткі ёсць людзі, якія вераць мне. Я, можа, не заўсёды рабіў так, як трэба было (а як трэба было?), але інакш не мог».

## Кошык дробнай бульбы

Ёсць у мяне зямляк, дружбай з якім я ганаруся. І прафесія ў нас адна. Гэта таксама не выпадкова: быў у нас у дзяцінстве жывы прыклад.

Калі я пасля універсітэта, зялёны верабейчык, заходзіў да яго на работу, Віктар Аляксеевіч многаму мяне вучыў. Рабіў гэта непрыкметна, штосьці расказваючы са свайго жыцця. Накшталт:

— На чужым карку ў рай не ўехаць. Спярша не пашкодзіць і паскакаць дроздзіка...

Ён старэйшы за мяне гадоў на дзесяць. Дачка ў яго ўжо дарослая, нявеста. З жонкай Віктар Аляксеевіч не жыве. Я бачыў яе. Сярэдніх гадоў жанчына, з выгляду даволі сучасная. На вуліцы сустрэў бы, не звярнуў бы ўвагі. Казалі мне, быццам яна некалі здрадзіла Віктару Аляксеевічу. Ён не дараваў ёй. Хто ведае, хто ведае... Гэта іх асабістая справа. Прынамсі, я заўсёды так лічыў.

Пра гэта ніколі не гаварыў з земляком, тым больш што сам ён маўчаў.

Мы ўвесь час заняты. Сустрэчы ў нас рэдкія. Толькі калі я зайду да Віктара Аляксеевіча на работу.

І вось неяк выдалася ў мяне вольная хвіліна. Я пазваніў свайму земляку, і мы дамовіліся ўбачыцца пад канец дня.

Была глыбокая восень, калі адзін крок да зімы. Лістота рэдкімі брудна-жоўтымі сурвэткамі ляжала пад дрэвамі. Паветра сырое. Нізка апусцілася неба. Такое адчуванне, што праз хвіліну надыдзе прыцемак.

Да кафэ я пад'ехаў крыху раней і нетаропка хадзіў па скверы. У гэтую пару тут нікога не было. Я збіраўся вярнуцца на сцежку, што рэзала сквер напалам, як убачыў земляка. Віктар Аляксеевіч стаяў на прыпынку ў шэрым капелюшы, цёмным паліто. У руках ён трымаў свой нязменны, вышараваны да бляску партфель.

За паўгода, што мінула ад нашай апошняй сустрэчы, ён, здаецца, ніколькі не змяніўся. Быццам усё тое ж: крышачку пасівелыя на скронях валасы, той жа твар... Упэўненасць ва ўсёй паставе.

Мы моцна паціснулі рукі адзін аднаму, і я заўважыў, што ён паводзіў сябе трошкі не так, чым раней. Мабыць, яшчэ больш стрымана.

Я замёрз, і мы не раздумваючы адразу накіраваліся ў

кафэ. У гэтым кафэ адбываліся і папярэднія нашы сустрэчы з Віктарам Аляксеевічам. Зала была пустая, і мы выбралі сабе столік у кутку ля акна.

— Тут вочы не будзем мазоліць...— сказаў Віктар Аляксеевіч і дадаў: — Я нядаўна ажаніўся...

Навіна была нечаканай. Наколькі я ведаў свайго земляка, жаніцца ў бліжэйшыя пяць гадоў ён не планаваў. Я ўважліва паглядзеў на яго. Тое, што я прыняў у ім за стрыманасць, было нешта зусім іншае.

Па вуснах прабегла мяккая ўсмешка, і твар Віктара Аляксеевіча пасвятлеў. Мой зямляк быў шчаслівы. Толькі старанна гэта хаваў ад усіх, у тым ліку і ад мяне.

— Я, канечне, жонцы не дам верх браць над сабою... Але ж неяк жыццё трэба да ладу даводзіць.

Мой зямляк расказаў пра новую жонку, якая яна гаспадыня, як яго любіць. Я быў рады за Віктара Аляксеевіча. Слухаў не спыняючы. Падумаў: «Няхай яму пашанцуе».

Мы не спяшаліся. Але, здаецца, аб усім перагаварылі, і размова прыпынілася.

— Даўно быў у нашай вёсцы? — спытаўся я. Віктар Аляксеевіч перастаў есці, асцярожна паклаў на стол відэлец, выцер сурвэткаю вусны.

— Нядаўна. Няма ўжо да каго ездзіць...

Ён замоўк і ўздыхнуў.

— Як ляціць час... Толькі што пасвіў на выгане свіней. А ўжо — за сорак. Дачка выйдзе замуж — і дзедам стану. Жах! Як твой стары?..

— Трымаецца памалу.

— Паехаў у вёску і быццам вярнуўся ў маленства. Усё да дробязей ажыло ў памяці. Мы, здаецца, не спяшаемся. Калі хочаш, раскажу табе гісторыю, якая час ад часу мне ўспамінаецца, не дае спакою. Мабыць, будзе лягчэй мне, калі і ты яе будзеш ведаць.

Якраз афіцыянтка прынесла нам каву. Віктар Аляксеевіч спыніўся, пачакаў, пакуль яна адышла ад століка.

Гучала ціхая музыка: відаць, уключылі магнітафон. Людзей у зале ўжо было поўна. За нашым столікам два месцы былі незанятыя. Я падумаў, што да нас ніхто не сядзе, але адміністратар падвяла дзвюх дзяўчат. Яны хутка асвоіліся, загаманілі пра боты, спадніцы і пра агульных знаёмых.

Віктар Аляксеевіч маўчаў. Новая кампанія, мусіць, яму не спадабалася. Па ўсім відаць — ён не хацеў, каб яго

чуў яшчэ хтосьці, акрамя мяне. Віктар Аляксеевіч піў каву, глядзеў па баках і цішком сачыў за дзяўчатамі. Для іх мы не існавалі. У дзяўчат былі свае праблемы, і гэта яго супакоіла. Ён падміргнуў мне: маўляў, бач, якія модніцы,— але нічога не сказаў.

Увогуле, у мяне склалася такое ўражанне, што людзі, якія паходзяць з нашых мясцін, не надта гаваркія і вельмі сарамлівыя. Віктар Аляксеевіч быў, мне здаецца, у гэтым сэнсе тыповым чалавекам. Ён займаў пасаду загадчыка сектара ў сваім інстытуце ўжо каля дзесяці гадоў. Яму некалькі разоў прапаноўвалі больш адказную работу, але ён адмаўляўся.

Віктар Аляксеевіч настолькі маўклівы, што, бывала, за дзень прамовіць два-тры словы. Яго супрацоўнікі, як анекдот, расказвалі мне, што ён часам, каб даручыць нейкую справу, піша запіску і аддае ім на стол. Помню, тады я пасмяяўся з гэтага і забыўся. У кожным з нас пры жаданні можна знайсці нешта не надта зразумелае для іншых людзей.

Таму, калі на пачатку нашага сяброўства тое-сёе здавалася дзіўным у земляку, то пасля я прывык. Мяне чамусьці вабіў гэты чалавек.

Мы выпілі каву. Афіцыянтка прынесла нам рахунак. Я дастаў з кішэні грошы і хацеў разлічыцца за вячэру, але Віктар Аляксеевіч не даў мне:

— Трэ цюцелька ў цюцельку...

Ён падлічыў свае грошы і заплаціў дакладна па рахунку. Пасядзець нам не далі, бо ў дзвярах была ўжо чарга.

Мы выйшлі на вуліцу. Праз якую хвіліну я адчуў, быццам нехта ўхапіў мяне прышчэпкамі за вушы. Месяц-маладзік свяціў цьмяна, але скрозь на небе высыпалі зоркі.

— На пары сваіх паедзем? Наеліся ж, як на дзяды,— жартаўліва ўхапіўся за жывот Віктар Аляксеевіч. Жылі мы з ім недалёка ад кафэ, у адным раёне. Вырашылі ісці дамоў пешшу.

Я ўсё чакаў, калі нарэшце мой зямляк пачне свой расказ. Не прыспешваў, ведаючы яго характар.

Было позна ўжо. Людзей паменшала і на вуліцах.

— Яшчэ на дзень пастарэлі,— Віктар Аляксеевіч азірнуўся, нібы баючыся, што хтось падслухае нашу размову. Ішлі мы паціху. Я слухаў Віктара Аляксеевіча, не перабіваючы ніводным словам.

— Помніш, я моцна хварэў. Некаторыя ўрачы паставілі на мне крыж. Дый я сам думаў, што богу душу аддам. Ляжаў у анкалагічнай бальніцы. І толькі прафесар Мікалаеў згадзіўся рабіць мне аперацыю. Але перад тым, як легчы на аперацыйны стол, я папрасіў у прафесара адтэрміноўкі на пару тыдняў. Мне карцела паехаць у вёску, як ніколі цягнула туды. Хто ведае, чым магла скончыцца аперацыя, а мне неабходна было наведаць нашу вёску.

Прафесар Мікалаеў не адпускаў, але я настойваў, і ён урэшце згадзіўся даць мне адтэрміноўку. Я хуценька сабраў свае рэчы і ў той жа дзень выехаў на аўтобусе з горада.

Пакуль дабраўся да вёскі, шмат перадумаў. Усё жыццё раптам (хоць раней гэтаму ніколі не паверыў бы) паўстала, нібы ў калейдаскопе. Толькі патрошкі круці яго... Як я жыў, лепш за мяне самога ведаюць людзі. Быццам так і на самай справе. Не веру гэтаму. Ніхто не ведае цябе лепш, чым сам сябе. Для гэтых слоў ёсць падстава. Аднак быў на маёй душы грэх, які мучыў мяне ад самай вайны.

Ты намнога маладзейшы — наўрад ці помніш тыя цяжкія пасляваенныя гады. Ты нарадзіўся, калі трохі загаіліся раны і людзі адчулі сябе людзьмі. У цябе доля больш шчаслівая.

Мае бацькі жылі на хутары. Колькі ён кіламетраў ад вёскі — мо тры, ад сілы чатыры. З усіх бакоў нашу хату засланяў ад чужога вока густы сад, які пасадзіў яшчэ мой дзед Васіль. Ад немцаў, вядома, сад не схаваў бы нас, калі б яны захацелі зайсці. Дый яны і заходзілі: «Матка, яйка, млеко, шпек...» Неяк усё абыходзіла нас. Мусіць, пашанцавала і пад канец гэтай навалы. Немцы ўшчэнт знішчылі, спалілі вёску, а наша сядзіба стаяла цэлая. У пограбе была бульба, у засеках — жыта. Бацька закапаў у зямлю вялікую кадушку сала.

А ў вёсцы ў людзей згарэла ўсё: засталіся голыя, босыя і галодныя. Покуль ачунялі ад праклятай вайны, дык пакут хапіла вышэй галавы.

Карацей, прыехаў я ў вёску. Цёмна, хоць вока выкалі. Памалу даплёўся да хаты. А ўжо ні бацькі, ні маткі не было. Ад хутара амаль нічога не засталося. Ніхто не глядзеў сядзібу. Мне з сельсавета неяк пісалі, каб я аддаў хату дзяржаве, ім трэ было пасяліць маладых аграномаў ці заатэхнікаў. Аднак я заўпарціўся: мая бацькаўшчына! Маўляў, збіраюся вярнуцца на родную зямлю.

Цяпер падумаў, што дарэмна не аддаў хату. Хай бы

жылі сабе людзі, а так струхлее дрэва, дый колькі мне накапавана...

Электрычнага святла ў хаце не было. Дрот адрэзалі, відаць, каб не здарылася якое няшчасце. Я вобмацкам знайшоў газнічку і запаліў яе. Ад маіх ног у розныя бакі кінуліся мышы і прусакі. Ажно стала не па сабе. Вось што значыць, калі чалавек не жыве ў хаце.

Думаеш, я спаў? І на хвілінку не прылёг. Балела горла. Я чуў, як нахабна бегаюць па хаце гэтыя пачвары, і нават не мог крыкнуць, толькі час ад часу стукаў нагамі па падлозе.

Ноч была — нібы прорва без дна. Галаву свідравала думка, што мая хвароба — расплата за даўні грэх. У гэты момант я, мусіць, зразумеў бы тых, хто верыць у бога. Душы патрэбен быў паратунак.

За акном па-сабачы скуголіў вецер, а мне здавалася, гэта стогны людзей, перад якімі я вінаваты. Вакол цемрадзь. Я хацеў, каб хутчэй скончылася ноч. Мо тады мне стане лягчэй.

Стома патрохі апанавала мяне. Адразу нібы мех з бульбай паклалі на плечы. Я нахіліўся над сталом і задрамаў. Лепш бы я не спаў. Мне здалося, што падышла мама. Яна сумна ўздыхнула, пагладзіла мяне рукою па галаве. «Мой сыночак,— сказала мама,— навошта ты гэта зрабіў? Мы з бацькам пакутуем, бо нам сорамна за цябе. Мо ты што зробіш добрае, каб людзі даравалі твой грэх...»

Я плачу, як бабёр, горкімі слязьмі і скрозь енк, мне здаецца, кажу, што за тую крыўду надышла адплата. Мама забедавала і ўжо здалёк махнула рукой. Я застагнаў, пацягнуўся за ёй, а ногі не пайшлі, нібы хтось прыбіў іх цвікамі да падлогі. Толькі дзверы за мамай рыпнулі. Навошта мама пакінула мяне, самотнага, у халоднай і пустой хаце? «Пачакай, міленькая, любая мая!» — хачу крыкнуць, спыніць яе. Крык застаецца ў маёй душы, а я прачынаюся, не разумеючы, што са мной і куды я трапіў. Чуваць нейкі шкробат. Ці ты можаш уявіць сабе мой стан у гэту хвіліну? Мінула шмат часу, і я не перадам табе ўсяго, што тады адчуў.

Газнічка пагасла, і я захацеў запаліць яе. Але запалак на стале не знайшоў. Мусіць, у сне скінуў іх на падлогу. Нічога не заставалася, як сядзець у цемры да раніцы.

Успомніў да драбніц сваё жыццё, вярнуўся ў пасляваенныя гады. Я нібыта прайшоў па завулках і вулачках нашай вёскі, наведаўся да сяброў дзяцінства ў зямлянкі,

якія былі замест пагарэлых хат. У маёй памяці раптам ажыў страшны шматгалосы крык, які дагнаў мяне ўлетку сорак чацвёртага ў гаі, дзе я быў з нашым канём. Я, пэўна, табе не расказваў, што адбылося за вёскай на Ясельдзе ў гэты дзень.

Мадзяры адмовіліся падтрымліваць немцаў, пакінулі свае пазіцыі і рушылі дахаты — даўжэразная калона машын, калёсаў, веласіпедыстаў. Яны везлі з сабою бензін, зброю, снарады. Масты праз Ясельду былі ўзарваны, і мадзяры спыніліся ля Падверб'я.

Дзень быў сонечны. Я пасвіў у гаі нашага коніка, далей ад нямецкага вока. Помню, майстраваў штосьці дзіцячае. Нават не глянуў на нямецкі самалёт-«раму», што паціху ляцеў у бок лесу. І раптам выбухі: адзін, другі... Пасля як пачалася страляніна! Нібыта ля мастоў ішоў бой. Але стрэлы і выбухі заглушыў крык. Напачатку я не зразумеў, што гэта. Жудасны лямант павіс над ваколіцай, перакрыў усе гукі. Я і цяпер ніяк не магу ўявіць, што так крычалі людзі.

Я спалохаўся, залез з галавою ў стажок сена. Але і там дастаў мяне гэты крык.

Заржаў устрывожаны конік, падбег да стога. Бедная жывёліна дрыжала ад страху. Мне б да мамы бліжэй, ды нельга. Немцы каня забяруць. А селянін без каня — як без рук...

Гэты жудасны крык я нібыта зноў пачуў. Ён вярнуўся да мяне праз дзесяткі гадоў. І я ўжо ніяк не мог пазбавіцца ўспамінаў. Мне зрабілася зябка, і я задрыжаў. Мабыць, гэта было ад хваробы ці ад думак, ад якіх балела галава.

Была б хоць якая жывая душа! Каб перакінуўся з кім словам, то, пэўна, лепш адчуў бы сябе. За акном вы̆ў, нібыта хтосьці павесіўся, вецер. Мне б хутчэй святло, дзень. Здавалася, калі не знікне цемра, то памру. Перад вачыма паплылі каляровыя кругі, пабеглі нейкія плямы, і я абрынуўся ў прорву.

Калі прачнуўся, за вокнамі быў дзень. У хаце пахла газай і дымам. Я адчыніў дзверы, каб крыху зайшло свежага паветра. Як мог, тое-сёе з'еў, пагаліўся, узяў з сабою сетку — і на аўтобус.

Ад нашай вёскі да горада хвілін дваццаць язды. Але прыйшлося пачакаць на аўтобусным прыпынку. Людзей сабраўся цэлы натоўп. Мяне пазналі, вітаюцца, а я маўчу. Захар Саўчын папытаў, дзе і як жыву. Я махаў галавою, нібы конь, а потым Захар заўважыў, што я не зусім зда-

ровы. Ну хоць уцякай ад яго. Але куды ўцячэш, калі аўтобус вось-вось падыдзе. Нарэшце паехалі. Думаў, мо далей будзе спакойна. Аднак размовы толькі пачыналіся. Я ўсміхаўся, слухаў, што мне гаварылі. Ты можаш зразумець мой стан, як я сябе адчуваў тады.

У райцэнтры я даўно не быў. Спачатку крышку разгубіўся: куды ісці. Горада не пазнаў: шматпавярховыя дамы, новыя вуліцы. Памалу агледзеўся, прыкінуў, і ўжо не трэба было ў кагосьці пытацца, каб даведацца, што мяне цікавіла.

— Нічога, што я завёў катрынку? Гэта ж толькі пачатак гісторыі,— прыпыніўся Віктар Аляксеевіч.

— Нічога.

Мой зямляк быў узбуджаны і курыў цыгарэты адну за другой.

— Мне патрэбен быў магазін...— расказваў далей Віктар Аляксеевіч.— Чаму так вырашыў, не магу і цяпер растлумачыць сабе. Аднак даволі хутка знайшоў гастраном. Я не думаў, што буду купляць. Відаць, гэтае рашэнне выспела ў душы, але покуль не штурхнула мяне — маўляў, бяры і ідзі,— я вагаўся. Грошы ў мяне былі. Дый ці думаеш пра іх, калі невядома, ці пражывеш хоць тыдзень. Гэтыя словы гучаць, можа, і не надта прыемна. Толькі што зробіш: прафесар Мікалаеў не даў мне аніякіх гарантый.

На паліцы ў вінным аддзеле сярод мноства бутэлек я ўбачыў цёмную замежнай вытворчасці бутэльку. Прыгледзеўся: французскі каньяк «Напалеон». Адкуль яго завезлі ў наш гарадок, хто ведае. Мусіць, я першы купляў гэты каньяк, бо прадаўшчыца была надзвычай абыходлівая са мною.

— Ён вельмі дарагі,— сказала яна.

Прадаўшчыца выцерла бутэльку і загарнула яе ў бліскучую паперу. Калі я выходзіў з магазіна, усе мужчыны, якія былі ў аддзеле, глядзелі мне ўслед.

Можаш уявіць, што яны думалі пра мяне.

Я быў у сваім старэнькім плашчы. Пасля ночы твар бледны, бяскроўны. Выгляд такі, што не пажадаў бы нават ворагу свайму.

Вярнуўся на хутар апоўдні. Надзвычай стаміўся, ледзьве прывалокся ад аўтобуснага прыпынку.

Калі б я не быў хворы, дык ацаніў бы вясковую прыгажосць, сады ў квецені, птушыныя спевы. За гады, што я блукаў па свеце, наш хутар зарос дзікім маліннікам, кустамі бэзу, чаромхі. Як я толькі не паламаў вечарам ногі

ў гэтым гушчары. Каб была сіла, узяў бы і высек зараснікі. Падумаў пра гэта і прысеў на чорнай ад старасці лавачцы каля хаты. Не хацелася заходзіць. Я разамлеў пад сонцам і прыдрамаў. Спаў нядоўга, мабыць, хвілін пятнаццаць-дваццаць, але было адчуванне, нібы праспаў увесь дзень. Таропка падхапіўся з зямлі, дастаў з чамадана чыстую кашулю і надзеў яе.

Я спяшаўся: назаўтра павінен быў вярнуцца ў горад. Тое ж, дзеля чаго я прыехаў у вёску, яшчэ не было зроблена.

Я пакутаваў многа гадоў, думаў, думаў, і хто ведае, можа, хвароба з'явілася ад гэтага. Я не мог так жыць болей. Паверыш, ніводную ноч не спаў спакойна. Дзіўна, як не звар'яцеў, бо мне часам нават удзень здавалася, што чую плач малых дзяцей і іхніх бацькоў. Немагчыма перадаць усяго, што было ў маёй душы, дый наўрад ці адчуеш гэта, пакуль не перажывеш сам.

Я змыў з твару, шыі, рук дарожны пыл і быў гатовы ісці ў вёску. Забыў табе сказаць, што было якраз свята — Дзень Перамогі. Нездарма я прыехаў на гэты дзень. Чалавек, да якога я ішоў, у вайну партызаніў і не мог не адзначыць свята.

У думках я шмат разоў праходзіў гэтай дарогай. Кожны ўзгорачак на ёй помніў з дзяцінства, але тады дарога ад хутара да вёскі была карацейшай для мяне...

Віктар Аляксеевіч зноў прыпыніўся і закурыў. Святло ад запалкі на імгненне асвяціла яго твар. Здалося, што за гэтыя хвіліны, пакуль расказваў, зморшчыны на лбе і на шчоках паглыбіліся і ён нібыта пастарэў.

Горад заціх. Зрэдку прамчыць таксі. З кафэ «На ростанях» данеслася музыка і раптоўна абарвалася. Мусіць, зачынілі акно.

Калісь малы я бегаў на хутар, дзе жыў Віктар Аляксеевіч. На хутары раслі смачныя вішні і грушы-дзічкі. Восенню мы з сябрамі палявалі на іх. Прыцягнеш дамоў паўмеха ігруш. На гарышчы яны падгніюць — смаката!

На хутары мы ігралі ў вайну. Я памятаю бацьку Віктара Аляксеевіча, старога Каўбасея. Ён заўсёды сядзеў на лавачцы пад клёнам і назіраў за намі. Чаму ў яго была такая мянушка? Мая мама казала, нібыта прапрадзед Віктара Аляксеевіча, калі ўпершыню з'еў кілбасы, якая яму спадабалася, захацеў пасеяць яе на полі, быццам жыта альбо авёс. А сапраўды ад чаго пайшла гэта мянушка, наўрад ці хто скажа.

Мы крыху пастаялі з Віктарам Аляксеевічам на мосце. Вады не было відно — унізе цёмная яма.

— Я табе не задурыў галаву? — я адчуў, што Віктар Аляксеевіч насцярожана чакае майго адказу.

— Не, нічога.— Мне захацелася даведацца, што ж было далей. За ўсе гады нашага знаёмства ён ніколі не гаварыў пра сваё жыццё. Дый і я не пытаўся ў яго нічога, бо страціць сябра — нядоўга, а знайсці — і жыцця можа не хапіць.

— Значыцца, выйшаў я на дарогу і пацягнуўся ў вёску. Іду, а навокал — нібы ўсе артысты тут. Паветра поўнае птушынага спеву. Дрэвы — як букеты кветак. Неба — даўно не бачыў такой незвычайнай сіні і чысціні. Гляджу на ўсё быццам у апошні раз. Вось калі я адчуў, як хораша жыць на свеце. Хоць бы дзеля гэтых красак, салаўінага спеву, цёплай ад сонца дарогі. Трошачкі б — і я заплакаў бы ад пачуццяў, якія апанавалі мяне.

Я ўзяў з сабою сшытак і аловак, каб весці размову з чалавекам, да якога ішоў.

Вёска святкавала Дзень Перамогі. Там-сям гучалі песні, іграў гармонік. Сівыя мужчыны з ордэнамі і медалямі сядзелі ледзь не ля кожнай хаты. Я ішоў і думаў, што пасля вайны не было гэтых хат, платоў, садоў. Кругом попел і галавешкі.

Мне стала шкада сябе. Нікому я тут не патрэбен. Усім было весела і радасна. Толькі я жыў сваімі пакутамі і хваробай. Прыйшла думка, што дарэмна ехаў, што нічога нельга вярнуць. Але я адкінуў яе, калі ўспомніў чалавека, хата якога стаяла ў канцы вуліцы. Напэўна, спрабуеш здагадацца, пра каго гавару. Пасля я табе назаву яго. Хоць мне гэта і цяжка...

Ля сваёй хаты мяне спыніў Міхась Стрэкач. Мы з ім сябравалі, вучыліся разам у школе. Абдымае, запрашае ў госці. Здаравяка стаў. Адной рукой ціснe так, што я дзвюма не спраўлюся.

Недзе ў сорак сёмым мы з ім пасвілі кароў і знайшлі супрацьтанкавую міну. Я пабег дамоў абедаць, а ён застаўся з гуртам. Расклаў вогнішча.

Я толькі выскачыў з хаты і пачуў, як гахнула. Аж шыбы ў акне забрынкалі. Гэта яму яшчэ добра абышлося, паспеў схавацца за ўзгоркам.

Ледзь адчапіўся Міхась ад мяне. Пайшоў нават за мной. Я раззлаваўся і адпітурхнуў яго. Міхась разгублена залыпаў вачыма і крыкнуў мне паўздагон:

— Задавака!

Пры іншых абставінах я не абмінуў бы яго хату, пасядзеў бы з сябрам дзяцінства. Усё было б інакш. Нам ёсць што ўспомніць з Міхасём.

Як зараз усё бачу. Праехала з Куроўшчыны машына. У кузаве сядзелі мужчыны і бабы. Помню, яны спявалі:

Ў чыстым полі,
Ў полі пад ракітай,
Дзе клубіцца над ракой туман,
Там ляжыць, сырой зямлёй зарыты,
Там схаваны красны партызан...

Ох, люблю гэтую песню. Пастаяў крыху, слухаючы, як ляціць яна па вёсцы.

Марудзіць далей было нельга. Я перайшоў вуліцу, адчыніў веснічкі. Двор зарос муравою. Выпаўз з-пад павеці сабака, гыркнуў і замоўк. На лавачцы пад сцяной хаты ляжалі ватоўка і зімовая шапка. Дзверы ў сені былі адкрыты. Я выцер ногі аб дзяркач, хвіліну пачакаў і пастукаў рукою па вушаку. З хаты пачуўся старэчы кашаль. Я вобмацкам знайшоў клямку, бо ў сенцах было цемнавата, і адчыніў дзверы. За сталом сядзеў дзядзька, якога спярша не пазнаў.

— Сядай, у нагах няма праўды,— сказаў замест прывітання.— Чый ты? А, Каўбасееў Віктар, пэўна? Нікога з маіх сыноў няма.

Ён угледзеўся ў мяне і спытаў:

— Чаго маўчыш як вады ў рот набраўшы?

Я выцягнуў з кішэні сшытак, напісаў: «Хворы» і паказаў рукой на сваю шыю.

Стары завохкаў, падсеў да мяне бліжэй. Паспачуваў. Я напісаў у сшытку, што віншую яго з Днём Перамогі як былога партызана. Дзядзька захваляваўся, аж слёзы выступілі з вачэй, дрыготкімі рукамі скруціў цыгарку.

— Дзякуй, даражэнькі! Але ж які я партызан. Вось Міхась Казёл ваяваў у партызанах, Пятрок Варажбіцкі — таксама. Я, браце, што — нічога.

Аднак успомніў дзядзька сваю партызанку. Камандаваў ён сямейным лагерам. Там былі бабы і дзеці. Дзядзька так і сказаў: я глядзеў баб, каб галодныя не былі.

Зброі не хапала ў партызан. Камандзір атрада аддаў яму карабін без затвора. Каб бабам не было страшна. Дзядзька з гэтым карабінам усюды хадзіў. І бабы не ведалі, што ў яго за зброя. Думалі, карабін страляе.

І шчэ ў лагеры было тры каровы. Дзядзька іх дагля-даў. Без гэтых кароў дзеці не выжылі б.

Наслухаў я старога, а калі ён замаўчаў, выставіў на стол каньяк.

— Што гэта? — здзівіўся. Надзеў акуляры, чытаў, чытаў.— Мусіць, гарэлка для вялікіх начальнікаў. Трэба сала адрэзаць да яе.

Прынёс дзядзька з каморы сала, паўлітровы слоік кааператыўнай салянкі.

— Купіў за сорак капеек. Але нешта тут напісана... Нейкія адзін пояс, другі. Што гэта такое, халера ведае. Глядзеў, глядзеў — і дзе тыя паясы?

Разліў я каньяк па шклянках, хоць мне і піць нельга было. Дзядзька сказаў:

— За тых, каго няма, і за тваё здароў'е. Шкада, гаспадыні маёй ужо...

Пацягнуў каньяк і закапляўся:

— Хто п'е гэту гадасць?

Я напісаў у сшытку: «П'юць у Парыжы».

— Авохці!

Я ўспомніў дзядзькаву жонку. Ціхая, спакойная была жанчына. Хацеў убачыць яе і не паспеў. Найбольш перад ёй адчуваў я сябе вінаватым. Толькі цётка магла дараваць мне спакой. І я заплакаў. Увесь боль, пакуты, якія не пакінулі мяне за столькі гадоў, былі ў гэтых слязах. Дзядзька, відаць, нічога не зразумеў, што я напісаў. Ён зразумеў толькі, што мне блага. Ён, нібы малога, гладзіў мяне па галаве, штосьці казаў. Можа, табе смешна. Як гэта — дарослы мужчына і плакаў. Я раней таксама здзівіўся б. У жыцці часам бывае такое, што трэба і мужчыну паплакаць. Душы стала трошачкі лягчэй.

Аслабелай рукой я пісаў далей: «У вас я ўкраў некалі кошык бульбы». Стары прачытаў і замахаў рукамі.

Навошта сягоння пра бульбу? Свята ж. А мо хочаш таўканіцы? Дык я зараз. Я жыву як мае быць: поўны склеп бульбы, сала ў кубле, кумпяк пад бэлькай у каморы. Еш, Віктарка, чаго надзьмуўся як мыш на крупы.

«Душа ў мяне рвецца»,— пішу я дрыготкай рукой.

Дзядзька засмяяўся, а пасля ўсхліпнуў, сляза папаўзла з вачэй.

— Сем сыноў, як дубоў, нарадзіла мне гаспадыня, а сама пайшла. Эх!..

Ён ужо як не бачыў мяне, схіліўшыся над сталом, плакаў. Ледзь супакоіўся.

— Жыву на ўсе пяць,— гаварыў ён.— Сыны штомесяц па чырвонцу дасылаюць. Зірні.

На кухні ў вушак забіты цвік, а на ім нанізаны квіткі грашовых пераводаў. Іх ужо на тоўстую кнігу. Калі дзядзьку было сумнавата, ён здымаў квіткі з цвіка і чытаў, як мы — добры раман.

Разлажыў ён пераводы на стале перада мною.

— Мікола прыслаў чырвонец — купіў сабе кашулю...

Загаварыў мяне дзядзька, што я і забыў пра свае турботы. Пералічыў ён зноў паштовыя пераводы.

— Не на вераб'іным харчы жыву. Во — усяго па самае горла. Дваццаць восем рублёў калгаснай пенсіі. Была б мо і лепшая, але я ў заслужаныя калгаснікі не трапіў. Суседка Ганна Грудзея рабіла птушніцай. Яна — заслужаная калгасніца. Яйкі начальнікам давала. Я іх спыняў, бо быў вартаўніком. Ну, і той-сёй паказаў мне зубы. Ай, ды што там. Хлопцы кажуць, каб ехаў да іх, але — не. Ні на чыім карку сядзець не буду. А табе, Віктарка, параю: не шукай учарашняга дня. Наліха гэта.

І здалося мне, што нечым мы з дзядзькам падобныя, адна ўжо ў нас доля. Вечарам яму было хоць плач. Дык ён чытаў, чытаў паштовыя пераводы і глядзеў на фотакарткі сыноў. Каб мог я гаварыць, разлажыў бы перад ім сваё жыццё. Яго словы цяклі, нібы туман на балота. Мне раптам здалося, што я, не дасягнуўшы самага першага сука на дрэве, падаю ўніз. І лячу не ў салому альбо ў гурбу снегу, а на шэры бетон, ад якога няма спасу.

А дзядзька заспяваў. І чамусьці вясельную песню. Помніш:

Ой, коні, коні сівыя,
Коні сівыя,
Да ці чуеце вы сілу,
Вы сілу?
Да ці завязеце княгіню,
Княгіню,
Да на тую горачку крутую,
Крутую,
Да ў тую цэркаўку святую,
Святую.
Да на той горачцы краскі растуць,
Краскі растуць,
Да ў цэркаўцы шлюб бяруць,
Шлюб бяруць...

Дапяваў дзядзька песню і загаварыў:

— Ой, мая жоначка, галубка! Я ж яе б на руках насіў!

Гэта было мне — як соль на рану. Найбольшую віну я адчуваў перад цёткай. Не бачыўся з ёй столькі гадоў...

Віктар Аляксеевіч змоўк, і мы даўгавата ішлі, слухаючы гаману ночы. Горад засынаў. Час быў позні, і я адчуў, што вельмі стаміўся.

— Я ж табе галоўнага не сказаў.— Ён нервова чыркануў сярнічкай, спрабуючы прыкурыць.— Мусіць, дзядзька нарэшце ўспомніў той кошык бульбы, пра які я напісаў у сшытку.

Я табе казаў, што як прайшоў фронт праз нашу вёску, дык не засталося ніводнага падворка. Нібы помнікі, стаялі на папялішчах коміны. Людзі жылі ў зямлянках. Есці не было чаго. Але мы, дзеці, гулялі і ў лапту, і ў нявест і жаніхоў, і ў Чапаева. Я быў занадта вясёлы, спрытны і лоўкі. Мо таму, што жылося трохі лепш, чымсь маім дружбакам. Былі хлеб, бульба і да бульбы. Часам бывае вось такое шчасце.

Мы адзін перад адным выстаўляліся сваёй смеласцю. Нехта лез на высокае дрэва, другі страляў з вінтоўкі па вераб'ях, трэці на рэчцы даставаў пясок з глыбіні васемдзесяць метраў. Мне таксама рупіла вызначыцца.

У дзядзькі быў пограб у сенцах пад падлогай. Я вырашыў неяк туды залезці. Якраз пасварыўся з яго сынам, з якім сябраваў. Падумаў, што за такі ўчынак дружбакі прызнаюць мяне смелым.

Удзень, калі ў хаце нікога не было, я залез у пограб. Пабойваўся толькі, што раптам адчыняцца дзверы і мяне ўбачаць дзядзька альбо цётка. Дзяцей я чамусьці не браў у разлік.

Як злодзей, я ціхенька адсунуў дошкі ўбок і спусціўся ў пограб. Пашукаў у адным кутку, у другім — пуста. Пасвяціў сабе запалкай. Проста ў мяне пад нагамі штосьці стаяла, накрытае пустым мехам. Я адкінуў мех, пад ім быў кошык драбнаватай бульбы. Была вясна, і ўжо рыхталіся ў поле. Я абыякава глянуў на гэту бульбу і ўзяўся рукою за лесвіцу, каб вылазіць з пограба. Раптам шалёная думка спыніла мяне. Я ўспомніў былога сябра, з якім мы пабіліся, як пакрыўдзіў ён мяне брыдкімі словамі,— і ўхапіў кошык.

Мяне ніхто не заўважыў, я выбег з дзядзькавай хаты і поплавам падаўся на Алендры. Я ўявіў сабе, як будуць дружбакі зайздросціць маёй смеласці. Аднак штосьці мяне спыніла. Па дарозе я выкінуў кошык у рэчку, а бульбу перасыпаў у кашулю, якую завязаў накшталт торбы.

На маё шчасце, хлопцы не спыталі, скуль бульба. Усе былі галодныя. Пакідалі бульбу ў цяпельца. Праз паўгадзіны ад яе не засталося і шалупіння. Толькі твары былі ў нас мурзатыя ад вуголля і попелу.

Каля тыдня я спаў як ні ў чым не бывала. Забыўся пра гэты копык бульбы. На світанні ішоў у школу, а затым памагаў бацькам па гаспадарцы.

У нашай вёсцы было з дзесятак коней. Аралі на каровах, а той-сёй і сам цягнуў плуг. У нас быў трохлетак-жарабок. Бацька паспеў схаваць яго ад немцаў у Дабрахінах. Мы патроху, спыняючыся, аралі на ім. У дзядзькі з цёткай і гэтага не было. Яны абрабілі поле рыдлёўкамі. Я і цяпер нібыта бачу іх, худых, апухлых ад голаду. Яны ўсё часцей прыходзяць ноччу да мяне ў снах.

...Пад вечар мы з бацькам дааралі поле пад ячмень, і я пабег па нейкай патрэбе ў вёску. На кляштары пачуў дзікі, немы крык. Быццам зноўку крычалі мадзяры, як два гады назад. Я прыпыніўся ў нерашучасці, але дзіцячая цікаўнасць пераважыла.

Насупраць дзядзькавай хаты збіўся натоўп, а перад ім на зямлі ляжала цётка. Яна рвала на сабе валасы, ламала рукі, плакала і праклінала злодзея, які не пашкадаваў яе дзяцей.

Я пастаяў крышку каля людзей, болей не змог. Даў дзёру. Залез у вербалоз, што рос на беразе Ясельды, і сядзеў у ім, дрыжучы, покі не сцямнела.

Як мне не хацелася дамоў: ішоў — нібы на ланцугу. Тата ўсыпаў мне за тое, што запазніўся. Калі б ён здагадаўся пра маю сапраўдную віну... Можа, было б і лепш. Ён быў спагадлівы да чужога гора.

Праз дзень я адважыўся пайсці ў вёску. Маіх сяброў нідзе не было відно. Я намерыўся забегчы да Захара Саўчынага, штосьці спытаць. І ўбачыў іх. Цётка з дзецьмі, нібыта жабракі, з торбамі цераз плячо павольна ішлі па вуліцы. З зямлянак выходзілі бабы і мужыкі, нешта давалі ім. Хоць што там было ў людзей? Перабіваліся з хлеба на квас. Дзень з алеем, два — галеем.

Не чуючы ног пад сабою, я вярнуўся на хутар. Тата з мамай якраз павезлі гной на поле.

Я хапатліва набраў у мех бульбы з пограба і цераз сад, за хлеўчукамі, напрасткі пашыбаваў да кляштара. Сіл не было несці мех, і я цягнуў яго за сабою па зямлі. Слёзы цяклі па твары. Я вымурзаўся, усё роўна нібы вазячы салому з поля. Не помню, як высыпаў бульбу на

цётчыным двары, на якім нікога не было, як прыбег у сваю хату.

Мама казала, што ноччу я крычаў у бяспамяцтве. Я захварэў і некалькі тыдняў ляжаў у ложку. Выйшаў на двор, калі заквітнеў сад.

З таго часу ў мяне сапсаваўся характар. Я стаў раздражнёны і яшчэ больш замкнёны. Многа гадоў збіраўся да цёткі, каб стаць перад ёй на калені. Калі ж я напісаў пра гэта дзядзьку, мне здалося, што ён не паверыў. Я думаю... Мусіць, дарэмна я раскрыў сваю душу? Ці зразумееш ты мяне? Прабач...

Мы развіталіся з Віктарам Аляксеевічам недалёка ад дома, у якім ён жыў. Хвіліну-другую я бачыў яго высокую мажную постаць у святле ліхтароў. За будкай тэлефона-аўтамата ён зайшоў пад арку дома, і цемра праглынула яго. Мне стала зябка, і я шчыльней загарнуў шалік. Неяк было не па сабе. Вакол была ноч, і я — адзінокі ў ёй. Я тое-сёе пачаў разумець у паводзінах Віктара Аляксеевіча. Прыпомніў той год, калі ён хварэў. Даведаўся пра гэта не ад яго, а зусім выпадкова.

Сусед ездзіў у бальніцу да далёкага родзіча, якога прывезлі з вёскі, і ў бальніцы пазнаёміўся з Віктарам Аляксеевічам.

Помню, я купіў апельсінаў, соку. Жонка спякла пірог з яблыкамі. Віктар Аляксеевіч выйшаў да мяне чамусьці з разгубленым тварам. Мне здалося, што ён не надта рады майму прыезду. Яго ўжо аперыравалі. Ён крыху гаманіў. У мяне было адчуванне, што ён з нецярпеннем чакае, калі я ўрэшце пайду.

Потым я ехаў у аўтобусе, і каб хто мог зазірнуць у маю душу, то наўрад ці сказаў бы, што я быў у бальніцы ў сябра.

Па кропельцы выпаўзла з мяне крыўда. Дый як можна крыўдзіцца, калі твой сябра, зямляк хворы. Хворым, як дзецям,— усё даравальна. Ці не занадта мы патрабавальныя адзін да аднаго?

Віктар Аляксеевіч развёўся з жонкай, як выпісалі з бальніцы. Пакінуў кватэру, мэблю, кнігі. З сабою ўзяў самае-самае. Зноўку пра гэта я даведаўся ад людзей. Жыў ён — горш няма. На ноч заставаўся на рабоце, клаў на стол газеты і так спаў. Насілу яго прымусіў пажыць у мяне. Штодзень пад вечар я званіў яму, і мы разам ішлі дахаты. Я адчуваў, што калі так не зраблю, дык ён зноў будзе начаваць на рабоце.

Скажу як на духу: Віктар Аляксеевіч знерваваў мяне сваёй сарамлівасцю і выглядам: быццам я вінаваты перад ім. Але ў чалавека безупынна балела душа. Ды так, што хтось другі даўно скочыў бы ў пятлю. Ад гэтага не толькі горла забаліць, але і галава. Усё ж вытрымаў Віктар Аляксеевіч, пранёс пакуты, як крыж. І ўжо адно гэта варта павагі...

...Я ўсю ноч піў чай, чытаў газеты. І раніцай прачнуўся разбіты. Балела галава, было такое адчуванне, нібы хтось ваду на мне вазіў. Без апетыту паснедаў і пайшоў на работу.

Дахі дамоў былі заінелыя. Востра патыхала дымам ад машын. Добра ісці пешшу на работу. Аднак жа можна і спазніцца. І я палез разам з усімі ў паўнюткі аўтобус. Каля ўваходу ў наш будынак заўважыў, што на маім паліто засталіся два гузікі. Настрой зусім сапсаваўся.

Спачатку мяне захапіла работа. Я зацята працаваў за сталом. Пісаў, здаецца, ліст у раён з просьбай памагчы з дровамі старому чалавеку, былому партызану.

Прагудзеў селектар. Начальнік прасіў зайсці да яго. За хвілін дваццаць мы вырашылі тэрміновую справу, і я выйшаў з кабінета. У калідоры спыніўся ля Дошкі гонару. На ёй была і фатаграфія Яўхіма Пятровіча Малея. Ён памёр паўгода назад. Труна стаяла на чацвёртым паверсе ў зале. З нашымі хлопцамі я зносіў яе ўніз, на машыну.

Няма ўжо Яўхіма Пятровіча, а здымак на Дошцы. І быццам жывы Малей, вочы бліскаюць, усмешка на вусах. А яго няма...

Я пастаяў крыху перад Дошкай гонару і вярнуўся да кабінета начальніка. Хацеў адчыніць дзверы, як сакратарка, Рэма Нікадзімаўна, спытала:

— Ці не баліць у вас сэрца? Вы ж, як палатно, белы.

— Мо і баліць...— прамовіў я.

Нешта мяне хвалявала, хоць сам пакуль не ведаў — што. Успывалі ў памяці розныя рэчы, якія я даўно забыў.

Нарэшце даўмеўся, што трывожыла мяне. Я жыў яшчэ споведдзю Віктара Аляксеевіча. Захацелася пазваніць яму. Набраў нумар тэлефона. Жанчына, пэўна, супрацоўніца Віктара Аляксеевіча, адказала, што ён на рабоце, але выйшаў некуды.

Насупраць майго акна расце рабіна. Ягады чырванелі на дрэве, нібы рэдкія кропелькі крыві. Вераб'і па-гаспадарску нетаропка дзяўблі іх, скачучы з галінкі на галінку.

Калі лістота зляцела з дрэва, многа было ягад. Я ранкам прыходзіў на работу і перад тым, як сесці за стол, глядзеў на дрэва. У думках хацеў, каб яно засланілася ад дрэннага, каб магло зберагчыся. Хоць гэта немагчыма. Людзі не сабралі ягады, дык паабедалі птушкі. Мо так дрэву і лепш?..

Неспадзеўку я падумаў, што Віктар Аляксеевіч чагосьці не дагаварыў. Наша вёска недзе пад пяцьсот двароў. Іхні хутар на скрыжаванні дарог. Да яго можна падысці ад Прадмесця, Алендраў, Асады і ад Фурштата. Па якой дарозе ён ішоў да дзядзькі? Навошта ўтаіў ад мяне, свайго сябра, імя дзядзькі і цёткі?

Я ледзьве дачакаўся канца работы, як трэба не мог працаваць. Мне чамусь здалося, што Віктар Аляксеевіч усё гэта расказаў спецыяльна. «Але навошта? Якая патрэба?..»

Міжволі я аналізаваў гэтую споведзь. У нашай вёсцы многа сем'яў, у якіх па сем — дзевяць дзяцей. На маёй вуліцы таксама ёсць шматдзетныя. Ад пастаўніка жывуць Кавалец і Нуль, пасля — Грыц і Бацула. Каля Глінак хаты Болтаба і Антанюка. Вось ужо колькі сем'яў у адным канцы вёскі. Яшчэ ж ёсць Свіная вуліца, Алендры, Грудок... Як вызначыць, да каго ішоў хворы Віктар Аляксеевіч?

Хоць і шкада яго, але не магу ўявіць нават, як было дзядзьку і цётцы, калі парвалі, мабыць, апошнюю нітачку, што трымала іх на зямлі. Ці я надта перабольшыў? Я не помню пасляваенных гадоў. Малы быў, як кузюрка. Калі заплюшчу вочы, то, нібы праз густое сіта, узнікае наша хата з шырокай печчу пасярэдзіне. Колькі казак на ёй прачыталі мне старэйшыя браты! Памяць захавала: у адпачынак з флоту прыйшоў наш Мікола. Здаравенны матрос. На яго вачах слёзы. Мікола прымацаваў да печы партрэт вусатага дзядзькі. Плачуць мама, тата, браты. Я цягнуся рукою да партрэта. Вельмі ж зіхатлівыя на ім былі, як разумею зараз, пагоны...

У нас хапала бульбы. Мама пякла аладкі, бабку, якую я любіў. Суседка па мянушцы Лязіха пазычала праз дзень капусту, хлеб, а сям'я ў яе — яна з маці ды сын.

Наша мама была надзвычай ашчаднай. Упэўнены, не кожная жанчына змагла б так дагледзець сем дзяцей, як яна. Дый яшчэ сыноў! Хоць каму-небудзь іншаму свая маці таксама была найлепшай.

І сёлета, калі нам пашанцуе спаткацца, старэйшы брат

Мікола, мусіць, тысячны раз загаворыць пра маму. Дарэчы, Мікола з Віктарам Аляксеевічам амаль што аднагодкі.

Нечакана для сябе я апынуўся каля кафэ, у якім мы былі ўчора. На хвіліну прыпыніўся, нібыта каб нешта альбо некага ўбачыць. Менавіта такі быў у мяне твар у шкле дзвярэй. Можна было сесці на аўтобус, і ён давёз бы мяне якраз да майго дома.

Я павагаўся трохі і пашыбаваў па дарозе, якой мы ішлі вечарам з Віктарам Аляксеевічам.

Пагода памякчэла. Прамежак, які ўчора яшчэ адчуваўся паміж восенню і зімой, парушыўся. З неба замаруджана ляцелі сняжынкі, падалі на зямлю і адна да адной засцілалі яе, нібы ткалі абрус. Шапка, каўнер паліто сталі белымі. У скверы хлопец з дзяўчынай гулялі ў снежкі. Дзявочы смех быў як званочак, і я падумаў, што яна, пэўна, шчаслівая. Ёй добра.

Каля гэтага сквера мы з Віктарам Аляксеевічам прастаялі нядоўга. Адсюль ён пачаў сваю споведзь. «Цікава, чаму ён раней не расказаў мне ўсяго гэтага?»

Мабыць, які тыдзень таму я чытаў у вячэрняй газеце артыкул знаёмага журналіста пра хірурга, прафесара Мікалаева. Аўтар назваў сярод людзей, якіх выратаваў доктар, майго земляка. Гэты артыкул я палажыў у шуфляду свайго рабочага стала. Калі ішоў на спатканне з Віктарам Аляксеевічам, хацеў узяць газету з сабой. «Можа, гэты артыкул і падштурхнуў яго да шчырасці».

Я асцярожна абыходзіў лужыны, яшчэ не зацярушаныя снегам. І ўсё ж набраў у чаравікі вады. Пашкадаваў, што не сеў на аўтобус. Трэба як мага хутчэй ісці, інакш ад прастуды не адкараскацца.

Трушком адолеў метраў дзвесце і добра-такі ўспацеў. Сняжынкі падалі на мой гарачы лоб, і мне было прыемна. Забыў пра мокрыя шкарпэткі, пра ваду ў чаравіках. Можна было спакойна думаць.

Значыцца, па колькасці дзяцей у сям'і я не мог вызначыць, у каго быў Віктар Аляксеевіч. Дый адзінокіх дзядзькоў, як і цётак, нямала. Мой бацька жыве сам. Я прасіў, каб ён перабраўся да мяне. І слухаць не хоча. Летась з'ехаліся мы, усе сямёра братоў, і вырашылі з вёскі бацьку забраць. Калі ён ужо так хвалюецца, што надакучыць камусь, хай тады жыве па чарзе ў кожнага з нас.

Тата слухаў, усміхаўся ў свае рудаватыя вусы, а потым прамовіў:

— На ласкавым хлебе кот і той доўга не працягне. Куды паедзеце па сала?

Вось так сказаў, як адрэзаў. І больш пра гэта ніхто з нас не пачынаў гаворкі.

Мне б пазваніць Віктару Аляксеевічу, спытацца пра ўсё, але дома тэлефона ў яго не было. Кепска, што з раніцы не пагаварыў з ім, быў заняты. Дый неяк... Найлепш, пэўна, убачыць. Сесці ва ўтульным, цёплым пакоі і пагаманіць. Няхай пакажа сваю новую жонку. Няўжо земляку і сябру нельга паглядзець на яе? Я крышку памарудзіў: няёмка, калі нечакана без званка ўвалюся ў кватэру. Кажуць, нечаканы госць горш за татарына. А мо Віктар Аляксеевіч здзівіцца і ўзрадуецца. Я ўявіў сабе, як ён знаёміць з жонкай. Яна, мабыць, паўнаватая, светлавалосая і высокая. Віктар Аляксеевіч любіць такіх жанчын. Ён мне не гаварыў гэтага ніколі. Я сам заўважыў, што яго вочы тады бываюць па-хлапечы гарэзлівыя і трошачкі нахабныя.

Я пачакаў зялёнага святла светафора і перайшоў вуліцу побач з трамвайным прыпынкам. Невядома чаму, быццам у мяне было шмат часу і дома не чакалі жонка з дачкой,— пацягнуўся праз цёмныя двары. Нібыта нябачная рука ўхапіла мяне за каўнер і накіравала ў гэтыя куточкі. Ля даўжэзнага дома я залез па лыткі ў лужыну...

Кватэра Віктара Аляксеевіча была на другім паверсе, вокнамі на двор. На кухні і ў пакоі гарэла святло. Я ўпэўнена накіраваўся да пад'езда. «Гадзіну пасяджу, каб не пакрыўдзіўся»,— падумаў я і націснуў на кнопку званка. Ён прагучаў меладычна і мякка. За дзвярыма было ціха. Я пазваніў тры разы. Гэта быў мой умоўны знак для Віктара Аляксеевіча. Калісьці мы з ім так дамовіліся. Крокаў я не чуў, але вочка ў дзвярах адкрылі. Мяне разглядвалі хвіліну-другую. Затым, нібы на здзек з мяне, заляпалі аб падлогу тапкі ў такт хады: шлёп, шлёп, шлёп... Так хадзіў толькі Віктар Аляксеевіч. Я падарыў яму на дзень нараджэння новыя тапкі, каб ён выкінуў старыя. Аднак ён, відаць, мяне не паслухаў.

Я няўцямна вытарашчыў вочы на дзверы, абабітыя чорным дэрмацінам. Шкляное вока на іх блішчала, нібы кропелька ртуці. Мне здалося, яно здзекліва мігнула. Я адчуў на сваім твары разгубленую ўсмешку — прыляпілася да вуснаў, як пячатка, якую не сцерці.

Мне насустрач ішлі жыхары гэтага пад'езда. Яны былі

стомленыя і занятыя сваімі праблемамі. Раз чалавек усміхаецца, значыцца, яму весела.

На вуліцы надвор'е змянілася. Пранізлівы вецер шпурнуў у вочы прыгаршчы калючага снегу. Я ўскочыў назад у пад'езд, прыхіліўся да сцяны. «Альбо ў Віктара Аляксеевіча нешта здарылася, альбо...»

Я выбег на двор і стаў спіною да ветру пад грыбком на дзіцячай пляцоўцы. У кватэры Віктара Аляксеевіча святла не было. Гэта мяне збянтэжыла. Падумаў, што, можа, не ў тую кватэру званіў. Тады не дзіўна, што не адчынілі дзверы. Гэта справа гаспадароў, каму дазволіць зайсці ў кватэру. Але ж я помніў, дзе жыве Віктар Аляксеевіч і дзе яго вокны.

Холад папоўз па целе ад ног, якія зусім застылі ў мокрых чаравіках. У кватэры майго земляка, дзе зноў засвяціліся вокны, было цёпла і ўтульна. Мабыць, Віктар Аляксеевіч уключыў тэлевізар і глядзіць хакей, які ён любіць. У руках яго мяшочак з гарбузікамі. Ён іх спрытна лушчыць, а побач на газеце памалу расце кучка смецця. Гэта любімы занятак Віктара Аляксеевіча — глядзець хакей і есці гарбузікі.

Я так выразна ўявіў сабе мяшэчак з семкамі і чалавека, які сядзеў перад тэлевізарам, што стала не па сабе. Быў бы камень у руках, шыбануў бы ў акно, у якім відна шафа з кнігамі, знаёмыя мне лапці на сцяне. Лапці я прывёз з камандзіроўкі з Палесся. Дзве пары мне падарыў дзядок па мянушцы Зэр з вёскі Пеўнікі. Адны лапці я пакінуў сабе, другія аддаў Віктару Аляксеевічу.

«Э-эх!» — я нават застагнаў ад крыўды і пацягнуўся з гэтага двара. Ішоў нага за нагу, нібыта нарабіўся да сёмага поту.

Вецер прыціх, і снег неяк запаволена падаў мне на твар. Трэба было спыніць Віктара Аляксеевіча, не слухаць яго. Некалі ён украў кошык дробненькай бульбы. Дык што з таго: усё мінуўшчына.

Вырасла пакаленне, якому вайна — нібыта казка. Яна здаецца таму-сяму надзвычай далёкім жахам. Яшчэ калі я быў смаркачом, тата мне ледзь не штодзень расказваў пра партызанку.

З нашай вёскі многа партызан. Каля рамізні жыве Антон Казёл, за ім хата Івана Багатыра. Былі яны, па словах таты, адчаюгі. Куды толькі ўсё знікла. Нібыта і не было ў іх маладосці...

«Чакай, дружа!» — спыніў я сябе. Тата ж мой таксама

быў у партызанах. Медаль яго схаваны ў хаце за бажніцай, а пасведчанне загорнута ў цэлафан і стракатую насоўку. Як успамінаю, тата часта ездзіў у Гута Міхалін. У Гута Міхаліне многа ляжыць пад соснамі з іхняй брыгады. Ён браў мяне з сабой, недзе калі я быў у трэцім класе. Была вясна. Іграў вайсковы аркестр. Мяне ўразіла тады, што плакалі дарослыя мужчыны. Слёзы былі і на вачах у таты.

Гэты ўспамін нечакана супакоіў мяне. Ззаду застаўся дом Віктара Аляксеевіча, яго вокны. Злосць прайшла. Магчыма, нейкія абставіны перашкодзілі яму адкрыць дзверы.

Пасля вячэры жонка палажыла дачку спаць, а сама пайшла да сяброўкі на восьмы паверх. Я пакурыў у калідоры і вырашыў напісаць пісьмо бацьку. Сеў на кухні, уключыў радыё.

Раптам усплыло ў памяці... На апошнім курсе інстытута я быў на канікулах у вёсцы. У парку ля былой рамізні сабралася кампанія мужчын і хлопцаў. Не помню, з чаго пачалася размова. Толькі кінуў мне зняважліва Ігнат Стрэк па мянушцы «Пілiп з канапель»: «Твой бацька партызан? Ён баб і дзяцей вартаваў!» Я ледзь стрымаўся, каб не ўлупіць Піліпу з канапель.

Раптоўная здагадка ўсхвалявала мяне. Не было з кім падзяліцца ёю. Дый я покуль і не хацеў бы...

Я ліхаманкава пачаў перабіраць у памяці галоўныя, на мой погляд, дэталі са споведзі Віктара Аляксеевіча. Першае — сямёра дзяцей у сям'і. Прытым усе хлопцы. Другое — дзядзька ў партызанах быў у лагеры з жанчынамі і дзецьмі. Трэцяе — квіткі грашовых пераводаў на цвіку ля дзвярэй. Наўрад ці гэта ўбачыш у каго-небудзь, апрача майго таты.

# Лінія

Статыстыку, як мурашу,
Танаж цягнуць зацята.
А я даведку папрашу,
Не колькі мяса на душу,
А чым душа багата.

*Рыгор Барадулін*

## 1

...Слупы ўзнімалі над полем, балотам, лінію цягнулі да самага далягляду. Марудна, але ўсё больш упэўнена...

Зіма ўжо каторы год была з выбрыкамі. Каляды прайшлі без снегу, і надвор'е, як у верасні або кастрычніку, гнілое і цёплае, з грыпам і свінкаю, на якую перахварэла нямала дарослых людзей. Па праграме «Час» перадалі, што ў Беларусі будзе снег.

Да абеду стаяў шэры туман, а пад канец дня пайшоў дождж. І раптам з-за лесу ўзняўся сцюдзёны вецер і наляцеў злосна, быццам з нянавісцю да ўсяго свету. Сырасць памалу папаўзла ад зямлі, анучы ў ботах не грэлі ног. Дзесьці ў вёсцы хрыпла брахаў сабака, потым зараўла машына. З-за ўзгорка, віляючы па дарозе, высунуўся малакавоз: было відаць, як малады шафёр нешта расказвае сваёй спадарожніцы. Мільгануў яе твар у зялёнай хустцы і знік. Хведар падумаў, што гэта, мусіць, прадаўшчыца Таццяна з сельмага.

...Кіпці і мантажны рэмень моцна трымалі Хведара на слупе. Здавалася, аблокі схопіш рукою. Грамада за грамадою плылі яны па небе. І ад гэтага змрочнага малюнка рабілася яшчэ халадней. Твар аж палаў ад ветру.

Вецер нахіліў слуп управа, адпусціў яго, зноў нахіліў. Ад нечаканасці Хведар схапіўся рукамі за ізалятар і прыціснуўся да халоднага дрэва.

Стала цёмна, нібы вечарам. Да самага далягляду хмары захапілі неба і нізка ішлі над зямлёй, быццам збіраючыся прыціснуць яе сваім цяжарам. А праз імгненне... грымнула і бліснула вузкай змяёй маланка. Гэта было так дзіўна, што Хведар забыў і пра холад, і пра работу.

Густы снег злучыў неба з зямлёй. Слупы, лясок, поле зніклі. Хведар некалькі разоў крыкнуў. Якава не было. Хведар не мог нават уявіць, у якім баку Казакевіч.

— Эгей! — пачуўся раптам з белага мроіва голас Якава.

— Аў! — крыкнуў Хведар.

— Крычыш, як грыбы збіраеш,— сказаў Якаў.— Усё, канец рабоце. У прыроды свае законы і планы. Пайшлі ў вёску. Нашы ўжо, мусіць, як мышы па цёплых хатах?..

— Дзе Трацяк? — спытаў Хведар.

Іван быў на слупе каля лесу, наступным за Якавам.

— Відаць, пабег у вёску. Тут нам няма чаго рабіць.

Апошнія крупінкі снегу ўпалі на плечы, калі ўвайшлі ў вёску. Да яе кіламетраў пяць, а можа, менш.

Снег быў мяккі і слізкі, як манная каша. І насыпала яго за такі кароткі час ледзь не па калена. З усіх бакоў вярталіся ў вёску хлопцы, аблепленыя снегам, нібы дзяды-марозы. Мантажных рамянёў для форсу не знялі, ішлі паважна, адзін каля аднаго, на ўсю шырыню вуліцы.

Мясцовых дзяўчат у апошнія дні пачало прыходзіць у клуб усё больш.

Здаравенны бамбіза і, на думку Хведара, дурны, як бот, Васіль Крыц ноччу выцягнуў з двух калодзежаў малако, спіў смятанку. Васіля, тайна ад майстра Івана Аляксандравіча, заціснулі ў складзе электраматэрыялаў і адлупцавалі.

Кватаравалі яны па хатах. За трыццаць пяць рублёў быў ложак, і харчаваліся тры разы ў дзень. Хведар жыў з Якавам і Трацяком. Гаспадыня ў іх была маўклівая. Чуў, як суседзі называлі Бусліха. Муж яе даўно з'ехаў некуды. Дзве дачкі жылі ў горадзе.

Кожную раніцу старая накрывала стол ручнікам, які ткала, мусіць, калі былі свае кросны, ставіла аладкі, смятану, чай. Сама сядзела каля грубкі і пазірала, як хлопцы з маладым апетытам снедаюць.

Хата стаяла першая ад буйной аўтастрады. Няспынна ішлі па ёй машыны. Ноччу заціхаў іх паток, але раз-пораз святло ад фар падала ў пакой. Тады Хведар прачынаўся і не мог заснуць. Ён слухаў гул дарогі і думаў, што някепска было б сесці на якую машыну і паехаць проста так, без мэты, каб убачыць свет, людзей.

Надыходзіла раніца, яны хуценька снедалі і, захапіўшы інструмент, беглі на лінію.

Некалькі дзён назад з базы ўпраўлення прывезлі слупы, бетонныя пасынкі. Частка іх была ўжо ў полі, астатнія ляжалі за складам, побач з хатай, у якой жыў майстар. Цяпер слупы былі пахаваны пад гурбамі снегу.

## 2

З адчыненых дзвярэй цягнула холадам і пахла цвіллю. Пасля ўчарашняга дня хлопцы былі стомленыя. У Хведара, хоць і прывык да цяжкай работы, мускулы ног і спіна балелі. Ён ведаў, што трэба пачаць працаваць і тады імгненна знікне гэты боль.

— Ідуць,— сказаў Крыц, які сядзеў ля дзвярэй.

— Хто?

— Майстар і яшчэ двое.

З Іванам Аляксандравічам быў начальнік участка Ліхаў, тоўсты і лысы мужчына. Гладкі, без броваў ягоны твар, насцярожаныя вочкі не выклікалі ў Хведара сімпатыі. Ліхаў сеў на барабан з дротам і доўга чмыхаў і кашляў. Мусіць, яму было горача ў чорным кажуху. Другі мужчына быў намнога маладзейшы за Ліхава. Высокага росту, хударлявы, ён нагадваў спартсмена. Дзве глыбокія маршчынкі надавалі твару суровы выгляд. Апрануты ён быў у новую ватоўку. На галаве — грузінская кепка-«аэрадром», якую Хведар дагэтуль бачыў толькі ў кіно.

— Паважаныя таварышы, сёння да нас прыехалі нашы паплечнікі...— пачаў майстар.

— Карацей, Іван Аляксандравіч,— сказаў Ліхаў.— Няма часу тут доўга весці размову. Гэта, хлопцы, будзе ваш брыгадзір. Знаёмцеся. Падыміся, Богдан.

Малады ўсміхнуўся і, седзячы, нахіліў галаву. Ліхаў хіснуўся, зноў палез у кішэню па хустачку.

— Не будзем тут языкі часаць. Скажу толькі, што пры вашай сіле дасцё рады.

— Я лічу...— сказаў Іван Аляксандравіч.

— Пра гэта потым,— Ліхаў незадаволена паглядзеў на яго.— Колькі я ў вас — пяць хвілін. Пытанні ёсць? Няма. Знаёмцеся — і за працу. Да пабачэння.

Начальнік участка апошні раз правёў хустачкай па сваім твары-месяцы і пакінуў сход. Каля дзвярэй азірнуўся:

— Праводзіць не трэба. За працу, хутчэй за працу!

Хлопцы глядзелі на Богдана, а ён на іх. «Хто гэты чалавек?» — падумаў Хведар. На развітанне, калі ён ад'язджаў на практыку, бацька яму казаў: «Слухай начальніка і выконвай усё, што ён загадае. Так будзе лягчэй жыць. Ніхто не любіць, калі яму не хочуць падпарадкоўвацца».

У жыцці Хведара ўжо быў адзін начальнік. На вапнавым заводзе, майстар па прозвішчы Кедраў. Як чалавек —

няма горш. Усю змену звычайна бегаў па цэху і лаяўся. Хведар адзін раз не прамаўчаў, потым другі, і Кедраў пачаў крычаць на яго часцей. Калі Хведар звальняўся, майстар не захацеў падпісаць паперу. І Хведар думаў кінуць свае паперы на гэтым заводзе і з нічым пайсці, бо ўжо не было сілы хадзіць па кабінетах і гаварыць, што ты не вінаваты.

— Што насы павесілі, быццам сусветны патоп,— сказаў Богдан.— Вы — не птушкі, а я — не Ной. Мяне завуць Васілём. Вы яшчэ кашы мала елі, а я дзесяты год на слупах.

— Што з гэтага,— сказаў Якаў.

— А то, што я цябе, можа, навучу мантажнай справе.

— Ты, Васіль, архімендрыпуласа не ставіў на высакавольтавай? — сказаў Трацяк.

Богдан іранічна хмыкнуў, паляпаў Івана па плячы і закурыў. Гаворка спынілася. Богдан курыў, а хлопцы сядзелі, паглядаючы на яго. Маўчаў чамусьці і майстар. Яго мускулістая шыя была чырвоная, і Хведар убачыў на твары кропелькі поту. Іван Аляксандравіч шкадаваў, што не пайшоў да начальніка ўпраўлення і не папрасіў, каб далі другога брыгадзіра. Ад прарабаў майстар усё даведаўся пра Богдана. Сказалі яму, што гэты мантажнік быў спецыялістам высокага класа, але не меншым аматарам гарэлкі. Два месяцы назад загадам начальніка ўпраўлення Богдану панізілі разрад і была быццам размова аб звальненні. Па ягонай віне адбылося нейкае здарэнне, якое ледзь не скончылася смерцю мантажніка. «Хто гэтага чалавека накіраваў сюды?» — думаў майстар.

— Я ехаў усю ноч, стаміўся,— сказаў Богдан.— Трэба сёння адпачыць. Вы, я спадзяюся, ведаеце, што рабіць?

— Ведаем, начальнік. Мы ведаем, а вось ты? — зарагатаў Якаў.

— Ты, рыжы, занадта нахабны.— Богдан скінуў левы бот, паправіў анучу.— Магчыма, пасля абеду буду.

Вёска была невялікая, і майстар гадзіну прахадзіў па хатах, угаворваючы людзей узяць Богдана на кватэру. І толькі калі зайшлі ў апошнюю хату, у якой жыла гарбаценькая Тэкля, іх сустрэлі радасна. За сталом сядзела гаспадыня і два мужчыны. Каржакаватыя, з чорнымі вусамі жыў па суседству з Іванам Аляксандравічам.

— Прашу, дарагія госці,— сказала Тэкля.— Па сто грамаў і вам хопіць.

— Дзякуем, мы да вас наконт кватэры,— як мага лас-

кава сказаў майстар, бо яму не спадабалася гэта хата, і павярнуўся выйсці.

— Каму трэба кватэра? Вам,— яна звярнулася да Богдана,— ці вам? — Пэўна, Тэкля ведала, што майстар жыве не першы дзень у вёсцы, і размова ідзе пра другога мужчыну.

— Прабачце. Пайшлі, Іванавіч,— сказаў майстар.

— Чаму мне і не ўзяць. Грошы патрэбны. Дый хлопец быццам неблагі.— Тэкля падышла да Богдана, зазірнула яму ў вочы.— Бяру яго. Вось гэты пакой твой.

— Як, Іванавіч? — спытаў майстар у Богдана.

— Застаюся.

— Тады я пайшоў да хлопцаў. Пасля абеду чакаем і вас.

Зачыняючы веснічкі, Іван Аляксандравіч убачыў, як Богдан сеў за стол. «Паглядзім: будзе не ў той бок кіраваць — паеду да начальніка ўпраўлення. Хлопцы толькі жыць пачынаюць, нікому не дазволю іх псаваць»,— думаў майстар.

На флоце ён выхоўваў матросаў, вучыў моцна стаяць на палубе і не баяцца ніякага шторму. Калі звольніўся, рашыў пайсці куды-небудзь на завод дзяжурным электрыкам. Змену паспаў у цэху, а дзве або тры, як уладкуешся, дома: займайся сваёй справай. Далі яму неблагую пенсію, пакінулі кватэру ў паўднёвым прыморскім горадзе. Дзяцей у іх з жонкай не было. Вяртаючыся з далёкага паходу, ён заўсёды шукаў вачыма на пірсе і сваю жонку. Толькі за ўвесь час яна сустрэла яго некалькі разоў. Яна працавала ў тэатры, ганарылася гэтым і вельмі шкадавала, што Іван Аляксандравіч не афіцэр.

Па начах яму снілася мора і карабель, шторм, ён крычаў, каб яго пачулі матросы. Праз тыдзень ён лёг у шпіталь, і калі вярнуўся дамоў, кватэра была пустая. Нават яго рэчаў не было ў шафе. Вісела толькі марская форма. Два дні з раніцы да вечара з суседам-рыбаком ён рамантаваў кватэру. На трэці дзень прыняў ледзяны душ, прагнаў суседа дахаты і сабраў чамадан. Кватэру ён здаў у КЭЧ і першым поездам паехаў у родныя мясціны. У райкоме партыі, куды ён прыйшоў стаць на ўлік, Івану Аляксандравічу прапанавалі пасаду майстра ў вучылішчы. Ён зразумеў, што яму пашанцавала: тут былі такія ж навабранцы, як і на караблі, і іх трэба было вучыць жыццю. Аднак на флоце прасцей: загад начальніка — закон для падначаленага. А тут...

...Майстар не зайшоў на сваю кватэру, а пашыбаваў напрасткі праз поле да склада. Перад дзвярыма гарэў касцёр, на скрынках сядзелі Мікола Макарчук і Васіль Крыц. Яны рыхтавалі для слупоў арматуру. Дзве поўныя скрынкі ўжо стаялі ўбаку.

— Уладкавалі начальніка на кватэру? — спытаў Макарчук.

— Уладкаваў.

— І дзе гэта нам знайшлі яго? — спытаў Крыц.

— Вы працуйце лепш.

— Шмат грошай атрымаем? — Макарчук кінуў ізалятар здалёк у скрынку.

— Што гэта такое? — майстар выцягнуў пабіты ізалятар са скрынкі і палажыў побач з Макарчуком. Той вінавата апусціў галаву.

— Яшчэ прывязуць,— сказаў Крыц.

— Жартуеш?

— Сур'ёзна.— Крыц шырока паставіў ногі і ўзняў галаву. Выклік ці гульня была ў яго паводзінах, Іван Аляксандравіч не зразумеў. Ён уважліва паглядзеў на хлопца. Былі навучэнцы, якія парушалі дысцыпліну на занятках, не трымалі парадак у інтэрнаце, і майстар займаўся імі. Значыць, частка групы выйшла з-пад яго ўвагі. Прозвішчы, імёны, адкуль прыехаў, адзнакі — вось і ўсё, што ён пра іх ведае.

— Кожны ізалятар каштуе грошай,— сказаў майстар.— І ён павінен стаяць на слупе, а не гніць у зямлі, куды вы кінеце гэтыя кавалачкі.

— Жыццё — складаная рэч! — падняўшы палец, сказаў Крыц.— Я, напрыклад, не хацеў ісці ў вучылішча, але прымусіла маці. Ёй здаецца, што тут з мяне зробяць спеца, а я ведаю: нічога не выйдзе.

— І чым ты хочаш займацца?

— Няма часу, нам трэба працаваць.

— Я памагу вам.— Іван Аляксандравіч знайшоў сабе пустую скрынку, сеў на яе.— Мне цікава будзе ўсё, што раскажаш.

— Калі ласка. Мантажнікам працаваць не буду. Дыплом з вучылішча не пашкодзіць. Пайду ў армію, а пасля ўладкуюся гандляваць півам. За дзень дваццаць — трыццаць рублёў чыста, толькі на пене. Мужчыны п'юць гарэлку або віно — бутэльку мне. Яшчэ пяцёрачка. У месяц буду атрымліваць левай нагой сем кавалкаў. Навошта мне гэты мантаж?

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш? — спытаў Іван Аляксандравіч.

— Сусед Антось працуе ў піўбары. Усё мне расказаў, як ёсць. Паглядзелі б, як ён жыве: каляровы тэлевізар, джынсы рознай фірмы. Карацей, што душа пажадае, тое ў яго ёсць.

— Паслухай, Васіль,— сказаў майстар.— Зрабіў ты калі-небудзь шпакоўню або пасадзіў дрэва?

— Навошта мне гэта? — усміхнуўся Крыц.— Хай гэта робяць дурні.

— Сам ты дурань,— раптам сказаў Макарчук.— Піва, джынсы. Бачыў я такіх стыляг...

— Ты занадта разумны,— Крыц узлавана ўскочыў і пабег чагосьці ў склад.

Другі раз майстру падумалася: не трэба было працаваць у вучылішчы. Зімой ён даведаўся, што самы маленькі ростам у групе, вясёлы хлопчык Міхасік Бардоўскі ўкраў у свайго таварыша Міколы Макарчука грошы. Гэта непрыемнасць уразіла Івана Аляксандравіча. Яму было шкада заплаканага Бардоўскага, які гадаваўся без бацькі і быў апрануты горш за астатніх, але ён загадаў сабраць сход групы. Прыехала Міхасікава маці, плакала, прасіла не выключаць сына з вучылішча. І ўрэшце ён купіў ёй білет на аўтобус, бо жанчына свае грошы аддала Макарчуку і не было за што ехаць назад. Вось і цяпер гэты асілак, Крыц, якому трэба працаваць за траіх, абвясціў, што гандаль півам — яго мэта.

Едучы ў гэту вёску з хлопцамі, майстар падумаў, што добра было б датэрмінова, як казаў начальнік упраўлення, узвесці лінію. Тады б яны даказалі, што лепшай групы ў вучылішчы няма. Акрамя таго, напружаная работа цэментуе людзей, зbліжае між сабой.

Іван Аляксандравіч старанна вывучыў праект лініі і з заплюшчанымі вачыма ведаў, дзе трэба ссячы дрэвы ў лесе, за якім узгоркам павярнуць улева або ўправа. З Хведарам Розумам і Трацяком яны пешшу прайшлі ўсе кіламетры. Па дарозе ён супакойваў хлопцаў, што нічога страшнага няма — зробяць, а вечарам, на кватэры, Іван Аляксандравіч паскроб патыліцу, бо дагэтуль па-сапраўднаму не ўяўляў складанасці будаўніцтва.

У вучылішчы былі майстры больш вопытныя за яго і старэйшыя па ўзросту, для якіх практыка была накшталт адпачынку. Вярнуўшыся дамоў, яны расказвалі на перапынках паміж заняткамі пра розныя прыгоды. Іван Аляк-

сандравіч здзіўляўся: дзе яны бралі час на гэта. Адзін з «зуброў», па мянушцы Прынц, параіў нічога не браць блізка да галавы. «Калі гэты чалавек можа выхоўваць спецыялістаў, дык я з маім флоцкім вопытам не прападу і буду працаваць трошкі лепш за яго, бо мне не ўсё роўна, што робіць падначалены».

Ад Крыца і Макарчука Іван Аляксандравіч пайшоў на лінію. Хведар здалёк прыкмеціў майстра. Іван Аляксандравіч ішоў па цаліку, нібы трактар, топчучы дарогу, і ўся яго мажная, але акуратная постаць, здавалася, была перапоўнена сілай. Хведар падумаў, што і ён не здолеў бы, калі б узяліся, перамагчы майстра. Маленькім хлапчуком адчуваў ён сябе побач з Іванам Аляксандравічам.

Хлопцы адкідалі са слупоў снег, мацавалі з бетоннымі пасынкамі. Справа памалу рушыла. Майстар прыкінуў: прайшлі ўжо не менш трох кіламетраў.

— Мала нас на такую лінію, Іван Аляксандравіч,— сказаў Трацяк.— Амаль не курым, а зрабілі не надта... Гэтак мы да восені не скончым.

— Начальнік упраўлення казаў, што пазней прыедуць яшчэ дзве групы навучэнцаў. Але няўжо мы такія кволыя? Цяпер і брыгадзір у нас ёсць.

— Без яго таксама можам.— Якаў пацягнуў сябе за валасы.— Ну і што, што рыжы? Каму ад гэтага блага?

— Не злуй. Пажывём, пабачым,— сказаў Хведар.

— Я не злую...— Якаў узяў лом, падсунуў пад слуп і перакаціў да бетоннага пасынка.

Хлопцы зноў узяліся за справу, і майстар, пастаяўшы крыху каля іх, пайшоў далей па лініі.

## 3

Пад канец дня майстар папрасіў Хведара зайсці да яго на кватэру. Розум пераапрануўся, з'еў трохі аладак з кіслым малаком і выйшаў з хаты. Два дні ляжаў снег, і ўсе прывыклі да яго, быццам не стаяла ўжо вясна. Цяпер асфальт быў чысты ад снегу — разбілі машыны, і ён растаў. Перад мостам у канцы вуліцы цямнела некалькі постацей. Здалося, што сярод іх мільгануў знаёмы твар. Хведар зайшоў у магазін. Яму патрэбны былі чарніла і папера. Прадаўшчыцу звалі Таццяна. Ён неяк размаўляў з ёю, і яна запрашала яго на танцы ў суседнюю вёску, дзе

быў Палац культуры. Хведар тады адмовіўся, а яна рагатала і гаварыла яму ўслед: «Што, спалохаўся, мамчын сыночак?»

— Не заходзіш нешта? — сказала прадаўшчыца і паправіла валасы на скронях. Ласкава ўсміхнулася: Што хочаш?

Хведар дастаў грошы, пералічыў іх.

— Небагаты ў вас заробак, а кажуць — мантажнікі, мантажнікі...

Таццяна прайшла ўздоўж прылаўка. Белы халат цесны ёй, зверху гузікі расшпілены.

Хведар раптам захацеў піць. Глынуўшы сліну, ён адвёў вочы ад прадаўшчыцы. Схапіў паперу і за дзверы.

Ад моста чуліся крыкі, лаянка. Ён спачатку думаў абмінуць гэта месца, але чамусьці пайшоў туды.

На асфальце, не зважаючы ўвагі на машыны, біліся чатыры мужчыны. Ва ўсіх іх вопратка ўжо была падрана, твары скрываўленыя. Утрох лупцавалі аднаго.

— Стойце, што робіце?

Ніхто яго не чуў ці не хацеў слухаць. Тады Хведар перахапіў руку згорбленага, з барадой мужчыны:

— Стойце!

Толькі ён сказаў гэта, як злева ўдарылі яго па галаве, ажно пацямнела ў вачах. І Хведар зазлаваў, бо ніхто не біў яго, колькі ён сябе памятаў.

Перахапіў руку, павярнуўся на сто восемдзесят градусаў — і ляжыць адзін у гурбе снегу. Кулаком, які быў з дзіцячую галаву, пасадзіў на асфальт барадатага. Трэці і сам паваліўся. Яны мармыталі штосьці, лежачы ў снезе, а чалавек, якога лупцавалі, нібы звар'яцелы, рагатаў і паказваў на іх пальцам. Хведар пазнаў свайго брыгадзіра Богдана.

— Малайчына, малайчына! Выратаваў мяне ад гэтых ваўкоў.— Богдан ледзь стаяў на нагах.— Мужчына! Так ім і трэба. Захацелі перамагчы мяне, Васіля Богдана, першага байца мантажнага ўпраўлення. Свалата, цьфу! Пажажы дайсці дамоў.

Хведар абхапіў яго за плечы, хоць і было гідка глядзець на гэты скрываўлены твар, і павёў на кватэру. З магазіна выскачыла Таццяна, завохкала, схапіла Хведара за руку:

— Скажы, хто цябе біў?

— Гэта не мяне,— неахвотна адказаў Хведар,— а яго.

— Чаго ж кроў і на тваім твары? — Яна хустачкай

правяла па яго шчацэ, паказала на Богдана: — Гэта таксама ваш?

— Наш...

Па дарозе Богдан спрабаваў спяваць песню, але, мусіць, забыў словы і толькі паўтараў адзін радок. Апошнія крокі да хаты Хведар яго амаль што нёс. Перад дзвярыма Богдан выпрастаўся, зашпіліў кашулю, і Хведару здалося, што ён цвярозы, бо вочы глядзелі ўпэўнена і ясна.

— Прашу, заходзь,— ён сам адчыніў дзверы.

— Не, мне трэба ісці.

— Не палохайся.

— Чаго мне палохацца! — Хведар першы зайшоў у хату.

Тэкля гатавала вячэру.

— Тэкля, дай госцю сесці,— сказаў Богдан.

— Калі ласка, калі ласка.— Тэкля ручніком накрыла табурэтку.— Сядайце, даражэнькі.

— Рыхтуй стол, Тэкля,— загадаў Богдан.

— Не, я пайду,— падняўся Хведар з табурэта.

— Што вы, як можна. Бачыце, першы дзень у мяне кватаруе Васіль, а слухаю яго лепш, чым мужа,— казала Тэкля.— І чаму гэта так? Такі ўжо ён добры, хоць да раны прылажы, толькі вочы надта вострыя.

Выйшла з каморы старая Тэкліна маці, паглядзела на іх, нібы маланка бліснула ў вачах, прамармытала:

— Няма на вас бяды. Каб вы...— і зайшлася доўгім хрыплым кашлем.

— Навошта вы так, маці? — сказаў Богдан.— Мы хочам як людзі, каб было ўсё добра і правільна.— Ён уздыхнуў: — Усё Богдан благі, нікчэмны і гэтак далей. Ці ведае хто, што я гэтымі рукамі пабудаваў сотні кіламетраў электраліній? Пра якія сказана ў песні:

Сівізна ў правадах ад інею,
ЛЭП-500 не простая лінія...

Богдан, паклаўшы галаву на стол, заснуў. Хведар падняўся і, не слухаючы, пра што гаворыць Тэкля, выйшаў з хаты.

Было позна, калі ён зайшоў на кватэру да майстра.

— Там ён,— паказала гаспадыня на камору.

Іван Аляксандравіч — у марскім цельніку і спартыўных штанах — стаяў на галаве. Ад нечаканасці Хведар аж вытарашчыў вочы.

— Нешта позна ты,— сказаў майстар.— Чакаў цябе

трошкі раней. Адну хвіліну... Раз-два. Здзіўляешся? Гэта ўрач параіў мне штодзень уверх нагамі стаяць па сістэме ёгаў. Хачу хваробу сваю перамагчы.

«Навошта спатрэбіўся яму?» — падумаў Хведар.

— Маёй гаспадыні варона на хвасце прынесла, што ты біўся з кімсьці на асфальце.— Майстар адчыніў чамадан і штосьці старанна шукаў у ім.— Так ці не?

— Варона праўду казала,— Хведар падняўся.— Вы ўсё ведаеце, і я пайшоў.

— Бач, які гарачы, малады пеўнік ты, Хведар.— Майстар сеў насупраць хлопца.— Ніколі не рабі паспешлівых вывадаў. Я даўно назіраю за табой. Галава на плячах у цябе ёсць. Хачу папрасіць, каб ты зрабіў нешта. Не спяшайся адмовіцца. Я заўважыў, што ты любіш сядзець за апошнім сталом і больш слухаць, чым гаварыць.

— Пры чым тут усё гэта? — паціснуў плячыма Хведар.

— Пры тым, што мы зробім звяно з чатырох чалавек і ты будзеш кіраваць ім. Думаю, што ад гэтага справа пойдзе хутчэй.

— Адно звяно нічога не вырашыць,— сказаў Хведар і адчуў, як недзе ўсярэдзіне загарэўся прыемны агеньчык. Надышоў той час, калі ён пакажа, на што здольны. Галоўнае, каб далі самастойны ўчастак і не перашкаджалі.

— Вядома, тваё звяно задачу не вырашыць. Астатніх хлопцаў таксама аб'яднаем у такія звенні. Ваш калектыў, як табе сказаць, будзе ўдарным. Гэта я хацеў табе і паведаміць.

— Я згодны. Толькі каго ўзяць да сябе.— Хведар успомніў усіх хлопцаў і спыніўся на Якаве, Міколе Макарчуку і Траццяку.

— Не супраць,— сказаў майстар.— З гэтага моманту ты адказваеш за ўсіх хлопцаў. Гэта твая справа, калі вы будзеце пачынаць працу і канчаць. Галоўнае, каб было зроблена якасна і хутка. Мы з брыгадзірам паспрабуем памагчы.

Сёння Іван Аляксандравіч другі раз прайшоў лінію. У канцы яе сеў на паваленае дрэва і доўга думаў. Яму было і шкада хлопцаў, якіх чакалі тут цяжкая праца, гразь, і ў той жа час ён ведаў: мужчына можа расці толькі ў цяжкасцях. Жыццё — гэта не кветкі і сустрэчы з каханымі на пірсе, гэта пераважна цяжкая, з дня ў дзень, праца. «Я буду вельмі шчаслівы,— думаў Іван Аляксандравіч,— калі гэтым хлопцам стане жыццём работа, якой іх вучу. Тады не шкада, што пакінуў мора».

Гэта ўспомнілася Івану Аляксандравічу, калі Хведар пайшоў. Майстар быў упэўнены, што Розум зробіць так, як было сказана.

З-за хмар выпаўз месяц і жоўтым святлом паліў дамы, лес, агароды. Даўно не было такога цудоўнага настрою ў Хведара (сустрэўся б зараз чалавек і што б ні папрасіў у яго,— не пашкадаваў бы: даў бы ад шчырага сэрца). Ён ішоў, не звяртаючы ўвагі на гразь, гурбы падталага снегу: мора яму было па калена.

Хлопцаў дома не было. Старая спала на ложку за грубкаю. Хведар уключыў святло ў сваім пакоі. На канапе ляжалі карты, брудная Казакевічава і Трацякова вопратка. Ён сабраў кашулі, нагавіцы і вынес у сені, склаў іх у шафе.

— Хто там? — пачуўся голас старой.

— Гэта я, Хведар.

Гаспадыня ўвайшла ў пакой, прысела на табурэтку.

— Сон нешта не ідзе. Ты чаго дома сядзіш? Хлопцы пайшлі ў клуб...

— Там нецікава.

— Як гэта нецікава,— старая ўсміхнулася.— Маладому ўсё трэба, каб было цікава. Жыццё толькі пачынаецца. Колькі табе гадоў?

— Мне? — сумеўся Хведар.— Дзевятнаццаты ўжо...

— Ужо...— засмяялася гаспадыня.— Дзіця ты яшчэ. Скажы мне, чаму ты такі сур'ёзны? Астатнія хлопцы жартуюць, у карты гуляюць, а ты маўчыш і ні ўсмешкі.

— Гэта вам здаецца.

— Не, вельмі ты сур'ёзны хлопец. Хачу пагаварыць з табою. З гэтымі жэўжыкамі няма аб чым гаварыць. Эх, цяжкая мая доля,— уздыхнула старая.— Як. Хведар, я вас кармлю? Можа, блага?

— Нічога...— Хведар ужо раніцай глядзець не мог на бліны і кіслае малако.

— Можа, ты есці хочаш? — Гаспадыня жвава выйшла з пакоя і праз хвіліну прынесла на талерцы смажанага пеўня.

— Паласуйся, хлопчык, хто вас тут накорміць.— Яна села насупраць яго, вочы яе былі ласкавыя.

— Не, што вы... Неяк...— Хведар пачырванеў.

— Певень малады. Сваіх кур не глядзеў, а бегаў да суседніх. Навошта мне такі лайдак? Мяса смачнае.

Хведар зараз і ваўка з'еў бы. З яго ростам, ды і праца

нялёгкая, цэлы дзень на паветры. У адзін момант знішчыў ён пеўня. Гарэлку не піў, хоць і прасіла гаспадыня.

— Дзякуй, Мар'я Пілінаўна. Цяпер можна зноў слупы падымаць.

— Вось-вось. І я пра тое ж. Цяжка мне жыць, старой. Адна, як цвік на дарозе. Дочкі далёка, сыноў нямашака.

— Я ведаю.

— Дык у мяне невялічкая просьба, Хведарка. Хлопцы цябе паслухаюць, дапамогуць. Ішла я сёння агародамі: шмат слупоў ляжыць на лузе. І ўсе такія чорныя. Суседка мая, Фрося, ты ведаеш, муж яе начальніка возіць на таксоўцы, кажа, нібы гэтыя слупы трыццаць гадоў прастаяць у зямлі і нічога іх не возьме.

— Яны праантысэптыраваны,— сказаў Хведар і доўга растлумачваў гаспадыні, што гэта значыць, а яна ўсё не разумела яго.

— Мне гэта навука навошта? У цябе галава маладая — вучыся. Мне патрэбны слупы гэтыя. Штук дзесяць-дванаццаць. Хачу падрамантаваць плот, бо ўвесь ляжыць, падрубы замяніць у хлеўчуку, дзе куры і індычкі.

— Дзе ж я вазьму гэтыя слупы? — здзівіўся Хведар.— У мяне няма. Былі б — не пашкадаваў бы.

— Я ж табе казала — дзе,— гаспадыня паказала рукой на акно.— Каб людзі што не гаварылі, ноччу можна прынесці. Не бойся, грошай на гарэлку дам. Многа вам не трэба, усё роўна ў краму пойдуць. «Ну і старая, пеўня засмажыла. Купіла».

— Прабачце, Мар'я Пілінаўна, але я не гаспадар гэтых слупоў. Яны ўласнасць дзяржавы.

— А я што — не дзяржаўная? — закрычала старая.— Мне не трэба жыць?

— Я так не казаў. Сельсавет дапамагае... Зрэшты, я скажу майстру...— бубніў Хведар, і было ў яго жаданне выскачыць з хаты, каб скончыць гэту размову.

— Пеўня еў? — прыціснула Розума бабка да сцяны.— Думаеш, мне ты такая лялька, што я буду дарэмна смажыць пеўня?

— Слупы дзяржаўныя, а не мае,— цвёрда сказаў Хведар. Шапку — на галаву, на хаду схапіў з цвіка ватоўку і шыбануў у цемру.

## 4

У клубе грымела музыка. Моладзі была паўнюткая зала. Трацяк і Казакевіч танцавалі ў цэнтры круга. На Якаве былі яго блакітныя, з лямпачкамі штаны. Іван скакаў у кірзавых запэцканых гразёю ботах. У кутку сядзеў Макарчук з дзяўчынай з доўгімі льнянымі валасамі і, трымаючы яе за руку, штосьці гаварыў на вуха. Яна смяялася, і валасы падалі ёй на вочы. Макарчук адкідваў іх ёй назад.

Хведар прайшоў да крэслаў, сеў на апошняе за дзедам у кажуху, які смачна спаў. Падбег Якаў.

— Выходзь. Пакажам, на што здольныя мантажнікі.

— Не...

— Чаго ты такі кіслы, быццам не вячэраў?

— Ідзі ты! — Хведар злосна бліснуў вачыма, і Якаў, махнуўшы рукою, пабег да Трацяка.

— І чаму вы не танцуеце? — пачуў Хведар. Ён падняў галаву. Каля яго стаяла прадаўшчыца Таццяна.— Я чакаю, чакаю. Няўжо схлусіў...

— Я нічога не абяцаў.— Хведар краем вока зірнуў на прадаўшчыцу. На ёй чырвоная сукенка з карункамі, вусны падфарбаваныя. Чорныя валасы прыбраны ў вузельчык. Хведар адчуў, як цесны стаў каўнер кашулі. Хоча ён сказаць ёй што-небудзь благое і нават брыдкае, а нібы мову адняло. У галаве ліхаманкавыя думкі: «Хлопцы ўбачаць. Жартаў пасля будзе мех».

— Запрашаю цябе на танец,— сказала Таццяна і працягнула яму руку.

— Я не ўмею,— паскроб патыліцу Хведар.— Дый, можа...

— Тут і ўмець не трэба.— Таццяна пайшла наперадзе, а ён за ёй.

«Якая нахабная дзеўка,— думаў Хведар.— Нібы смала». Толькі прыемна яму было, што з ім танцуе прыгожая дзяўчына. Яна была адзета лепш за іншых. Мясцовыя хлопцы штосьці крычалі Таццяне. Яна адказвала ім. Толькі Хведар не чуў — што. Ён быў нібы ў тумане ад гучнай музыкі, тупату і гарачыні. Якаў падміргнуў яму, зарагатаў шматзначна і павёў па крузе сваю дзяўчыну.

— Хопіць,— сказаў Хведар.— Я пайшоў.

— Я таксама іду. Зараз лепш на свежым паветры. Дапамажы мне апрануцца.

Таццяна накінула на сябе кажушок, чорныя валасы пакрыла вялікаю, нібы коўдра, хусткаю.

Месяц ужо схаваўся, і было цёмна, як у калядныя ночы, толькі не хапала зорак.

— Ай, падаю! — ускрыкнула Таццяна і ўхапілася за Хведара.— Ты ж трошкі трымай мяне, а то яшчэ нагу паламаю. Будзеш адказваць. Такі вялізны боўдзіла, а мяне, маленькую птушку, не можа абараніць.

— Ад чаго бараніць?

— Ад ямін. Ха-ха-ха,— смяялася Таццяна.— Хведар, чым гэта ў цябе галава забіта?

— Чаго шпількі падпускаеш? — сказаў Хведар.— Цёмна ж — чорт нагу зломіць.

— Дык колькі ж табе гадоў?

— Хутка дзевятнаццаць.

— Ха-ха-ха! — зноў зарагатала на ўсю вуліцу Таццяна.— Во дурніца. Я ж думала: табе, можа, дваццаць пяць. Старая я для цябе.

— А табе колькі?

— Мне дваццаць тры гады.

— Маладая яшчэ,— сказаў Хведар.

— Гэта маладая па арыфметыцы,— у голасе быў такі сум, што Хведару стала яе шкада.

— Ты прыгожая і, відаць, добрая,— сказаў ён.

— Табе я спадабалася? — Таццяна прыўзнялася на пальчыках, паспрабавала зазірнуць Хведару ў вочы.

— Не ведаю...

— Эх ты...— яна адштурхнула яго ад сябе.— Я цябе з першага дня, калі зайшоў у краму, прыкмеціла. Дужы ты... Жанчын заўсёды прываблівае ў мужчынах сіла. У цябе яе шмат... Смутак нейкі ў мяне на душы...

— Каб ногі ледзьве валачыла, то і смутку не было б,— сказаў Хведар і падумаў, што на яго рабоце не надта засмуткуеш.

— Пры чым гэта? Што — у магазіне не работа? Горшая, чым твая? Не, міленькі, тут трэба, каб была светлая галава. Жыццё ў нашай вёсцы нецікавае... Паехаць кудынебудзь. Можа, на Поўнач або па Поўдзень.

— А грошы?

— Гэта не праблема. Тут я жыву,— Таццяна паказала на хату, якая стаяла праз дзве хаты ад кватэры Богдана.— Паглядзіш мае пакоі?

— Позна ўжо. Спяць, напэўна, твае?

— У мяне нікога няма. Маці памерла, калі я была ў

горадзе, а бацька ажаніўся і перайшоў да свае жонкі. Так што я ўладарка гэтага маёнтка.

Яна пашукала ў кішэні ключ і развяла рукамі:

— Згубіла. Што цяпер рабіць?

— Прабой вырвем,— прапанаваў Хведар.

— Не, дзверы паламаем. Хто мне адрамантуе?

— Дык не будзеш жа ты начаваць на вуліцы?

— Навошта? — засмяялася Таццяна.— Падыдзі сюды. Націсні ўверсе.

Хведар зрабіў, як яна прасіла. Праз акно яны ўлезлі ў сенцы.

— Цёмна, нагу зломіш,— сказаў Хведар.— Уключы святло.

— Навошта яно? І так убачым усё, што трэба. Памажы кажух скінуць,— Таццяна прыціснулася да Хведара. Ён адышоў убок.

— Адзень яе, раздзень. Пані знайшлася.

— Нявыхаваны ты чалавек, Хведар. Нічога, я навучу цябе этыкету.

Яны селі на ложак, які стаяў каля акна. Вочы прывыклі да цемры, і Хведар убачыў тэлевізар, шафу з кнігамі, скрынку пад сталом. Было ціха, і ён чуў, як дыхае Таццяна, роўна і спакойна, нібы трэніраваны бягун. Яму здалося, што ў акно пастукалі. Ціхі быў стук, быццам шорганне па шыбе. Ён прыслухаўся. Зноў пачуўся стук. Хведар наблізіў твар да акна, але на двары нічога не ўбачыў.

— Нібы стукаюць? — сказаў ён.

— Табе здалося,— прашаптала Таццяна.— А магчыма, п'яніца які прыйшоў па гарэлку.

— Магазін закрыты ж,— здзівіўся Хведар.

— Я часам у хату бяру пару пляшак, дык і бягуць, як пчолы на мёд.

— Напэўна, нельга дома гандляваць,— спытаў Хведар.

— Шмат чаго нельга, але робяць. Якія ў цябе валасы жорсткія...— яна палажыла яму руку на галаву, села бліжэй. Хведар ніколі яшчэ не быў так блізка з жанчынай. Таццяна хвалявала яго і палохала.

— Месца мала табе,— сіпла сказаў ён.

— Дурненькі...— Яна паспрабавала яго пацалаваць, але ён, нібы звар'яцелы, кінуўся ад яе. Таццяна ціха смяялася.

— Здатны кавалер... Жанчына сама абдымае яго, а ён уцякае.

— Гэта небяспечна...— Хведара чамусьці ахапілі дрыжыкі, і яму было то горача, то холадна.

— Дзіцянё! — Таццяна ўскочыла з ложка, захадзіла па пакоі.— Ведаў бы ты, як цяжка мне жыць. Часам лягу спаць і да раніцы не заплюшчу вочы. Усё думаю, думаю, чаму я такая нешчаслівая.

— Таццяна, мы з табою ўпершыню размаўляем. Чаму ты пра ўсё гэта мне гаворыш?

— Часам лепш незнаёмаму пра ўсё расказаць, і ён стане бліжэй за сваяка. Каб ты ведаў, пасля школы я паехала ў горад да цёткі... Яна працавала там у магазіне. Гандлявала гуркамі, памідорамі, цыбуляй. У тэхнікум я не прайшла па конкурсе, пачала памагаць цётцы. У мяне кожны дзень былі свае грошы, цётка давала пяць-дзесяць рублёў. Недаважыць другому-трэцяму пяцьдзесят грамаў гародніны або іншага, а ў канцы дня кругленькая сума. Хутка цётка мне прывяла жаніха. Ён працаваў на базе. Мы пажаніліся. Так, не здзіўляйся, я была замужам.

— Я не здзіўляюся,— сказаў Хведар і ўспомніў, як старэйшы яго брат жаніўся на разведзёнцы — было шуму дома.

— Праз год цётку маю, Антаніну Васільеўну, і мужа пасадзілі ў турму... Перажывала спачатку, а потым людзі добрыя параілі: афарміла развод і стала зноў вольнай птушкай.

— Муж твой... што, у турме? — асцярожна спытаў Хведар.

— Выйшаў ужо. Увосень прыязджаў па свой пярсцёнак... Быццам жыла ў горадзе, штосьці бачыла, а калі падумаць, дык нічога не бачыла і як чалавек не жыла.— Таццяна заплакала. Хведар пачаў супакойваць яе, даў ёй сваю насоўку выцерці вочы. Доўга плакала. Магчыма, сапраўды шкада было ёй сваіх дваццаці трох год і што яна, прыгожая і разумная жанчына, вякуе ў гэтай вёсцы, нібы гарбаценькая Тэкля.

— Не пакідай мяне. Хочаш, на канапе пасцялю, а я на ложку лягу. Слухай, Хведар, у мяне гарэлка ёсць. Давай па чарачцы вып'ем за тое, што зайшоў да мяне, паслухаў мае бабскія слёзы. Не хочаш? І правільна, не трэба.

Таццяна ўмомант сабрала стол. Тут былі вэнджаная каўбаса, шпроты, чырвоная рыба, і нават, войкнуўшы, успомніла Таццяна пра чорную ікру, якую ёй па вялікаму знаёмству даў загадчык базы райспажыўсаюза.

Тое-сёе пакаштаваў Хведар. Трошкі яшчэ пасядзеў і сабраўся дамоў.

— Ну, я пайшоў,— сказаў ён.— Гаспадыня будзе злавацца, што позна вяртаемся.

— Перажыве твая старая. Абдымі мяне... Не хочаш... Абяцай, што заўтра прыйдзеш.

— Не ведаю.

Яна падышла да яго, абхапіла рукамі за шыю і моцна пацалавала ў вусны.

— Ідзі...

Нібы аслеплены, выйшаў Хведар з хаты. Агнём палалі вусны, рукі пахлі Таццянай. «Можа, вярнуцца да яе?» — падумаў Хведар і прыцішыў хаду.

— Здароў, сябра,— пачуў ён побач нейчы голас.

На лавачцы сядзеў чалавек і курыў.

— Здароў,— механічна сказаў Хведар, заняты сваімі думкамі.

Незнаёмец патушыў цыгарэту, наблізіўся да яго. Раптоўнае святло ўдарыла Хведару ў вочы.

— Ты што, рабіць няма чаго?

— Дай пагляджу на тваю морду, каб ведаць, чаму Таццяна да цябе прыхілілася. Цяпер запомні мяне.

Хведар у промнях ліхтара ўбачыў хударлявы твар, у роце блішчэлі залатыя зубы.

— Каб я цябе больш не бачыў каля гэтай хаты,— сказаў мужчына.

— Бач ты! — узлаваўся Хведар.— Не пагражай, не спалохаўся.

— Я не палохаю,— сказаў мужчына.— Толькі папярэджваю. Я кахаю Таццяну і не хачу, каб розная сволата сноўдала тут.

— Гэта хто сволата? — ужо кіпеў маладой злосцю Хведар.

— Будзь здароў,— незнаёмец павярнуўся і борзда папыбаваў у цемру. Праз якую хвіліну зноў было ціха, і ніводзін гук не парушаў гэту цішыню. Была глыбокая ноч, і вёска спала. Магчыма, толькі ў той хаце за цёмнымі вокнамі адна сядзела Таццяна і плакала над сваёй бабскай доляй. У Хведара пасля сутычкі з яе невядомым кавалерам прасвятлела галава, і, ідучы на кватэру, ён меркаваў, як жыць далей.

## 5

Роўна ў дзевяць гадзін раніцы Богдан прыйшоў на лінію. Лоб і правая шчака былі ў яго абадраныя, пад вокам — сіняк. Незвычайны быў брыгадзір у «фабзайцаў», як іх ужо называлі ў вёсцы, калі даведаліся, што яны навучэнцы прафесійнага вучылішча. Спыніў позірк на Хведару, цяжка ўспамінаў, нарэшце сказаў:

— Гэта ты мяне да кватэры давёў?

Хведар прамаўчаў. Богдан забраў у майстра праект лініі, пачытаў яго і даў заданне кожнаму хлопцу. Гэта заняло лічаныя хвіліны, і ўсе ўбачылі, што брыгадзір справу ведае і ўмее працаваць. Слупы для пяці кіламетраў лініі падрыхтавалі, затрымка была з-за спецыяльнай машыны, якая павінна капаць, свідраваць ямы. Богдан пазваніў па тэлефоне з пошты, і яму сказалі, быццам машына сапсавалася і невядома, калі яе адрамантуюць, бо вадзіцель Сяргей Кайсукоў захварэў і ляжыць другі месяц у бальніцы. Майстар згадзіўся з прапановай брыгадзіра, што трэба ўручную капаць ямы і ставіць слупы. Пакуль іншага выйсця не было.

— Усюды навукова-тэхнічная рэвалюцыя, а тут рыдлёўка і бусак,— сказаў Крыц.— Нас вучылі ўзводзіць лініі электраперадач машынамі. Так, Іван Аляксандравіч?

Майстар хацеў растлумачыць, што машыны можа не быць месяц.

— Што табе скажуць, тое і рабіць будзеш,— сказаў Богдан.— На табе бочкі з вадой вазіць можна. «Навукова-тэхнічная рэвалюцыя...» — перадражніў ён Крыца.

— Гэта яшчэ пабачым! — Крыц павярнуўся да хлопцаў.— Прыслалі нам дурня. Што мы, без яго не пабудуем лінію?

— Спакойна, Васіль,— сказаў Іван Аляксандравіч.— Не лезь раней бацькі ў пекла. Начальства ведае, што робіць.

— Якое там начальства, Ліхаў рашыў, ды і ўсё.— Якаў Казакевіч памятаў учарашнюю сустрэчу з Богданам.

...Іх участак быў на камяністым узгорку, ды яшчэ замёрзлая зямля, і Хведар лічыў, што ім не пашанцавала. Але некаму трэба і на гэтым месцы працаваць.

Дзёўб ён зямлю ломам, і патроху рос вакол узгорак. Тонкія брызентавыя рукавіцы не ратавалі ад настылага жалеза. Але праз трыццаць-сорак сантыметраў зямля памякчэла — справа пайшла лягчэй.

Калі гаварыў Васіль Крыц пра навукова-тэхнічную рэвалюцыю, Хведар думаў пра тое ж самае. Толькі меў рацыю і Іван Аляксандравіч: фронт вялікі, а часу небагата. Ён працаваў з натхненнем, быццам канспектаваў найцікавейшую лекцыю выкладчыка Апалінара Канстанцінавіча па мянушцы Фантамас.

— Што з ім? — спытаў Хведар. Здаецца, у час абеду Казакевіч быў здаровы, не скардзіўся ні на што. Хведар абышоў узгорак і здзівіўся, што не было Якава. Як і да абеду, яма была выкапана на адну рыдлёўку. «Што такое? — падумаў Хведар.— Можа, захварэў хлопец?»

Побач быў густы сасняк. Хтосьці як бы гаманіў у ім. Хведар прыслухаўся і пазнаў голас Якава.

За шырокім ядлоўцам на стажку сена сядзелі Якаў і Крыц. Гулялі ў карты.

Хведар моўчкі забраў карты і палажыў сабе ў кішэню.

— Т-ты ч-чаго? — вытарашчыў вочы Якаў.— Не твае.

— Хто за вас норму выконваць будзе?

— Казакевіч! Давай яму рэбры паламаем, як ён мне каліСь,— падняўся з сена Крыц.— Глядзі, заробіш... Начальнік мне сыскаўся.

Было ўжо цёмна, калі яны пайшлі з лініі, і Якаў усё прасіў Хведара:

— Прабач мне. Ну, прабач...

Толькі Хведар маўчаў. Майстар сказаў, што іх звяно будзе ўдарным, дык адкуль яму такім быць, калі Казакевіч можа толькі ў блакітных штанах з лямпачкамі фарсіць.

— Дарэчы, Якаў, дзе вы ўзялі карты? — спытаў Хведар.

— Пад канапаю. Хто іх туды паклаў?..— сказаў Казакевіч.

— Табе б толькі сышчыкам быць,— сумна ўсміхнуўся Хведар.— Здаецца, схаваў добра.

— Пойдзеш у клуб? — Якаў ужо быў вясёлы, упэўнены, што недарэчная размова пра норму і яму пад слуп закончана.

У сенцах Хведара затрымала гаспадыня. Спытала так, нібы ўжо ўсё вырашана:

— Дык заўтра, можа, слупы прывязеш?

— Я пра вас гаварыў майстру — штосьці прыдумаем, пачакайце.

— Ну, добра...

— Ёсць некалькі слоў,— сказаў Хведар, калі павячэралі.— Ты, Якаў, у клуб быццам?

— Калі трэба...

— Ты не спяшаешся, Іван?

— Пасля лома і рыдлёўкі нікуды не хачу, толькі — на ложак.

— Ведаеце, што мы ўтрох і Макарчук,— пачаў Хведар,— складаем звяно. Майстар даручыў кіраваць ім мне. Нам трэба паказаць, што мы здольны на многае, што мы лепшыя, чым той жа Богдан, на якога ты, Якаў, пакрыўдзіўся.

— Хведар, але ж мы практыканты, а не рабочыя.— Якаў сеў на канапе па-турэцку і закурыў.— Чаму я павінен жылы з сябе выцягваць?

— І ты так думаеш? — спытаў Хведар у Трацяка.

Той чытаў кніжку і быццам яго не чуў. Хведар паклаў на кніжку руку, закрыў старонку.

— Чаго ты хочаш? — сказаў Трацяк.— Што мне кажуць, я раблю. Астатняе... Ты кіраўнік, ты і думай.

— Якаў Казакевіч наш сябар і паплечнік і павінен выконваць норму, каб на яго не паказвалі пальцам,— стрымліваючы сябе, сказаў Хведар.

Трацяк акуратна загарнуў кніжку, падняўся і раптам схапіў Якава за каўнер:

— Я за яго рабіць не буду. У мяне і сваіх мазалёў досыць,— і ён паказаў далоні, перавязаныя бінтам.— Як ты казаў, Яша? Брат-то брат, але каўбаса за грошы...

У нядзелю ўзышло на небе мардастае сонца, і да вечара снег паплыў шматлікімі ручаямі. Мар'я Піліпаўна ўспомніла, што такая вясна была ў трыццаць чацвёртым годзе, і ўрачыста сказала:

— Усё, хлопчыкі. Карова не хоча ісці ў хлеў: будзе цёпла.

Цёпла было тры дні. Сонца і вецер падсушылі зямлю. На чацвёрты дзень пайшоў зацяглы дождж і заліў вадой выкапаныя ямы, у якія не паспелі паставіць слупы. Рачулка, што рэзала вёску на дзве часткі, успухла і парвала ў некалькіх месцах асфальт. З райцэнтра выклікалі экскаватар і дамбай замацавалі дарогу. Брыгада не працавала на лініі — разам з вяскоўцамі хлопцы спынялі ваду. Пад канец работы з экскаватара зляцела гусеніца, у якой трэснуў адзін трак. Адразу падышлі цікаўныя і дарадчыкі. Крыц жартаваў з маладога экскаватаршчыка, што той слабы, не ўмее трымаць у руках кувалды.

— Дык паспрабуй сам,— сказаў экскаватаршчык.

Трэба было выбіць палец з гусеніцы, і Крыц з усяго

маху ўдарыў па ім. Удар быў моцны, і кувалда трошкі захапіла самую гусеніцу. Ад яе адляцеў маленькі кавалачак і рыкашэтнуў проста ў вока Крыцу. Ад дзікага болю хлопец зароў, схапіўся абедзвюма рукамі за галаву і ўпаў каленямі ў гразь.

Мікола Макарчук затрымаў легкавую машыну, якая ішла ў горад. Гаспадар яе спачатку не хацеў слухаць пра спадарожнікаў, але, убачыўшы Крыца, адчыніў дзверцы. У машыну селі Іван Аляксандравіч, Хведар і Мікола Макарчук. Крыц ужо не стагнаў. Нахіліўшыся да бакавога шкла, ён па-ранейшаму трымаўся рукой за вока.

Толькі пачалася практыка — і вось табе, такая непрыемнасць. Аб здарэнні трэба паведаміць у вучылішча, упраўленне. Пачнецца вэрхал, якога і ворагу не пажадаеш. «Тваё шчасце, Іван, калі вока застанецца ў хлопца,— падумаў майстар,— інакш пішы заяву».

Марудна, вельмі марудна ехалі «Жыгулі», а патыліца гаспадара была спакойная і нават урачыстая. Знікалі ззаду слупы, дрэвы, дамы, а горада ўсё не было.

— Хутчэй бы...— сказаў Макарчук і павярнуў галаву да майстра.

— Я больш ста кіламетраў у гадзіну ехаць не магу,— сказаў вадзіцель.— Дзе гэта яго так?

Але ніхто не адказаў на пытанне. Кожны палічыў яго недарэчным. Хведар думаў, што калі б працавалі на лініі, то нічога з Васілём не было б, або, калі б ён не гультаяваў, а рабіў тое, што сказалі, то таксама абышлося б. «Півам гандляваць,— успомніў Розум.— Цяпер ты, напэўна, гэтым будзеш займацца».

У гарадской бальніцы ўрач, немалады чалавек з вясёлым грузінскім тварам, якога санітарка назвала Георгіем Мірабавічам, паглядзеў хворага, цмокнуў і загадаў пераапранаць Васіля ў бальнічнае адзенне.

— А можа, не трэба? — дрыготкім голасам сказаў Крыц.

— Давай, давай... Хто вы? — спытаў ён, калі Васіль пайшоў з санітаркай з прыёмнага пакоя.

— Таварышы,— сказаў Макарчук і паглядзеў на майстра.

— Ён навучэнец вучылішча,— дадаў Іван Аляксандравіч,— а я — майстар... Што з вокам, доктар?

— Пакуль нічога сказаць не магу,— развёў рукамі ўрач.— Прыходзьце пазней.

З бальніцы яны зайшлі ва ўпраўленне. Майстар выра-

шыў пра здарэнне адразу паведаміць кіраўніцтву. Начальнік, Кардаш, быў на месцы. Чорныя бровы прыўзняліся, вялікая паголеная галава была нерухомай. Вочы глядзелі бясстрасна, нібы не чалавек стаяў перад ім, а сцяна. Але вось загарэўся ў вачах агеньчык цікаўнасці.

Кардаш запрасіў сесці ў шырокае ўтульнае крэсла.

— Памятаю вас. Збіраўся на тым тыдні ў госці.

— У нас здарэнне,— сказаў Іван Аляксандравіч і адвёў позірк ад гэтага змрочнага чалавека.

— Што такое? — Кардаш падняўся з-за стала і сеў насупраць майстра.— Расказвайце!

Калі Іван Аляксандравіч скончыў, ён паціснуў плячыма.

— Гэта здарэнне ўпраўлення не датычыць. Яно адбылося не на працы. Тут парушэнне тэхнікі бяспекі і недысцыплінаванасць вашага навучэнца. Хай гэтым займаецца ваша непасрэднае начальства... Ну, ну, не трэба злавацца,— спыніў ён майстра.— Вядома, мы ўсё зробім. Я сам пазваню ў вучылішча, пагавару з дырэктарам, каб на вас моцна не сварыўся. Хутка дапаможам людзьмі, і вам стане лягчэй, але пакуль — прабачце!

...З вучылішча атрымалі тэлеграму, што выязджае камісія. Іван Аляксандравіч павінен быў яе сустрэць і ўладкаваць з жыллём.

— Пішы прапала,— сказаў Богдан.— Паедзе ваш Іван Аляксандравіч дахаты, і буду я вам адзіны начальнік. Пакамандую тады! Вы ў мяне, салагі, не толькі лінію, але і электрастанцыю пабудуеце.

Хведар уважліва паглядзеў на яго. Каўнер кашулі ў Богдана быў амаль адарваны, на ватоўцы — адзін гузік.

— Папрасіў бы, Васіль, Тэклю, каб зашыла кашулю,— сказаў Хведар.

— Адзін раз Марку жаніць,— пажартаваў Якаў.

— Маўчы,— працадзіў скрозь зубы Богдан.— Яму пад слуп ты выкапаў?

— Яшчэ не, паспею,— Казакевіч дастаў цыгарэту і дэманстратыўна закурыў.

Богдан падышоў да яго, вырваў цыгарэту:

— Бягом у яму! Языком працуеш добра, а рыдлёўка цяжкая!

— Навошта так? — сказаў Хведар.— Злы ты нейкі, Богдан, як...

— Як хто? — закрычаў Богдан.— Я тут камандую ці хто...

6

Сярод пасажыраў, якія выйшлі гэтай раніцай з аўтобуса, што прыйшоў з горада, быў і Апалінар Канстанцінавіч, па мянушцы Фантамас. У камандзіроўку ён апрануў сваё старое скуранное паліто, у якім у маладыя гады паездзіў па Сібіры. І ішоў па вёсцы гэткім інтэлігентам, зубрам. Убачыўшы слупы, якія цягнуліся чарадой, нібы птушкі на ясным небе, перакапаную зямлю, шматлікія сляды будаўніцтва, Апалінар Канстанцінавіч адчуў, быццам скінуў з плячэй дваццаць або нават і трыццаць гадоў. Перад ім была родная стыхія. Ні ў каго не пытаючы, інтуітыўна ён выйшаў да склада матэрыялаў.

— Фантамас! — здзіўлена сказаў Макарчук.

— Ніякіх Фантамасаў,— Богдан даваў заданне звяну Хведара і быў злы пасля ўчарашняга.

— Ды вось ён,— прашаптаў Хведару на вуха Макарчук, і той азірнуўся.

У дзвярах склада стаяў, бліскаючы лысінай, Апалінар Канстанцінавіч.

— Не саромейцеся, Макарчук,— сказаў ён.— Я ведаю, што Фантамас д'ябал. Я дажыў да такіх гадоў, што мне ўсё роўна. Значыцца, майго любімага Крыца няма тут?

— Якія абставіны занеслі вас? — спытаў Іван Аляксандравіч.

— Я і ёсць камісія,— ганарліва сказаў Апалінар Канстанцінавіч.— Прыехаў расследаваць здарэнне і праверыць выхаваўчую работу ў калектыве практыкантаў. Звычайна, калі што адбываецца непрыемнае, мы гаворым, што кепская выхаваўчая работа. Гэту ісціну я спазнаў на старасці гадоў, калі пачаў займацца педагогікай. Раней мне не было калі: я будаваў, як і вы, электралініі, станцыі і падстанцыі.

Дапытліва, кожную дробязь праверыў Апалінар Канстанцінавіч. Напісаў доўгую тлумачальную запіску на імя дырэктара вучылішча. Размаўляў з хлопцамі і з Богданам. І брыгадзіру ён раптам спадабаўся. Хведар упершыню бачыў, як гэты злы чалавек усміхнуўся і нешта тлумачыў Фантамасу, маляваў цвіком на пяску нейкі чарцёж. Хацелася падысці да іх, паслухаць гутарку, разважанні Апалінара Канстанцінавіча, але Хведар не адважыўся.

Гаворку з майстрам і з Хведарам Апалінар Канстанцінавіч пакінуў на пасля. І сустрэліся яны толькі на на-

ступны дзень, калі ён ужо склаў рэчы ў тэчку і заставалася да аўтобуса паўтары ці дзве гадзіны. Папрасіў Фантамас Хведара правесці яго.

— Веды ў цябе ёсць,— задуменна гаварыў ён.— Напэўна, на ўзроўні тэхнікума. Вопыту жыццёвага няшмат. Але нічога, гэта прыйдзе з часам. Я ўважліва слухаў усё, што ты мне расказаў, і прааналізаваў. Менш на дзесяць грамаў гарачыся і будзь больш цярплівы да сваіх таварышаў. Яны ж такія маладыя, мухі іх з часам пакінуць. Брыгада ў вас нішто і брыгадзір, мне здаецца, калі паглядзець глыбей... Можна з ім працаваць.

— Ён злы, як чорт,— сказаў Хведар.

— У кожным чалавеку суіснуюць па-суседству злосць і дабрата. Часам і ад такіх, як ты, залежыць, хто ў ім каго пераможа: злосць дабрату ці наадварот.

На прыпынку ў натоўпе Хведар убачыў майстра. Іван Аляксандравіч быў апрануты па-святочнаму.

— А вось і мы,— сказаў Апалінар Канстанцінавіч.— У нашага юнака здзіўленыя вочы? Растлумач яму, калі ласка, Іван Аляксандравіч.

— Я на некалькі дзён паеду ў вучылішча. Богдан ведае. Загадаў так дырэктар,— майстар быў трохі разгублены.

— Загад,— пацвердзіў Апалінар Канстанцінавіч.— Будзе пасяджэнне, сход і гэтак далей.

Не паспелі ад'ехаць майстар і Фантамас, як каля склада спыніўся «газік». Па постаці Хведар пазнаў начальніка ўчастка Ліхава, а другі, квадратны, ледзь не на паўмашыны, у доўгім паліто, быў незнаёмы. Калі падышоў да склада, пазнаў і яго. Гэта быў начальнік упраўлення Кардаш, які выступаў перад імі ў дзень прыезду.

— Дзе людзі? — спытаў у Хведара Ліхаў.

— На лініі. Ставяць слупы.

— А ты чаго лайдачыш тут? — крыкнуў Ліхаў. Начальнік участка зморшчыў лоб і расшпіліў паліто.

— Трэба ўзяць дроту,— сказаў Хведар.

— Сядай у машыну, з намі паедзеш, пакажаш, дзе працуе брыгада,— загадаў начальнік упраўлення.

Яны пад'ехалі да лініі ад лесу, неспадзеўкі выскачыўшы з-за хмызняку, які падыходзіў да самага поля.

Каля аднаго са слупоў ляжалі абы-як басакі, мантажныя рамяні, кіпці. Хлопцаў не было відаць, хоць толькі пачынаўся дзень.

Ліхаў бегаў, крычаў, а Хведар думаў, дзе хлопцы. Ка-

ля балота, на ўзгорку пад соснамі, ён знайшоў усю брыгаду. Толькі не было Богдана.

— Там начальнікі прыехалі,— сказаў ён.— Трэба працаваць, бо гармідар будзе.

— Ну і што? — ускіпеў Якаў Казакевіч.— У нас брыгадзір ёсць.

— Трэба ісці,— сказаў Трацяк.— Падумаюць яшчэ, што мы лайдакі... Богдан, напэўна, спіць. Тэкля казала, што быў моцна п'яны пасля ўчарашняга авансу.

...Богдан ляжаў на ложку з мокрым ручніком на галаве і крактаў.

— Чаго?

— Начальнік упраўлення і Ліхаў прыехалі. Цябе пытаюцца.

— Скажы — хутка буду... Што рабіць — ведаеце, вось і працуйце.

Выйшаў Хведар з хаты, і прыкра стала на душы. Трэба ж было так здарыцца, што і майстар паехаў. Падумаюць яшчэ, быццам парадку няма: брыгада не працуе, брыгадзір п'е. «Не мы выбіралі Богдана, а ўпраўленне накіравала. Хай яны і вырашаюць, як нам жыць і працаваць далей».

...Лінію на роўным і сухім месцы яны пабудавалі. Застаўся ўчастак, які ішоў праз балота і лес. Самы цяжкі кавалак. Апошнім часам нешта незразумелае рабілася з Якавам Казакевічам. Нібы падмянілі хлопца. Пасля работы нікуды не ішоў, як звычайна, а адразу клаўся на ложак.

У чужую душу не залезеш, але зразумеў Хведар, што ёсць таму нейкая прычына. «А навошта мне ўсё гэта? Што, мне больш за ўсіх трэба, як кажа Трацяк,— падумалася Хведару.— Я такі ж практыкант, як і Якаў, Макарчук, Крыц. Ну, слухаў уважліва Фантамаса, чытаў кніжкі... Ёсць майстар, які атрымлівае за гэта грошы. Ці што зменіцца на свеце, калі мы на дзень або на тыдзень пабудуем лінію пазней або калі я буду рабіць тое, што мне загадваюць, і не больш».

— Нічога! — крыкнуў ён.— Буду жыць як хачу.

Бабулька, якая ішла яму насустрач, перапалохалася, перабегла на другі бок вуліцы.

— Ні дня, ні ночы гэтым п'яніцам няма.

У магазіне шмат людзей стаяла за хлебам, але ўбачыла Хведара сваімі шэрымі вачыма прадаўшчыца і, папрасіўшы суседку паглядзець за касай, спыніла яго.

— Нешта не прыходзіш? — на вуснах крывая, хваравітая ўсмешка.

Пры сонечным яркім святле бачны маршчынкі каля вачэй, і Хведару зноў, як тады ноччу, стала шкада гэтай жанчыны.

— Як жыццё? — спытаў ён.

— Як у графіна. Кожны дзень не ведаеш, хто за горла возьме.

— Ужо так страшна...

— Страшна, страшна, мой міленькі. Сёння прыходзь,— шапнула яна, рукі ў кішэні белага халата і подбегам у краму.

Правільна, вечарам ён пойдзе ў госці да Таццяны і будзе там кожны дзень. Прыгожая жанчына, цёпла і ўтульна ў хаце. Хай жывуць, як хочуць, Трацяк з Якавам. «Маё жыццё — гэта маё, а не каго-небудзь іншага. Дый і жаніцца можна з Таццянай. Тое, што развядзёнка, бацькам не скажу, а ім галоўнае, каб мне было добра. Кіну вучылішча і...» Падняўся настрой у Хведара, у галаве словы прадаўшчыцы: «Сёння прыходзь, прыходзь».

Неба было яснае, стаяў ласкавы майскі дзень. Хведар скінуў боты. Прыемна было ісці басанож па яшчэ халаднаватай зямлі. Над балотам спяваў жаўранак, крычалі кнігаўкі, і Хведару здалося, нібы ён у роднай вёсцы і вось там, за лазовым кустом, зараз будзе Ясельда. Спакойна на душы, а што на лініі начальнікі, дык пачакаюць. І раптам успомніў Хведар словы Апалінара Канстанцінавіча, стомлены твар Івана Аляксандравіча, якія па-людску гаварылі, бачылі ў ім свайго таварыша, сябра. «Нешта хутка забыў усё добрае, што зрабілі табе гэтыя людзі». Сумна стала Хведару, нібы хтосьці падштурхнуў яго. Ён закінуў боты за плечы і пабег.

«Газік» стаяў пад дрэвам, капот быў падняты, і вадзіцель рамантаваў матор. Больш людзей побач не было. Толькі далей пад лес на слупах сядзелі хлопцы.

Начальнік упраўлення Кардаш, як звычайны мантажнік, у рабочай вопратцы, на бетонным высакавольтавым слупе ставіў абсталяванне.

— Эй, сябра! — крыкнуў ён і апусціў да ног Хведара дрот з прывязаным на канцы ізалятарам.— Бачыш, там, злева, запчасткі. Давай іх мне.

Хутка і спрытна працаваў начальнік. Зайздросна стала Хведару. Ніводнага непатрэбнага руху не зрабіў.

Сышоў на зямлю, зняў рэмень, кіпці, аддаў Хведару. Насоўкай выцер паголеную галаву, шыю. Тут ужо і Ліхаў скончыў работу. І адразу да Хведара:

— Знайшоў Богдана?

— Знайшоў.

— Дзе ён?

— Спіць, як заўсёды.

Узлаваны Ліхаў запырскаў слінай, замахаў рукамі, закрычаў, што ён не хацеў браць Богдана, але яго прымусілі зрабіць гэта. І як ва ўпраўленні не разумеюць: такому чалавеку нельга давяраць практыкантаў. Ці мала таго, што адзін з іх у бальніцы.

— Вернецца майстар — вырашым,— сказаў Кардаш.— Ты Розум?

— Я...

— Мне Іван Аляксандравіч пра цябе гаварыў, калі званіў наконт ад'езду. З Богданам пабачым, але... спяшацца вельмі, Ліхаў, не трэба.

— Добра.— Хведар не разумеў, куды вядзе гутарку начальнік упраўлення.

— Давайце, хлопчыкі, давайце. Вельмі патрэбна лінія. Пакліч усіх. Пагаварыць трэба з людзьмі, Ліхаў,— начальнік упраўлення дастаў пакуначак мятных цукерак. Прапанаваў Хведару: — Частуйся. Другі месяц смакчу, курыць кінуў.

— Не куру.

— Ну і правільна. Я дваццаць пяць гадоў курыў, сэрца забалела. Лепш цяпер адчуваю сябе.

Ліхаў сам сабраў хлопцаў. Падышоў зарослы чорнай шчацінай Трацяк, бліснуў голым каленам праз парваную на слупах калашыну Макарчук. У ватоўцы без рукавоў быў Якаў, і астатнія выглядалі не лепш.

— Здароў, анархісты. Ну і войска,— зарагатаў начальнік упраўлення.— Ліхаў, а ты казаў, што ў цябе слабыя кадры. Гэта ж героі. Паглядзі ўважліва на іх — стаханаўцы, бусыгінцы! Мы перад імі павінны на каленях стаяць! — і начальнік упраўлення пакланіўся. Хлопцы стаялі нібы зачараваныя, а Якаў аж рот адкрыў і за палец сябе ўкусіў, як дзіця малое. Ён не верыў сваім вачам.

— Я толькі папрашу ў вас дробязь,— голас начальніка ўпраўлення стаў тоненькі і ціхі, быццам хацеў сказаць патаемнае.— Зрабіце для мяне гэта.

— Што трэба, кажыце,— закрычаў заўсёды спакойны і вытрыманы Трацяк.

— Скіньце свае лахманы. Ліхаў, каб заўтра камбінезоны і ўсё іншае было тут. Пад тваю асабістую адказнасць. Запішы ў свой сшытак, а я раніцай праверу, як ты выконваеш мае загады.

— Запісаў.— Ліхаў думаў, дзе здабыць гэтыя камбінезоны, бо праз некалькі дзён пад'едуць яшчэ навучэнцы і ім абавязкова трэба даць спецвопратку. Аднак калі такім катэгарычным тонам начальнік упраўлення загадаў, значыць, рабі што хочаш, як хочаш, але загад павінен быць выкананы.

— Знайшоў ты Богдана? — абыякава спытаў Трацяк у Хведара.

— На кватэры быў. Адпачывае пасля ўчарашняга.

— Ты сказаў, што п'яны?..

— Сказаў...

— Не трэба было...

Навалілася стома, захацелася памыць рукі і твар, павячэраць і спаць, каб назаўтра з новымі сіламі будаваць гэту лінію, якая стала для іх выпрабаваннем і загартоўкай.

Яны былі мантажнікі, і за імі бегла дзятва, з зайздрасцю гледзячы на шырокія дзягі, кіпці. У дзяцінстве Хведар бачыў мантажнікаў, якія будавалі непадалёк ад ягонай вёскі электрастанцыю. Гэтыя вясёлыя хлопцы былі для яго доўгі час ідэалам. І зараз яму хацелася, каб у памяці малых засталася іх брыгада: Якаў Казакевіч, Мікола Макарчук, Трацяк, Крыц...

Ужо засынаючы, Хведар успомніў, што абяцаў Таццяне прыйсці да яе. Яна, напэўна, чакала яго.

## 7

Якаў панура збіраўся на работу. Нямілай яна была яму. У вучылішчы на практычных занятках ён мог узлезці на слуп на два-тры метры, як патрабаваў майстар. А ўжо вышэй яму рабілася блага. Праз сілу Якаў прымушаў сябе падымацца, але аднойчы надышоў момант, калі толькі ад думкі, што трэба ставіць у кіпці ногі і лезці ўгору, захацелася сесці ў аўтобус і паехаць з вёскі. Мусіць, так яно і ёсць: Казакевічам досыць і зямлі. Хай іншыя шукаюць тое, чаго не згубілі.

«Купім табе матацыкл або, калі захочаш, праз год-два «Жыгулі»,— гаварыў Якаву бацька.

«Хачу сам паспрабаваць жыццё, чым яно пахне».

«Кінь дурное. Ты, хлопец, не надта дужы, не для цябе гэта праца, дый што добрага — камандзіроўкі... Твой брат шые боты, чаравікі, і ён самы паважаны чалавек у горадзе, бо ўсім патрэбны абутак. А што ты са сваім дротам і слупамі?..»

Цяпер усё часцей успамінаў гэту размову Якаў. Сумна рабілася і калі бачыў сябе ў люстэрку: рыжы, у рабацінні, ростам — як той гурок. У клубе дзяўчаты і размаўляць не хочуць. Думаюць, нецікава з такім хлопцам, а пойдзеш з ім — сяброўкі засмяюць. Паскардзіўся Якаў на свае няўдачы з дзяўчатамі Трацяку. Хведару не гаварыў, бо той, на яго думку, быў далёка ў небе і размовы на такія тэмы не любіў.

Трацяк падаў на зямлю ад смеху і расшпільваў кашулю, быццам паветра для яго не хапала ад жартаў Якава.

— Хочаш, раскажу апавяданне Новікава-Прыбоя пра аднаго рыжага?

— Давай.

— Прачытаў я яго з тыдзень назад, у той кніжцы, што старая трымае пад бэлькай. Была, значыць, у матроса царскага флоту прыгажуня-жонка. Ці то месяц, ці то два, як пажаніліся яны. Афіцэры, чыноўнікі пад яе кліны падбівалі, а яна хоць бы на каго позірк паклала. Такая верная жонка была. І вось пайшоў у далёкі паход матрос на караблі. А ў гэтым горадзе жыў хітры, як ты, Якаў, прыказчык і рыжы, як ты. Мажа, больш трохі, а мажа, менш. Не магу сказаць дакладна.

— Карацей гавары...

— Дык вось, брат Якаў. Убачыў яе гэты рыжы прыказчык, а быў ён у параўнанні з матросам — што зямля і неба, і вырашыў зрабіць усё, каб пакахала яго прыгажуня. Улічыў ён, як кажуць, усе нюансы жаночай душы. У першы дзень жанчына не захацела нават размаўляць з ім і панесла ваду ад студні сама. На другі дзень было тое ж. На трэці — адказала на прывітанне. Дарэчы, перад гэтым прыказчык пайшоў у заклад з мясцовымі кавалерамі, што за тыдзень вырашыць усе пытанні. Дык вось, на чацвёрты дзень яна дазволіла яму прайсці з ёю да веснічак. На пяты ён паднёс вядро да дзвярэй хаты. На шосты быў у хаце, і гэтак далей. Карацей, у самым шчыльным плоце ёсць адна маленькая дзірачка. Зразумеў, Казакевіч?

Усё было так, ды трошкі не гэтак... Тое, што Якаў напалоханы вышынёй, Богдан адразу адчуў. Розных бачыў

брыгадзір мантажнікаў, сярод іх былі і такія, што баяліся падымацца ўгору, але лезлі і паступова перамагалі страх, а каторыя не вытрымвалі і звальняліся з упраўлення. Нікому не сказаў пра сваё адкрыццё, але са звяна Хведара забраў Якава, хоць Хведар і даказваў, што прывык працаваць з Казакевічам. Трэба і на складзе людзі, сказаў, перажывеш.

...Рэгуляваў Якаў высакавольтавы размеркавальнік. Лекцыі Фантамаса на занятках не слухаў, а больш з Крыцам у марскі бой гуляў. Прачытаў інструкцыю, разбіў скрынку, у якой было абсталяванне. Далей справа не пайшла. Прысеў на скрутак дроту, аслабеў ад цёплых сонечных промняў і задрамаў. Здаецца, хвілінка прайшла, а мінула гадзіна. Прачнуўся Якаў ад моцнага штуршка ў спіну. Ледзь не ўпаў тварам на размеркавальнік. Расплюшчыў вочы, а перад ім Богдан, усміхаецца.

— Спіш?

— Ды не. Прысеў трошкі...

— Трошкі. Бачу я... Дзень сядзіш, а размеркавальнік як стаяў неналаджаны, так і стаіць. Чаму вас у гэтым вучылішчы вучаць?

Шкадаваў брыгадзір, што не звольніўся з упраўлення, калі здарылася аварыя на трэцім участку і абвінавацілі яго, а не Русака, які п'яны палез да маслянага выключальніка. Ледзь не пасадзілі Богдана, усё было супраць, толькі начальніку ўпраўлення ён абавязаны тым, што не за кратамі. З Кардашам яны некалі разам працавалі. Адзін успамін з усяго гэтага застаўся. Кардаш пайшоў вучыцца, начальнікам стаў. А ён хто? Ніхто. Чыя віна ў гэтым? Усе сябры, ды не тыя, за якіх трымацца трэба было. «Ты геній мантажу, давай за гэта вып'ем»,— і так чарка да чаркі. Пайшло-паехала. І нічога не засталося ад былога Васіля Богдана, калісь лепшага мантажніка ўпраўлення.

Выклікаў яго да сябе Кардаш. Размова была кароткай: «Апошні шанц табе, Богдан. Зразумеў? І то даю, бо ведаю цану тваім рукам і галаве...» Эх і... Клікалі старыя сябры на Поўнач, абяцалі выдатнае месца і цікавую працу, дзе будзе зноў у яго шосты разрад, а не трэці, нібы ў гэтых салаг. Значыць, недзе паважалі Богдана, а тут... дзятва, якая баіцца на слуп падняцца.

— Папрацуеш з такімі,— закончыў сваю думку брыгадзір.

— Што ты гаворыш? — не зразумеў Якаў.

— Не для тваёй галавы. Грошы ў цябе ёсць? — брыга-

дзір дастаў праект лініі, расклаў на скрынцы, пачаў нешта лічыць.

— Рубель-другі ёсць.

— Дай, вінцо Таццяна прывезла неблагое.

Якаў даў яму грошай, і Богдан, забыўшы пра праект, знік. З таго дня жыць Якаву стала цяжка. Калі не захацеў зноў «пазычыць» на вінцо брыгадзіру, той працадзіў скрозь зубы:

— Заўтра пойдзеш на лінію.

І Якаў «пазычаў». Вось чаму і здзіўляўся Хведар, бачачы яго ўвесь час у благім настроі. Толькі Трацяк прыкмеціў у паводзінах брыгадзіра і Казакевіча штосьці трывожнае. І запытаў пра гэта ў Хведара: можа, і той заўважыў? Але Розум яго пытання не зразумеў.

Зрэшты, у свядомасць Якава ўвайшла думка, што, мусіць, так і павінна быць сярод мантажнікаў. Той, хто адмаўляецца выконваць цяжкую работу, нейкім чынам кампенсуе гэта.

За сваю працу навучэнцы атрымлівалі трыццаць тры працэнты заработку. Былі яны аформлены па другім разрадзе, і каб не палявыя, то грошай хапіла б, каб разлічыцца з гаспадыняй і на цукеркі. Надышоў момант, і вельмі хутка, калі Якаў аддаў Богдану на віно апошні рубель.

— Ты не хворы? — прынёс Хведар конаўку густога чаю, заваранага малінай.— На, гарачы. Я ўжо выпіў. Здалося, нібы толькі што маці гэту гарбату, як кажуць у нашай вёсцы, заварыла.

— Здаровы я, Хведар. Не чапай мяне, я здаровы! — закрычаў Якаў.

Трацяк спадылба паглядзеў на яго, узяў конаўку і выпіў чай.

— Чытаю цікавую кніжку,— паглядзеў на Якава і Хведара цыганскімі вачыма,— вось думка тут ёсць. Гэта цябе ў першую чаргу, Казакевіч, датычыцца.

— Чаму мяне?

— Ты слухай, калі старэйшыя гавораць. Чалавек, слабы фізічна і хворы, можа на дзве, а то і тры галавы быць мацнейшы душою за асілка. Якая глыбокая думка!

— Ідзі ты са сваімі думкамі.

— Мне здаецца, Хведар, у нашай брыгадзе штосьці адбываецца,— Трацяк пакінуў жартаўлівы тон.— Вось і Якаву дзяўчаты спакойна не даюць спаць...

— Я табе як сябру, а ты...— крыкнуў Казакевіч, схапіў кашулю з канапы і бегма з пакоя.

— Навошта ты так? — Хведар адчыніў акно, але на двары Якава не было.— Пакрыўдзіў хлопца.

— А ты не заўважыў, што ён зашмат крыўдуе апошнім часам.

— Быццам здалося,— сказаў задуменна Хведар.— Трэба спытаць у яго.

— Так ужо ён табе і раскажа, трымай кішэню шырэй. Шкада, што майстра няма. Чаму ён затрымаўся? Ты ж з ім больш блізкі, можа, што казаў перад дарогай?

**8**

...Майстар трэці дзень чакаў пасяджэння, якое павінна было адбыцца ў вучылішчы. Як яму паведаміла па сакрэту сакратарка дырэктара, галоўнае пытанне пасяджэння — выхаваўчая работа на практыцы і здарэнне ў групе Івана Аляксандравіча. Навіна не вельмі парадавала яго, хоць ён і чакаў гэтага. Інакш не было, прынамсі, сэнсу пасылаць Апалінара Канстанцінавіча. Як ні кажы, а ўсё ж надзвычайны выпадак. За тры гады працы ў вучылішчы першы, але ад гэтага не лягчэй.

Засумаваў Іван Аляксандравіч без справы. Вучылішча апусцела, майстры са сваімі групамі хто дзе: ад Прыбалтыкі да Кольскага паўвострава. І неяк няўтульна стала ў інтэрнаце, дзе Іван Аляксандравіч займаў пакой. На трэці дзень свайго блукання па горадзе надзеў майстар старыя штаны, кашулю і падышоў да загадчыка гаспадаркі вучылішча Пятровіча, які з цесляром рамантаваў дзверы, шафы ў пакоях. Год жылі ў новым інтэрнаце навучэнцы, а быццам векавалі тут. На практычных занятках па апрацоўцы металу яны ўпотай ад майстроў рабілі з ліставога жалеза нажы, а вечарам практыкаваліся ў кіданні іх у дзверы шафаў. Строга каралі за гэтыя «практыкаванні», але ці ўсочыш за кожным. Хлопцы розныя прыходзілі ў вучылішча. Часам былі і такія, ад якіх адмовіліся ў сярэдняй школе, каторыя — знаходзіліся на ўліку ў міліцыі. І вось усім ім трэба было даць спецыяльнасць, а галоўнае — выхаваць людзьмі.

— У адпачынак рыхтуешся? — спытаў Пятровіч, хоць і працаваў у вучылішчы дзесяты год, а нават тэхнічцы было вядома, што майстры, чые групы былі на практыцы, у гэты час у адпачынак не ішлі, а ехалі разам са сваімі навучэнцамі. За гэтым пытаннем адчуў Іван Аляксандравіч, што загадчык гаспадаркі ведае пра адносіны дырэктара і

іншага начальства да здарэння. Пятровіч быў, як і майстар, адстаўнік. Служыў некалі ў артылерыі і пайшоў у цывільныя ў чыне капітана, чым вельмі ганарыўся і пры размове, асабліва з былым мічманам, неаднаразова падкрэсліваў. Аднак да Івана Аляксандравіча адносіўся з павагай і, калі той што-небудзь прасіў ці ў вучэбны клас (а спачатку давялося яму ўладкоўваць свой пакой), ці розную дробязь для хлопцаў, загадчык гаспадаркі не адмаўляў, даваў лепшае.

Улазіны на сваё новае месца жыхарства майстар зрабіў з Пятровічам, хоць і не было намеру святкаваць такую нязначную, на яго думку, падзею. Але вечарам пастукалі ў дзверы, і зайшоў загадчык гаспадаркі.

З паўгадзіны папрацаваў малатком Іван Аляксандравіч, старанна рамантуючы дзверы ў пакоі, дзе жылі яго навучэнцы, і яго паклікаў Пятровіч, які штосьці рабіў у другім канцы калідора.

Узяў майстар цыгарэту «Прыма», паціскаў яе і прыкурыў ад запалкі Пятровіча. Прыселі яны на крэслах, якія толькі што адрамантаваў загадчык. Увогуле не зусім так называлася яго пасада. Падпісваючы паперы, Пятровіч заўсёды ставіў больш гучную назву: намеснік дырэктара па гаспадарчай рабоце або і без апошніх двух слоў. І нават візітную картку надрукаваў у мясцовай друкарні, дзе чорным па белым стаяла — другі намеснік дырэктара і прозвішча. У Пятровіча было мноства сяброў, з дапамогай якіх ён мог вырашыць самае складанае пытанне.

— Нарада будзе заўтра ў другой палавіне дня, калі дырэктар Уласенка, завуч Лізавета Васільеўна і майстар сам. Быў вельмі злы на цябе, але я слова закінуў, дык быццам палагоднеў. Ці ж ты вінаваты, што гэты дурань параніў сабе вока? Як кажуць людзі, захоча свіння — лужыну знойдзе. Так і тут.

— Непрыемна ўсё гэта.

— Вядома. Як пачуў, дык адразу падумаў: добрым людзям не шанцуе. Былы мічман, свой хлопец, як яго не пашкадаваць. Моцна не перажывай. Я ўжо падлічыў, хто супраць цябе выступіць. Пра дырэктара не магу нічога сказаць. А вось нампаліт пакрытыкуе, і ўсё з аналізам, вывадамі, ды так, што жыць не захочаш, але пад канец пашкадуе. Фантамас — чалавек разумны, памяркоўны, баяцца не яго трэба. Ну і гэтак далей. Ты ўсіх ведаеш не горш за мяне. Параю толькі стрымліваць сябе, не быць

гарачым. Усё слухай, магчыма, згаджайся, бо, думаю, далей хочаш працаваць у гэтым вучылішчы?

— Хачу.

— Дык вось. Няхай пакрычаць. А мне галоўнае — табе таксама — работа. Я паважаю чалавека не за тое, што ён прыгожа гаворыць, а за тое, што прыгожа працуе. Сказаў — зраблю. Усё! Хоць у калодзеж скачы, але выканай. Нас так з табой вучылі ў арміі і на флоце: да канца выконваць свой абавязак. Мне з тыдзень назад дырэктар сказаў, што патрэбны тэрмарэгулятары для новай майстэрні. Адказаў: ёсць — і праз левае плячо — пайшоў шукаць. Туды-сюды. Што, думаеш, усё проста? Але знайшоў. Без работы мы хто: кузюркі і нават горш. Вось што. Загадала мне жонка, каб цябе ў госці запрасіў. Пакаштуеш калдуны. Жонка на гэта вялікі майстра!

— Дзякую, але няёмка...— засаромеўся Іван Аляксандравіч.

— Нічога. Паглядзіш, як жыву. Пасядзім, успомнім былую службу... Пішуць твае хлопцы з карабля?

— Пішуць,— сказаў Іван Аляксандравіч. Учора якраз атрымаў ён пісьмо ад камандзіра пасля паўгадавога перапынку. Паведаміў Пастухоў, што былі яны ў далёкім акіянскім паходзе і былы вучань майстра мічман Казакоў адзначаны камандуючым флоту за ўмелыя дзеянні, а ён ужо капітан не другога рангу, а першага. І калі ўсё ж ёсць жаданне вярнуцца, то хай напіша. На карабель яму нельга, бо не зусім здаровы, але трэба людзі і на беразе, у казармах, выхоўваць маладых матросаў.

— Я атрымліваў пісьмы ад аднаго сябра доўга, пакуль ён не памёр,— сказаў Пятровіч.

Ён нібы пастарэў на вачах, і стала добра відаць, што валасы падфарбаваны на скронях і што намесніку дырэктара ўжо пад шэсцьдзесят.

## 9

Сабраліся ў малой лекцыйнай зале. У прэзідыуме селі дырэктар вернецца з райкома партыі. Гэта мне ён сказаў Гурын.

На Лізавеце Васільеўне была блакітная сукенка, шыю ўпрыгожвалі пацеркі. Ад святла, якое падала з акна, твар жанчыны паружавеў, і можна было ёй даць трыццаць ці не больш трыццаці пяці гадоў.

Калі зала прыціхла і зачыніліся дзверы, Лізавета Васільеўна паднялася за сталом.

— Слова для прамовы мае Апалінар Канстанцінавіч,— сказала яна.— Па даручэнні партыйнага бюро ён пабываў на ўчастку, дзе працуюць навучэнцы.

— Паважаныя таварышы! — пачаў Апалінар Канстанцінавіч.— Мне даручылі вельмі адказную ролю, і як яе выканаў, убачыце. Я не мог, вядома, праехаць усе ўпраўленні, дзе працуюць нашы навучэнцы, але сям-там быў, сёе-тое заўважыў. Недахопы ёсць, і немалыя...

Іван Аляксандравіч слухаў яго ўважліва, але стары залез у філасофію, цытаваў Сухамлінскага і Ушынскага. І майстру стала сумна. Яму раптам здалося, нібы кола часу павярнула назад. І ён, маленькі худзенькі хлопчык, сядзіць амаль на такой нарадзе, і позіркі ўсіх накіраваны спачувальна на яго, «фабзайца» першага года навучання. Тады пасля вайны патрэбна было шмат рабочых рук, і па вёсках агітавалі моладзь ехаць у горад, у ФЗН. Іван умомант згадзіўся з сябрамі, толькі яго два дні трымала ў каморы маці, аж пакуль ён не ўцёк праз дзірку ў страсе.

Спачатку ўсё было цікава, і жыццё ішло няблага. Неспадзеўкі пад вечар спынілі яго два хлопцы ў такой жа, як і ў яго, фабзайскай вопратцы. У кішэні ляжала булка — ніяк не мог выбраць час, каб паласавацца. Хлопцы гэту булку забралі, а ён маўчаў, ад страху нават аслабелі ногі. Аднак нікому Іван не расказаў пра гэта. Праз тыдзень, калі ў яго было пяць рублёў, якія ён зарабіў з хлопцамі на чыгуначнай станцыі, зноў сустрэў сваіх ворагаў. Можа, Іван Аляксандравіч быў на службе такі бязлітасны да матросаў, якія крыўдзілі малодшых таварышаў, таму, што доўга не мог забыць тыя сустрэчы.

Ноччу ён марыў стаць асілкам, вырасці, чамусьці абавязкова пад два метры, тады не страшна было б на вуліцы нават ноччу. Употай пад коўдрай Іван плакаў і шкадаваў, што не паслухаў маці. Добра ў вёсцы, усе знаёмыя і родныя твары, калі і пусціш юшку Янку або Мішку, дык праз дзень усё і забылася.

Пасля заняткаў вясной Іван вырашыў збегчы з вучылішча ў вёску: падрыхтаваўся ўжо, але нейкім чынам даведаліся пра яго бяду, бо яшчэ некалькіх фабзайцаў тэрарызавалі тыя хлопцы. Тады абмяркоўвалі здарэнне на нарадзе — і зараз гавораць. І галоўная дзейная асоба — ён...

Ён не вырас пад два метры, хоць і стаў дужым мужчынам, а на душы было гэтак жа неспакойна, як і ў таго маленькага хлопчыка.

— Я лічу на сабе, што да навучэнца трэба шукаць розны падыход. Невялікі педагагічны вопыт і неблагая жыццёвая практыка адкрылі мне вочы на ісціну. Можа, каму і смешна, але мне сумна, што толькі зараз матэрыяльна гэта адчуў.— Апалінар Канстанцінавіч зняў акуляры, нетаропка насовачкай выцер іх.— Я быў у Івана Аляксандравіча ў групе. Дакладней, з ім чвэрць яе. Аднак якія вывады нарадзіліся ў маёй галаве? Майстар, былы марак, Іван Аляксандравіч там на месцы і робіць сваю справу... так, як і павінна быць. Навучэнец Крыц, з якім здарыўся гэты выпадак, і раней не выклікаў у мяне павагі...

Яны з Апалінарам Канстанцінавічам былі ў бальніцы і бачылі Крыца, які весела бліснуў на іх адным вокам з-пад бінтоў. Дзве гадзіны чакалі, каб убачыць урачагрузіна, і калі той, спяшаючыся ў хірургічную палату, між іншым, кінуў: «Нічога з ім не зробіцца», у Івана Аляксандравіча лягчэй стала на сэрцы. Наведаў ён і маці Крыца, супакоіў яе і нават пераначаваў у хаце, бо спазніўся на апошні аўтобус, які ішоў да горада.

— Бач, як усё добра,— зашаптаў на вуха Пятровіч.

Нешта трывожна на душы стала, калі ўспомніў пра групу. Яго супакойвала толькі, што ёсць Хведар Розум. Не мог падвесці гэты хлопец, дый мінула ўсяго тры дні. Вельмі кароткі тэрмін, каб штось здарылася, і дастаткова, бо там маладыя хлопцы, у якіх вецер у галаве.

— І ўсё-такі майстра трэба пакараць, каб гэта стала ўрокам для іншых,— сказала Лізавета Васільеўна.— Хто хоча сказаць?

— Можна мне? — папрасіў Іван Аляксандравіч, які не збіраўся выступаць.

У зале было горача, і ён расхінуў кашулю. Паставіў бліжэй да сябе шклянку з вадой.

— Мне цяжка, што гэты непрыемны выпадак быў з маім навучэнцам. Тры гады я працую тут і сёе-тое, як казаў Апалінар Канстанцінавіч, вывучыў. Раней я займаўся маладымі матросамі і думаў, што цяжка выхоўваць з іх сталых воінаў. Цяпер зразумеў, што памыліўся. Але такая наша праца, і я ганаруся ёй. Калі заслужыў пакаранне, на гэта воля начальства.

— Чаму займаліся не сваёй справай? — крыкнуў нехта з залы.

У Івана Аляксандравіча пацямнеў твар, і ён глуха сказаў:

— Напэўна, будзеце рабіць электраправодку ў хаце, нават калі тая будзе гарэць. Хлопцы дапамаглі мясцовым жыхарам перамагчы стыхію, і гэта, такая мая думка, самы лепшы ўрок выхавання.

— Скажыце, калі ласка, Іван Аляксандравіч,— дырэктар узмахнуў алоўкам.— Чаму пра здарэнне вы інфармавалі спачатку начальніка ўпраўлення, а не мяне?

— Да ўпраўлення бліжэй, чым да вучылішча,— зарыпеў крэслам Апалінар Канстанцінавіч.— У іх вёсцы няма пошты, дый, прынамсі, ці так гэта важна, каму першаму паведаміў аб здарэнні майстар.

— Тое, што адбылося ў яго групе, вядома, магло здарыцца ў кожнага,— узяў слова дырэктар.— Магло ў кожнага, але здарылася ў гэтага майстра. У далейшым мы зробім пэўныя вывады, каб папярэдзіць усякія надзвычайныя выпадкі.

І пэўны вывад Уласенка зрабіў. Калі скончылася нарада, на калідоры вісеў загад з вымовай Івану Аляксандравічу. За недахопы ў выхаваўчай рабоце — так было сфармулявана ў загадзе дырэктара.

— За сваё жыццё, малады чалавек, я атрымаў каля дваццаці вымоў,— скончыў чытаць загад Апалінар Канстанцінавіч,— але ад гэтага не стаў горш працаваць.

— Зайдзіце, Іван Аляксандравіч! — дырэктар прайшоў міма, апусціўшы вочы ў падлогу.

— Ідзі,— падштурхнуў яго Апалінар Канстанцінавіч.— Калі начальства кліча, спяшацца не трэба. але і спазняцца не варта.

Уласенка размаўляў па тэлефоне. Паклаў трубку адразу, як Іван Аляксандравіч спыніўся перад яго сталом.

— Як адчувае сябе Крыц?

— Вока было паранена, але не цяжка. Урач там добры, «адрамантаваў»...

— Давер у мяне да вас, Іван Аляксандравіч, поўны. Хачу, каб вы яго апраўдалі сваімі адносінамі да абавязкаў. Дарэчы, гаварыў у гарвыканкоме наконт кватэры. Паабяцаў намеснік старшыні да восені выдзеліць вам аднапакаёўку. Як навіна?

— Цудоўная.

— Лепшая, напэўна, за першую? — задаволена засмяяўся Уласенка.— Цяпер як мага хутчэй да навучэнцаў. Вам тут рабіць няма чаго.

...Іван Аляксандравіч купіў у магазіне чаю, дзве кашулі і кірзавыя боты. У пакоі паклаў у чамадан новы цельнік.

Толькі ў канцы калідора жаўцела лямпачка. Гулка разнесліся крокі. З пакоя Апалінара Канстанцінавіча прабівалася святло. Іван Аляксандравіч пастукаў. Павярнуўся ў замку ключ.

— Гэта вы. Заходзьце.

У Апалінара Канстанцінавіча была трохпакаёвая кватэра ў сталіцы. Там жылі жонка, дачка і сын. Ён ездзіў да іх два разы ў месяц з вялікім чамаданам бруднай бялізны. Жонка кожны раз сварылася з ім за гэта, дый хацела, каб пакінуў нарэшце вучылішча. Сваякі і знаёмыя не разумелі, як ён на старасці займаецца з нейкімі «фабзайцамі».

— Ты ж быў галоўным інжынерам упраўлення,— крычала ў роспачы жонка.— Падумаў бы пра аўтарытэт.

— Вось я і думаю пра яго,— спакойна адказваў Апалінар Канстанцінавіч і рабіў па-свойму.

Яго пакой быў абстаўлены вельмі сціпла: ложак, стол і два крэслы. Шафы былі зроблены ў сцяне, і ў іх ён трымаў свой касцюм, паліто.

— Развітацца зайшоў...— Іван Аляксандравіч не закрыў за сабой дзверы, стаяў на парозе.

— Прашу перад дарогай,— падсунуў яму крэсла Апалінар Канстанцінавіч.— Вось чытаю «Анну Карэніну». Трэці раз за сваё жыццё і нібы ўпершыню... Спадзяюся, што ў вёсцы ў вас знойдзецца час. Вазьміце кніжку. Толькі не пакіньце там. Хачу вам даць параду. Стаіць добрае надвор'е, пачніце сячы лес. Калі надыдзе канец практыкі, у хлопцаў у галаве будзе думка, як хутчэй дамоў. Тады цяжка будзе.— На шматку паперы Апалінар Канстанцінавіч штосьці намаляваў. Каб не пакрыўдзіць старога, майстар схаваў паперу ў кішэню.— Прывітанне Хведару Розуму. Галава ў яго разумная, і мяркую, што нешта някепскае атрымаецца з хлопца... Чаю шклянку не хочаце, Іван Аляксандравіч?

— Не, дзякую. Быў у сталоўцы.

— Прабачце мне, старому. Адкажыце на такое пытанне: вы адзін, без сям'і? І малады ж чалавек яшчэ. Не векаваць жа ў інтэрнаце.

— Такое ж пытанне і вам, Апалінар Канстанцінавіч.

— Я — іншая справа,— развесяліўся стары.— У сталіцы ў мяне і жонка, і дзеці, і кватэра.

— Чаму ж вы не з імі?

— Хачу вольным паветрам крыху падыхаць. Дый што

мне там рабіць? Сядзець з пенсіянерамі на лаўцы каля шаснаццаціпавярховага гмаху і забіваць «казла» або залезці ў кіёск і гандляваць газетамі, часопісамі. Не, гэта не для мяне.

— Значыць, мы з вамі ягады з адной паляны.

— Можа, і так...— у задуменні сказаў Апалінар Канстанцінавіч і пацiснуў руку майстру.— Шчаслівай дарогі, і калі што — пішыце мне. Я быстры на ногі.

Назаўтра каля дванаццаці гадзін раніцы ён прыедзе ў вёску. Часу наперадзе яшчэ шмат. Поезд, аўтобус, станцыі праляцяць міма вачэй і знікнуць. Як засталіся далёка ззаду сорак гадоў, пражытых ім на гэтай зямлі. У валасах з'явілася сівізна, і ўсё часцей стала сніцца дзяцінства: то ён з бацькам і маці ідзе на сенажаць, то з сябрамі, такімі ж малымі хлапчукамі, па скаванай лёдам Ясельдзе на саначках ад лесу вязе дровы...

## 10

...Слупы ўзнімалі над полем, балотам, лінію цягнулі да самага далягляду. Марудна, але ўсё больш упэўнена.

З вышыні, на якой працуюць мантажнікі, далёка відаць. Дый на тое, што блізка, глядзіш са слупа зусім паіншаму, чым з зямлі. Адчуваеш у сабе нейкую ўзнёсласць, нават велічнасць... Ты вышэй гэтых дрэў, кустоў, машын, што імчаць за ўзгоркам. У душы такое ж пачуццё, якое мог перажыць, калі ўпершыню пакахаў альбо зноў убачыў праз многа гадоў хату, у якой нарадзіўся. Рукі, ногі, усё цела напоўнена радасцю вышыні. Калі б раптам выраслі крылы, узмахнуў бы імі і паляцеў. Не дзіўна, што лётчыкі так любяць неба. Мусіць, хто хоць раз паспытаў цуд вышыні, той назаўжды запомніў шчымлівае пачуццё, якое ахапіла ад прастору...

Ногі ўжо прывыклі да кіпцяў і ідуць па слупе, нібы па сцежцы. Трымціць слуп пад чалавечым цяжарам, хістаецца направа і налева ў такт руху. Самы спрыт — бегма ўзняцца наверх, каб сябры зайздроснымі вачыма ацанілі гэта. Ты ні на каго не глядзіш, не заўважаеш. Бяжыш па слупе, не чуючы, што табе крычаць знізу. Вядома, так па інструкцыі нельга рабіць, гэта парушэнне тэхнікі бяспекі. Але калі ты малады і не ведаеш, куды падзець сваю сілу, рызыка здаецца асалодай. Наверсе замацаваў надзейна кіпці, прышпіліўся да слупа мантажным рэменем і апусціў рукі. Страху няма, і міжволі вырываецца: «Э-ге-гей!» Ад

крыку спалохана ўзнімаюцца з пакуль яшчэ адзінага праваду вераб'і, кружаць вакол, а потым апускаюцца назад на бліскучую пад сонцам металічную нітку. Птушкі прывыклі ўжо да лініі, ім, відаць, падабаецца тут адпачываць. Напяты між слупамі дрот для іх у чалавечым разуменні накшталт чарговага аэрадрома.

Лінія пачалася з невялічкага поля, на якім буяе жыта. Там выкапалі Хведар з Іванам Трацяком першую яму пад слуп. Правады ідуць над дарогай, якую і днём і ноччу шаруюць машыны. За вёскай лінія прыпыняе сваю хаду, узбіраецца на ўзгорак, робіць шырокі крок, і — толькі слуп відаць з-за ўзгорка.

Найбольш часу страцілі на балоце. Ямы капалі ўручную.

Балота цягнулася за лесам каля двух кіламетраў. І спярша думалі, што слупы паставяць за дзень-два. Большасць ям адразу выкапалі, умацавалі ад мыльцу лазою. Здагадаўся так зрабіць Мікола Макарчук, за што Богдан, на здзіўленне ўсіх, падзякаваў яму раніцай, перад пачаткам работы, моцна пацісnуўшы руку.

Праз дзень, як Іван Аляксандравіч з Фантамасам паехалі ў вучылішча, брыгада вырашыла паставіць слупы ў ямы. Ноччу прайшоў аблажны дождж. Вялікія лужыны блішчалі на вуліцы, па агародах, на лузе. Яшчэ толькі гаспадыні пачалі даіць кароў, а Богдан ужо аббегаў хаты, дзе кватаравалі мантажнікі.

Хведар прачнуўся ад таго, што здалося, быццам яго нехта цягне за нагу ў прорву. Трацяк з Якавам ужо сядзелі каля стала, а Хведара будзіў Богдан. Запалыя вочы, бледны рашучы твар, на якім пад скурай выступілі жаўлакі. Такім Богдана Хведар дагэтуль не бачыў. Нечым падобны быў ён на паляўнічага, які нарэшце высачыў звера.

— Хутчэй! — крыкнуў Богдан і выбег з хаты.

Хведар з хлопцамі моўчкі пахапалі рыдлёўкі, сякеры і падаліся за ім. Рушылі подбегам. Наперадзе ішоў Богдан, за ім — Хведар, Якаў... Быў чуцен тупат ног, ляцелі ў бакі пырскі вады, і нехта ззаду шумна дыхаў. Хведар азірнуўся. Мікола Макарчук вечарам гасцяваў у нейкага вясковага дружбака, і цяпер яму было цяжкавата. Балота, па якім мантажнікі ўчора хадзілі як па шашы, ажыло, заварушылася. Ямы, выкапаныя пад слупы, былі паўнюткія вады. Хведар не мог уявіць, што столькі яе з'явілася за ноч. Там-сям паказаў свой нораў мылец. Ямы напалову

заплылі глеем. Гэтак жа магло стаць усюды па балоце, і тады трэба было б пачынаць спачатку, з раніцы да вечара працаваць у сырасці і гразі. Кожны з хлопцаў, мабыць, думаў пра гэта і разгублена глядзеў, як на іх вачах зацягнула дно яміны глеем, пасля затрашчала лаза пад націскам мыльцу.

Па балацявіне паважна хадзілі буслы, не звяртаючы ўвагі на мантажнікаў. Хлопцы стоўпіліся ля прыземістай крывулі-бярозкі, сачылі, як Богдан пашыбаваў уздоўж лініі. Хведар быў кінуўся за ім услед, але Богдан махнуў рукой: «Стой!»

— Мо пойдзем паспім? — Якаў смачна пазяхнуў і сутаргава павёў плячыма.

— Не мялі языком,— сказаў Іван Трацяк, і зноў ціха.

З-за куста вербалозу выскачыў Богдан і здалёк закрычаў:

— Двое — па бусакі, астатнія — за мной!

Па бусакі пабеглі Якаў і Макарчук. Богдан, успацелы, у адной майцы, без кашулі (недзе кінуў па дарозе), закурыў, прагна глынуўшы цыгарэтнага дыму.

— Трэба слупы ўставіць у ямы. Яшчэ адзін такі дождж — і нашай рабоце канец...— і дадаў у рыфму: — Кругом — мылец!

Час быў снедаць, але ніхто пра гэта не загаварыў. Загады Богдана імгненна выконвалі. Хлопцы цяпер забылі ўсе крыўды, нелюбоў да брыгадзіра. Перад імі паўстала нешта больш важнае. Што гэта — хлопцы не разумелі, дый і не думалі, чаму так дружна ўзяліся за работу.

Хведар раздзеўся да трусоў і з рыдлёўкай, басанож, палез у яму.

— Абуй боты,— сказаў яму Трацяк.

— Не холадна.

Як толькі ступіў Хведар на дно ямы, ногі адразу зацягнула ў глей па лыткі. Цёплая вада праз колькі хвілін здалася халоднай. Хведар набраў поўную рыдлёўку пяску напалову з травою і шыбануў як мага далей. Вельмі хацелася есці, але ж хлопцы працавалі. Ён што — горш за іх? Нагнуўся Хведар у яме, мабыць, разоў сто, толькі горка пяску наверсе была невялічкая. І пад нагамі не паменела гразі.

Падышоў Богдан, зазірнуў да Хведара.

— Як у цябе?

Хведар не адказаў, са страшэннай напругай вырваў рыдлёўку з глею. Адчуў, што стаміўся.

— Так нічога не зробіш,— сказаў Богдан.— Лазой мацуй сценкі. І жвавей!

Ззаду Хведара раптам нешта гучна плюхнулася. Са сценкі ямы вывалілася агромністая глыба зямлі, а пасля хлынула вада ўперамежку з глеем. Хведар ледзь паспеў выскачыць наверх.

— Снедаць! — спыніў работу Богдан.

Вярнуліся хлопцы на лінію, захапіўшы ў гаспадынь вёдры. Аднак не выкарысталі іх.

— Мо паспрабуем уставіць слупы ў ямы як ёсць? — ціха сказаў Іван Трацяк.— Мылец усё роўна слуп пацягне ў глыбіню. Паспрабуем?..

Богдан падняўся з купіны, на якой сядзеў, узяў у рукі бусак. Хлопцы ўважліва сачылі за ім. Ён падышоў да яміны і рэзка кінуў бусак уніз.

— Паспрабуем. Дно цвёрдае.— Богдан абвёў вачыма брыгаду, нібы ацаніў кожнага хлопца.— Іншага варыянту ў нас няма. Пачнем...

Першы слуп апусцілі ў яму ўдала. Хуценька накідалі зямлі вакол яго і ўтрамбавалі рыдлёўкамі і бусакамі. Хведар асцярожна націснуў на слуп — ён крышачку нахіліўся, але стаяў. Хведар ад радасці хацеў узлезці на яго. Спыніў Богдан. І Хведару стала ніякавата ад таго, што паводзіў сябе, нібы маленькі хлопчык.

Мантажнікі амаль не размаўлялі між сабой, працавалі зацята. Не вытрымаў Якаў: «Навошта такая хуткасць? Ці не паспеем?» Астатнія нібы не чулі гэтых слоў.

— Раз-два! — камандаваў Богдан.— Узялі, панеслі!

Пройдзе час, і хлопцы будуць успамінаць, як пад дажджамі слуп за слупам расла лінія. Цяжкае і дрэннае не застанецца ў памяці. Памяць захавае ў сваіх схованках вялікую сілу таварыства.

Горад быў кіламетраў за дваццаць, не больш. Ён цягнуў хлопцаў да сябе, нібы магнітам. Ужо не раз была гаворка, што трэба ўсім паехаць туды на выхадны ды адпачыць па-людску. Учора Якаў адпрасаваў свае блакітныя штаны. У лазні ўся брыгада з крыкам і жартамі навяла «марафет». Ад пары і чыстай вады Богдан памаладзеў, а калі Макарчук пагаліў яго, дык на выгляд яму стала гадоў дваццаць пяць.

Хлопцы змылі з сябе пот і гразь, надзелі чыстую бялізну, а тут — на́ табе! Ніхто не падумаў, што можа пайсці дождж, які пераменіць усе іх планы.

Нарэшце неба ачысцілася ад хмар, і кропелькі вады заіскрыліся пад сонечнымі промнямі на траве, кустах, лісці дрэў. І быццам адразу лягчэй стала працаваць.

— Значыцца, Якаў, паедзем у горад? — у вачах Івана Трацяка заскакалі вясёлыя чорцікі.

— Як хочаш.— У Якава, напэўна, няма настрою гаманіць. Ды што там, уяўляў сябе на вуліцах горада, у кінатэатры, а замест гэтага зноў балота, ямы і мокрыя цяжкія слупы.

— Аслабела кураня,— зарагатаў Богдан.— Перакур!

Паселі хлопцы дзе якое было сухое месца і пачалі ўспамінаць розныя байкі, анекдоты.

— Помню, як узводзілі мы лінію з Кардашом у тайзе. Гэта была работа. Вось такія хвоі раслі! — Богдан шырока раскінуў рукі, паказваючы, якія былі тоўстыя дрэвы.— Мы рабілі пад лінію прасеку...

— З якім Кардашом? — спытаўся Хведар.

— З начальнікам упраўлення,— неахвотна адказаў Богдан.— У тое лета стаяла гарачыня, нібы на поўдні: у цяньку дваццаць пяць градусаў. Аднойчы раніцай прачынаемся, а з усіх бакоў дым і агонь, як акінуць вокам. Вось табе і электралінія. Тут каб богу душу не аддаць. Калі б кінуліся ў паніку — канец. Кардаш малайчына, змікіціў, што рабіць. Мы жылі ад ракі метраў за трыста. А рака шырокая. Значыцца, адтуль не мог агонь ісці. Кардаш і павёў нас да ракі. Добра, што мелі пяць мотапіл «Дружба». Раз — і дрэва набок, раз — і дрэва набок. Умомант зрабілі прасеку. Выйшлі да ракі жывыя і здаровыя. Толькі Анатоль Эдмунтовіч трошкі абпаліў правую шчаку. Але агонь спынілі...

— Што было потым? — спытаўся Якаў.

— Узводзілі лінію электраперадач у трыццаць пяць кілавольт. Ка-а-а нец-ц пера-ку-ру! — праспяваў Богдан.— Адпачнем, кураняты, на пенсіі.

Да абеду брыгада дайшла да сярэдзіны балота. Змянілі ягоны пейзаж слупы. Без правадоў яны былі падобныя на абпаленыя дрэвы. На адзін слуп сеў бусел, заклекатаў неяк гняўліва, залопаў крыламі.

— Пэўна, думае, што хочам забраць,— сказаў Трацяк.— Гаспадар!..

— Як ён будзе жыць, калі сюды прыедуць меліяратары? — Хведар успомніў, што засталося ў іхняй вёсцы ад рэчкі і лесу, у якім ён у дзяцінстве збіраў ягады і грыбы.

— Уладкуецца на работу ў цырк,— зазлаваў чамусьці

Богдан.— Хопіць лынды біць. На пачак цыгарэт не зарабілі. Уперад, салагі.

Па тым, як апантана Богдан працаваў, было зразумела, што ён вырашыў сёння паставіць слупы ў ямы па ўсім балоце. Ззаду брыгады засталася нібы вытаптаная статкам кароў дарога, па якой наўрад ці прайшоў бы ўсюдыход. Хлопцы былі мокрыя і брудныя. Хведар некалькі разоў праваліўся ў твань, і калі б Трацяк не перахапіў з яго рук слуп, яму было б кепска.

— Асцярожней,— толькі і прамовіў Богдан.

Спярша хлопцам здалося, што канца балоту ніколі не будзе. Занадта цяжкія былі гэтыя два кіламетры. Калі ж перайшлі сярэдзіну і слупы роўна сталі, наперакор мыльцу і вадзе, хлопцы адчулі, нібы ў іх прыбавілася сіл.

Яны вярнуліся дамоў ужо ў прыцемку. Ледзь валачылі ногі.

— Вось бы ў рэчку скокнуць...— уздыхнуў Якаў.— Стому як рукой зняло б.

— Аднаму няма ахвоты ісці?..

— Зараз вячэраць і спаць,— адазваўся Богдан,— бо заўтра будзе не падняць вас.

Не спала яшчэ вёска. Смех і маладыя галасы ляцелі то з аднаго боку, то з другога. У звычайны будзённы дзень мала было тут моладзі. Яна прыязджала на выхадныя. Хто ехаў да бацькоў па сала ці па кумпяк, а хто — памагчы нарыхтаваць дроў, сена карове, папрацаваць на агародзе. Як памятаў Хведар, так і ў яго вёсцы.

## 11

Васіль Крыц знаходзіўся ў бальніцы дзён дзесяць. Спярша, калі прайшоў страх за вока, Крыц вырашыў, што яму пашанцавала. На вуліцы была калэча, а ён сядзеў у цёплай палаце, нічога не рабіў. Толькі спаў і еў.

З ім ляжалі мужчына гадоў пад пяцьдзесят і хлопец, ненамнога старэйшы за Крыца. Штодзень да іх ішлі сваякі, сябры, прыносілі розныя прысмакі. Васіль смяяўся з суседзяў: «На экскурсію ходзяць. Даўно не бачылі».

Мінуў тыдзень, а да яго, акрамя майстра і Фантамаса, ніхто не прыйшоў. Ён спадзяваўся на нядзелю. Рана прачнуўся і папрасіў сястру, каб яна не затрымлівала — усіх пускала да яго. Крыцу не сядзелася на адным месцы: ён то ішоў у калідор, то глядзеў у акно, то курыў. Абедаць ад-

мовіўся, спадзяваўся, што хлопцы прынясуць нешта смачнае з магазіна. Калі засінеў прыцемак, ён зразумеў: чакаў дарэмна, ужо не прыйдуць...

Ніхто не ведаў, як моцна ён перажываў. Упершыню яму было так кепска.

...Крыц ледзьве дачакаўся таго дня, калі нарэшце выпісалі з бальніцы. Аднак у яго душы разам са злосцю на хлопцаў было жаданне як мага хутчэй паехаць назад у брыгаду. Чым гэта растлумачыць, ён і сам не ведаў.

Калі Крыц ужо ехаў на вакзал, ён раптам адчуў страх, спалохаўся, што не прымуць.

Ён наведаў бацькоў і вярнуўся ў вёску. Сустрэлі яго шумна, але Васіль быў стрыманы і гаварыў мала. Пра траўму нагадваў толькі невялікі шрам пад вокам.

— Пойдзеш на лінію? — спытаў у яго майстар.

— Не ведаю...

Да яго звярталіся як да хворага, і гэта яму не спадабалася. Усе яны лічаць, падумаў ён, быццам Васіля Крыца вабяць толькі карты.

— Дык будзеш працаваць? — папытаў Богдан.

— Буду, буду, але не з табой! — выкрыкнуў Крыц са слязьмі ў голасе.

— Што з табой? — сказаў майстар.— Можа, табе трэба адпачыць?

— Адпачыў, досыць!

— Не крычы, Васіль,— цвёрда сказаў Іван Аляксандравіч і завязаў у некалькі вузлоў кавалак дроту, што ляжаў у яго на каленях.

— Я не крычу. Вы ўсе тут разумнікі, прыгожыя словы гаварылі, і што?..

— Ну і што? — спытаў Трацяк.

— А тое, што я ляжаў у бальніцы — і хоць бы адведалі. Гавораць пасля — калекты ў!

Замоўк Крыц, ціха стала ў памяшканні. Ніхто не глядзеў адзін на аднаго. Майстар чытаў нейкую паперу, не разумеючы яе сэнсу. «Чаго ты, Хведар, ты, Трацяк, Якаў,— думаў ён,— хаваеце вочы ад мяне? Гэта трэба, каб вам перад сабой было сорамна. Вось яшчэ адна прамашка ў выхаванні навучэнцаў. Забыць пра свайго таварыша, які ляжаў у бальніцы!»

Парушыў цішыню Богдан. Выцягнуў са скрынкі пабіты ізалятар і закрычаў:

— Казакевіч, ты што робіш?

— Што такое? — адгукнуўся Якаў.

— Ізалятар пабіў, салага.

Хлопцы хутчэй бралі неабходныя матэрыялы, інструмент і пакідалі склад. Апошнія засталіся Крыц з майстрам. Яны сядзелі ў розных кутках: Васіль — тварам да сцяны, а Іван Аляксандравіч — каля дзвярэй за сталом.

— Васіль! — сказаў майстар.

Хлопец варухнуўся і выпрастаўся на ўвесь свой вялікі рост. Надзеў мантажны рэмень, павесіўшы цераз шыю ланцуг, на плечы пачапіў кіпці.

— Ты... прабач хлопцам,— сумна прамовіў Іван Аляксандравіч.— І мне прабач.

— За што, Іван Аляксандравіч? Мне проста крыўдна раптам стала ад таго, што яны вясёлыя, быццам нічога і не было...

— Я цябе разумею, Васіль. Ідзі. Ідзі на лінію і працуй. Не трымай на душы злосці. Яна не паможа ў жыцці, толькі дрэнна будзе ад яе і табе, і іншым. Хлопцы яшчэ маладыя, як і ты. Вы занадта спяшаецеся жыць, а не трэба. Усё прыйдзе ў свой час. Гэта добра, што ты сказаў пра ўсё проста ў вочы. Лягчэй будзе ўсім. І павер мне, што хлопцы будуць за чыстыя словы больш паважаць.

Яны выйшлі з памяшкання разам. На барабанах пад бярозай курылі Якаў з Богданам. Казакевіч выкінуў цыгарэту і пачаў стукаць па барабане, робячы выгляд, што рамантуе яго.

— Барабаны не бяруць на базе з адарванымі дошкамі? — спытаў майстар.

— Вядома,— упэўнена сказаў Богдан.— Няхай падрамантуе, а то не толькі не прымуць, а яшчэ паведамяць начальніку ўпраўлення.

Штосьці няўлоўна хітрае і іранічнае мільганула ў вачах у Богдана. Іван Аляксандравіч нагнуўся і выцягнуў з-пад барабана пустую бутэльку.

— Вас папярэджвалі, Богдан, каб на рабоце не пілі.

— Я тут пры чым? — брыгадзір нібы сапраўды пакрыўдзіўся, скрывіў вусны.— Вашы навучэнцы п'юць. Напэўна, гэта іхнія бутэлькі.

Майстар з увагай, быццам на незнаёмага, паглядзеў на Богдана. Гэты чалавек здзіўляў яго ўсё больш. Узростам крыху маладзейшы за Івана Аляксандравіча, а паводзінамі — як той Крыц або Казакевіч, якім па васемнаццаць гадоў. Можа, нарэшце сказаць начальніку ўпраўлення ці Ліхаву, каб забралі яго? Хлопцы ўжо справу ведаюць, а такі настаўнік толькі псуе іх.

Часам чалавек, які вырас сярод не асабліва адукаваных і культурных людзей, па ўзроўню выхавання і інтэлігентнасці аказваецца намнога вышэй тых, якія жылі ў так званых інтэлігентных сем'ях. Можа, гэта ў іх ад таго, што бліжэй былі, хоць у дзяцінстве, да зямлі-маці, прыроды альбо скібка хлеба прыходзіла на стол з большымі цяжкасцямі. Такім быў і Іван Аляксандравіч. Маўклівы, няўклюдны ў сваім блага пашытым касцюме, ён меў чуйнае сэрца, і ў яго было вялікае пачуццё такту ў адносінах да іншых.

Іван Аляксандравіч чуў ад свае гаспадыні, што з прадаўшчыцай, пра якую гаварылі ўсялякае, некалькі разоў бачылі Розума. Вестка была непрыемнай. Розныя думкі нарадзіліся ў галаве, але з Розумам ён пра гэта не гаварыў, бо меркаваў, што хлопец ён надзейны і гразь да яго не павінна прыліпнуць. «Але чаму менавіта гразь, чаму трэба пра благое адразу?.. Чым горшыя яны за мяне або каго іншага? Тым, што маладыя і пявопытныя і цікаўныя да ўсяго невядомага».

Машына з базы вярнулася пустая. Загадчык базы не адпусціў матэрыялу і нават не захацеў слухаць пра тое, што лінію чакаюць дзесь на прадпрыемствах, у вёсках. Дрот і нават ізалятары скончыліся.

— Тэмпы, тэмпы, лінія,— кінуў Макарчук Хведару.— Ну, што? Нікому яна не патрэбна.

Такія размовы ўспыхвалі ўсё часцей. Богдан другі дзень гасцяваў з Тэкляй у суседзяў, дзе былі хрэсьбіны. Калі машына вярнулася з базы ні з чым, Хведар спытаў у майстра:

— Што рабіць будзем?..

Майстар па тэлефоне званіў начальніку ўпраўлення, але яго не было на месцы. Галоўны інжынер паехаў у Маскву, у трэст, а калі вернецца, невядома. Трэст «Энергамантаж» дзейнічаў на тэрыторыі, на якой змясцілася б не адна дзяржава. Трэці ўчастак доўга не адклікаўся, а пасля грубы мужчынскі голас паведаміў Івану Аляксадравічу, што начальнік у іх быў, але ўжо, напэўна, у Ёнаве ў Літве.

— Гэта ці не ў вас Богдан? — спыталіся на тым канцы проваду.

— У нас,— майстар ледзь стрымаўся, каб не сказаць чаго-небудзь кепскага пра брыгадзіра.

Мужчына засмяяўся, кпліва папытаўся: «Ну, і як ён там?»

Вельмі марудна цягнуўся час, і майстар сядзеў як на іголках. Нарэшце далі вучылішча. Уласенкі не было, ён паехаў на электрастанцыю.

— Хто-небудь ёсць? — у роспачы спытаў майстра, а пасля пазнаў, што гаварыла з ім Лізавета Васільеўна, і збянтэжыўся.

— Што здарылася, Іван Аляксандравіч? — картава сказала Лізавета Васільеўна.— Чаго раптам замоўклі, гаварыце.

І гэта яе мяккае «р», павольнае вымаўленне супакоілі Івана Аляксандравіча.

У двух словах ён расказаў Лізавеце Васільеўне пра сітуацыю, якая ў іх склалася.

— Дык што рабіць? — разгублена спыталася Лізавета Васільеўна.

— Дайце ва ўпраўленне тэлеграму.

— Якую тэлеграму?

— Што нам трэба памагчы і гэтак далей. Не памогуць — у трэст пашліце.

— Дык вы самі дайце тэлеграму. Вам бліжэй.

— Не той аўтарытэт, Лізавета Васільеўна...

— Добра, мы тут параімся, што зрабіць.

Брыгада адпачывала на палянцы: хто спаў, хто чытаў кніжку, а Трацяк з Макарчуком, узяўшыся за кій, упярліся нагамі і спрабавалі перамагчы адзін аднаго. Уся брыгада сачыла за іх барацьбой.

— Мікола, націсні!

— Іван, дай яму лянча!

Падышоў Богдан: нябголены, з заспанымі вачыма. З хвіліну назіраў за хлопцамі, крычаў разам з усімі, а потым, нібы хто стукнуў яго па галаве, падскочыў да барцоў, з размаху ўдарыў нагой па палцы.

— Лайдакі, больш рабіць няма чаго?! Што гэта за цырк тут!

— Супакойся,— адказаў яму Хведар.— Калі такі разумны, дык скажы, што рабіць.

— Мала работы? — замахаў рукамі брыгадзір.— Вось, вось, вось!

— Канкрэтна што? — пытаўся Розум.

— Адукаваныя вельмі, шмат ведаеце! — падняў крык Богдан.— Ямы капай, зямлі досыць.

— А навошта яны,— сказаў Трацяк,— калі слупы стаяць, а далей — спецыяльная машына прыйдзе.

— Гэта не вашага, салагі, розуму справа. Я начальнік!

Загадваю: ямы рыхтаваць і засыпаць. Саставім нарад, і атрымлівай грошы.

— З якой кішэні будуць грошы? Калі з тваёй — я згодны,— сказаў Крыц.

— Бач ты, свядомы зрабіўся! — зарагатаў Богдан.— Лайдак ты першай гільдыі.

— Ах ты, пацук! — Крыц ускочыў з зямлі, узяў у руку карабін ад мантажнага рэменя.— Зараз я табе пакажу першую гільдыю.

Хведар з Трацяком спынілі Васіля, вырвалі карабін і прымусілі сесці. Абставіны былі такія, што яшчэ адно-два словы — і пачаўся б невядома які вэрхал.

Івана Аляксандравіча насцярожыла цішыня, што панавала ў кампаніі маладых хлопцаў. Злы твар у Крыца, увесь у чырвоных плямах Богдан.

Майстар зняў з сябе пінжак, палажыў яго на траву і лёг. Моцна пахла хвояй і ландышамі. У гародчыку каля хаты бацькоў заўсёды раслі ландышы. Іх пах стаяў на двары найбольш тры-чатыры дні. Дзесяцікласнікі здавалі выпускныя экзамены і наведвалі гэты гародчык.

— Ландышамі пахне...— сказаў Іван Аляксандравіч.

Трацяк усміхнуўся і сказаў убок:

— І Богданам.

Усмешка пабегла па тварах Крыца, Хведара, Макарчука, астатніх хлопцаў. Брыгадзір плюнуў у куст ядлоўцу і пазяхнуў, ды так смачна, што аж спаць захацелася ад яго выгляду.

— Званіў у вучылішча,— паведаміў майстар.— Размаўляў з Лізаветай Васільеўнай. Яна прывітанне ўсім перадала.

— А матэрыялы? — пажартаваў Хведар.

— Яны дадуць тэлеграму начальніку ўпраўлення, што мы стаім без работы.

— Начальнік у горадзе? — спытаў Макарчук.

— Паехаў у Літву.

— Што дасць тэлеграма, калі яго няма? Вось у абком ці ў міністэрства паслаць тэлеграму — гэта будзе эфект.

## 12

Тэлеграму прынялі, толькі папрасілі напісаць крыху мякчэй. Лізавета Васільеўна выкрасліла некалькі слоў, бо, на яе думку, сэнс ад гэтага не змяніўся. «Цяпер Іван Аляксандравіч будзе задаволены». Подпісы пад тэлеграмай яна

паставіла Уласенкі і свой. Вырашыла папярэдзіць дырэктара, адразу як толькі знойдзе.

Праз гадзіну тэлеграму атрымалі ў прыёмнай мантажнага ўпраўлення. Ад'язджаючы на ўчасткі, Кардаш папрасіў, каб з-за дробязы яго не турбавалі, тэлефанаваць толькі ў экстраным выпадку. Паклікалі да тэлефона, калі ён з групай мантажнікаў сядзеў у шафах кіравання магутнай падстанцыі і спрабаваў знайсці прычыну кароткага замыкання, ад якога згарэў нават масляны выключальнік. Начальнік знаходзіўся тут ужо другі дзень, але прычыну аварыі пакуль не знайшлі, і гэта нервавала, хоць па ягоным твары гэта нельга было заўважыць. Толькі тыя, хто з ім працаваў не першы год, па белых кропельках у вачах маглі здагадацца, што Кардаш злуе.

— Што такое? — спакойна прагудзеў ён у тэлефонную трубку.

Начальнік вытворчага аддзела прачытаў яму тэкст тэлеграмы. У трубцы пачулася нейкае мармытанне.

— Чаго яны хочуць? — спытаў Кардаш танклява, быццам дыханне ў яго перахапіла.

— Няма матэрыялаў. Карацей — стаяць.

— Ну, вось што... Да майго прыезду ніякіх захадаў.

Начальнік упраўлення выехаў вечарам, каб раніцай быць на месцы. Пагроза, што паведамяць у Маскву, у трэст, не спалохала яго. Ён быў з тых старых кадраў, якія выйшлі з радавых мантажнікаў, сваім гарбом дасягнулі пэўнай вышыні, не дрыжалі за сваю пасаду, а больш за ўсё хваляваліся за работу.

Матэрыялаў не хапала. Не першы выпадак, калі брыгада не працавала з-за гэтага. Трэст меў большыя магчымасці, чым яго ўпраўленне, але не адзін Кардаш не даваў спакойна сядзець у сталічным кабінеце. Званілі Урал, Сібір, Эстонія. Усім патрэбны былі матэрыялы, абсталяванне, каб выканаць запланаванае ў сталіцы.

Начальніка ўпраўлення ўсхвалявала, што спыніла работу не звычайная брыгада мантажнікаў, а брыгада навучэнцаў. Шмат выпускнікоў накіроўвалі ва ўпраўленне, ды многія не прыязджалі. Магчыма, і гэтых хлопцаў размяркуюць сюды, але хто гарантуе, што яны захочуць працаваць там, дзе няма дысцыпліны і парадку. Кардаш быў перакананы, што няма на свеце чалавека, які б не хацеў дысцыпліны і парадку. Іншая справа, што не ў кожнага ёсць сіла і воля, каб падтрымаць іх.

— Уключыце радыё,— папрасіў ён шафёра.

— Думаў, вы спіце.

Заўсёды з нібы сонным тварам, Кардаш, здавалася, увасабляў сабою спакой і дабрадушнасць. Ніхто ва ўпраўленні не мог растлумачыць, чаму ён паслаў да навучэнцаў п'яніцу, хоць і вопытнага майстра-мантажніка, Васіля Богдана. Ну, рабілі дзесяць год назад на адным участку. Ну, Кардаш у свой час назначыў Богдана брыгадзірам. Але яму пасля таго панізілі разрад, знялі з пасады, і начальнік упраўлення гэтыя загады падпісаў, ён сам патрабаваў ад кіраўнікоў участкаў бязлітасна звальняць парушальнікаў дысцыпліны.

Але Кардаш не выпадкова паслаў у брыгаду навучэнцаў Богдана. Ён памятаў яго здольным мантажнікам, які мог павесці за сабою людзей. Так было ў гады іх сумеснай працы. І начальнік упраўлення вырашыў даць Богдану апошні шанц. Вытрымае выпрабаванне, ніхто не скажа, што Кардаш дарэмна рызыкнуў.

Ноччу шафёр папрасіў дазволу спыніць машыну, бо яго пачаў зморваць сон. Яны ад'ехалі з дарогі ў бярозавы гаёк. Начальнік упраўлення выйшаў з машыны. На траве ляжала багатая раса. Туфлі адразу прамоклі, але Кардаш не спяшаючыся тупаў вакол машыны. Даў шафёру паспаць дзве гадзіны і пабудзіў яго. Шафёр цяжка падняўся, схапіў у далоні расы, памачыў твар.

— Нібы прыняў душ,— ён здрыгануўся ад холаду.

Машына імчала насустрач золку. Наперадзе за даляглядам была вёска, якая цяпер займала ўсе думкі начальніка ўпраўлення.

Пад яго кіраўніцтвам было шмат мантажнікаў, многіх з іх ён ведаў асабіста, з некаторымі працаваў калісьці ў адной брыгадзе. Завочна скончыў тэхнікум, быў майстрам. Паступіў завочна ў інстытут. Вучыўся амаль сем гадоў: з-за работы не хапала часу паехаць на сесію.

Перад вёскаю машыне перагарадзіў дарогу статак кароў. Пастух, нізенькі мужчына, з пяголеным тварам, відаць, быў адных гадоў з Кардашам. Кардаш нібы ў люстэрка ўбачыў сябе і падумаў: «Няўжо і я такі стары?»

Бяссонная ноч адчувалася, цяжкія зрабіліся павекі, галава апускалася на грудзі. Ён чакаў, калі статак міне машыну.

На дзвярах склада вісеў замок. Кардаш пацягнуў раздругі, і ён расшчаперыўся. Мільганула вясёлая думка пагрузіць медны дрот, што з абсталявання, у машыну — і хай потым пачухаюць патыліцу. Мантажнікам Кардаш

так і зрабіў бы, але ён начальнік упраўленя, такі жарт яму не да твару, дый невядома, які вынік будзе з гэтай «аперацыі».

Прысеў каля ўваходу на скрынку. Промні сонца ляцелі праз рэдкія хмаркі-вату, грэлі зямлю. Зірнуўшы на гадзіннік, начальнік задрамаў. Ачуўся ад галасоў. Вакол яго сядзела ўся брыгада. Пад дрэвам у машыне спаў шафёр. Паветра аж звінела. Надвор'е было як па заказу.

— Вада халодная ёсць?

— Цэлае вядро, толькі з калодзежа,— нёс яму ваду хлопец з вогненнымі валасамі.

Кардаш падцягнуў да сябе вядро і пачаў прагна піць, адчуваючы, як з кожнай кропляй вады аднаўляецца ў ім жыццёвая энергія і цела робіцца дужым.

— Добрая вада. Фу,— аддыхаўся начальнік упраўлення.— Пастаў у цень, потым яшчэ пасмокчам,— сказаў Казакевічу.— Можа, трохі памыцца, як думаеш, майстар? — Ён успомніў, што майстра завуць Іванам Аляксандравічам. Напэўна, гэта яго ідэя была наконт тэлеграмы. Кардаш адчуваў, што майстар сваім характарам нечым нагадваў яго самога.

— Палі трошкі,— папрасіў Кардаш майстра і распрануўся да пояса. Тлушч ужо быў там-сям на жываце, спіне, але ўсё ж мускулам начальніка ўпраўлення пазайздрасцілі б і Хведар, і Крыц, не гаворачы пра астатніх хлопцаў.

— Ну, не шкадуй, марак,— крычаў Кардаш і, пырскаючы вадой па баках, старанна мыў шыю, твар, быццам знарок прыехаў сюды за сотні кіламетраў дзеля гэтага. Затым папіў яшчэ халоднай вады, разуўся і сеў на зямлю.

— Чым будзеце сёння займацца?

— Ёсць чым,— сказаў брыгадзір і засунуў за халявы ботаў пасаціжы, нож, адвёртку.

— Няма,— устаў Іван Аляксандравіч.— Усе электраматэрыялы выкарыстаны. Слупы брыгада, дарэчы, уручную, хоць упраўленне мае патрэбныя машыны, паставіла.

— Па праекту трэба зрабіць дэмантаж асвятлення і ўсяго энергазабеспячэння мясцовага калгаса.

— Па магчымасці выканаем. Нас стрымліваюць матэрыялы. Калі вы бралі на практыку групу, то абяцалі забяспечыць усім неабходным.

— Не я, а ўпраўленне! — падняў указальны палец начальнік.

— Гэта не мае асаблівага значэння. Вы гаварылі, што наша лінія патрэбна як паветра, што яна вельмі важная.

А што выходзіць? Загадчык базы невядома чаму не дае нам нічога. Амаль тыдзень стаім без работы. Гэта ж якая сіла!

— Які сукін сын, ай-яй! — стукнуў сябе па калене рукой Кардаш.— Гэта я пра загадчыка базы. Здыму і выганю або пакіну грузчыкам. Які абібок! Гаварыце далей, Іван Аляксандравіч.

Але спынены гэтай рэплікай, майстар згубіў канец думкі і разгублена замоўк.

— Чаго вы, Іван Аляксандравіч? Слухаю ўважліва.— Кардаш дастаў з кішэні нават паперу і аловак і запісаў штосьці.

— Ды што тут,— майстар папрасіў закурыць і зрабіў некалькі глыбокіх зацяжак.— Не ведаю чаму, але Богдан сказаў няпраўду. Рабіць нам няма чаго.

— Цікава,— сказаў начальнік упраўлення.— Хто гэта яшчэ да нас кіруецца? Глянь сваім марскім вокам, Іван Аляксандравіч.

Вёрткі «козлік» з выцвілым брызентавым верхам затармазіў каля склада. У вадзіцелю пазналі начальніка ўчастка. Ліхаў абышоў усіх, кожнаму падаючы руку. Абмахнуў пот з круглага твару насоўкаю.

— Папярэдзілі б, што едзеце да нас.

— Не міністр і не кіраўнік трэста,— сказаў Кардаш,— а свой начальнік, да якога прывыклі. Прашу, таварыш Ліхаў, на свабоднае месца каля Івана Аляксандравіча. Начальства павінна быць у цэнтры, каб мантажнікі бачылі яго. Дарэчы, ты ведаеш, што ў брыгады няма матэрыялаў?

— Ведаю,— прамовіў начальнік участка.

— Яны звярталіся да вас, таварыш Ліхаў? — Кардаш націснуў на слова «таварыш».

— Вядома,— заспяшаўся Ліхаў,— але дзе мне іх узяць? Брыгады кадравых мантажнікаў на тым тыдні прасталі сорак восем гадзін. А гэта ж навучэнцы. Ім што, практыка... Лінія, калі...

— Не калі! — загрымеў начальнік упраўлення, і вочкі яго амаль заплюшчыліся.— Практыка, кажаш!...— і хацеў, напэўна, дадаць штосьці моцнае, але авалодаў сабою.— Гэта лінія галоўная на тваім участку, Ліхаў, і сюды трэба перакінуць трохі матэрыялаў, пакуль з базы не завязуць усяго астатняга. Зразумеў?

— Ясна.

— І добра. Адно пытанне, можна сказаць, вырашылі. Так, Іван Аляксандравіч?

— Не ведаю. Прыедуць машыны з грузам — значыць, так.

— Ах, хітрун, марак! Малайчына, браце! Такіх бы мне начальнікаў участкаў. Глядзіш, і ў Маскве заўважылі б... Як думаеш, Ліхаў?

— Напэўна,— згадзіўся Ліхаў.

Кардаш глянуў на гадзіннік.

— Нарада зацягнулася. Але нічога, адзін раз можна, асабліва калі такі настрой, Хведар... Хведар? Забыў прозвішча.

— Розум,— падказаў Трацяк.

— Розум. Значыць, разумная галава,— пажартаваў начальнік.— Скажы ты мне, Розум — разумная галава, чаму як на пракажонага глядзіце на свайго брыгадзіра, майго старога таварыша-мантажніка Богдана Васіля? Калісь мы з ім правялі дзесяткі кіламетраў ліній, будавалі станцыі і падстанцыі. Чаму ў цябе, Васіль, такі пануры выгляд? Калі мінулы раз я прыязджаў, ты быў п'яны.

— Хто бачыў? — ціха сказаў Богдан.

— Маўчы! Памятаеш нашу апошнюю размову пасля таго, як загінуў той хлопец? Ты мне сказаў, што пачынаеш новае жыццё. Табе даверыў такіх хлопцаў! Арлоў! Васіль, Васіль... Ты быў зусім не такі. Кім жа ты стаў, Богдан? П'яніцам і абібокам. Маўчы! П'яніца не можа быць добрым работнікам. Шчасце, што ў хлопцаў такі майстар, як Іван Аляксандравіч, а то ты «навучыў» бы іх прафесіі.

— Нічога ў яго не выйшла б,— сказаў Хведар.— Ён учора прымушаў нас капаць ямы, а пасля іх засыпаць. Маўляў, грошы дзяржаўныя, не вам бедаваць пра гэта.

— А вы?

— Мы адмовіліся.

— Правільна зрабілі. Бачу, Богдан, страціў ты свой аўтарытэт. Як думаеш, брыгадзір: калі да кіраўніка няма павагі, можа ён заставацца на сваёй пасадзе?

Богдан не адказаў, панурыўшы галаву, кусаў пазногці. Валасы ўпалі яму на лоб, і стала бачна сівізна і плямшына на патыліцы. Жаль і пагарду адчуў да яго Іван Аляксандравіч. І сорамна было яму за гэтага чалавека, які загубіў сваё жыццё бясконцым п'янствам, а цяпер злы на ўвесь белы свет.

— І я не ведаю,— уздыхнуў начальнік упраўлення.— Наконт гэтага большыя знаўцы хлопцы, з якімі ты працаваў. Як рашыце, так яно і будзе.

Якаў Казакевіч схаваўся за спіну Макарчука. У яго на Богдана крыўды даўно не было. Употай ад астатніх хлопцаў ён нават пасля добрага стала начаваў у брыгадзіра на кватэры. Якаў прывык, што яму не трэба рабіць на лініі, дзе Хведар, нібы кот, лазіў па слупах і патрабаваў гэтага ж ад астатніх.

— Хто першы? — спытаў начальнік.

Якаў апусціў галаву ніжэй, каб не сустрэцца з ім вачыма. Мусіць, і лепш будзе, калі Богдана здымуць, але што потым? Кожнаму не растлумачыш.

— Табе слова, Казакевіч,— раптам сказаў майстар.

Якаў падняўся з гулліваю ўсмешкаю, сказаў:

— Ш-што я... Мне ўсё роўна, як усе.

— У цябе ёсць свае думкі? — рэзка спытаў у яго Хведар.

— Чаму ж не, ёсць. Звычайны чалавек Богдан. Працуе. Ну, п'е, але хто цяпер не п'е...

— Якаў, дык ён жа цябе крыўдзіў і грошы браў,— не вытрымаў Трацяк.

— Хто табе сказаў? — збянтэжыўся Казакевіч.— Не было такога. Гэта ты прыдумаў, Іван.

— Як прыдумаў? — Трацяк стукнуў кулаком па скрынцы.— Сам бачыў.

— Хто яшчэ бачыў? — спытаў Якаў.

— Я нікому не казаў...— разгубіўся Трацяк.

— Тады няма чаго гаварыць,— скончыў Казакевіч сваё выступленне.

Глянуў на Якава Хведар, быццам былі яны незнаёмыя і гэта рыжая галава не ляжала на падушцы насупраць ягонай у адным пакоі.

...Брыгада выбрала сваім кіраўніком Хведара. Начальнік упраўлення і майстар не былі супраць. Запярэчыў толькі Ліхаў:

— Малады, нявопытны.

— Колькі табе было гадоў, калі стаў брыгадзірам? — спытаў Кардаш у начальніка ўчастка.

— Семнаццаць, але быў іншы час,— загарэўся Ліхаў.— Мы думалі пра тое, каб лепш і хутчэй будаваць лініі, а яны — пра штаны з лямпачкамі.

Ад маладога рогату з бярозы падняўся перапалоханы бусел і з клёкатам падаўся на балота. Усміхаўся, шаруючы паголеную галаву насоўкай, Ліхаў, тоненька хіхікаў начальнік упраўлення, выціраў слёзы з вачэй Іван Аляксандравіч, і нават Богдан павесялеў.

Не такі ўдалы быў жарт, але яго хапіла, каб узламаць насцярожаную цішыню. Тым больш што да склада ехала нагружаная матэрыяламі машына з прычэпам.

Як бы там ні было, але тэлеграма дзейнічала, і Іван Аляксандравіч, радуючыся разам з хлопцамі, закасаў рукавы і працаваў да дзесятага поту.

## 13

Як нечакана з'явіўся начальнік упраўлення, так, не развітваючыся, каб не перашкодзіць рабоце маладых падначаленых, паехаў. Калі ён раней трохі сумняваўся ў рэальнасці плана, то цяпер упэўніўся, што лінію гэтыя зялёныя мантажнікі ўзвядуць. Няхай яны думаюць, што гэта лінія самая галоўная для ўпраўлення. Кардаш хацеў, каб з першых жа дзён гэта дзятва зразумела: другарадных ліній няма, усе галоўныя і адказныя...

На другі дзень свайго кіраўніцтва Хведар павесіў на дзвярах склада, не сказаўшы пра гэта нават Івану Александравічу, паперу, на якой было напісана:

«Вымова

За сістэматычныя парушэнні дысцыпліны і п'янку ў рабочы час аб'яўляю вымову электрамантажніку Васілю Богдану і папярэджваю, што за любы ўчынак, які будзе шкодзіць нармальнаму жыццю брыгады, да яго прымуць адпаведныя меры.

Брыгадзір Хведар Розум».

Богдан, а можа, і не ён, чырвоным алоўкам перакрэсліў першы загад Хведара і знізу дапісаў бруднае слова.

— Ты намаляваў? — спытаў Хведар.

— Ні ў якім разе,— усміхнуўся Богдан.

— Добра... Заўтра возьмеш хлопцаў, падключыце першы ўчастак лініі з высокага боку, ад падстанцыі.

— З электрасетак прадстаўнік будзе? — спытаў Богдан.

— І з участка таксама.

Хведар ужо ў душы перакіпеў злосцю, але пачуццё нейкай нерашучасці стрымлівала яго. Ён адчуваў сябе хлопчыкам, якому паказалі жаданы яблык і не далі. «Трэба было папрасіць начальніка, каб перавялі Богдана ў іншае месца, тады прасцей жылося б»,— падумаў Хведар.

Цяпер ён працаваў яшчэ лепш, чым раней. І вось яны

ўжо дажылі да таго часу, што трэба падключаць першы ўчастак лініі. Спачатку Хведар меркаваў сам зрабіць гэта. Аднак, падумаўшы, вырашыў, што гэта рызыкоўна. Па-першае, ён ніколі не рабіў падключэння, а па-другое, хоць тэарэтычна ведаў усё, але вымушаны быў прызнацца сабе: Богдан намнога вопытнейшы за яго.

Раніцай пад'ехалі прадстаўнік з раённых электрасетак, інжынер з участка, яшчэ нейкія зацікаўленыя асобы і разам з брыгадай сабраліся ля шырокай жалезнай мачты, ад якой павінен быў пайсці ток на першы ўчастак лініі.

Богдан быў вясёлы, жартаваў. Да Хведара ён блізка не падыходзіў. І Хведару здалося, што ў Богдана вінаваты выгляд. «Мусіць, перажывае моцна...» Толькі калі Богдан быў ужо наверсе мачты, Якаў Казакевіч сказаў Хведару:

— Не трэба было яму лезці. Ён жа падпіты быў і ўчора піў.

— Позна...— не адрываючы вачэй ад невялікай у вышыні постаці Богдана, сказаў Хведар.— Раней чаму не сказаў?

Глядзелі, як не спяшаючыся падключаў Богдан правады да раз'яднальніка. Было чутна, як стукае гаечны ключ аб ізалятар ці жалезны крук. Марудна ішоў час. Прайшло трыццаць хвілін, гадзіна, а Богдан усё сядзеў на папярочцы. Нарэшце падняўся. Чамусьці зняў ланцуг, хацеў, мусіць, закінуць яго за плячо, але зачапіў за дрот. І здалося Хведару, як па ланцужку прабег агеньчык, і ў гэты ж момант Богдан завагаўся на папярочцы, нібы лялька, і паляцеў уніз. Стукнуўся некалькі разоў нагамі аб мачту, перавярнуўся і ўпаў на зямлю бокам. Гэта адбылося да таго імкліва, у поўнай цішыні, што на ўсіх напала нейкае здранцвенне.

— А-а-а-! — дзіка закрычаў Якаў, і ўсе ачуліся.

— Напэўна, вандроўныя токі,— разгублена кінуў прадстаўнік электрасетак.— Усё было адключана і перакрыта.

Прывезлі з бальніцы доктара, але ён ужо не мог нічым памагчы. Толькі сказаў, што нябожчык быў п'яны.

На пахаванне прыехала старэнькая бабулька ў чорнай спадніцы і вялікай чорнай хустцы, у мужчынскіх чаравіках. Худзенькая і сівая, нібы ліст паперы, яна не плакала, але ісці сама не магла, і Кардаш пасадзіў яе ў сваю «Волгу» каля шафёра. Выцвілыя вочы старой глядзелі наперад і, здавалася, нічога не бачылі. Толькі адзін раз растуліла яна вусны:

— Гарэлка давяла, прасіла ж...

Найцяжэй за ўсіх было Хведару. Выходзіла, што Богдан загінуў па яго віне. Каб не паслаў на мачту, каб не злаваў на яго, каб паслухаў Казакевіча...

— Шкада хлопца! — казаў начальнік упраўлення.— Хоць п'яніца быў, але шкада...

— Гэта я вінаваты,— падышоў да яго Хведар.— Я...

— Не гавары абы-чаго. Калі хто і вінаваты, то гэта ён сам, а астатняе пакажа следства.

Смерць Богдана моцна ўразіла брыгаду; маладыя хлопцы неяк адразу пасталелі, пасур'ёзнелі. Не хадзілі, як раней, шумлівым натоўпам па вуліцы. Хоць і папсаваў ім шмат крыві Богдан і задаволеныя былі, калі здымалі яго з брыгадзіраў, але цяпер ніхто з іх кепскага слова не сказаў, і не толькі таму, што не гавораць блага пра таго, каго ўжо няма...

...Якаў Казакевіч цішком адышоў ад хлопцаў і неспадзеўкі для сябе апынуўся ў гушчары, амаль ля таго самага месца, дзе іх з Крыцам знайшоў Розум, калі яны гулялі ў карты. Ён ішоў, сцяўшы да болю сківіцы. Лапкі маладога сасняку білі па твары, але ён не адчуваў гэтага.

Ля тоўстай старой асіны Якаў спыніўся, трошкі пастаяў і сеў на зямлю. Дзесьці недалёка зараўла машына, і гул матора спачатку наблізіўся, а пасля стаў заціхаць. Аднак Якаў не чуў машыны, крыку птушкі, якая скакала за тры крокі ад яго. Так ён сядзеў невядома колькі. Раптам слёзы пацяклі па губах, барадзе, шыі. І тады святлей зрабілася ў вачах, галава пачала набываць нейкую яснасць. Жаль запаланіў яго, перавярнуў душу. І Якаў нібы адразу пасталеў на некалькі гадоў.

І так адчувалі сябе ўсе...

## 14

Недзе ў душы нарадзілася раптам жаданне, у якім Хведар нават не мог прызнацца сабе. Пастаяў на вуліцы, пасля акуратна зачыніў за сабой веснічкі. Ногі неслі яго ў тым напрамку, куды іншым разам не пайшоў бы ніколі. Амаль бегма ён пераскочыў агароды, наўпрост выйшаў да хаты, дзе кватараваў Богдан, спыніўся. Страх паралізаваў яго волю, і Хведар ужо думаў вярнуцца, але першае жаданне перамагло. Прыціскаючыся да плота, нібы злодзей, пайшоў ён да Таццянінай хаты. На кухні гарэла святло. Праз фіранку ён убачыў цень ад галавы. Ціхенька пастукаў у акно. Святло адразу патухла, і Таццяна не адгука-

лася. Хведар зноў асцярожна стукнуў па шкле. З горыччу падумаў, што ў яе, напэўна, той мужчына, які пагражаў яму.

— Хто? — пачуўся аднекуль зверху голас.

— Я,— прашаптаў Хведар.

— Хто гэта я?

— Ну, мантажнік, Хведар Розум.

— Пачакай, зараз.

Было чутна, як ляснула клямка ў дзвярах у кухні. Адсунулася засаўка, і на парозе вырасла белая постаць.

— Ты?

Яна на нейкае імгненне прыціснулася да яго, азірнулася на бакі і прапусціла ў хату.

— Можа, перашкодзіў? — спытаў Хведар.

— Чаго там, сядай.— Яна ўключыла маленькую лямпачку каля печы, накінула на плечы хустку.— Штосьці холадна мне. Удзень такая была гарачыня, а ўяўляеш, як у маёй краме, калі шмат людзей. Хоць распранайся... Што скажаш добрага?

— Ды вось, зайшоў...— паціснуў плячыма Хведар.— Прабач, не было тады часу.

— Разумею. Я не пакрыўдзілася. Есці хочаш?

— Не... Толькі піць.

— Вада свежая, з калодзежа.— Таццяна не глядзела яму ў твар, і Хведар падумаў, што не трэба было ісці сюды. Столькі дзён мінула з той сустрэчы, а ён ні разу не зайшоў да яе, нават не быў у магазіне, каб пабачыць. Вядома, яна жывы чалавек і да таго ж прыгожая жанчына. Дык чаму павінна чакаць яго, калі ён забыў пра яе.

— Таццяна...— Хведар узяў яе руку. Яна была халодная.— Можа, ты захварэла?

— Не, гэта так... Дробязь.

Ён падняў яе з услона, паставіў перад сабой і няўмела пацалаваў у вусны. Яны былі халодныя, як і рука.

— Ты змерзла зусім. Зараз будзе горача,— прагаварыў Хведар.

— Не трэба.— Таццяна адхілілася ад яго, стала моўчкі тварам да акна. Хведар разгубіўся, не ведаючы, што рабіць.— Вось што, Хведарка, лепш ідзі дахаты. Не трэба,— паўтарыла яна.— Пазнаёмся з маладой чыстай дзяўчынай і сябруй з ёй.

— Але чаму? — жаданне, якое дагэтуль было далёка ў глыбіні, вырвалася, і яму вельмі захацелася абняць Таццяну, з усёй сілы прыціснуць да сябе. Ён зрабіў крок да яе.

— Хведар, прашу цябе,— голас Таццянін дрыжаў.— Ідзі, ідзі...

Хведар панура апусціў галаву і сказаў:

— Навошта ты мяне клікала да сябе?

— Дурань, дурань.— Яна, як і першы раз, прыцягнула яго да сябе, моцна пацалавала і спакваля падштурхнула да дзвярэй.— Прабач мне. І бывай, Хведар...

Назаўтра Мар'я Піліпаўна прынесла навіну.

— Чулі, мае хлопчыкі, ці не?

— Што? — спытаў Якаў.

— Бабы кажуць, што сёння прыехала ў магазін шмат міліцыі. Зачынілі дзверы і Таццяну правяралі. І быццам пайшлі да яе ў хату. Ну і Таццяна! Гэта ж трэба! Нездарма яе колішняга мужа і цётку ў горадзе ў турму, на казённы харч, пасадзілі. Яблыка ад яблыні недалёка падае.

— Ад якой яблыні? — злосна сказаў Трацяк.— Вярзеш ты штось, бабка.

Хведар не данёс лыжку да рота, разліў кіслае малако на стол. «Прабач мне. І бывай...» — успомніў ён. Якаў і Іван з апетытам снедалі.

— Штосьці ты сёння мала еў,— здзівілася гаспадыня.

Хведар, выходзячы з хаты, сказаў:

— Пайду ў склад. Трэба ўзяць дроту.

«Няўжо папраўдзе яна пайшла па цётчынай дарозе? Але навошта? Можа, не было б гэтага, калі б я не забыў яе». На дзвярах магазіна вісела аб'ява: «Магазін часова не працуе».

Дзве бабулькі сядзелі на ганку.

Хведар прыслухаўся.

— На тры тысячы тавару... Крала...— даляцелі да яго словы.

— Вы бачылі, што яна крала?! — у роспачы выгукнуў Розум.

Бабулькі замоўклі, з усмешкай пачалі глядзець на яго. Хведар збянтэжыўся і кінуўся прэч.

— Напэўна, таксама каля яе карміўся,— пачуў кінутае ўслед.

Ён спыніўся на скрыжаванні вуліц. Што рабіць далей, як жыць? Хоць жыў ён увесь гэты час без Таццяны, не меў да яе ніякага дачынення, але навіна непрыемна закранула яго.

З-за хаты выскачыла жоўтая «Волга». На вуліцы былі калдобіны, і машына прыцішыла хаду. За рулём сядзеў міліцыянер, яшчэ два мужчыны былі ў цывільным, а па-

між імі Хведар убачыў Таццяну. Яна была ў чырвонай сукенцы, на шыі белая хустачка. Яму здалося, што Таццяна ўсміхнулася і нават махнула рукою. І ён ступіў услед машыне, але тая набрала хуткасць, і праз хвіліну Хведар пачуў, як загудзеў асфальт пад яе коламі.

— Ну, вось і ўсё, паехала,— сказаў хтось побач.

Хведар правёў рукой па вачах, хітнуў галавою. Хацелася плакаць.

— Нічога не выйшла ў цябе, хлопча,— сказаў яму незнаёмы мужчына, у якім Розум нарэшце прызнаў таго, што быў каля Таццянінай хаты ноччу.

— Што табе? — спрабуючы гаварыць спакойна, сказаў Хведар.

— Мне? Усё астатняе мне...— Мужчына абмінуў Розума, здалёк пракрычаў: — Тваё будзе, а маё... Эх! — Ён пачаў чакаць спадарожнай машыны.

— Хто такі? — спытаў Хведар у жанчыны, якая рвала зелле ў агародзе, а зараз стаяла з кошыкам ля плота.

— Таццянін муж,— сказала цётка.

— У яе ж няма мужа.

— Няма, дык быў,— у вачах жанчыны была цікаўнасць.— А чаго ты белы, нібы крэйда? Можа, тваёй сяброўкай была Таццяна? — Памарудзіла трошкі.— Яна не хацела з ім жыць, а ён ездзіў сюды ды ездзіў. Праўда, сёлета бачу яго першы раз.

— Хведар! — паклікаў Розума майстар.— Давай на машыну. Па матэрыялы на базу.

Ён не захацеў ехаць, падаўся на лінію. Кіпці на ногі, прывязаў да дзягі кавалак алюмініевага дроту, каб мацаваць правады да ізалятараў. Ні аб чым не думаў, толькі ў галаве стаяў малюнак: жоўтая машына, а ў ёй паміж двума мужчынамі Таццяна, і яе доўгія чорныя валасы на чырвонай сукенцы.

Хведар пераставіў кіпці і падняўся трошкі вышэй. Па звычцы механічна апусціў рукі, каб адвязаць дрот ад дзягі. Ён стаяў шчыльна да слупа, і было нязручна працаваць. Тады Розум адхіліўся ад слупа, і... нечакана страшная сіла пацягнула яго ўніз. Усё адбылося імгненна. Ад болю ў нагах ён страціў прытомнасць. Яго выратаваў правы кіпець, які мёртва засеў у слупе, бо пад цяжарам цела левы амаль адразу выслізнуў з дрэва. І гэта таксама паспрыяла, бо калі б ён трымаўся, то Хведар мог паламаць ногі.

Хведар амаль адразу ачуўся і схапіўся рукамі за слуп.

Ад балота штосьці крычалі і, мусіць, беглі да яго. Толькі не хапала, каб усе бачылі, як ён, нібы хлопчык, дзяўбе носам зямлю. І Хведар цераз сілу прыўзняўся і вызваліў правую нагу. Потым, нібы артыст у цырку, хіснуўся і, прыціскаючы ногі да жывата, скокнуў уніз. Адчуў пад нагамі зямлю, перавёў дыханне і лёг. На провадзе калыхаўся кавалак дроту, і вецер зашмаргнуў ім іншыя правады.

Падбеглі Трацяк з Макарчуком. Хведар ляжаў з травінкай у зубах і рагатаў.

— Што гэта за фокусы?

— Д-ды я паляцець без крылаў хацеў.

— Яно і відаць.

— Пакажы ногі,— прысеў Трацяк.

— Сорак чацвёртага памеру ногі. Ці ты не ведаеш, Іван?..

— Здымі боты.

— Мне і так добра.

— Цягні, Мікола, за левы, а я — за правы.

На тым месцы, дзе мацуюцца рамяні кіпцяў, у Хведара былі чорныя палосы — сінякі. Але ногі былі цэлыя, толькі скура гарэла, нібы трымаў іх над агнём.

— Няма ў цябе, Хведар, клёпкі тут,— Макарчук паказаў рукой на галаву.— Гэта з-за бабы такое рабіць. Цьфу! Ну і што як прыгожая? Дык, можа, вяроўку на шыю?

— Не тое гаворыш, Мікола. Пры чым адно да другога. Задумаўся і забыў ланцуг за слуп зашпіліць. Уся трагедыя.

— Любіш, Розум, як дзіця малое, без усякай асцярогі бегаць па слупах.— Трацяк узяў Хведаравы кіпці.— За іх можаш свечку паставіць у царкве.

— Хлопцы, толькі не кажыце нікому, што я падаў са слупа,— папрасіў Хведар.

— Што ўжо там. Якая размова,— сказаў Макарчук.— Не думай, Хведар. Не пакутуй. Не твая яна была.

— Ды не трэба мне нічога!..

## 15

Ці было каму-небудзь горш, чым яму, і ці стагнала так моцна душа ў каго? Калі што і было, дык гэта яго не датычыла. Ён жыў, пачынаў жыць, дыхаў паветрам, снедаў,

абедаў, вячэраў і — думаў пра featured рознае, толькі не ведаў, што нічым гэтым не запоўніш душу, калі яна стане пустая. Ну, хто скажа яму, чым і як запоўніць душу? Сэрца ў яго пакуль моцнае, яно вытрымае, але што рабіць з апусцелай душою?

Так думаў Хведар Розум. Смутак ціснуў яго з невядомай дагэтуль сілай, і не засталося радасці. «Мусіць, ты нічога не варты,— сказаў ён сабе.— Таццяны няма...»

Ён сядзеў адзін на барабане з-пад дроту, а недзе высока ў небе ляцела птушка, жыла радасцю вышыні. Вакол раслі дрэвы, а полем цераз дарогу ішлі цыбатыя слупы, да якіх меў дачыненне і ён.

Шкада, што мала зрабіў і ўжо спатыкнуўся ў пачатку шляху. «Не выйшла з мяне нічога. А ўвогуле, ці не занадта шмат ты дбаеш пра сваю асобу? Яна нецікавая нікому, нават хлопцам, з якімі жыў у адным пакоі, працаваў на гэтай лініі».

Хведар падняўся з барабана, глянуў у адзін бок, у другі. За магазінам стаяў слуп, на якім была прыбіта шыльда з вялікай літарай «А». Аўтобусны прыпынак. Праз кожную гадзіну тут спыняецца аўтобус у горад. Хведар схапіў пінжак і подбегам рушыў па вуліцы.

На вуліцы не было людзей, бо яны ў гэты цёплы летні час былі заняты справаю. Хай працуюць без яго, а ён пойдзе на аўтобус і спыніць сваю хаду каля роднай хаты. Добры дзень, скажа ён бацькам, і маці ад радасці, што прыехаў сын, заплача і пачне частаваць яго прысмакамі, якіх ён нідзе больш не каштаваў. Здароў, здароў, затрымае ў сваёй шурпатай руцэ яго далонь бацька і ўважліва зазірне яму ў вочы да самага дна іх.

«Ну, што, сынок?»

«Ды так...»

Прайшоў ужо ўсю навуку?»

«Як сказаць...»

«А ты кажы проста: як на душы ў цябе?»

«Не ведаю».

«Табе нешта перашкодзіла або здарылася штосьці?»

«Чаго ты прыстаў да яго? Хай сынок паласуецца»,— гэта ўжо голас маці.

«Ты ж казаў мінулы раз, што скончыш сваю навуку ў верасні, а зараз на дварэ ліпень».

«Мне ў армію трэба...»

«Гэта вядома. Надыдзе час, і паклічуць. Толькі адтуль не пойдзеш, калі захочацца».

Хведар убег у хату, зачыніў за сабою дзверы. І з гарыччу падумаў: «Да чаго я дайшоў: баюся, што ўбачаць мяне». Мільганула ў галаве думка: сядай на гэты ўслон, паразважай, памяркуй. А рукі, дужыя і ўчэпістыя, знайшлі тым часам кашулі ў шафе, нагавіцы, склалі ўсё гэта ў драўляны чамадан, з якім яшчэ ездзіў бацька на заробкі на Украіну.

Вось і ўсё, сказаў ён сабе, адна цяпер дарога з горада: не ў родную вёску, а туды, дзе тайга, халадэча і мядзведзі... На Поўнач людзі едуць з усяго свету, бо кожнаму там ёсць месца. Хведар Розум узяў чамадан, прыпыніўся каля ложка, на якім спалі яны першыя тыдні ўтрох.

«Табе нешта перашкодзіла або здарылася штосьці? — спытаў ціха бацька.— ...Як на душы ў цябе? — Халадок пайшоў знізу ўгору, і чамадан стаў цяжэйшы, нібы хтосьці паклаў у яго каменне.— Ну, што, сынок?»

— Не магу я тут больш! — закрычаў Хведар, кінуўшы чамадан на падлогу.— Не магу, бо вінаваты, што загінуў Богдан. Не магу!

Усё было проста, пакуль бег да хаты, збіраў чамадан, а прыйшоў час зачыніць за сабой дзверы і перайсці на другую дарогу — і не мог. Сеў на ганак і заплюшчыў вочы. І было такое адчуванне, быццам трапіў у глыбокі калодзеж і, нарэшце, сабраўшы апошнія сілы, вылез з гэтай цемры.

— Хопіць спаць,— пачуў ён голас, лагодны і мяккі, і дужая рука ўхапіла яго за плячо.

На двары каля плота стаялі хлопцы і ціха гаманілі паміж сабой, здалося, не звяртаючы на Хведара ўвагі. Побач на ганку сядзеў Іван Аляксандравіч і трымаў на яго плячы сваю руку. І раптам Хведар занепакоіўся... Ён асцярожна азірнуўся. На двары ляжалі кіпці, мантажныя рамяні, пачарнелыя ад поту кашулі хлопцаў, а чамадана не было...

Чамусьці зарагатаў Якаў і дурасліва паваліў Трацяка, сеў яму на спіну. Вясёлы быў Казакевіч і нават быццам шчаслівы. Твар у яго загарэў, плечы сталі шырэйшыя. І галоўнае, што заўважыў у вачах Якава зараз Хведар — упэўненасць. І ў душы пазайздросціў яму.

Але потым, назіраючы за астатнімі хлопцамі, ён зразумеў, што гэта ўпэўненасць цяпер ёсць у кожным, яны нібы пасталелі тут, на гэтай лініі. А вось яго мары, надзеі...

Першым падняўся Іван Аляксандравіч. І ўся брыгада ўжо стаяла на нагах, а Хведар сядзеў на ганку.

— Ну, што, досыць бібікі біць. Пойдзем! — сказаў майстар, ні да кога канкрэтна не звяртаючыся.

— Дзве дзюркі ў носе, і скончылося! — у тон яму дадаў Якаў.

Трацяк прынёс з хаты Хведаравы боты, рабочую вопратку. І ён пераапрануўся, адчуваючы, як палягчэла на душы. «Можа, сказаць: прабачце мне, калі што было не так»,— падумалася Хведару. Калі што не так... Не, гэта штосьці не тое. Аднак міжволі ў яго вырвалася:

— Даруйце, хлопцы...

Ён не дагаварыў. Якаў крануў яго за руку:

— Хведар, не трэба...

Прыязна глядзелі на яго вочы Макарчука, Трацяка, Крыца. Трошкі сумна ўсміхаўся Іван Аляксандравіч... І зноў адчуў сябе Хведар дужым, здольным працаваць так, як працаваў дагэтуль.

...Слупы ўзнімалі над полем, балотам, лінію цягнулі да самага далягляду. Марудна, але ўсё больш упэўнена.

# АПАВЯДАННІ

## Тыгрыная клетка

— Ты мне скажы, дзядзька Кастусь, чаму гэныя птушкі ў небе, не на зямлі? Якая халера іх туды цягне? — дапытваўся Цімох Каландзейчык у Кіжэўскага.— Як думаеш?

— Хто іх ведае...

— Ну, а чаму трава зялёная, а не чырвоная?

— Бо чырвоную каровы не елі б,— Кіжэўскі стаміўся ад пытанняў Цімоха, а той, як дзіця, хоць самому даўно за трыццаць, усё лезе ў душу.

— Мо і так,— задуменна гаворыць Цімох.— Гэта ж было б жахліва. Нібы ўсё ў крыві.

Ён на хвілінку змаўкае. Ля станцыі гудзе цеплавоз.

— А чаму неба блакітнае?..

Кіжэўскі не дае яму скончыць, перабівае:

— Таму што.

— Як? — здзіўляецца Каландзейчык.

— А вось так! — крычыць Кіжэўскі і махае дужымі рукамі перад яго тварам.

Цімох ніяк не рэагуе на гэта. Ён глядзіць сабе пад ногі і зноў пытае:

— Навошта на зямлі столькі камення?

Кіжэўскі праз зубы нешта выціскае і падае на разасланы на траве каптан. Толькі тады адыходзіць ад яго Цімох. Шукае, з кім бы пагаманіць, высветліць, што турбуе. Але нікому ён не патрэбен са сваімі размовамі.

За старой платформай кранаўшчык Стасік з двума груз-

чыкамі гуляюць у карты. Гульня ідзе ціха, зрэдку праскочыць слоўка. Аб чым тут гаварыць, калі разам штодзень — з раніцы да вечара — на гэтай станцыі. Усе анекдоты, хто якія ведаў, пераказалі. Дый, урэшце, для іх не той настрой: паўдня без вагонаў. Адкуль заробку быць?

Цімох прысеў побач са Стасікам і зазірнуў цераз плячо яму ў карты. Ён у іх нічога не разумее, бо ніколі не гуляў.

— Адыдзі! — кажа раздражнёна Стасік.— Ты атрымаў квітанцыю?

— Якую? — залыпаў вачамі Цімох.

— Каб весці сваю жонку на станцыю.

Усе рагочуць з Каландзейчыка, а ён стаіць і яшчэ думае пра квітанцыю. Разважае, мо і сапраўды яна была. Канечне, не такая, а іншая. Напрыклад, нешта атрымаць з пошты, ды ён забыўся.

— Цімох, у цябе жонка як — ішто сабе? — Лявон Собаль, малады прыгажун з бялявымі вусікамі, робіць загадкавы выгляд. Ён нібыта карыстаецца поспехам у жанчын, асабліва сярэдняга ўзросту. Гэта Лявон сам вызначыў.— Што маўчыш?

Каландзейчык не можа зразумець, жартуе Лявон ці гаворыць сур'ёзна. На твары ж усмешкі няма.

— Прыгожая...

— Тады пусці яе са мною ў кіно,— пазяхае Лявон.

І зноў рогат. Аднак Цімох не крыўдуе, ён прывык да гэтых жартаў. І грузчыкі, якія даўно працуюць на станцыі, таксама прызвычаіліся. Гэта для маладых хлопцаў Цімох — жывая камедыя. Тым больш што яго можна не баяцца. Ён заняпалы і ростам не выйшаў.

Жонку Цімоха грузчыкі неяк бачылі. Ён як затурканае кацяня побач з ёй. Відаць было, што яна гаспадар у хаце, а ён — куды пашлюць.

Цімох адышоў ад кранаўшчыка і прыхіліўся да сцяны склада. Пад нагамі ў маленькай лужыне плыла маленькая кузюрка. Ля бота спынілася, смешна паварушыла вусамі, нібы прынюхалася. На Цімохавым твары ўзнікла штосьці падобнае на ўсмешку. «Бач, думае... А пра што?..» Ён прыгадаў, як некалі ўжо бачыў такую кузюрку. І тады ў яго з'явілася думка, што яна сваімі вусамі нагадвае Лявона Собаля. Нешта блізкае ёсць. Цімох усміхнуўся і вырашыў, што ён з Лявонам разлічыўся за яго жарт.

Ён пастаяў яшчэ крыху каля лужыны і вярнуўся да Кіжэўскага, які ляжаў па-ранейшаму на каптане і гля-

дзеў у неба. Цімох уздыхнуў, потым кашлянуў і паціху прылёг.

Горш за ўсё, калі чалавек без работы. І чаго сядзіць на сонцы, сам не ведае. Вагонаў не прыгналі, і невядома, будуць ці не. Хоць, пэўна ж, прыйдуць, але калі — ніхто не можа сказаць пакуль. Мо таму ў галаве ўсялякія думкі, нішто ім не перашкаджае. Пагаманіць бы з Кіжэўскім, пра тое-сёе спытаць, ды няёмка, бо, мусіць, заснуў чалавек.

— М-да...— Нешта неспакойна на душы, адкрыць бы яе каму-небудзь, ды як?

— І то праўда, чаму гэта неба блакітнае, а трава зялёная? — раптам чуе Цімох голас Кіжэўскага.— Нідзе пра гэта я не чытаў.

Галавы ён не павярнуў і нібыта спіць, а вочы не заплюшчаны. Цімох нахіляецца да Кіжэўскага.

— Каландзейчык! — кліча брыгадзір Мінька Кавалец.— Ідзі сюды, ёсць работа.

Усім работы няма, а яму знайшоў. Цімох разамлеў на сонцы, боты — нібы кайданы на нагах. Зняць бы іх ды пайсці басаногж па волкай траўцы. Нельга, вунь ужо гукае Кавалец.

Цімох падыходзіць да брыгадзіра і чакае, што яму загадаюць. Вочы ў яго, нібы ў цяляці. Глядзіць спакойна і ласкава. Ніколі не чуў Мінька ад яго злоснага слова, не было, каб не зрабіў, што яму сказана. І гэта нервуе брыгадзіра. Здаецца, Цімох хітруе, хоча ён абвесці начальства вакол пальца. «Мо ў яго не хапае шарыкаў-ролікаў у галаве?» — каторы раз прыкінуў брыгадзір.

У Цімоха, як звычайна, твар у шэрым, нібыта высахлы мох, шчацінні. У руках кепачка з гузікам.

— Ты гэта...— брыгадзір забыўся, чаго клікаў грузчыка, і не можа ўспомніць. Збілі яго з панталыку вочы Цімоха.

— Вось што,— Кавалец бачыць усю сваю брыгаду, якая па невядома чыёй віне б'е лынды. Можна замест Каландзейчыка паслаць каго-небудзь іншага, але навошта. Чым ён лепшы за астатніх, да ўсіх трэба аднолькавым быць. Інакш зусім сапсуецца.

Цімох перастунае з нагі на нагу, чакае. Брыгадзір хоча скончыць нарэшце сваё тлумачэнне, але яго перабівае грузчык:

— І чаго гэта неба блакітнае, а не жоўтае? — ён з сумам пазірае на Кавальца. Той няўцямна глядзіць на неба, пасля на Цімоха.

— Бяры шуфель і адкідай гравій ад палатна. І хуценька! — па высокай ноце канчае брыгадзір. Даканае Каландзейчык сваімі «чаму», «навошта». Колькі яны разам працуюць, а ніяк не прывыкне Кавалец да гэтых пытанняў, дый да самога Цімоха. Часам нібыта шкада яго, а калінікалі і злосць бярэ.

Цімох выбраў шуфель з кароткім тронкам. Якраз па свайму росту. Гравію многа, і набіраць на рыдлёўку не надта зручна. Але Цімох працуе, адрабляе зарплату, а іншыя грузчыкі сядзяць. Яны лаюць начальства, брыгадзіра. Калі бываюць прастоі, усе не ў гуморы.

Ззаду нехта ідзе. Цімох узнімае ад зямлі вочы: Кіжэўскі з шуфлем, а за ім — брыгадзір.

Яны працуюць моўчкі. Кіжэўскаму хутка на пенсію, але ён дужы як вол. Здаецца, і стомы не адчувае, толькі лысіна ў кропельках поту.

Цімох паважае Кіжэўскага, бо той ледзьве не ўсю Еўропу прайшоў і многа цікавага пабачыў.

— Дзядзька, а ў Германіі неба блакітнае? — Цімох кладзе шуфель на гравій і садзіцца на тронак. Так не мулка.

— Такое ж, брат.— Кіжэўскі спрабуе падхапіць на рыдлёўку камень і не можа. Гэта яго злуе, ён незадаволена буркае: — Яны што, паны? Языком малоць — не дровы калоць. Нам больш за ўсіх трэба?

Брыгадзір нібы чакаў гэтага і адразу гукае грузчыкам, якія ля платформы гуляюць у карты:

— Э-гей, начальнікі, збоку чайнікі!

Марудна, але падыходзяць усе, акрамя кранаўшчыка Стасіка. Хлопец ён неблагі, і таму дазваляецца яму шмат. Дый калі ўзважыць, то Стасік ледзь не галоўная фігура. Без крана не заробіш, і план згарыць.

— Калі робіш у купе, не баліць у пупе. Га, Цімох? — Стасік ажно заліваецца смехам. Цімох набірае паўнюткі шуфель гравію і раз, і раз... Адкуль, здаецца, сіла ў гэтых худых, па-жаночы маленькіх руках.

Вечарам захварэў яго сынок Паўлік. І Цімох думае, ці прыходзіла ўрач ды як там жонка. Хлопец увесь гарачы быў ад тэмпературы.

І чаму столькі хвароб на чалавека? Паўлік яшчэ нічога кепскага не зрабіў, навошта ж яму быць хворым. Шкадуе Цімох, што блага вучыўся ў школе. Мог бы стаць урачом. Тады б яго сын заўсёды быў здаровы.

Гравію ўжо зусім мала. Яшчэ з дзесятак хвілін — і ра-

бота скончана. У гэты момант ад станцыі нехта закрычаў. Па чырвонай шапцы пазнаюць дзяжурнага. Грузчыкі прыслухоўваюцца, ды разабраць не могуць.

Брыгадзір бярэ шуфель і ідзе да станцыі. Пэўна ж, нейкую работу ім знайшлі. Паўдня прастаялі, а цяпер мо прыйдзецца працаваць дацямна. У гэтым сэнсе грузчыкам на станцыі блага, але як на Цімохаў розум, дык і нічога. Лепш, чымсь у якім магазіне альбо на фабрыцы. Што ні дзень, то ўсё нешта новае, цікавае вязуць у вагонах. Ніколі ў жыцці не ўбачыў бы столькі, калі б не працаваў на станцыі. Надрасце сынок, і тады Цімох раскажа яму пра гэта.

З роздуму выводзіць Кіжэўскі, цягне за рукаў. І Цімох усміхаецца яму, некуды шыбуе следам за брыгадай. Ён не пытае, чаго іх паклікалі, а думае, як вечарам парадуе Паўліка, які вельмі любіць розных звяроў, птушак... У кожнай кніжцы шукае іх на малюнках.

Цімох, калі ішоў на работу, прачытаў на магазіне афішу. У іхні гарадок прыехаў цырк. Яны з Паўлікам купяць білеты, і хлопчык убачыць жывых звяроў. Во будзе радасці! Абы толькі сынок хутка паправіўся. Цімох думае, як з сынам прыйдуць у цырк, будуць есці марожанае, а зусім побач — тыгр, мядзведзь, слон...

Брыгада спыняецца насупраць вадакачкі. На пяты ад перона пуць, дзе эстакада, запоўз таварняк. Мінька Кавалец, узбуджаны, бегае ўздоўж саставу, лаецца са Стасікам, які хоча кран паставіць па-свойму. Гэта не ўпершыню, і ўсе прывыклі, што Стасік спачатку абавязкова сварыцца з брыгадзірам, а потым выконвае яго загады.

Яны пачынаюць з новага, яшчэ не пашарпанага вагона. Кіжэўскі ломам адчыняе дзверы. Усярэдзіне доўгія вузкаватыя скрынкі. Цімоху цікава, што ў іх. Але як паглядзіш, калі дошкі прыбіты шчыльна адна да адной.

Яны з Кіжэўскім мацуюць трос да скрынак, а Стасік кранам цягне іх на эстакаду. Цімох заўважае на падлозе нешта чырвонае. Гэта папера і, мабыць, са скрынак. На ёй не па-нашаму напісана. Цімох доўга мыляе губамі, спрабуючы прачытаць, і работа спыняецца.

— Бе-ке-р,— памагае яму Кіжэўскі.

— Што такое Бе-ке-р? — з усіх бакоў аглядае скрынку Цімох.

— А-а! — прыгадвае Кіжэўскі з далёкіх ваенных гадоў.— Гэта нямецкая раяля.

Цімох нібы зачараваны, толькі не ўсё яму зразумела. «Чаму Бекер, а не які Ганс ці Карл?..»

— Ох, ох, Цімох, сівы мох! — скаліць зубы Стасік.— Не спі ў шапку, бо забяру Галку.

Цімохаву жонку зваць Галінай. І Стасік ведае гэта, але ж яму абы-якое слова на язык — перакладзе на свой лад. Відаць, ён проста шчаслівы, калі скажа Цімоху нешта накшталт гэтага: «Цімонік, дзе твой гармонік? Цімох абламаў рог...» Цімох не звяртае ўвагі на Стасікавы жарты ды на Лявона Собаля. Няхай ім будзе добра.

У наступным вагоне мэбля: шафы, ложкі.

— Гэта пасля,— спыняе іх з Кіжэўскім брыгадзір.— За мной!

Яны ідуць да платформ, ля якіх стаяць машыны з прычэпамі. У кабінках кураць шафёры, перамаўляючыся між сабой. Адзін з іх звяртаецца да Цімоха:

— Дзядзька, мо трохі шпарчэй?!.

— Ведаеш, што хутка робяць? — здзекліва гаворыць Лявон Собаль і аб'яўляе: — Перакур!

Цімох не курыць, і ён не стаміўся, але не супраць перадыхнуць. Пад'язджае на кране Стасік.

Пакрысе ўзнікае размова паміж грузчыкамі і шафёрамі. Пачынае Лявон Собаль.

— Ну, што возім?

Шафёр махае галавой, тушыць цыгарэту.

— Ат, клеткі для цырка.

— Як? — здзіўляецца Лявон, а з ім і Цімох.

— А вось! — паказвае шафёр на платформу. І тады грузчыкі заўважаюць надпіс буйнымі літарамі: «Цырк!!! Тыгры!!!»

У душы Цімоха шчымлівае пачуццё, нібыта ён сустрэў праз доўгі час сястру альбо брата. Гэтыя клеткі ён пакажа Паўліку, калі яны пойдуць у цырк. Яны такія незвычайныя, нават прыгожыя...

Цімох узлез на платформу з шырокай клеткай. Халоднае жалеза прутоў прыемнае для далоні. «Як моцна зроблена»,— думае Цімох і ўскараскваецца на верх клеткі. На імгненне ўяўляецца, што там усярэдзіне забурчаў нейкі звер. Яму, напэўна ж, кепска ў клетцы. Цімох пагледзеў навокал: сады ў белай квецені, трава зялёная, вымытая ўчарашнім дажджом. Неба не страціла свайго цудоўнага колеру, які любіць Цімох. І яму стала шкада звяроў, якім будзе самотна ў гэтых клетках.

— Цімох, артыст, далібог, малпа, сівы мох! — рагатаў

Стасік.— Што, атрымаў квітанцыю? Хі-ха-ха... Добрая клетка!

Цімох усміхаўся, прыкрываючы рукою шчарбаты рот. Настаяў наверсе і скочыў на платформу. Якраз Стасік падаў тросы. Брыгадзір скамандаваў: «Віра!» Стасік уключыў рухавік крана, страла задрыжала, а клетка ні з месца.

— Каландзейчык, што такое? — выгукнуў брыгадзір.— Паглядзі.

Цімох праверыў, нібыта нічога не трымала клетку. Тады ён адчыніў дзверцы і ўвайшоў усярэдзіну. Паглядзеў і знайшоў дзве скабы.

— Ёсць! — сказаў ён Собалю і за якіх пяць хвілін зняў іх. І толькі зрабіў крок, як адчуў, што падае. Паспеў схапіцца рукою за пруток, але не змікіціў, што адбылося.

Клетка, а з ёю і Цімох, памалу ўзнімалася ўгору. Ён кінуўся да дзверцаў, каб выскачыць, але яны не паддаліся яму. Замахаў рукамі, закрычаў. Цяпер ён мог пацвердзіць, што звярам самотна ў клетцы. Здалося, што сэрца выскачыць з цела. Было відаць праз шкло кабінкі, як смяецца Стасік.

І навокал стаяў такі рогат, што яго пачулі, мусіць, і на станцыі. Упаў на зямлю Лявон Собаль, трымаўся за жывот Кіжэўскі. У брыгадзіра ажно слёзы былі на вачах ад смеху.

Неспадзявана матор закашляўся і заглух, быццам сапсаваўся. Клетка з Цімохам паволына калыхалася на вышыні трох метраў. І не было паратунку. Дзверцы былі на замку. Між прутамі не праціснуцца, не пралезці. А ўнізе толькі бліпчаць зубы і смех, рогат...

Лявон Собаль знайшоў у кішэні цукерку — засталася ад закусі. З жартам кінуў Цімоху.

— Паласуйся цукерачкай і пакажы нам што-небудзь! Хі-хі-хі...

Стасік з кабінкі прынёс кавалак хлеба і — туды ж, Цімоху. Ну, усё роўна як мядзведзю ці тыгру. Во забава! Такога яшчэ не было.

А смех спакваля ападаў, нібы мячык, з якога выпусцілі паветра. І чамусьці ўсім здалося, што надзвычай трывожна і рэзка прасігналіў цягнік ля станцыі.

Калі заціх удалечыні грукат цягніка, нечакана зверху пачуўся не шэпт, не крык, а штосьці ўвогуле незразумелае, нейкае ўсхліпванне. Гэта Цімох згорбіўся ў кутку клеткі, і яго вузкія плечы трэсліся не так, як ва ўсіх пры

плачы, яны ўскідваліся, нібыта ўнутры быў поршань. Кудлатая без кепачкі галава нахілена набок, твар мокры ад слёз. Бездапаможны і слабы чалавек сядзеў перад дужымі, упэўненымі грузчыкамі. Яны разгубіліся.

А ён не хацеў, каб падумалі, нібыта ён плача, праз слёзы таксама смяяўся. Ды ўсё-ткі яму было не важна, што скажуць гэтыя людзі. Цімох спалохаўся, што даведаецца Паўлік, як ён сядзеў у клетцы, і будзе саромецца перад сваімі сябрукамі. І жонка дарэшты задзяўбе. «Чым я вінаваты? Што зрабіў кепскага Стасіку? І навошта я на гэты свет нарадзіўся?»

Потым Цімох супакоіўся і падумаў, што тыгру ў гэтай клетцы не так ужо і кепска жыць. Ён на халяву, як кажуць Стасік і Лявон Собаль, п'е і есць, нічога не баіцца. А што краты — прывыкнуць можна. Амаль тое самае, што цыгарэты і гарэлка.

Аднак не хацеў бы ён быць тыграм, не хацеў бы і гэтай дарэмшчыны: цукерак і булак. Каму гэта трэба? Цімох заплюшчыў вочы і ўсім целам з сілаю прыціснуўся да прутоў. Яны трымцелі, нібыта чагосьці чакалі.

Тым часам Кіжэўскі, які ажно збялеў, падбег да Стасіка і штурхнуў яго ў кабінку. Дзіўна, але кранаўшчык і не агрызнуўся. Ліхаманкава пачаў заводзіць матор, які стагнаў, крактаў і не ўключаўся.

— Ты ш-што! — закрычаў Кіжэўскі. Стасік, палахліва азіраючыся, тое-сёе павярнуў, і кран запрацаваў. Клетку ён апусціў не на прычэп машыны, а на зямлю.

— Н-не ма-гу...— у Стасіка калаціліся рукі.

...Работу брыгада закончыла позна ноччу. І нібыта ўсім адняло мову: разышліся без слоў. Стасік не сказаў на развітанне, як рабіў амаль штодзень: «Цімох, не згубі свой рог!..» Быццам язык праглынуў. Грузчыкі хавалі адзін ад аднаго вочы.

А Цімоху не хацелася дахаты, хоць там быў хворы Паўлік. Ён, магчыма, чакаў бацьку, бо ніколі не лажыўся без яго спаць. Цімох ішоў па цёмнай вулачцы і стагнаў. Балела галава: як цяпер ён пойдзе з сынам у цырк? Неба ж над ім было ўжо не блакітнае, а як смала. І травы не відаць. Хоць чуваць, як яна моцна пахне.

## Белы грыб

У пятніцу вечарам нечакана зайшоў да мяне Гурскі: «Давай з'ездзім па грыбы. Да маёй вёскі недалёка. Там лясок ёсць — грыбоў! Хоць касой касі».

Я павагаўся крыху: сын быў у бальніцы, пасля аперацыі, і трэба было наведаць яго. Жонка штурхнула локцем, маўляў, едзь.

І вось раніцай на «Жыгулях» Гурскага, якія блішчаць новенькай фарбай, мы імчым у бок Лагойска. Да нас падсеў яшчэ адзін сусед з першага паверха. Я рэдка калі бачыў яго цвярозым, і сядзець з ім побач у машыне мне не зусім прыемна. Гурскаму, мусіць, не хацелася браць яго з сабою. Але гэты сусед толькі спытаў: «Па грыбы?» — і, не чакаючы адказу, сеў побач са мною.

Дарога збліжае людзей. Аднак прысутнасць трэцяга ў машыне стрымлівае Гурскага. Ён безупынна курыць. Маўчу і я.

Сусед з першага паверха заснуў. Ад яго моцна пахла перагарам, і я адчыніў акенца. Свежае ранішняе паветра імгненна запоўніла машыну. Мне стала так добра, што захацелася спяваць. «Як цудоўна, што паехаў па грыбы»,— думаў я.

Абапал дарогі бег высокі сасняк. Часам выскаквала з гушчару прыгажуня-бяроза. І здавалася, што яна махае нам услед сваімі галінкамі.

— Трэба раней было выехаць,— сказаў Гурскі.— гэтага б не было,— ён хітнуў галавою на майго суседа.

— Сапраўды... Як яго зваць?

— Мусіць, Паўлам ці мо не... Не, Павел. Ён летась рамантаваў краны ў ванне і на кухні. Няёмка цяпер было адмовіць. Грошай за работу не ўзяў.

— Дзе ён працуе? — я спытаў, каб падтрымаць размову. Мне хацелася выскачыць басаНОж з машыны і, закасаўшы нагавіцы, пабегчы па расе, адчуць холад волкай травы. Я не разабраў, што сказаў Гурскі. Дый ці так гэта важна мне — дзе і што робіць сусед Павел. Яго рукі, шырокія, з тоўстымі пальцамі, былі ў мазалях, цёмныя ад машыннага масла.

— Далёка яшчэ?

— Дзесяць кіламетраў. Пасля завернем направа, праедзем вёску, і там будзе наш лясок.— Гурскі нахіліўся да мяне.— Я ж родам з гэтых мясцін.

Як ён і гаварыў, мы хутка з'ехалі з асфальту і павярнулі да вёсачкі, якая стаяла ля таго самага ляска, куды нас вёз Гурскі. Дарога — пясок і выбоіны.

— Калі парэшце мае землякі зробяць дарогу? — сказаў Гурскі. Машына ішла цяжка, пакідаючы за сабой слуп дыму.

У вёску мы не заехалі, а абагнулі яе з правага боку і вузенькай сцежкай па нейчым поплаве выскачылі да лесу. За першымі ж дрэвамі спыніліся. Павел адразу прачнуўся, дастаў з сумкі бутэльку кефіру і нагбом выпіў.

— Грыбы самі палезуць у сумку,— ён зарагатаў і штурхнуў мяне ў плячо.— Давай, хто больш назбірае?..

Я зморшчыўся ад яго прапановы. Тым болей што сімпатыі Павел у мяне не выклікаў. Непаголены твар, рыжыя, як медзь, валасы на галаве, руках.

Гурскі скептычна агледзеў Паўла і хмыкнуў.

— Ты і збіраць не ўмееш. Павучыся спачатку.

— Я? Ну паглядзім!

Лес быў падобны на маё Падверб'е. Спярша, нібы на зрэбным палатне, на шэрым пяску раслі крываватыя сосны. Трошачкі збоку ад балота, на якім трава была ўжо скошана, купкамі стаяў алешнік. Падумалася, што недзе за балотам — рэчка. Калісьці так было каля маёй вёскі... Праехаў амаль усю Беларусь і быў у многіх вёсках, і мне яны здаваліся падобнымі на вёску, дзе нарадзіліся мае бацькі, браты, сёстры і дзе я ўпершыню ўбачыў сонца, лес, раку, неба, зямлю. Усюды мяне сустракалі сасна і бяроза, ліпа і клён. А за вёскай быў апошні людскі прытулак — могліцы...

Я прайшоў пясчаны ўчастак лесу, і нага мякка ступіла на верас. Сасна ўжо была як карабельная мачта, роўненькая, дужая. Па кары там-сям паўзлі ўзгорачкі цёмна-жоўтай смалы-жывіцы.

Зніклі ў гушчары Гурскі і Павел. Мабыць, удача іх напаткала, бо абодва адгукнуліся дружна. У маім кошыку пакуль не было нават маленькай лісічкі альбо сыраежкі. Шчыра кажучы, я ніколі не прыносіў многа грыбоў. Мне хораша ад таго, што я ў лесе.

Праз некалькі крокаў пад ярка-зялёным маладым ядлоўцам я заўважыў грыба. Нібыта баючыся, што мяне нехта апярэдзіць, падбегам рушыў да куста — і ледзь не заскакаў ад радасці. Быццам вітаючы мяне, з травы прыўзняў сваю круглую і гладкую шапачку белы грыб. Колькі ганарлівасці і ўпэўненасці было ў ім!

Я адгарнуў ад грыба траву і асцярожна каля самай зямлі перарэзаў сцізорыкам яму ножку. Ай-яй-яй! Знешне такі здаровы і магутны, а ўсярэдзіне — чарвівы. Мабыць, шапка чыстая — і я грыб распалавініў. Аднак скрозь былі чорныя кропкі.

Я хацеў выкінуць грыб, але чамусьці палажыў яго ў кошык. Надта ўжо ён быў ядраны.

За ядлоўцам мяне сустрэла цэлая сям'я лісічак — адна ў адну. Я павесялеў. Чым далей, тым больш грыбоў. Сыраежкі праз кожны крок, падняў купку рыжыкаў. А ў грудзях надзея: павінен быць белы грыб, ці, як гавораць у нашых мясцінах, праўдзівы. Гэта, значыцца, сапраўдны.

Гурскага і Паўла не чуваць. Я закрычаў, і мне лес вярнуў мой голас.

Удалечыні пасвятлела. Я перайшоў круты ўзгорачак, парослы чэзлым асіннікам, мінуў перасохлую балацявіну і недзе праз крокаў дзвесце апынуўся на неширокай лясной дарозе. Па ёй, відаць, рэдка ездзілі. Высокім шчацінием буяла крышачку прыпаленая сонцам трава. Слядоў ад машыны не было. На сярэдзіне дарогі трава прыціснулася дзвюма вузкімі пасачкамі. Мабыць, праехалі калёсы.

«Э-гэ-гэй!» Ад майго крыку са старой сасны з крывымі галінамі, заляпаўшы крыламі, узляцела нейкая птушка.

— Заблудзіўся, паважаны?

Пад дрэвам недалёка ад мяне сядзеў Гурскі. Я ўзрадаваўся, што знайшоў сваіх таварышаў. Кошык у Гурскага быў паўнюсенькі. Дый якіх грыбоў, не маіх лісічак і сыраежак! Белыя і асавікі-падасінавікі, нібы блізняты. Я толькі і прамовіў:

— Во, гэта грыбнік!

Гурскі стомлена ўсміхнуўся. Пашараваў ножыкам халявы ботаў.

— Я ж тут вырас. Кожны куст знаёмы.

— Дзе Павел?

— Вунь сядзіць,— паказаў мне цераз дарогу Гурскі. У Паўла было грыбоў не менш, чымсь у яго. Але я не засмуціўся. Колькі ёсць — хопіць.

— Куды гэта дарога?

— Куды?..— Гурскі зрабіў паўзу.— У тым баку вёска, а за паваротнай — могліцы... Мае бацькі на іх пахаваны...

Ён трымаў у руцэ магутнага асавіка з шырокай рудаватай шапкай.

— Прыгажун! А гэты? — ён узяў з кошыка белага грыба.

— Пойдзем? — нерашуча прапанаваў я.
— Навошта?.. Нічога цікавага...
— Чаму ж не? — я стаяў на сваім.
— Што ж...— Гурскі неяк занадта ўважліва паглядзеў на мяне.

Мы паціху пайшлі па дарозе да паваротки. Дарога скончылася раптоўна. Перад намі ўзнік даволі высокі плот, зроблены з новых дошак. Слупы былі бетонныя. Паўз плот раслі кусты, а далей углыб — сівыя сосны.

Гэта былі звычайныя вясковыя могілкі з драўлянымі крыжамі, без багатых мармуровых помнікаў. Каля іх ляжалі кветкі, вянкі. На ўскрайку пад старой замшэлай сасной узвышаўся чорны агромністы крыж, на якім па-стараславянску было напісана прозвішча і гады нараджэння і смерці чалавека. Магіла была дагледжаная, і на ёй ляжаў букецік васількоў.

— Гляньце! — паклікаў я Гурскага і Паўла.
— Дзіўна... 1820 год.
— Тут пахаваны нейкі князь ці граф, што супраць цара ваяваў.— Гурскі нахіліўся да крыжа, спрабуючы прачытаць надпіс.— Пра гэта мне яшчэ дзед расказваў. Гар... скі. Нельга зразумець.
— А дзе твае бацькі ляжаць? — спытаўся Павел.
— Штосьці не відно... Зарасло ўсё,— трохі разгублена сказаў Гурскі.— Праўда, гады тры-чатыры прайшло, як пахаваў... Не было часу прыехаць. Ну нічога. Потым...

Што ж, хай будзе потым. Я ішоў, і было адчуванне, нібы ззаду стаялі не крыжы, а людзі і глядзелі нам услед.

Смутак апанаваў мяне. Прыгажосць, якая хвіліну назад радавала маю душу, некуды знікла. Вакол глуха шумеў цёмны і насцярожаны лес. На сонца набеглі хмары, яно, нібы ратуючыся ад іх, заскакала.

Гурскі зняў з галавы капялюш і лёгенька памахваў ім. Павел курыў. Дым пахнуў рэзка і нясцерпна.

— У водпуск пайду, помнік пастаўлю.— Гурскі падняў сыраежку. Яна была, напэўна, чарвівая, таму што ён не ўзяў яе.
— Куды яго паставіш? — Павел нешта ўбачыў таксама, нахіліўся да зямлі.
— Як гэта? Гародзіць нейкі агарод,— нервова пацiснуў плячыма Гурскі.
— Ну дык куды паставіш? — усміхаўся Павел.
— Знайду! — выгукнуў Гурскі.
— Ну-ну...

Памаўчалі.

— Каб твой бацька гэта чуў, мусіць, падняўся б з зямлі.

— Ты б язык свой прытрымаў.

— Далё-ё-ка пойдзеш! — не сунімаўся Павел.— Мабыць, ніхто не ведае, што ты не варты бота.

— Не вельмі тут... Распусціў язык!

— Пэўна, інтэлігент, машыну купіў — за бацькавы грошы. Цьфу! — Павел вылаяўся, а затым коратка кінуў: — Паскуднік ты! Вось што.

— П'янчужка! За абразу здам першаму ж міліцыянеру. Сведка ёсць.

— Хопіць! — я спрабаваў пamірыць суседзяў. Яны не слухалі мяне, сварыліся да самай машыны. Я вырашыў — што будзе. Хоць, з другога боку, Гурскі мой начальнік. Дый жывём у адным доме...

— Я лепш прайду пехатой сорак кіламетраў, чым сяду з табой у машыну.— Павел забраў з «Жыгулёў» свой пінжак, нагою зачыніў дзверцы і пайшоў прэч ад нас.

Гурскі крыкнуў яму наўздагон нешта бруднае і злоснае. Я адчуваў сябе так, нібы толькі што выскачыў са сцюдзёнай вады.

Павел хутка знік за вёскай. У вёсцы хадзілі людзі. Мужчына на поплаве касіў траву. На хляве заляпаў крыламі бусел і пераляцеў на хату.

— Паехалі! — Гурскі надзеў скураны пінжак, джынсы, брудную вопратку палажыў у багажнік. Я сеў на заднюю сядзенне і кошык паставіў сабе на калені.

Паўла мы дагналі за вёскай. У яго твар быў чырвоны і мокры ад поту. Гурскі прытармазіў і адкрыў дзверцы. Але Павел прайшоў міма.

— Бач,— колькі пыхі! — сказаў Гурскі.— Хай паб'е ногі... Толькі... нікому не гаварыце пра гэта. Вы нічога не бачылі і не чулі. Добра?

Я махнуў у знак згоды галавою, і ён супакоіўся. Пачаў расказваць анекдот пра маладых вучоных і прафесара.

Я ўзяў з кошыка жменю лісічак. Невялічкія, простыя грыбы. Мой сябра, які напісаў кнігу пра грыбы, гаварыў мне не раз, што зусім кепскіх грыбоў няма. Прырода ўсе грыбы стварыла нездарма.

Я ўспомніў пра белага грыба, што ляжаў на дне кошыка. Сапраўды, ён быў прыгожы і знешне здаровы, ядраны, таму я і не выкінуў.

За гэты час, што я блукаў па лесе, чорных кропак на

грыбе з'явілася больш. Шкада, але ад яго могуць зачарвівець і сыраежкі. Навошта мне такі грыб? Я кінуў яго на дарогу, і ён разляцеўся на гнілыя кавалачкі. Усё, што засталося ад майго прыгажуна. І мне раптам стала непрыемна. Я падумаў: няўжо я, які пражыў нямала на гэтым свеце і быў заўсёды прынцыповы, адкрыты (ці так мне здавалася?), горшы за Паўла? Дагэтуль я не лічыў яго ўвогуле за сур'ёзнага чалавека.

Перада мной пакалыхвалася шырокая скураная спіна. Машына стрымгалоў імчала мяне, падпарадкаваўшы маю волю.

## Вегетарыянец

На вуліцы ішоў зацяжны дождж. Сад пацямнеў ад вады. Было сонна ад нуднага пастуквання дажджу, ад таго, што рукі без работы.

Антось Гіжук, па мянушцы Зацірка, якая перайшла яму яшчэ ад дзеда, сядзеў за сталом. Рознае лезла ў галаву, але ўсё нейкае абрывістае, камякаватае і шэрае, як гэты дзень.

Антось — мужчына высокі і плячысты, пад дзевяноста кілаграмаў. Як кажуць, кроў з малаком. Ён на зерняскладзе кладаўшчык. Работа не цяжкая, але адказная. Не кожнаму яе даручаць.

...Сумна ў хаце, а дажджу канца няма... З-за яго нічога не зробіш, нават камбайны пасталі. Глянуў Антось газету. Па тэлевізійнай праграме якраз «Відавочнае — неверагоднае». Спадабалася яму гэта перадача.

Уключыў Антось тэлевізар. Загучала музыка, на экране паплылі горы з шапкамі снегу, сіняе-сіняе, усё роўна як штучнае, неба. І на гары пад шатрыстым дрэвам стаяла жанчына ў чорнай сукенцы і чорнай хустцы, а вакол яе быў натоўп дзяцей, мужчын і жанчын, дзяўчат і юнакоў. «Мае дзеці, унукі, праўнукі, прапраўнукі...» — прамовіла яна весела і раскінула рукі, нібы спрабуючы абняць іх усіх. Пасля жанчыны нехта нябачны для Антося сказаў: «...Ёй больш за сто трыццаць гадоў...»

Жанчына была зусім звычайная на выгляд, нечым падобная на суседку, Насцю Тытусіху. Дык Насці было пад семдзесят...

— Чуеш, што кажуць? — паклікаў Антось жонку з кухні.— Вунь той жанчыне ў чорным — сто трыццаць гадоў.

— Не можа быць...

Яны пачалі далей слухаць разам. Прыгожы малады чалавек, якога назвалі доктарам навук, дапытваўся ў жанчыны, што яна ела і піла гэтыя гады. Пасля ён доўга тлумачыў гледачам, як пражыць сто і болей гадоў. З гэтага ўсяго Антось мала зразумеў, надта разумныя былі словы. Праўда, сэнс слова «вегетарыянства» ён збольшага ведаў і тое-сёе паспеў запісаць у сшытак.

Было чутно праз прыадчыненае акно, як журчыць на двары вада, і, нібы перамаўляючыся між сабой, шумяць дрэвы ў садзе. А ў вачах стаяла тая жанчына ў чорным, высокія горы і мноства людзей...

— Мо сходзіш па хлеб?— спытала жонка.

— Ідзі сама,— сказаў Антось.— Дай падумаць.

Што ж, калі чалавек хоча падумаць, хай думае. Жонка паціснула плячамі і пайшла ў магазін. Антось прылёг на ложак. У хаце сцямнела, нібы вечарам. Раптам усё, што ён да гэтага рабіў, здалося такім нікчэмным, хоць плач. Яму пад шэсцьдзесят ужо. Ну, колькі засталося раніц альбо вечароў, колькі разоў ён яшчэ пройдзе па сваёй вуліцы, прыме ад шафёраў збажыну ў склад? Дзесяць — ад сілы пятнаццаць гадоў. Чаму ж Антосю Гіжуку не пажыць сто ці сто дзесяць? Каму ад гэтага будзе кепска? «Бач, жанчына якая вясёлая, і зубы ў яе нібыта ўсе... Пашанцавала чалавеку дык пашанцавала!»

Ад гэтых думак Антось ускочыў з ложка, захадзіў па хаце. Кепска, што не запісаў усё. Мабыць, нейкая парада вучонага і яму не пашкодзіла б... Ці блага было б, калі б людзі жылі да ста гадоў?

Антось падышоў да акна, высунуў галаву на двор. Твар імгненна стаў мокры. Ад халоднай вады па ўсім целе пайшлі дрыжыкі. Антось накінуў на сябе ватоўку, выцер твар ручніком і прысеў каля стала. Шыба ў акне была ў мутных пісягах, нібы яе ўвесну жонка не мыла. «Што толькі гэтыя вучоныя робяць, пра што думаюць! Трэба ўжо таблеткі такія: з'еў адну — і цэлы год здаровы». Гэта ж колькі праблем было б вырашана! А калі б жылі да ста гадоў?.. Не шукаў бы людзей у жніво на склад сушыць зерне. Было б іх — як у райцэнтры. На пенсію тады можна ісці ў восемдзесят. Сіла б яшчэ была і здароўе. А як

тэхніка і навука ўгору пайшлі б, думаў Антось, а то разумныя людзі чамусьці доўга не жывуць...

Перачытаў Антось свае запісы і сам адчуў, што ў іх шмат блытаніны. Слова «вегетарыянства», якое ён падкрэсліў, было напісана буйнымі літарамі. У памяці ўсплыло, быццам некалі Антось чуў, што вегетарыянцам быў Напалеон. Але звязана гэта з даўгалеццем ці не — ён не мог успомніць.

Ледзьве дачакаўся Антось сына. Як толькі ўбачыў праз акно, выбег насустрач.

— Ты чытаў што-небудзь пра даўгалецце?

— Навошта яно табе? — здзівіўся Ваня.

— Цікава... Жывуць людзі да ста трыццаці гадоў, а як? Гэта ж не абы-што! Дай мне хоць сто гадоў, і то...

Ваню да ста гадоў было вельмі далёка, і ён хацеў сказаць, што не ведае — гэта кепска ці добра. Ён падумаў, што бацька захварэў, і таму згодна хітнуў галавой.

Вярнулася з магазіна жонка, нешта гаварыла — Антось не чуў яе. Ён зноў спрабаваў успомніць, што казаў вучоны пра даўгалецце. Аднак у галаве ўсё пераблыталася. Антось быў спакойны чалавек, а тут нібы штосьці здарылася: увесь нейкі нервовы, вочы блішчаць.

Жонка хацела спытацца, але пабаялася, бо не бачыла яшчэ мужа такім. Падумала, няхай супакоіцца — тады і даведаюся, што з ім было.

— Вазьмі сшытак і аловак, пойдзеш са мной,— загадаў вечарам Антось сыну.

— Ідзі, не чапай,— накінулася на яго жонка.

— Ат! — адмахнуўся Антось.— Многа ты разумееш.

Бацька ішоў борзда. Ваня спрабаваў не адстаць ад яго. Спыніліся каля хаты, у якой жыў урач участковай бальніцы Павел Васільевіч. Ужо быў добры прыцемак. У хатах запалілі святло.

Антось пастукаў у дзверы, ніхто не адклікаўся. Ён націснуў на клямку. З сенцаў яны трапілі на кухню. Проста ля ўваходу блішчала люстраная шафа. Антось заглядзеўся на яе, падумаўшы, навошта яна тут стаіць.

На кухні сядзела жонка ўрача, настаўніца Ніна Пятроўна. Ваня схаваўся за бацькаву спіну. Паўла Васільевіча тут не было, і Антось крышачку разгубіўся.

— Ваня захварэў? — спыталася Ніна Пятроўна.

— Ды не... мне...— зусім сумеўся Антось.

— Я не разумею,— затурбавалася Ніна Пятроўна і крыкнула: — Павел!

З другога пакоя выйшаў да іх гаспадар, урач Павел Васільевіч, гэткі ж высокі і здаровы, як Антось. Вясёлы быў чалавек, любіў смачна паесці. З Антосем павітаўся за руку.

— Хто хворы?

— Ды не... я...— не мог гаварыць Антось пры ўрачовай жонцы, і Ніна Пятроўна зразумела ягоную ніякаватасць, пакінула іх адных.

— Не саромейся, гавары,— падахвоціў урач Антося.

— Даўгалецце мяне цікавіць, Павел Васільевіч,— сказаў Антось і зірнуў на сына. Ваня падрыхтаваўся пісаць.

— Моцна захварэў, відаць, калі даўгалеццем зацікавіўся.

— Людзі жывуць больш за сто трыццаць гадоў, дык чаму б мне хоць да ста год не пажыць?

— Жыві. Хто табе не дае? — усміхнуўся ўрач.

— Як? — пасунуўся Антось бліжэй да яго, грудзьмі лёг на стол.— Гэта ж усёй дзяржаве такая карысць была б.

— Канечне,— задумаўся ўрач.— Было б някепска... На жаль, нічога вечнага няма, і чалавек не вечны. У кожнага свая мяжа.

— Не трэба вечнага,— перабіў Паўла Васільевіча Антось.— Людзі ж жывуць да ста гадоў. Дай мне гэтыя сто гадоў, і больш нічога не хачу. Зрэшты, вучоныя ёсць, дзяржава ім грошы дае.

— Ну, дае...

— Дык штосьці павінна ж быць! — стукнуў, не стрымаўшыся, кулаком па стале Антось.

— Вучоныя прапануюць рознае...

— Кажыце, што? Пішы акуратна! — сказаў Антось сыну.— Трэба ж некаму і ў нас пачынаць.

— Якія тут рэцэпты дасі? Чорт яго ведае. Жыве чалавек, жыве,— урач успомніў некаторых сваіх пацыентаў, і яму стала неяк не па сабе.

— Вучоны па тэлевізары гаварыў пра даўгалецце,— не адставаў Антось.— Падумайце, колькі можна выратаваць людзей. Гэту работу трэба пачынаць неадкладна. Мабыць, паспрабаваць на адным-двух чалавеках.

— Кажуць, індыйскія ёгі жывуць доўга. Яны мала ядуць. У нас, дарэчы, таксама ёсць лячэбнае галаданне.

— Гэта, мусіць, не тое... Дзе б прачытаць пра вегетарыянства?

Калі Ніна Пятроўна зайшла на кухню, то ўбачыла та-

кую карціну: яе муж з Антосем абклаліся кніжкамі і нешта чыталі, а Ваня запісваў. Ніна Пятроўна не стала ім перашкаджаць.

А дванаццатай гадзіне Павел Васільевіч выйшаў на двор правесці гасцей. Была поўня. Жоўтым святлом заслала, нібы радном, хаты, дрэвы, агароды. Дождж, відаць, даўно перастаў. Вецер заціх, і здавалася, што ўсё адпачывае, як і людзі, ад стомы. Неспадзеўкі пачуўся гул самалёта, падобны на гуд майскага жука. Усе глянулі ўгору і ўбачылі тры зялёныя і два чырвоныя агеньчыкі. Трохі ў баку ад іх засталіся, нібы паходні, зоркі Вялікай Мядзведзіцы. У цішыні і спакоі, якія панавалі вакол і якіх ён не заўважаў, раптам адчуў Антось такую агромністасць і велічнасць, што яму зрабілася страшна. У параўнанні з небам, самалётам і нават са старой ліпай ён быў маленькі і слабы, як жук.

— Трэба ва ўсім рэжым. Нервы будуць спакойныя,— гаварыў Павел Васільевіч.— І не спяшайся, да ста год далёка.

— Кажаш...— ціха сказаў, гледзячы на неба, Антось,— мяса і сала не есці?..

— Чалавеку мяса шкодзіць. Чакай, чакай, зусім забыў. Колькі гадоў дзеду Балабасу з Прадмесця?

— Мабыць, семдзесят будзе,— успомніў Антось рухавага дзеда, які часам памагаў яму на складзе.

— Бяры за дзевяноста. Спытайся ў яго, як ён харчуецца. Мо што і параіць.

— Ат, што ён ведае! — Антось ніколі ўсур'ёз не ўспрымаў дзеда Балабаса.— Ён жа неадукаваны.

— Усё, што будзеш рабіць, запісвай у сшытак. Раптам медыцыне будзе цікава. А ўвогуле — усё гэта даўгалецце, ты не крыўдуй, так... Калі ёсць здароўя на сто гадоў, дык пражывеш, а не... Выкінь лепш з галавы гэта глупства, Антось. Ты і так вунь які здаровы, больш за мяне пражывеш. Пачытай, калі ёсць час, кніжку пра кахание. Успомніш маладосць.

— Не хачу я з табой, Павел Васільевіч, спрачацца. Ты доктар медыцынскіх навук? — узлаваўся Антось і пацягнуў за сабой сына.

— Я — просты вясковы ўрач.

— А той, у тэлевізары, быў доктар медыцынскіх навук,— ужо здалёк крыкнуў Антось урачу.

Назаўтра дзень быў цяжкі. Машыны бясконца везлі на склад збожжа. Спыніліся на хвіліначку, каб паабедаць.

Калгасная паварыха Марыля Апанчук, паўнацелая, у белым чысцюткім халаце, налівала ў міскі духмяную капусту з мясам. І такі смачны пах ішоў ад яе, што мужчыны, напрацаваўшыся з раніцы, бралі па другой порцыі. Антось панюхаў капусту і аддаў суседу.

— Навошта грэбуеш,— усхвалявалася Марыля.— Свежае мяса, чыстая капуста. Ты пакаштуй!

— Адчапіся. Не ем я з мясам.— Антось узяў кус хлеба, пажаваў сухама. Есці моцна хацелася.— З чым у цябе бульба?

— З катлетамі. Я ў іх яйка ўбіла, масла палажыла...

— Дай бульбы без катлеты.

Усе чулі гэту размову. Мужчыны кругам паселі каля Антося і глядзелі на яго, як на дзікуна. Хто ж не ведаў, што Антось Гіжук любіць добра паесці.

— Мо захварэў ці пост у цябе?

— Ды не...

— Навошта ж ты людзям апетыт псуеш? — закрычала ў роспачы Марыля, якая лічыла сябе лепшай паварыхай калгаса.

— Не магу. Адчапіся...

— Як гэта так можна!

— Не ем я мяса і сала,— не вытрымаў Антось.— Вегетарыянец я!

— Што? — вырачыла Марыля ад здзіўлення вочы. І стала ціха, нібы мову ва ўсіх адняло.— Што? — паўтарыла Марыля.— Дык ты ў нейкую секту ўступіў? Сектант. Дайшоў да ручкі чалавек!

— Які сектант?

Антосевы памочнікі глядзелі на яго з падазронасцю. Нічога не заставалася, як расказаць ім пра вегетарыянства і даўгалецце. Слухалі яго расказ, як дзеці казку.

— Сто, а то і сто трыццаць гадоў?.. М-да...

— Нельга есці мяса і сала. А што можна?..

— Малако, рыбу, гародніну,— раіў Антось.

Мабыць, з таго часу ў Антося стала двайная мянушка. Да дзедавай Заціркі прыляпілі ягоную — Вегетарыянец. І Ваню, Антосевага сына, пачалі зваць Вегетарыянцавым сынам.

Стомлены прыйшоў Антось пасля работы дамоў. Як сеў на табурэтку, ледзь не заснуў. Ачнуўся ад штуршка. Жонка падсунула Антосю бліжэй талерку са смажанай курыцай.

— Забяры, не псуй настрою!

— Здурэў на старасці,— заплакала жонка.

— Што ты разумееш? Я думаю пра будучых нашых унукаў, пра цябе, Ваню. А мо вызначу, што ёсць у нас сіла пражыць больш за сто год. Гэта ж будзе... будзе... Эх, не разумееш ты мяне!

Тое-сёе перакусіў Антось, і яны з сынам зашыліся ў камору. Ваня падрыхтаваў сшытак, каб запісваць. Пачалі ўспамінаць, хто што еў за дзень. Мяса ніхто з іх не еў, але бацька і сын елі бульбу, якую варылі ў адным чыгуне з ялавічынай.

— Блага гэта, Ваня.

— Чаму?

— Тлушч з вадой і бульбай трапіў у арганізм?

— Ну?

— Гэта лішняя нагрузка на страўнік, сэрца. Так казаў Павел Васільевіч,— уздыхнуў Антось. Рэжыму ў іх яшчэ не было.

— Я есці хачу! — нечакана сказаў Ваня. Быў ён не надта вясёлы. Ледзь пісаў і ўсё азіраўся, прынюхваўся, як кот. Ад кубла, дзе ляжаў свіны кумпяк, так пахла, што ў Антося сутаргава пацягнула жывот.

— Вось такі кавалачак, га? — паказаў на свой мезенец Ваня.

— Нельга. Кожны грам мяса ці сала забірае год жыцця. Запісаў, колькі елі бульбы, хлеба, пілі вады?

— Ну, кавалачак дай! — заныў Ваня і выкарыстаў свой апошні шанц: — Бо не буду з табой вегетарыянцам.

Яны пасядзелі моўчкі, і Антось падумаў, што ягоны сын яшчэ зусім малы. Ён узяў сшытак з рук Вані. Вялікімі літарамі там было напісана: «Мы елі з татам бульбяны суп без скварак. Скваркі аддалі маме. Тата выпіў два кубкі чаю, а я адзін. Тата з'еў употай ад мяне кавалак сала...»

— Калі я еў сала? — пачырванеў Антось і закрыў сшытак.

— Пазаўчора. Там напісана.

Ноччу Антосю не спалася. Ён бясконца курыў, піў ваду. Зноў на небе быў месяц, і ягонае святло падала ў хату. Антось закрыў акно коўдрай, але сон усё роўна не ішоў. Нібы жывая была перад ім жанчына з Каўказа, і голас яе гучаў. Ажно забалела ў скронях.

Антось паціху адзеўся і — да дзвярэй.

— Куды? — жонка за ім сачыла.

— Свежага паветра глыну...

На дварэ галінка не зварухнецца. Цягне ад ракі свежым паветрам. Восень з-за лесу і балота падышла да вёскі.

Антось захінуў ватоўку і подбегам рушыў па вуліцы. Спыніўся каля апошняга двара. Пастаяў, прыслухоўваючыся да ночы, і з'явілася пачуццё нерашучасці. Аднак перамог сябе. Нахіліўся да акна, заглянуў у хату. Цёмна ў ёй, нічога не відаць. Антось стукнуў па шыбе раз-другі. Ніхто не адгукнуўся. «Стук-стук...» Чакаў Антось, чакаў і ўжо хацеў ісці дахаты. Нарэшце пачуўся старэчы голас.

— Адчыні, дзеду, гэта я, Антось Гіжук.

— Адыдзі, бо абязвечу. Напіўся, дык ідзі спаць.

— Мне вельмі трэба! — прасіўся Антось.

Хоць дзед Балабас быў і стары, але ў яго слых яшчэ нішто сабе. Адразу пазнаў ён па голасе кладаўшчыка Антося Гіжука. Толькі хто ведае, чаго ходзіць уночы. Мо п'яны і хату шукае.

Ступіў дзед з дзвярэй у белай кашулі і споднiках. Сустрэў бы яго ў цемры — не вытрымала б сэрца.

— Прабачце, дзеду, што разбудзіў.

— Нічога, нічога,— мякчэў дзед.— Відаць, дапамога спатрэбілася. Са збажыной упарыліся?

— Не. Вам колькі год?

— Дзевяноста шэсць гадоў і восем месяцаў. Навошта гэта табе?

— Вось думаю.— Антось прыхіліўся да плота, каб зручней было стаяць.— Як дажылі да такога ўзросту? Што пілі, елі?

— Хе-хе,— засмяяўся дзед Балабас.— Марцыпанаў не еў, каньякоў не піў. Чуў я, Антось, чуў, што цябе нешта турбуе. Гэта пройдзе, ты яшчэ малады. Калі ўжо разбудзіў, дык заходзь у сенцы. Толькі цішком, каб старая не пачула. Пакажу, што еў і піў.

Антось увайшоў у сенцы. Дзед зачыніў за ім дзверы, прынёс з каморы сала, цыбулі, гуркоў.

— Што ты еў учора з ранку? — пытаўся ў яго Антось.— Дай запішу.

Гамана іхняя была няспешнай. Дзед успамінаў, як ваяваў у грамадзянскую, пасля — як партызаніў і біў фашыстаў... Часам макавай расінкі ў роце не было. Антось яго слухаў, але ўрэшце спыніў:

— Разумееш, што такое даўгалецце? Гэта ж сусветная праблема. Хто яе вырашыць, калі не ты ці я. Навошта сто трыццаць гадоў? Хай сто. Табе кепска? Што еў і піў?

Дзед вельмі любіў алей і халву, а таксама сала — не надта тлустае. Ніколі не курыў.

Калі сонца выглянула з-за далягляду і раса на траве зайграла фарбамі, нібы вясёлка пасля навальніцы, Антось пакінуў дзедаву хату. З калодзежа ён зачэрпнуў халоднай вады, памыўся, з задавальненнем адчуваючы, як святлее галава, і падзякаваў дзеду за гасціннасць. Ад Балабаса ён пашыбаваў да ўрача Паўла Васільевіча. Урач збіраўся на раён і ўжо чакаў машыну.

— Калі ласка, паглядзі, запісаў усё пра даўгалецце і вегетарыянства, правёў эксперыменты па харчаванні,— сказаў адным духам Антось.

Павел Васільевіч патрымаў сшытак у руках і вярнуў яго Антосю.

— Прабач, але ў мяне не тая спецыфіка... Ды кінь ты... Навошта гэта табе ўсё? Людзі ўжо смяюцца.

— Але ж каму пашкодзіць сто гадоў?.. Добра.— Антось нібыта разгубіўся, камячыў сшытак у далонях, не ведаючы, што з ім рабіць. Пасля акуратна згарнуў сшытак, паклаў яго ў кішэню, рашуча сказаў: — Паеду да таго доктара навук, што выступаў па тэлевізары, а мо да жанчыны ў горы. Як падыдзе водпуск, паеду. Трэба ж нешта рабіць. Сто гадоў някепска будзе пажыць і мне, і ўсім людзям.

## Рамонак мой

Вясной нашу брыгаду накіравалі ў гэтую вёску. Лінію электраперадач засталіся дарабляць некалькі чалавек, дый то з тых, хто падленьваўся працаваць. Майстар Габрусь пачынаў новы ўчастак. З людзьмі надзейнымі, праверанымі, хоць бы за адзін сезон.

З упраўлення прыйшоў аўтобус, стары, дабіты рабацяга, які перавёз за свой век сотні мантажнікаў і ўсё яшчэ цягнуў нялёгкі воз. Нас папярэдзілі: ад'язджаем праз тыдзень. Аднак нічога канкрэтнага Габрусь не гаварыў, і мы спакойна жылі на сваіх кватэрах, якія сталі амаль роднымі.

— Заўтра, хлопцы, у тры гадзіны.— Габрусь уважліва абвёў вачыма нашы твары і шматзначна пастукаў пальцам па шыі.— Гэтага ні-ні, інакш...— і папрасіў: — Навошта з чырвонымі насамі прыязджаць у новыя мясціны?

Я сеў ззаду, агледзеўся. Ля кожнага мантажніка стаялі чамаданы, мяшкі, сумкі з наклеенымі малюнкамі. Гэтымі малюнкамі абдарыў усіх Паськевіч, які летась дэмабілізаваўся з арміі.

Не было толькі Паліны Вярбіцкай. Яна — адзіная дзяўчына ў брыгадзе. Прыйшла да нас пасля вучылішча. Была Паліна невысокая, са светлымі валасамі, як рамонак. Здзіўлялі яе вочы — густога васількавага колеру. Трошкі псавалі іх рыжыя кароценькія павекі. За тыя месяцы, што яна працавала з намі, я, здаецца, не чуў ад яе ніводнага слова. Дзяўчына сядзела звычайна дзе-небудзь у кутку і слухала, аб чым гаварылі мантажнікі. Майстар даваў ёй заданні не надта важныя і лёгкія.

— Цып-цып, куранятка! — жартаваў у добрым настроі Габрусь.

Спачатку мы рагаталі, а пасля... Наш начальнік разумеў, дзе канчаецца сяброўскі смех і пачынаецца здзек з чалавека.

Мінула каля дваццаці хвілін, а Паліна не ішла. У аўтобусе нават сёй-той засняваў. Габрусь круціў носам, але маўчаў. Потым не вытрымаў, выйшаў курыць.

— Эй, рамізнік, гані бізуном свае коні! — падняўся Іван Шабер.

Бачу, майстар кінуў цыгарэту і адчыніў дзверы ў аўтобус.

— Казік! — гэта ён да мяне.— Прашу, скокні да Вярбіцкай. Здарылася з ёй што-небудзь?

— Якая халера яе возьме! — крычыць Шабер.

Паліна жыла ў завулку, бліжэй да рэчкі, якраз там, дзе пачынаецца лес. Пяць хвілін хады. Прабег плошчу, ускочыў у двор і без стуку, па-вясковаму, у хату... І аслупянеў каля парога. Перад сабой убачыў незнаёмую дзяўчыну ў элегантным паліто. Валасы, нібы нераспелая жытняя салома, ляжалі на плячах. Палініны вочы з цікавасцю сачылі за мной.

— Цябе чакаем,— сказаў я і схапіў маленькі чамадан, таксама з Паськевічавай замежнай прыгажуняй. Паліна ішла наперадзе, а я памалу цягнуўся ўслед. Дзе падзелася тое паніклае, шэрае дзяўчо? Так думалася мне.

Звонка стукалі па брукаванай вуліцы абцасы, вецер расхінаў паліто, і былі відаць стройныя, дужыя ногі.

Я ішоў і пацíху дакараў сябе. Ці варта было шукаць шчасця на танцах у суседніх вёсках. Альбо ехаць з сяб-

рамі за трыццаць кіламетраў у раённы гарадок, дзе ў парку спрабавалі пазнаёміцца з дзяўчатамі. Гэта ў нас называлася «забіць кліна». Звычайна вярталіся сумныя, расчараваныя. Гаворак, праўда, было на тыдзень. Успаміналі, як Шабер ці Паськевіч пыталіся:

— Дзяўчынка, а дзяўчынка, можа, вы хочаце з намі куды-небудзь прайсці? А вы не любіце цукерак «кіс-кіс»?

— Паліна! Ты не хочаш цукерак «кіс-кіс»? — сказаў я невядома чаму.

Вярбіцкая азірнулася на мяне, нічога не адказала. Мы падышлі да аўтобуса, каля якога курыў Габрусь. Відаць, ён хацеў вылаяць Паліну так, каб яна надоўга запомніла.

— Бачыш!..— сказаў ён такім тонам, з якога пачынаецца крык, і раптам змоўк. Майстар перахапіў чамадан у мяне, дапамог Паліне ўлезці ў аўтобус.

— Ну, такую дзяўчыну я магу чакаць і гадзіну,— шафёр першы парушыў цішыню.

— Сядай каля мяне,— майстар зняў чамадан на падлогу.

— Якая ружа! — цмокнуў Паськевіч.— Дзе ты хавалася да гэтага часу?

Мне хацелася, каб Паліна села побач са мной. Калі я хвалююся, чырванее твар, таму нахіліўся да акна. З двара выйшла мая былая гаспадыня. Раніцай яна нават заплакала, прасіла хоць слоўца дасылаць ёй калі-небудзь. У цёткі Марыі быў адзін сын і таксама недзе блукаў па свеце. Зімой ён быў тут у адпачынку. Мы з ім пасябравалі і вечарамі сядзелі за шахматнай дошкай.

— Казік, можна, я сяду тут? — спакойнае і ласкавае цяпло ішло з вачэй дзяўчыны. Нібы зачараваны, я хітнуў галавой.

Да жыцця мае адносіны былі простыя: загадвалі — рабіў, пыталіся — адказваў. Не ўяўляў я, што самы апошні мантажнік у брыгадзе, якім, на маю думку, была Вярбіцкая, можа зацікавіць мяне.

Ад Паліны ішоў густы пах духоў. Спадылба глянуў на яе. Павекі трошкі падфарбавала, і ад гэтага вочы пацямнелі, нос, маленькі і кірпаты, рабіў твар дзяўчыны вясёлым.

— Колькі гадзін будзем ехаць, Казік? — Яна распранулася. Паліто паклала на калені. У сукенцы Вярбіцкая была худзенькая, куды толькі прапала няўклюднасць, якую надавала ёй рабочая вопратка.

— Вечарам будзем на месцы.

— Блага. Гэта ж пакуль уладкуемся па кватэрах...— Паліна сумна ўсміхнулася: — Шкада развітвацца з гэтай вёскай. У маіх гаспадароў дзіўны сабака. Яны называюць яго Боська. Калі чужыя куры пачынаюць бойку з нашымі, дык ён адразу бяжыць на дапамогу сваім. Смешна, праўда?

— Праўда,— згадзіўся я.

— Чаго наша прыгажуня схавалася ў цёмным кутку? — п'яны Шабер зарагатаў. Мне стала непрыемна, ды я стрымаўся.

Каб быў я султан,
Я б меў тры жонкі
І сярод іх абавязкова Паліну...

Шабер ішоў да нас. Напэўна, ад яго чакалі нечага смешнага, вясёлага. Толькі мне рабіліся ненавіснымі гэтыя роўныя і белыя, як цукар, зубы, якімі ён адкрываў бутэлькі віна, парослы чорнымі валаскамі твар. Я прыціснуўся бліжэй да Паліны і адчуў, як яна ўся дрыжыць. Не думаючы, што можа быць потым, я памалу падняўся. На здранцвелых нагах зрабіў адзін крок.

— Ха! — сказаў Шабер. — Абаронца, здаецца, ужо ёсць у майго птушаняці. Дык зараз вырву рукі і пастаўлю замест іх палкі. Бач, шчанюк...— працягваў ён здзіўлена.

— Адыдзі і сядзь на месца, — ціха сказаў я, нічога больш не бачачы, акрамя расхрыстанай кашулі і белых ад злосці вачэй.

Упэўнены, каб ён ударыў сваім натрэніраваным кулаком, я лёг бы на падлогу. Так я думаў пазней, а тады Шабер падняў руку, і за яе ўхапіліся хлопцы.

— Супакойся, а то я цябе хутка на чыстыя прасціны ў асобны пакой адвязу,— сказаў майстар Габрусь.— Ваяўнічы нешта сёння ты, браце. Астудзіся, бо ўспомню ўсё, што забыў, і блага табе, Шабер, будзе.

Далей мы ехалі не размаўляючы. Зацягнуў песню Паськевіч, але яго не падтрымалі. Перад самай вёскай шафёр замармытаў:

Адзін дзень, другі дзень,
Адна ноч, друга ноч,
О, Франё, Франё,
Чо будзе з намі!

На яго хтосьці гаркнуў, і ён збянтэжана скончыў сваю песню. Паліна нервова камячыла хустачку ў руках, і зноў мне здалася яна той напалоханай дзяўчынкай, якая што-

дзень раніцай сядзела ў глухім кутку склада электраматэрыялаў.

Кватэры на новым месцы ўжо былі падрыхтаваны. Як мы развіталіся з Палінай, не помню. Чамаданчык ёй я вынес з аўтобуса. Яна затрымалася на момант, пастаяла, схіліўшы галаву, і паціху пайшла. Пасля ўсё хутчэй і хутчэй...

Электраліміі ў гэтай вёсцы праводзілі даўно. Трэба было мяняць слупы, дзе-нідзе асвятленне. Таму мы адразу ўзяліся за работу.

З раніцы да вечара я ездзіў на нашу базу па матэрыял. Часцей за ўсё грузілі мы іх уручную, бо кран быў ці то сапсаваны, ці то на «калыме». Лаянка з хітрым, чорным, як жук, загадчыкам склада нічога не давала: усе ведалі, што ён дзеліць грошы з кранаўшчыком, але... не злавілі — не злодзей.

Рабілі мы, як кажуць, ад душы: грузілі на машыну слупы, бетонныя пасынкі, барабаны з дротам. Пад канец дня рукі пачыналі дрыжаць. Павячэраўшы, я засынаў адразу: прыязджалі з базы мы каля дванаццаці гадзін ночы, а падніміліся з першымі пеўнямі. У гэтыя дні я не бачыў Паліну.

І вось мы запоўнілі свае склады матэрыяламі. Майстар Габрусь загадаў усім быць раніцай у яго ў канторцы — невялікім будане, зробленым Паськевічам з дошак, што засталіся ад абсталявання.

Мяне здзівіла, што Паліна весела размаўляла з Шаберам. Яна была ў новай зялёнай ватоўцы, валасы падтрымлівала блакітная хустачка. Паліна не сядзела наперадзе, але і не ў кутку, як раней.

Пяціхвілінутка зацягнулася. І я задумаўся аб сваім: як там маці сама пасадзіць бульбу. У калгасе з дзесятак коней, астатніх здалі на мясакамбінат. Каб узараць калём соткі, трэба дачакацца сваёй чаргі. Летась нарыхтоўшчыку за тое, што даў каня ўзараць агарод, заплацілі трыццаць рублёў. Па рублю за кожную сотку...

Нібы хто пацягнуў мяне за руку, паклікаў. Так мне раптам здалося. Я азірнуўся — і ўсярэдзіне штосьці здрыганулася. На мяне глядзела Паліна. Яна не слухала Шабера, па позірку было відаць: думкі яе недзе далёка.

— Казік, пойдзеш старшым мяняць асвятленне кароўніка,— пачуў я голас майстра.— У дапамогу табе... каго ж табе даць?

— Можна, я пайду з ім? — сказала Паліна.

— Правільна. Астатнім — на бандаж слупоў. Ідзіце,— сказаў Габрусь.

Я ўзяў інструменты, дрот і пайшоў з канторкі. Праз хвіліну пачуў, як стукнулі дзверы.

— Пачакай. Не бяжы так хутка.— Паліна дагнала мяне.

— Чаму ты захацела са мной рабіць? — Я чамусьці пачынаў злавацца і ўжо шкадаваў, што не адмовіўся ад Паліны: лепш узяў бы з сабой каго з хлопцаў.— Бачу, Шабер табе даспадобы, ішла б з ім.

Твар у Паліны паружавеў, вочы змянілі свой колер з сіняга на чорны, вусны пакрыўджана скрывіліся. Але — толькі на імгненне.

— Ну і дурань ты, Казік. Конь божы, вось ты хто.

Да абеду мы не размаўлялі. Злосць мая даўно прайшла, і я разумеў, што яна недарэчная і нават смешная. Мне хацелася падысці да Паліны, спытаць у яе, як жыла два тыдні пасля нашага прыезду ў вёску. Я ў думках шукаў словы, з якіх можна было б пачаць гаворку. Ці добрая кватэра? Што яна тут бачыла? Як часта кіно ў клубе?

Нарэшце я не вытрымаў:

— Паліна!

— Што?

— Падыдзі...

— Калі патрэбна, і сам можаш, не пан...

І я падышоў.

— Чаго? — шырока расплюшчаны чыстыя вочы. Сапраўды, які я конь божы: столькі часу была побач — і нуль увагі. На галаву ёй са страхі насыпалася саламяная папяруха, і не зразумець было, дзе валасы, а дзе — салома: усё аднаго колеру. Я асцярожна счысціў з плеч Паліны смецце і... забыўшыся аб усім, абняў яе. Рэзкі штуршок у грудзі працверазіў мяне. Я ледзь не стукнуўся галавой у слуп, што падтрымліваў дах будынка.

— Звар'яцела? — сказаў я, але адразу змоўк, бо Паліна ўжо стаяла перада мной і спачувальна пыталася:

— Ты не моцна ўдарыўся? Прабач, Казік, міленькі...

— Не,— сказаў я. Паліна была побач. Я абхапіў яе, што сілы прыціснуў да сябе, чакаючы новага штуршка. Бачыў яе вочы, удзячныя і радасныя. Адчуваў рукі, мяккія і пяшчотныя... Незнаёмы і дзівосны пах ідзе ад саламяных валасоў, і я ўжо цалую павекі, вусны, кірпаты нос, кожную кропку на нечакана блізкім і родным твары...

Гэты дзень скончыўся для мяне вельмі рана і хутка, бо не ўяўляў, як пакіну Паліну на доўгую ноч. Бедныя тыя людзі, якія не зразумелі, што трэба берагчы кожную гадзіну і кожную хвіліну шчасця, калі яно прыходзіць да цябе.

— Ты мне спадабаўся яшчэ перад тым выпадкам у аўтобусе. Я назірала за табой, слухала, што гаворыш... Мне ты здаваўся надта сур'ёзным. Я так хацела ўбачыць цябе гэтыя тыдні.

— Таму добрая з Шаберам?

— Кінь, не трэба так,— яна закрыла мне далонню рот.— Я хачу падабацца толькі табе. Якія ў цябе разумныя вочы. Ты мой самы прыгожы...

— Ды не. Я зусім-зусім непрыгожы. Бач, які ў мяне крывы і доўгі нос. Чорныя, быццам у грака, валасы, і вочы недзе далёка схаваныя і злыя.— Я падхапіў яе на рукі і панёс некалькі крокаў.

— Не трэба, яшчэ ўбачаць,— ласкава, але настойліва яна вызвалілася з маіх абдымкаў.

...Я працаваў так, быццам мяне нехта, як казала маці, гнаў у карак. Усё мне было ў радасць. Побач я бачыў Паліну. Я забыў, што месяц не пісаў маці, што не адаслаў ліст сябру ў армію, што ў раённым горадзе тры разы на тыдзень танцы...

Раніцай у канторцы мы сядзелі побач. Габрусь зноў даручыў нам адну работу, і брыгада гэта ўспрыняла быццам бы з павагай. Вядома, не абыходзілася без жартаў:

— Казік, ты наш першы кавалер.

— Паліна, скажы, што гэта вы ўчора з Казікам вечарам рабілі, га?

Аднак гэты смех мяне не турбаваў, дый ці слухаў я, што гаварылі хлопцы. Я бачыў: яны зайздросцілі мне. Неяк нечакана расквітнела Паліна, узнялася прыгожай кветкай.

Мабыць, да пэўнага часу яна гэтага не разумела, але позіркі мужчын, іх грубаватая пачцівасць патрохі рабілі сваё. Паліна стала ўпэўненая і рашучая. І такой падабалася мне яшчэ больш. Не казаў я ёй пра свае пачуцці, але, думаю, Паліна ўсё адчувала сэрцам. Адкуль прыйшло каханне, што так ускалыхнула маю душу?

Ёй было дзевятнаццаць гадоў, мне — крыху больш. І я верыў у сваё каханне.

У другой палове дня мяне выклікаў майстар Габрусь. У канторцы быў незнаёмы пажылы чалавек.

— Гэта майстар з Лукомля. Ім тэрмінова патрэбен спецыяліст па трансфарматарах. Я хачу, каб ты паехаў.

— На колькі дзён?

— Не менш чым на месяц,— адказаў майстар з Лукомля.

— Згодзен з умовай, калі разам са мной паедзе...

— Вярбіцкая,— сказаў Габрусь.— Нельга. Нас таксама цісне тэрмін, і ты гэта ведаеш.

— Тады не еду.

— Я цябе прашу гэта зрабіць для мяне,— сказаў Габрусь.

— Добра... Толькі паеду раніцай.

Паліна правяла мяне далёка за вёску, дзе — я так папрасіў — мяне чакала машына. Паліна была сумная, пад вачамі ў яе чарнелі кругі, бо гэта ноч была для нас бяссоннай.

— Паліна, едзем разам.

— А што скажа майстар? Не, нельга так.

— Ніхто нічога не будзе гаварыць.

— Не магу...

Абяцаны месяц стаў трыма месяцамі мітусні і клопату, без выхадных. Штурмавалі апошні блок электрастанцыі, і наша начальства чакала, калі можна будзе рапартаваць вышэйшаму начальству.

Я паслаў Паліне пісьмо. Атрымаў і ад яе. Яна пісала, што ў брыгадзе ўсё добра, пісала яшчэ пра свой смутак, пра нашу будучую сустрэчу.

Не магу дараваць сабе: з-за рознай мітусні не напісаў ёй пісьма — пісаць наспех не хацелася, не мог...

А пасля, калі надумаў, трэба было вяртацца ў сваю брыгаду. Я непакоіўся: два месяцы пошта не прыносіла вестак ад маёй Паліны.

Праехаўшы дзень і ноч на спадарожнай машыне, раніцай я быў у вёсцы. Пакінуў чамадан на кватэры — і ў канторку, да майстра Габруся. Я спяшаўся і думаў, як зараз сустрэнемся з Палінай і застанемся ўдваіх. Нецярпліва адчыніў дзверы, пераступіў парог. Паліны не было. Я прабег вачыма раз-другі па тварах хлопцаў. Каля акна чарнела постаць Шабера. Злосная і хітрая ўсмешка блукала па яго вуснах.

— Дзе Паліна?

— Паехала...— сказаў Паськевіч.

— У камандзіроўку, Габрусь?

— Не, зусім. Звольнілася...

— Навошта ты ёй такі? — нахабна глядзеў на мяне Шабер.

— Хто табе сказаў?

— Мне не трэба казаць...

На сцяне вісеў пажарны інструмент, і я, не думаючы, што будзе пасля, схапіў рыдлёўку і кінуў яе ў Шабера. Але толькі шыба паляцела з акна. Шабер выйшаў. Следам пайшлі хлопцы.

Мы засталіся ў канторцы з майстрам.

— Чаму яна паехала?

— Раскажы, як працавалася ў Лукомлі. Пашанцавала табе.

— Праўда тое, што Шабер...

— Кінь. Прыйшоў з упраўлення загад, у якім табе падзяка за работу на электрастанцыі.

— Майстар, ты мне зубы не загаворвай! Я пытаюся, што было...

— Спасу не было ад Шабера, вось і паехала, — сказаў неахвотна Габрусь і ўпікнуў: — За тры месяцы мог наведаць. Часу не было? Захацеў, дык знайшоў бы...

Я ўспомніў радасць ад кожнага дня з Палінай, яе гарачыя абдымкі, бясконцыя словы пра каханне...

Шабер нікуды не знікне, мы з ім яшчэ пагаворым. Але спачатку я знайду Паліну.

## Перапынак на дзень

Гэта зіма мне здалася цяжкім і страшным сном. Было мала ў хаце святла — сонца нібы забыла пра наша акно, і толькі ўсюды ўладарыў ненавісны лекавы пах. Я адчувала яго на хлебе, на сваіх валасах, на паліто.

Цётка Клава, наша суседка праз адну кватэру, сказала тыдні два назад, што надышла вясна. Раніцай Мікола перастаў стагнаць і заснуў. Я ўспомніла, што няма ў хаце хлеба, накінула паліто і выбегла на вуліцу. Гурбы ля нашага дома набраклі вадою, і вакол іх стаялі лужыны.

Ад свежага паветра ў мяне закружылася галава, і было такое адчуванне, нібы выпіла віна. Я засмяялася і амаль адразу змоўкла, спалохана азірнулася, ці не ўбачыў Мікола: як я забыла, што ён не можа падыхаць гэтым

веснавым ветрыкам, пачуць гоман ручайкоў, каля якіх сноўдае дзятва.

Я памалу ішла па праспекце, прагна гледзячы на вясну, якая ляцела, неслася, шумела... Міма ехалі поўныя людзей аўтобусы, тралейбусы, таксі. Над гэтым няспынным гулам машын раптам загучала музыка, і яна расла, перакрываючы ўсе астатнія гукі. Магчыма, яе чула не толькі я — па тварах людзей заўважала, што і ім падабаецца крочыць пад музыку. На плошчы за жоўта-кафейным радам дамоў аркестр іграў Штраўса: відаць, было нейкае свята, але якое — я не магла ўспомніць.

За мостам я павярнула ў парк. Там цішэй і не так людна.

На алеі снегу не было, пад сонцам высахлі лаўкі, і на іх там-сям ляжалі забытыя газеты.

Я прайшла па алеі да канца. Рэчка была яшчэ скавана лёдам, але ён ужо раскіс і стаў брудным, нібы ануча. Я і не прыкмеціла — калі, бо пастаянна занятая. Толькі згатуеш снеданне, дагледзіш Міколу — ён зусім бездапаможны,— як ужо трэба варыць абед. Гэта добра, што ёсць суседка Клава. У яе жыццё было вельмі нялёгкае, можа, таму яна спачувальна аднеслася да нашага гора.

Хутка з шумам паплывуць крыгі, і рака адчуе сябе вальней. У дзяцінстве я любіла гэты час. Лёд крышыўся пад нагамі з трэскам, мы чэрпалі ботамі ваду, але — зноў лезлі на крыгі, аж пакуль бацькі не прыходзілі па нас з дубцамі. Неяк я ледзь не ўтапілася, плынь занесла мяне да быкоў моста, які дрыжаў пад ударамі крыг. Выратаваў стары тоўсты цвік, забіты ў слуп,— за яго зачапілася маё паліто. Цяпер мне часам здаецца, што нас з Міколам нясе такая ж імклівая плынь, і невядома, сустрэнем мы нарэшце свой цвік, які ўтрымае і паможа стаць цвёрда на ногі.

Побач нікога не было, і я села на лаўку. Вакол плаваў густы водар адталай зямлі. Я прагна дыхала свежым, чыстым паветрам, але лекавы пах не адступаў нават і тут. Сонца пяшчотна глядзела мне ў твар, стала цёпла і лёгка на душы, нібы я апынулася на другім канцы зямлі і ў мяне зусім іншае, вельмі шчаслівае жыццё. Нічога не хацелася мне, адно вось так сядзець на ласкавым ветрыку і слухаць гаворку дрэў, дыханне рэчкі і далёкі шум горада. Для мяне сёння было даволі гэтай радасці.

Павекі ў мяне быццам склеіліся, галава зрабілася непаслухмянай. Яшчэ хвіліна — і я, напэўна, заснула б, але за два крокі ад мяне сеў верабей, весела заціўкаў, заска-

каў па лысаватай зямлі, пасля, бесклапотны, паляцеў далей. Я пашкадавала, што ў мяне з сабою няма хлеба,— тады, магчыма, верабей даўжэй затрымаўся б каля мяне. Я пазайздросціла гэтай птушцы, што ў яе ёсць крылы і яна можа ляцець на поўдзень і на поўнач, на захад і на ўсход,— ёй ні пра што не трэба думаць. Аднак гэта толькі ў маленькага вераб'я, а ў чалавека ўсё інакш, складаней — і так раптам не возьмеш і не паляціш.

Учора была неспакойная ноч. Мікола моцна стагнаў, у яго пачалі балець ныркі, але я нічым не магла памагчы яму. Ад бездапаможнасці ў мяне цяклі слёзы, ён гэта заўважыў. Сціх, але я ведаю, колькі сілы патрэбна было яму, каб прыдушыць стогн. Спакойна, быццам зусім здаровы, сказаў:

— Не трэба, Марыя!

— Я не плачу, ты не думай,— я схавала твар у падушку і зрабіла выгляд, што сплю. Які там сон! Я страціла яго яшчэ тады, калі здарылася бяда з Міколам.

Мы пажаніліся якраз у такі веснавы час. Было нават цяплей, і снег растаў.

Пра сябе скажу шчыра: кірпатая, у рабацінні. Нічога, здаецца, здатнага. Жыла я ў другім горадзе і працавала на трыкатажнай фабрыцы. Са стрыечнай сястрой Кацяй мы здымалі невялікі пакойчык у двухпавярховым доме за вакзалам. Яна прыгожая чарнавокая дзяўчына з доўгімі нагамі, у яе густыя чорныя валасы; лепшай фігуры, чым у сястры, я, здаецца, ніколі не бачыла. Каця сябравала з Міколам, яны збіраліся ісці ў загс. Я жадала ім шчасця і трошкі зайздросціла, бо не ўяўляла, што надыдзе і для мяне такі ж час, калі я стану любімай жанчынай.

— Чысты Рубенс! — сказаў Мікола, калі ўбачыў мяне. Я спачатку яго не зразумела, а потым ён мне растлумачыў, што быў такі галандскі мастак, які маляваў падобных на мяне жанчын. Праз месяц мы пажаніліся, а сястра звольнілася з фабрыкі. Так ужо здарылася, і я нічога не магла зрабіць.

Мікола быў мастаком. Быў... Я не хачу гаварыць гэта слова, але яно кожны дзень гучыць у нашым доме. Ён мог працаваць без адпачынку, а пасля браў мяне лёгка, нібы ляльку, на рукі і танцаваў, задаволена рагочучы. Вечарам мы хадзілі ў абдымку па вуліцах горада, і Мікола пяшчотна цалаваў мяне, а я сарамліва азіралася па баках: «Мікола, на нас глядзяць людзі». Ён на гэта ўсміхаўся, і твар яго весялеў яшчэ больш, вочы густа бліскалі. Мы, тры-

маючы адно аднаго за рукі, беглі ў парк, дзе кармілі разам з вартаўнікам строгіх лебедзяў, якіх пасля Мікола маляваў, а я назірала, як рыска за рыскай нараджаліся на паперы птушкі, і пасярэдзіне гэтага фантастычнага малюнка быў мой твар з кірпатым носам і рабаціннем.

— Навошта я і тут рабая?

— Я люблю цябе такой, якая ты ёсць.

А мне хацелася быць прыгажэйшай хоць на гэтым малюнку, тады б ведала, што такая ў сэрцы Міколы, бо на вуліцах шмат маладых дзяўчат і жанчын, апранутых па апошняй модзе, адукаваных і тварам лепшых, чым я. Шчаслівая жанчына, калі яна кахае і яе кахаюць, бо каханне — выратавальная нітка, за якую трэба трымацца з усіх сіл, каб жыць.

...Гэта здарылася ў цёплы веснавы дзень, калі было на парозе лета і неба радавала чысцінёй і прасторам. Пакуль «хуткая дапамога» прывезла Міколу ў абласную бальніцу, яго паралізавала ўжо. Я памятаю белыя сцены, белыя халаты, белы твар майго мужа. З таго часу белы колер стаў маім колерам. За тры гады Міколу зрабілі тры аперацыі, але ён можа трымаць у руках толькі цыгарэту, аловак для яго цяжкі.

Я хачу зараз усё забыць і толькі слухаць гэты парк і адчуваць сонечнае цяпло. Мікола можа прачнуцца, але я не магу надыхацца свежым паветрам і, здаецца, чую, як крышыцца шэры лёд на рацэ...

Мне сорамна сказаць, што я сёння ў сваёй лепшай сукенцы, і цяпер пры мне тое прыкрае пачуццё скрытнасці, з якім я апраналася пры мужу: накінула на сябе паліто і — хутчэй з дому, каб раптам ён што-небудзь не падумаў благое. Гэту сукенку мы купілі з Міколам праз тыдзень пасля нашага вяселля. Яна ляжала ў магазіне сярод мноства рознакаляровых сукенак, з кароткімі рукавамі і адмысловага ўзору карункамі.

— Паглядзі, сонейка, тое, што трэба,— сказаў Мікола, і я ў прымерачнай адразу ўбачыла, што лепшай сукенкі ў мяне не было...

...Злева ад мяне нехта закашляў, пасля сеў на лаўцы. Вочы я не адплюшчыла.

— Кхм-кхм,— зноў пачула я каля сябе.— Дзяўчына, скажыце, калі ласка, якая зараз гадзіна? — Голас мне вельмі знаёмы, але не помню, чый ён.— Дзяўчына, не трэба спаць у парку, для гэтага існуе кватэра.— Даўно я чу-

ла гэты голас, ведаю, хто так гаворыць, марудна жуючы словы, і ціха пытаю:

— Віктар — ты?

— А хто ж яшчэ!

Каля мяне сапраўды сядзеў Віктар Рудзецкі, шыракаплечы і здаровы, нібы спартсмен. Чырванатвары, з вясёлай белазубай усмешкай і добрым позіркам вачэй. Ён нікольні не пастарэў. На ім былі модныя туфлі, а з-пад штаноў выглядалі ярка-жоўтыя шкарпэткі. Я ўявіла, які рэзкі кантраст у мяне з Рудзецкім: я побач з ім — нібы бедная сваячка. Мне стала непрыемна, што ён убачыў мяне і, напэўна, думае пра мой спакутаваны твар, старое паліто...

Смешна, Віктар быў калісь маім першым каханнем. Мне было семнаццаць год, і нашы з ім сустрэчы пачаліся таксама вясной. Увогуле, калі я ўспамінаю, дык усе самыя важныя падзеі ў маім жыцці адбываліся гэтай парой. І нават Віктар паехаў тады ад мяне таксама вясной. Нашы шляхі разышліся, і цяпер ён мне — ніхто, чужы чалавек, але чамусьці захацелася, каб гэты прыгожы мужчына думаў, што я жыву вельмі добра.

— Ты даўно ў нашым горадзе?

— Ды ўжо...

— Ты — сумная. Штосьці здарылася?

Гэта пытанне не для мяне. Я нікому не гаварыла пра сваё жыццё. А чаму ён павінен ведаць, што мой муж, мой любы Мікола, тры гады не сядзіць на табурэце, не трымае ў руках аловак і курыць з маёй дапамогай. Гэта толькі маё жыццё, мая дзяржава, межы якой зачынены для іншых.

— Вясна... Тут ціха і прыгожа,— сказала я.

— Я даўно цябе не бачыў, Марыя. Мінула цэлая вечнасць.

— Сто гадоў.

— Што ты сказала?

— Мінула сто гадоў, і я нічога не памятаю.

Віктар закурыў, і дым паплыў маленькім воблачкам над намі. У яго былі цыгарэты лепшыя за тыя, што я купляла ў нашым гастраноме за чатырнаццаць капеек.

— А я памятаю ўсё да дробязей. Магу табе расказаць.

— Не трэба, Віктар. Раскажы, што ты робіш, чым займаешся. Я памятаю, ты вучыўся ў політэхнічным інстытуце.

— Скончыў. Зараз у аспірантуры. Хутка буду абараняць дысертацыю.

— Значыць, вучоны?

— Пайду на завод, у інстытуце няма месц.

— Калі былі б, найшоў бы?

— Магчыма. Учора я сасніў сон, быццам мы з табою, Марыя, ляжым на беразе Чорнага мора і ты кажаш: «Пайшлі, Віктар, паласуемся шашлыком».

— У цябе не было грошай?

— Прачнуўся занадта рана, ты некуды пайшла, і мора не было, а я ляжаў у сваім пакоі. Памятаеш у дэ Сент-Экзюперы... У небе столькі зорак-магнітаў, а сіла прыцягнення прывязвае мяне да зямлі. Я адчуваю, да многага прыцягвае мяне мой асабісты цяжар! Значыць, лёс такі, што я, не ведаючы, што ты таксама жывеш у нашым горадзе, убачыў цябе на гэтай лаўцы. Дзе ты працуеш?

«Чаму ён пра ўсё гэта пытае? — падумала я.— Тое, што я скажу, яму будзе нецікава».

Калі мы пераехалі з Міколам у гэты горад, я спачатку не рабіла. Мужу далі пенсію, ды яшчэ штомесяц нам прысылалі грошы мае і яго бацькі. Нам гэтай сумы хапала, бо, акрамя прадуктаў і медыкаментаў, я амаль нічога не купляла. Ведаю, што для жанчыны гэта блага, але мяне ўжо не цікавіла прыгожае адзенне. Я не хадзіла на працу, не была ў тэатры, кіно. Тэлевізар «Рэкорд» стаў для нашай сям'і адзінай уцехай. Я не лічу, што мы страцілі сувязь са светам: нехта бачыў Чэслава Немана ці Алу Пугачову ў канцэртнай зале і ганарыцца гэтым, а да нас яны прыйшлі дзякуючы тэлебачанню. Мы таксама білі ў ладкі і крычалі «біс».

У пачатку года я ўладкавалася надомніцай: вяжу сетку, якая нібы ідзе рыбакам. Так сказаў мне майстар Васіль Рыгоравіч, сівенькі дзядок, якому два разы ў месяц здаю сваё вязанне. Гэта, мне падумалася, нецікава Віктару, таму я не адказала на яго пытанне, а ён заўсёды быў ветлівы і не рабіў больш таго, што мне не падабалася. Сапраўды, колькі часу прайшло ад нашай апошняй з ім сустрэчы?

— Трэба ісці ўжо. Шкада, што не магу пасядзець з табою, Віктар. Добрае надвор'е, цёпла.

— Кажуць, адпачываць шмат нельга, гэта шкодна ўплывае на цела і розум. На тым тыдні чытаў пра Радэна і Ван Гога. Якія былі моцныя людзі, аж уявіць цяжка сабе. Пад бязлітасным сонцам Ван Гог з ранку да позня-

га вечара маляваў, перамагаючы хваробу. Мне здаецца, усе мастакі надзвычай працавітыя і апантаныя людзі.

— Яны вельмі моцныя людзі. Я гэта ведаю...

— У цябе ёсць знаёмыя мастакі?

— Ёсць.

Пра Радэна і Ван Гога мне расказваў Мікола. Ён пазнаёміў мяне з вялікімі французамі Латрэкам, Манэ і Монэ, мне пашанцавала бачыць на выстаўцы маладога Сезана, Пікасо... Усіх нават не памятаю.

На лесвіцы, калі мы ішлі з парку на праспект, Віктар падтрымаў мяне пад руку. Ён сціснуў мне локаць, і я хацела вызваліцца, але не зрабіла гэтага. Падумалася, аднак, з прыемнасцю, якая дужая ў Віктара рука.

— Мне трэба ў магазін... па хлеб.

— Колькі акрайцаў? Адзін, два, чатыры, а можа, мяшок батонаў з разынкамі? — Віктар доўга глядзеў на мяне.— Бяжым, раз-два!

На скрыжаванні нас спыніў міліцыянер: па праспекце ішоў з бліскучымі трубамі аркестр і іграў: «Не плач, дзяўчынка, пройдуць гады...»

— Зразумела асноўны сэнс жыцця? Не плач, дзяўчынка, пройдуць гады — і з усяго атрымаецца мукà.

— Так не лічу.

— Я таксама, але штосьці ў гэтым, ёсць.

— Гадзіну назад яны ігралі Штраўса...

— Хто яны?

— Гэты аркестр. Вельмі добра ігралі вальс, здаецца, калі б гэта было не на вуліцы, а дзе-небудзь у зале або на танцпляцоўцы, то сілы не было б стаяць на месцы.

— Дык чаму нам не пайсці ў такую залу? Пайшлі.

«Сказануў!.. А Мікола? Не купіла нават хлеба. Не, нікуды я не пайду»,— падумала я.

Мы спыніліся недалёка ад магазіна. Недзе зноў зайграў аркестр. Мне здавалася, што я чую Вагнера, а праз хвіліну ўжо гучаў быццам Шастаковіч. Раней у мяне такога не было, бо я амаль кожны дзень слухала музыку, няблага разумела яе, і мае сяброўкі называлі мяне кампазітарам. Мікола гаварыў, што ў мяне тонкая душа мастака і таму я стала яго жонкай. Цяпер ён так не скажа. За гэтыя тры гады я зрабілася падобнай вось на тую змучаную жанчыну ў старэнькім паліто, якая нясе вялізную торбу — поўную хлеба, мяса, малака і розных бляшанак...

«Няўжо і я такая? Няўжо больш ніколі ў мяне не будзе

лепшага жыцця? Гэта страшна, вельмі страшна...» — ліхаманкава думала я.

Я раптам згадзілася пайсці з Віктарам і сама здзівілася, што так лёгка згадзілася. Ён узяў мяне за руку, і мы пайшлі ў другі парк, дзе працавалі атракцыёны і гучала музыка. Перад кафэ «Сузор'е» стаяла чарга, і апошнія ў ёй тры доўгавалосыя хлапчукі, трымаючы перад сабой магнітафон, танцавалі штосьці накшталт твіста. Ім, вядома, хацелася быць хутчэй там, сярод шумнага натоўпу. Незразумела чаму, але і ў мяне з'явілася такое жаданне. І, мусіць, яго прачытаў у маіх вачах Віктар.

— Пачакай хвілінку! — Ён рашуча накіраваўся да дзвярэй і паклікаў швейцара.

— Куды, чувак, прэш? — сказаў Віктару адзін з хлапчукоў.

— Грошы трэба вярнуць, бо абяцаў.

— Заўтра аддасі! — крыкнулі з чаргі.

— Не, трэба зараз, праўда, дзядзька Апанас? — сказаў Віктар швейцару, і той кіўнуў галавой.

Нам знайшлі столік у канцы залы, і мы, задаволеныя, пілі праз некалькі хвілін шампанскае і танцавалі. Тут сядзелі вясёлыя, бесклапотныя людзі, яны размаўлялі пра мастацтва, вершы і тэатр. У іх былі радасныя твары, вочы палалі агнём любові да жыцця, ім жылося так, як хацелася жыць зараз мне.

— Табе добра? — спытаў Віктар.

Я забываю аб усім на свеце: толькі чую музыку, якая запаўняе ўсю маю істоту.

— Табе добра? — зноў гаворыць Віктар.

— Як на небе! — адказваю я, смеючыся ад незразумелай лёгкасці, і раптам бачу сябе ў белай доўгай сукенцы і туфлях на высокіх абцасах, і мяне нехта называе каралевай...

— Гэта цудоўна, што табе хораша са мною,— гаворыць Віктар.— О'Генры казаў, што ад нараджэння, па схільнасці, інстынкту і канструкцыі свайго горла, усе жанчыны — Шахеразады. Кожны дзень сотні тысяч Шахеразад расказваюць тысячу і адну казку сваім султанам.

— Я Генры не чытала. А вось ты ведаеш такога...— Якое ж мне імя назваць, каб Віктар яго не ведаў, але нічога не магу ўспомніць.— Ведаеш... гаспадзіна Тулуза Латрэка? Гэта вялікі мастак, які стварыў геніяльныя палотны. Ён маляваў розных жанчын і цэлыя дні піў гарэлку ў рэстаранах.

«Дзе мой хлеб? — раптам падумала я, і мне чамусьці захацелася пайсці адсюль. Ім усім весела і добра. Бач, як смяецца тая дзяўчына ў малінавай сукенцы і з залатым крыжыкам на шыі. Яна ўвесь час адкідвае з вачэй валасы. Ёсць у ёй нейкае падабенства з партрэтам, які ў нашай кватэры над Міколавым ложкам. На ім, напэўна, шмат пылу, бо я даўно да яго не дакраналася. За партрэтам ляжаць грошы, за якія я хачу купіць сабе новыя туфлі...»

...Мы пакінулі кафэ і пайшлі доўгай і вузкай вуліцай. Зоркі былі з намі, лёгкі ветрык шчыраваў, з асалодай абвяваючы мой твар. Маленькая зорка з Вялікай Мядзведзіцы міргала мне.

Віктар шырока раскінуў рукі:

Блішчыць у небе зор пасеў;
У полі — рунь, і ў небе — рунь.
Да рэчкі лецячы, ўзляцеў
Між імі марай белы лунь.

— Зоркі рагочуць таму, што ад нас не ідзе святло. Фізіка атамаў наконт гэтага...

— Чаму ты зараз ідзеш са мною? — перабіваю я Віктара.— Што кажа наконт гэтага фізіка атамаў або Сент-Экзюперы? Не ведаеш! Таму што ад мяне таксама ідзе святло, і ты паляцеў на яго, нібы матылёк.

— Хай будзе па-твойму,— далікатна ўсміхаецца ён,— але ж даляцеў — гэта галоўнае.

— А што, калі перад матыльком шкло і ён б'е свае крылы аб яго і можа загінуць?

— Ну, ужо і так.— Віктар трымае сваёй дужай рукою мой локаць і прыціскае мяне да грудзей. Я павярнулася і выслізнула з абдымкаў, адышла на крок ад яго:

— Калі-небудзь ты мяне любіў?

Збоку ад нас тэлефон-аўтамат, шкла ў апошняй кабіне няма. Па гэтай вуліцы ходзіць тралейбус, бо зверху нацягнуты драты. «Для аўтобуса не патрэбен дрот, ён не трымаецца за неба жалезнымі рагамі».

— Я, Віктар, непрыгожая і рабая. Ты ведаеш гэта?

— Ды не, што ты кажаш. Усё о'кэй!

— Ты мог бы намаляваць партрэт той дзяўчыны, што сядзела за суседнім сталом?

— Я не Тулуз Латрэк.— Мы з Віктарам ужо на пятым паверсе дзевяціпавярховага дома, які побач з тэлефонам-аўтаматам. Я не ведаю, навошта прыкмячаю для сябе, што засталося ад мяне злева і справа. Мне чамусьці страшна ісці ў гэту кватэру, якая знаходзіцца за дзвярыма, абабі-

тымі чорнай штучнай скурай з маленькім шкельцам пасярэдзіне.

Віктар правёў мяне ў даволі вялікі пакой з жоўтым дыванам на сцяне і зялёным — на падлозе; з шафаў глядзелі кнігі. На століку каля канапы цямнела бутэлька віна.

— Як табе мая бібліятэка? — крыкнуў Віктар з кухні.

Сіняя тоўстая кніжка з залатымі літарамі была «Планета людзей» Антуана дэ Сент-Экзюперы, далей стаялі «Жыццё» Мапасана, Выбранае Конан Дойля. Побач — кніжка «Ван Гог». Мне ўспомнілася: «Рыжы і вельмі дужы фламандзец, які адрэзаў вуха і падарыў маладой дзяўчыне». Жыў гэты мастак бедна і нешчасліва. Яго не любілі, яму здрадзіла жанчына.

Аднойчы Мікола казаў, што здрада каханай — гэта страшны ўдар па сэрцы і душы. Слабыя спрабуюць з дапамогай сілы сцвердзіць сваё права на жанчыну, але нічога не атрымліваецца. Моцны чалавек, калі па-сапраўднаму любіць, паспрабуе забыць здраду. Я спрачалася з Міколам і гаварыла пра крыштальную вернасць і павагу мужа да жонкі, а жонкі — да мужа. Гэтак жа я пісала сваім бацькам, калі яны неяк параілі мне падумаць пра сваю маладосць.

— Пусці! — я адштурхнула Віктара і кінулася ў калідор.

— Што здарылася, Марыя? Куды ты бяжыш, нібы на пажар?

Я не пачула, што сказаў Віктар яшчэ, бо ўжо выскачыла за дзверы, і яны шчоўкнулі мякка і бязгучна. Ліфт панёс мяне ўніз — на вуліцу, якая цягне сваю вузкую стужку да скрыжавання. Праз дзесятак метраў я спынілася — бегла не ў той бок.

— Ма-ры-я!!! — данёс да мяне вецер, і я пабегла яшчэ шыбчэй.

Калі б я магла спыніць час і стрэлкі ўсіх гадзіннікаў хаця б хвілін на дваццаць, мне, мусіць, стала б лягчэй дыхаць, і сэрца не стукала б так гучна, і, можа, страх пакінуў бы маё цела.

Заўтра я дастану з-за партрэта грошы, на якія збіралася купляць новыя туфлі, і куплю кніжак па мастацтве, хай Мікола чытае.

Гэта думка трохі супакоіла мяне, і па праспекце я ішла ўжо нетаропкім крокам. Успомніла: «Бліпічыць у небе зор пасеў; у полі — рунь, і ў небе — рунь». Дзіўны гэты

Віктар! Няўжо ён думаў, што я застануся ў яго кватэры і буду піць з ім віно...

На нашым паверсе ніводнага светлага акна. Мне не спадабаўся дом, у якім я пражыла гэтыя тры апошнія гады. Здалося, што ён вельмі малы і нізкі і падобны на кантору калгаса, дзе працуюць мае бацькі.

Я пастаяла трошкі на лесвіцы. Было ціха, ніводнага гуку з кватэр. І мне стала зусім маркотна на душы. Ледзь адчыніла я дзверы, уключыла святло... Ложак быў пусты. Я нават рукою правяла па вачах, але ўсё роўна нікога ў кватэры не ўбачыла. У мяне загуло ў галаве, недзе далёка плылі чароўныя гукі Штраўса, праз якія лезлі назойлівыя словы: «Бывай, дзяўчынка, пройдуць гады, бывай, дзяўчынка, пройдуць гады...»

На стале я заўважыла вялікі аркуш паперы, дрыготкімі рукамі ўзяла яго. Па крывых літарах я пазнала почырк цёці Клавы: «Хуткая дапамога» забрала...». Я не дачытала запіску, сцяна перада мной нахілілася, партрэт над Міколавым ложкам, здалося, асуджаў мяне...

...Памятаеш у дэ Сент-Экзюперы... У небе столькі зорак-магнітаў, а сіла прыцягнення прывязвае да зямлі.

## Акцябрына Іванаўна і Муся

Адзначалі дзень нараджэння Максіма Ігаравіча. Для Акцябрыны Іванаўны проста Максіма. На стале фаршыраваная рыба, мясная салата, чорная ікра, вэнджаная кілбаса, кумпяк — смаката. Вакол смех, песні.

— Пальчыкі абліжаш...— какетліва завяла вочы пад лоб Акцябрына Іванаўна. Яна сказала так, каб пахваліць гаспадыню.

— Ой, я ўжо намурзалася,— засмяялася Вікторыя Ігнатаўна і глытнула шампанскага за здароўе юбіляра.

Пузаты гадзіннік адбіў палову дзевятай. Акцябрына Іванаўна перасела на другое месца, каб быць бліжэй да дзвярэй.

— Я пайду,— шапнула яна, але яе не пачулі. Тады Акцябрына Іванаўна пацягнула Максіма Ігаравіча за рукаў. Ён, не перастаючы спяваць, кіўнуў галавой жонцы, якая выйшла ў калідор услед за Акцябрынай Іванаўнай.

— Высокі дый стромкі! — выспеўвалі ў пакоі жанчы-

ны, і іхнія танклявыя галасы перабіваў бас Максіма Ігаравіча.

— Куды бяжыш? — Гаспадыня вынесла штосьці загорнутае ў цэлафан.— Бяры і не дурыся!

Ужо ў дзвярах Акцябрына Іванаўна пачула, як нехта з жанчын сказаў: «Да Мусі пабегла». І адразу прапаў настрой.

Яна якраз паспела на аўтобус і за пятнаццаць хвілін была ля свайго дома. Не чуючы ног пад сабой, узляцела на чацвёрты паверх і спынілася, каб перавесці дух.

Знізу і зверху ляцелі галасы. Недзе сварыліся мужчына і жанчына. Заплакала дзіця.

У кватэры Акцябрыны Іванаўны ціха. Гэтым яна была задаволена. Дый увогуле ніхто не перашкаджаў ёй рабіць што хацелася: чытаць кнігі, хадзіць у кіно і тэатр... І вось зусім нядаўна яна заўважыла, як з замілаваннем глядзіць на маці з дзіцём, нават з зайздрасцю слухае лаянку мужа з жонкай. Вядома, яна здагадвалася, ад чаго ў яе ўсё гэта,— і хмурнела. Крыху стала весялей, калі з'явілася кошка...

Муся выбегла ёй насустрач. У яе было бледна-шэрае футра. На хвасце, носе і вушах — як нехта намаляваў белыя зорачкі.

— М-яў-яў-уаў! — кошка выгнула спінку дугою.

— Галубка ты мая! — Акцябрына Іванаўна распранулася і залезла з нагамі на канапу. Муся блішчала зялёнымі вачыма, нібы чакаючы, што гаспадыня скажа.

— Ах, Мусечка, я ж была на саракагоддзі Максіма.— Акцябрына Іванаўна ўспомніла пра гасцінец. Гэта былі бутэрброды з кумпяком.— З'еш, і ў цябе будзе свята.

Некалі выпадкова ў гэткі ж дзень яна купіла ў хлопчыка ля плошчы Горкага маленькае шэрае кацяня. Яно хутка вырасла ў прыгожую кошку Мусю, без якой было б вельмі кепска.

Акцябрына Іванаўна зменшыла гук радыё і ўзяла з кніжнай паліцы зборнік паэзіі. Яна чытала вершы Багдановіча, калі хацелася забыць аб усім на свеце.

Была калісь пара: гучэла завіруха
І замяла маёй мінуўшчыны сляды.
Усціхла ўжо яна... Плывуць удаль гады,
А ўсё не б'юцца скрыдлы духа:
Куды цяпер ісці? Куды?

Кошка, прыхіліўшыся да нагі, ледзь чутна варкатала.

— Чуеш, Муся? — Акцябрыне Іванаўне здалося, што

кошка слухае верш. І вочы разумныя, нібыта ў чалавека. Акцябрына Іванаўна перагарнула старонку і задумалася...

Сёння дзень на рабоце, як заўсёды, пачаўся з размоў.

— У маёй суседкі-генеральшы манто з норкі,— гаварыла Марына.— А сама ж кракадзіл кракадзілам. Во шануе людзям.

Нібы па камандзе, жанчыны паднялі галовы ад папер. Ала Віталеўна закрыла фортку, і пакой запоўніў пах касметыкі. Ад Марыны пахла французскімі духамі. Акцябрына Іванаўна да іх абыякавая.

Блага ў калектыве, дзе адны жанчыны. З мужчынамі прасцей. Аднак што зробіш, трэба працаваць. Супакойвае, што начальнік аддзела Максім. Жанчыны прывыклі да яго і пры сваіх размовах не глядзяць — у кабінеце ён ці не. Гэта Акцябрыне Іванаўне не падабаецца, бо разам з ім вучылася ў інстытуце і паважае Максіма.

Ала Віталеўна дастала з сумачкі невялікі пакунак, разгарнула і на выцягнутай руцэ падняла над сталом.

— Купіла набор касметыкі ў камісіёнцы.

Паглядзела набор Марына, перадала Акцябрыне Іванаўне. Ніштаватая цацачка: розных колераў памада, пудра, цені для павек. Чаго там не было! Акцябрына Іванаўна і дарма яго не ўзяла б. Навошта ёй гэта?

— Колькі каштуе? — спытала яна.

Ала Віталеўна назвала цану, ад якой жанчыны прыціхлі. Максім Ігаравіч тым часам выйшаў на пяцімінутку да кіраўніцтва. Ён быў у новым вельветавым касцюме, у туфлях на высокіх абцасах. Нечым падобны на артыста Алега Янкоўскага. Жах, які абаяльны! Нездарма Волечка Сільвястровіч закаханая ў яго.

Як толькі за ім зачыніліся дзверы, Вікторыя Ігнатаўна павярнула гаворку.

— Па пятаку — і ў школу не пойдзем. Хто за? — яна сказала, як часта гаварыў тэхнік Платонаў з другога аддзела. Узнікла доўгая паўза. Жанчыны думалі. І трэба ж было азвацца Акцябрыне Іванаўне.

— Навошта? — прамовіла і спалохалася за гэта слова: мо падумаюць, быццам за капейчыну павесіцца гатова.— А чаму і не...— выціснула з сябе.

— Тады ў аблавушку! — Вікторыя Ігнатаўна са сваёй пясцовай шапкай пайшла па крузе. У калгасе на сельгасработах так рабіў Платонаў...

— Чуеш, Муся? — Акцябрыне Іванаўне здалося, што кошка заснула. Але яна ўзняла галаву. У яе вачах, як у

люстэрку, адбілася электрычная лямпачка. Было ціха і спакойна. Акцябрына Іванаўна знайшла ў кніжцы любімыя радкі.

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.
Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны свет прабіцца.

І Муся больш любіць паэзію, чымсь прозу. Калі Акцябрына Іванаўна чытала ўголас кнігу англійскіх навел, якую далі на некалькі вечароў, кошка незадаволена фыркнула.

Дый Акцябрына Іванаўна любіла гэтыя вершы. Нібыта паэт напісаў менавіта для такіх, як яна... Ці мала адзінокіх жанчын сумуюць за сценамі кватэр? Чытаюць, як яна, вершы адзінай блізкай істоце — кошцы, сабаку. Былі б у яе хоць родныя ў горадзе, а то нікога. Бацькі даўно памерлі...

І ўсё ж сёння дзень быў неблагі. Жанчыны паслухалі параду Акцябрыны Іванаўны і купілі венгерскую кашулю з замшай па каўняры і грудзях. Максім у студэнцкія гады меў амаль такую ж кашулю. Усе згадзіліся з Акцябрынай Іванаўнай, хоць Марына і падпусціла шпільку:

— Леташні снег...

Яна так зірнула на Марыну, што гэта самаўпэўненая жанчына прыкусіла язык. Купілі яшчэ тры цюльпаны.

Падарунак хацела паднесці Волечка Сільвястровіч. Яна нафарбавалася, як лялька. Калі ж па справядлівасці, дык хто пяць гадоў з Максімам здаваў экзамены і залікі, хто з першага дня ў гэтым аддзеле?

— Прабач! — Акцябрына Іванаўна забрала са стала Волечкі падарунак і кветкі. Максім пазіраў некуды ў акно.

— Мілы, дарагі Максім Ігаравіч...— сказала яна, не стрымаўшыся, усхліпнула і пацалавала яго. Акцябрына Іванаўна не бачыла, як аднесліся да гэтага жанчыны. Ёй было ўсё роўна. Толькі потым з люстэрка на яе глянуў заплаканы твар з чорнымі ад фарбы плямамі. Слёзы адкрылі павуціннё зморшчын. Светлыя валасы раскалмаціліся. Канечне, яна нераўня Волечцы Сільвястровіч...

Максім запрасіў іх дахаты, дзе Люда, яго жонка, ужо чакала і накрыла стол. Жанчыны пачалі званіць сваім му-

жам, што затрымаюцца на юбілеі. Толькі не папярэдзіла нікога Акцябрына Іванаўна. Мусі ж не пазвоніш...

— Акцябрынка! — яны расцалаваліся з Людай, таксама былой аднакурсніцай, і, як калісь, абняўшыся пайшлі ў кватэру. Быццам прыемна Людзе, што прыйшла сяброўка. І ўсё ж у яе паводзінах было штосьці ненатуральнае. Мо таму Акцябрына Іванаўна не пазайздросціла гэтай жанчыне, пашкадавала яе. Хоць і поўныя сцены дабра. Яна падумала так, як даўно не думала: муж, двое дзяцей. Клопат, клопат — векі вечныя. Седзячы ж дома на канапе, Акцябрына Іванаўна прызналася сабе, што ёй гэтага якраз не хапае.

...Дваццаць гадоў назад Максім пазнаёміў яе і Люду са сваім школьным таварышам Кірылам. Смехата! Яны навыперадкі хацелі закахаць у сябе Кірыла. Дурніца была, перамагла на сваю галаву. Не надта прыемна ўсё скончылася ў іх з Кірылам. Аднак яна ўдзячна яму за нядоўгія хвіліны шчасця. Яны былі гарачыя і маладыя. За два месяцы ажаніліся і развяліся. Яна ў гарачцы, нібы здурэўшы, кінулася ў бальніцу і зрабіла тое, аб чым цяпер шкадуе. Ні сына, ні дачкі, а ёсць Муся, якая зашылася галавою ёй у калені і мыецца, мыецца, як дзіця, калі дарвецца да вады.

Мінуў дзень нараджэння ў Максіма Ігаравіча, і час ні на хвілінку не прыпыніўся з-за таго, што Акцябрыне Іванаўне было неяк не па сабе. Зіма счарнела пад яркім сонцам, як дровы ў вогнішчы, уцякала сотнямі ручайкоў. Ноччу ж на двары было дрогка. Мароз хапаў мацаком.

Штодня Акцябрына Іванаўна з Мусяй выходзілі адвячоркам на вуліцу. Далёка не ішлі — уздоўж дома. Дзвесце крокаў туды і столькі ж назад. Пры небяспецы Муся шукала паратунак на руках.

Акцябрына Іванаўна засмяялася, калі кошка аж затрымцела, нібы ўбачыўшы сабаку. Перад суседнім пад'ездам згорбіўся маленькі брудна-чорны кот. Яго ўсяго калаціла. Вось-вось упадзе ад ветру.

Сэрца — не камень. Гэты кот не Муся, але і ён жывая істота.

— Ах ты, бядак! — Акцябрына Іванаўна з асцярогай узяла яго на рукі. Кот, да якога пасавала імя Цыган, пад'еў з Мусяй і павесялеў. Страх яшчэ жыў у ім. Ён жаласліва мяўкаў, але, калі Акцябрына Іванаўна набліжалася, ашчаціньваўся. Яна не змагла ў той момант узяць яго за шкірку, выкінуць з кватэры і адклала гэта надалей.

Аднаго разу яна, ідучы з работы, напаткала жоўтую, нібы лотаць, кошку. Акцябрына Іванаўна і ёй дала прытулак. Назвала Шарлотай. А ноччу Муся, Цыган і Шарлота ўзнялі калатню. Раніцай Акцябрына Іванаўна была як выціснуты лімон.

Адпрацавала дзень, нібы ў тумане, і вярталася дамоў ушчэнт разбітая. Калі б лепш сябе адчувала, дык, мабыць, ацаніла б, што ўпершыню за многа гадоў Максім сказаў ёй камплімент. «Блакітная сукенка табе да твару...» Гэту сукенку яна купіла пазалетась і прыходзіла ў ёй на работу дзве вясны запар.

Па дарозе ўвага Акцябрыны Іванаўны на імгненне засяродзілася на магазіне, што побач з домам. Перад уваходам прадавалі рыбу. Яе любіла Муся. Пры іншым самаадчуванні і настроі Акцябрына Іванаўна пастаяла б у чарзе. Стома перамагла: толькі б легчы. Дый штосьці турбавала яе, і не разумела — што.

Колькі жыла ў гэтым доме, на свой паверх узнімалася пешшу. Зараз падышла да ліфта і націснула кнопку.

Дома ёй зрабілася страшна. Калідор быў у пер'і і пуху. На разадранай навалачцы чорным клубком згарнуўся Цыган. Яна прайшла на кухню і схапілася за сэрца. Ад круп і цукру была белая падлога. Тут гойсалі Муся і Шарлота.

Акцябрына Іванаўна прысела на крэсла і залілася слязьмі. Яна плакала ад таго, што здзяцінела з катамі, што ёй сорак гадоў, як і Максіму, і што ўвогуле жыццё яе — нібы зарослая асакой рака.

Галава пухла ад думак. Нарэшце, калі дом заціх, Акцябрына Іванаўна апранулася ў зімовае паліто, завязала цёплую хустку, злавіла Цыгана пад шафай. Ён, відаць, адчуў, што яна надумала, і выпусціў кіпцюры. Руку апёк боль. І гэтым Цыган нашкодзіў сабе, бо Акцябрына Іванаўна яшчэ вагалася: жаночае сэрца адыходлівае.

Яна таропка выйшла на вуліцу. Мароз быў ядраны. І яе рашучасць знікла. «Куды ён пойдзе? — падумала, азіраючыся па баках.— Такі холад. А што, калі?..»

Акцябрына Іванаўна выбрала з усіх гмахаў дом і накіравалася да яго. Суцішылася думкай, што ў пад'ездзе Цыгану будзе цёпла і мо хтосьці возьме сабе. Шарлоту яна занесла аж на другую вуліцу.

Маладзік свяціў, як ліхтар на слупе, млява і надакучліва. Жаласлівасць пакрысе брала верх, і Акцябрыне Іва-

наўне захацелася, каб Цыган і Шарлота ўспомнілі дарогу назад і вярнуліся.

Яна прыбрала ў кватэры. Тое-сёе зрабіла на кухні.

Ліпкая, як цеста, цішыня ахутала кватэру. Акцябрына Іванаўна тэлефон на ноч выключала. На гэты раз забылася. Растрывожылася з катамі. Сон прапаў, і апанавала нейкая нервознасць.

Рэзка і неспадзявана зазваніў тэлефон. Акцябрына Іванаўна спуджана ўтаропілася на яго і чакала, каб ён сціх. Тэлефон званіў і званіў. Яна, адчуваючы слабасць у нагах, не вытрымала і зняла трубку. Нехта здалёк хрыпеў:

— Ацяб-рынка!

— Я...

— Не пазнаеш? Як здароўе, як жывеш?

Штосьці знаёмае было ў гэтым мужчынскім голасе, але Акцябрына Іванаўна не разумела — каму патрэбна.

— Што вам?

— Ну, Акцябрынка, мая ты малінка! Гэта ж я, Платонаў!

— Адкуль у вас мой тэлефон?

— Ну даеш! Я еду ў госці да цябе.

— Я забараняю...

Пачуў ён ці не, што яна прамовіла. Не хапала ёй тэхніка Платонава. «Па пятаку — і ў школу не пойдзем...» Увесь інстытут смяецца з яго. А яму хоць у вочы плюй альбо кол на галаве чашы — усё роўна.

З Платонавым яны ездзілі на жніво ў падшэфны калгас. Напачатку гэты чалавек ёй падабаўся. На руках мускулы, як у барца, шырокія плечы. Працаваў лепш за ўсіх.

Вечарамі яны хадзілі з ім па вясковай вулачцы. Ён жаліўся Акцябрыне Іванаўне на жыццё, а яна спачувала яму, бо ў самой гэткі ж цяжар на душы. Што было, тое сплыло... Неяк з паўгода назад ён прасіў на бутэльку. Мо хоча, каб ізноў пазычыла пяць рублёў?

Платонаў увайшоў у кватэру імкліва, затрубіў прастуджаным басам. Паліто і шапка былі ў снезе. Ён не павесіў іх, а скінуў проста на падлогу ля дзвярэй. Сеў на крэсла, як гаспадар, выцягнуў доўгія ногі. Ад Платонава пахла гарэлкай.

— Рада! — не спытаў, а ўпэўнена абвясціў.

Яна паціснула плячыма.

— Будзе ў цябе рабінавая ноч. Ты мне па душы, а жонку — на кірмаш. Пакупнік і на яе знойдзецца.

Ён прыпомніў, як былі ў калгасе, парагатаў і заснуў, цяжка нахіліўшыся на маленькі столік. Ёй раптам стала холадна, і яна агарнула плечы хусткай. Зашчымела сэрца. Акцябрына Іванаўна накапала ў шклянку валяр'янкі, даліла вады і выпіла.

Мабыць, Платонаў нешта смачнае сасніў — з рота пацякла сліна. Гідка было глядзець, і Акцябрына Іванаўна пацiху штурхнула яго ў плячо. Ад штуршка ён захроп, як закілзаны конь. І гэта чамусьці яе раззлавала. Яна ўзяла нашатырны спірт і паднесла Платонаву пад нос. Ён дыхаў спакойна, а потым уздыхнуў, нібыта яму пераціснулі горла, і закашляўся. Расплюшчыў вочы і загадаў:

— Раскладзі канапу. Позна.

— Позна,— згадзілася Акцябрына Іванаўна.— Вам далёка...

— Каму вам? — шчыра здзівіўся Платонаў.— Я ж у прымакі да цябе.

Акцябрына Іванаўна не любіла нахрапістых людзей. Мо ўсё было б інакш, калі б ён не такі нахабны. Каб не лез напралом. Яна натапырылася, нібыта вожык. Ад нечаканай злосці бачыла толькі яго твар, больш нічога. Адчыніла дзверы ў калідор (суседзі паехалі да бацькоў у вёску) і моўчкі прыхілілася да сцяны.

Ад іхняй гаманы прачнулася Муся, прылашчылася да Платонава. Ён нагой падфутболіў яе. Кошка мяўкнула і забілася пад канапу.

— Навошта ўдарылі Мусю?

— Муся, Муся... Эх ты! Ідзі... каціная маці!..

У вачах Акцябрыны Іванаўны пацямнела ад болю, нібы хтосьці выцяў яе бічом.

Платонаў з парога нешта гаварыў, здзекліва смяяўся, калі яна з сілаю зачыніла за ім дзверы. Ён, пэўна, ад нечаканасці ледзьве не ўпаў. Акцябрына Іванаўна пачула, як ён, брудна лаючыся, стукаў нагамі на лесвіцы.

## Электра

— Эля, Элька! — крычаў з вуліцы Міфодзеў Рыгор, чарнавусы сіваваты мужчына з пугаю ў руках. Жанчына, стаіўшыся ў хаце, слухала яго хрыпаты голас і не адна, стаіўшыся ў хаце, слухала яго хрыпаты голас і не адклікалася. Але ён гукаў і гукаў, і яна не вытрымала, выйклікалася.

шла ў двор. Мужчына кінуў убок пугу, бегма рушыў да жанчыны, абняў за худыя плечы, і яна, затрымцеўшы ўсім целам, прыціснулася да яго. Пахла каровамі, потам і тытунём. Гэтак некалі пахла ад бацькі, калі ён прыходзіў з холаду ў хату. Яна тады была маленькая і шчаслівая.

...Калі дзяўчынка нарадзілася, бацькі доўга не маглі вырашыць, як назваць яе. У вёсцы Цітаўка была забабона, што ад імя залежыць, быць жанчыне шчаслівай ці не. Здаецца, перабралі ўсе імёны, аднак нічога не падабалася: Тэкля, Гандзя, Лёдзя, Маня, Саня... Дзяўчынка была першым дзіцем, і хацелася назваць яе прыгожа і незвычайна.

Бацька ў маладосці трохі служыў у Маскве. У камандзіра роты жонку звалі Электра. У яе заўсёды была ўсмешка на пухлявых губах, а вочы, як агеньчыкі, так і свяцілі шчасцем. Муж нібыта насіў яе на руках. Але гэта было ўжо іншае: насіў ці вазіў, іхняя справа.

Доўга сварыліся бацькі, толькі ў сельсавеце выпісалі метрыку, у якой чорным па белым значылася, што імя ў дзяўчынкі Электра. У Цітаўцы паздзіўляліся, паўсміхаліся дый прывыклі да гэтага нетутэйшага імя. Тым больш што дзяўчынка была копія бацькі, а гэта — на шчасце. Наканавана ёй было ад нараджэння радаснае і бесклапотнае жыццё.

Суседка Марфа, у чыёй хаце шчыпаліся, біліся і крычалі на палацях пяцёра малых, з зайздрасцю пазірала на іхнюю хату і штодзень кляла мужа, гарбатага Міфодзю. Той, акрамя Насці, Рыгора, Фені, Лёні і Клаўдзі, амаль ніякіх імёнаў не ведаў і нідзе не чуў, бо ўсё жыццё пасвіў кароў на пастаўніку. І толькі аднойчы, калі выходзіла замуж стрыечная сястра, патрапіў у вёску Дамашы, што ажно за Мінскам.

Аднак дарэмна зайздросціла Марфа: была шчаслівай Электра да таго часу, пакуль не пачалася вайна. Забілі бацьку. Потым згарэлі хата, хлеў, а з ім карова і ўсё астатняе, што дзяцей карміла.

Яны з маці выскачылі ў двор у чым былі, ухапілі толькі смаркачоў Ваньку, Мішку, Геньку. Усё дабро пайшло прахам. Плакалі, енчылі, але ніхто іх не чуў, бо палала вёска, куды ні глянь. Спачуваць не было каму.

Марфіны дзеці былі ў пограбе і ад дыму ледзь усе не памерлі. Трох адкачалі, а дзвюх дзяўчатак назаўтра пахавалі на могілках за Кавальцом.

Электра з маці сяк-так абсталявалі клуню і перазімавалі. Гарбаты Міфодзя зляпіў печку, бо спярша таксама жыў тут з імі. Гэта пасля ўжо зрабіў зямлянку, а недзе пазней перайшоў у новую хату.

У іх не было каму рабіць іншае жытло, і яны спакваля пашыралі клуню. Дабудавалі з дапамогаю таго ж Міфодзі і сенцы, камору. І ўрэшце нішто сабе атрымалася хата, таму што сцены былі са смалякоў, яловыя. Бацька будаваўся не на год, а каб і дзецям засталося.

Удзень маці бегла ў калгас на работу, а Электра была за няньку з малымі. У лесе ад вайны поўна засталося мін, зброі, дык не адно пакалечылася. Не дай бог, каб гэта здарылася ў іхняй хаце. Глядзі, дачушка, за бахурамі, гаварыла маці, бо залезуць і ўтвораць што-небудзь.

Яна пахадзіла ў школу да шостага класа, а потым за сахор і на ферму — гной дзерці з-пад кароў. Адзень, абуй, накармі братоў, а яны растуць, есці толькі давай. Вось з маці і вырашылі: вучыцца яна будзе пасля, а зараз трэба ставіць на ногі малых. Уведала Электра, нібыта адкрылі вячэрнюю школу, дык ці не ўсё роўна, у якую хадзіць. Так прыкінула яна сваёй галавой і ўляглася з маці ў работу.

Час імчыць, як неаб'езджаны конь, не спыніць яго, не павярнуць. Учора, начапурыўшыся, бегла на танцы па храбусткім маладым снезе, скакала з Міфодзеевым Рыгорам, а сёння Генька пабег у клуб. Усё змянілася, толькі хата ў іх тая ж, з клуні, і комін яшчэ больш нахіліўся над ёй. Наляціць моцны вецер, падхопіць іскру, і — бяда. Нарэшце Міфодзеў Рыгор за бутэльку самагонкі перарабіў комін. Як выпіў гарэлкі, зашаптаў, каб прыйшла ноччу, будзе чакаць яе на вышках. Электра засмяялася ў вочы яму, і ён пакрыўджаны пайшоў, а яна ўсю ноч мачыла падушку слязьмі.

Якое замужжа, калі браты ў інстытутах, памагаць трэба. Яны былі вельмі здатныя да вучобы.

Раптам у Цітаўцы ліквідавалі ферму, на якой працавала Электра. Горад быў побач, яму не хапала зямлі. Спярша Электра паплакала з маці, што не будзе кароў, пагаравала. Аднак штось трэба рабіць, неяк жыць далей. Хлопцы прасілі грошай. У горадзе асфальт, абутак на ім сінім агнём гарыць. Дзіўна, як ногі вытрымліваюць.

Паехала Электра ў горад, і адразу ёй пашчасціла: узялі лабаранткай у навукова-даследчы інстытут. У вёсцы ўладкавалася вартаўніком сельмага. Капейчына і капей-

чына — рубель. Яны з маці елі бульбу з кіслай капустай, малачко прывозілі з горада дый, каб сіла была, пілі чай. Колісь Міфодзя крычаў на ўсю вуліцу: чай не піў — адкуль сіла, чай папіў — зусім аслаб.

Як уладкоўвалася ў інстытут, спыталі імя. Электра засаромелася і, баючыся, што будуць смяяцца, ледзь чутна вымавіла: Эля... Яе так і прынялі ў лабараторыі Эляй. Так і ў вёсцы яе называлі. Э-ле-кт-ра! — пакуль скажаш, язык зломіш.

Браты назусім пераехалі ў горад і толькі прыязджалі па сала, бульбу, гуркі... На рынку грошы вылажы, а тут — дарэмшчына. Дый ехаць недалёка. Аўтобус спраўна курсіруе. Пад настрой і пешшу за пару гадзін можна датупаць: да горада пятнаццаць кіламетраў.

Зіма, лета, вясна, восень — і неяк, запазніўшыся на рабоце, Электра не застала маці жывою. Відаць, стамілася за дзень, прысела каля стала адпачыць. На вуснах ласкавая ўсмешка, якую не сцерла нават смерць. Мабыць, успамінала сваіх хлопцаў, што няблага ўладкаваліся ў жыцці, думала, што будзе шчасце і для Элі. Пра гэта яны многа разоў гаварылі, і было не цяжка здагадацца, гледзячы на маці, з якімі думкамі яна памірала.

Цяпер Электра не спяшалася дахаты, звольнілася з вартаўнікоў і працавала толькі лабаранткай. Ёй грошай хапала. Браты даўно былі на сваім хлебе, дый з маслам, зараблялі добра: Генька і Мішка ездзілі на ўласных легкавушках.

...Пад канец работы, калі Электра перамыла посуд, прыбрала ў лабараторыі, нечакана сабралася многа людзей. Звычайна так было на свята. Сюды прыйшлі старшыня прафкома і парторг інстытута. У руках загадчыка лабараторыі быў велічэзны букет руж. Упершыню ў жыцці Электра пазайздросціла таму чалавеку, які атрымае гэтыя кветкі.

— Дарагая наша Электра Іванаўна! — раптам сказаў старшыня прафкома. Яна спачатку не зразумела, што гэта звяртаюцца да яе і ўсе глядзяць на яе, радасна ўсміхаюцца. Ад гэтага ёй стала сорамна і страшна, яна адчула, што задрыжэлі губы. Электра сабрала ўсе свае сілы, бо хісталіся ў вачах сцены, і падлога, і твары людзей. «Ой-ой...» — выдыхнула яна і толькі цяпер даўмелася, што ёй сёння сапраўды пяцьдзесят год і дваццаць пяць, як яна працуе ў гэтым інстытуце.

Усё-ткі яна заплакала. Слёзы цяклі па твары, Электра

іх не выцірала. Многія, хто стаяў перад ёй, былі маладзейшыя, але для ўсіх яна была проста Эля.

Старшыня прафкома перадаў ёй букет, і зноў ёй ледзь не стала дрэнна. Ніколі яшчэ ніхто не дарыў ёй кветак. Здалося, што яна маладая і гэта нехта пасля танцаў прынёс кветкі. Але віншавалі яе з пяцідзесяцігоддзем і гаварылі столькі прыемных слоў, колькі яна не чула за ўсё жыццё.

Электра стаяла бледная, невысокая, у белым халаце, такая, якой яе прывыклі бачыць штодня: ціхмяная і сарамлівая. Яе папрасілі сказаць што-небудзь, але яна нібыта анямела: усміхалася і плакала. Яна думала пра тое, што не пабачыць маці, якая шчаслівая яе дачка, што няма тут Ванькі, Мішкі, Генькі. Хай паглядзелі б, як паважаюць іхнюю сястру Электру. Ёй хацелася запрасіць усіх гэтых людзей да сябе, пачаставаць, аддзячыць за дабрыню. Аднак не павязеш жа іх у хатку, у якой бацька некалі трымаў сена.

З лабараторыі яна пайшла апошняя. Доўга кружыла па гарадскіх вуліцах. Да яе часта звярталіся, думаючы, што прадае ружы. Электра прыціскала да сябе букет, нібыта дзіця, і бегла. А ў вачах бацька, маці, браты, і палаюць хаты... Спынілася паштальёнка ля іхняга двара і маўчыць. Маці здагадалася, упала на зямлю, абамлеўшы... Танцы да ночы, гармонік вось-вось не вытрымае, парвецца ў дужых руках Міфодзевага Рыгора, які ўжо гадзіну наярвае польку з «падкіндэсам». Электра танцуе, не чуючы ног пад сабой... Маці сядзіць за сталом, і на вуснах спакойная і лагодная ўсмешка. «Мамы няма, няма мамы!..» — крычыць Генік, а яна, як некалі, дваццаць год назад, калі яго пабілі ля клуба, супакойвае, гладзіць рукой па галаве і плача, плача... Мамы няма, няма мамы...

«Электра, Эля...— думала, ужо спакойна ідучы да аўтавакзала.— Лепш бы назвалі якой Маняй альбо Дуняй. А то выдумалі...» Аднак яна нават у думках сабе не сказала, хто гэта выдумаў ёй такое імя.

Ужо ў вёсцы яна сустрэла Міфодзевага Рыгора, які панура цягнуўся за дзесяткам кароў.

— Як яно? — абыякава спытаў і, не чакаючы адказу, прайшоў міма. Потым спыніўся, здзіўлены, усё ж заўважыў: — Што гэта?

Электра чамусьці спалохалася, прыціснула да сябе кветкі, нібыта баючыся, што Рыгор адбярэ іх. Ён пераступіў з нагі на нагу і вымавіў:

— Файны букет...

Тым часам, пакуль яны стаялі, каровы ўбіліся ў жыта. Рыгор вылаяўся і пабег выганяць іх. Электра памагла яму: запыніла кароў і павярнула назад.

Летась Рыгор пахаваў жонку. Ён узяў сабе ў галаву, быццам яна захварэла ад таго, што ён курыў. Куды цяпер зніклі яго жартачкі. Жыў ён адзін, сын быў у арміі.

Паглядзела Электра ўслед Рыгору і няспешна, перапоўненая радасцю і шчасцем, пашыбавала дамоў. З усіх бакоў пахла кветкамі. Калі б не саромелася людзей, пабегла б па вуліцы і спявала б. Усё-ткі яна шчаслівая, Электра...

Яна адчыніла веснічкі і ўбачыла ў двары «Жыгулі». Па нумары пазнала, што Мішкавы. Узрадавалася: вось малайчына, успомніў і прыехаў павіншаваць. Зараз яна што-небудзь прыгатуе, і яны пасвяткуюць у роднай хаце. Успомняць маму і тату...

На ганку Электра зняла басаножкі і ступіла ў паўзмрок сенцаў. Дзверы ў хаце былі адчынены. Міхал, згорбіўшыся, стаяў на каленях і штосьці рабіў. Яна падкралася да яго і ўжо хацела закрыць яму вочы рукамі. Аднак тое, што ўбачыла, уразіла яе: Электра ажно разгубілася, зніклі словы, якія сабралася сказаць.

Міхал трымаў у руках металічную рулетку і вымяраў падлогу. Электра адразу падумала, што брат нарэшце заўважыў гнілаватыя дошкі і замяніць іх новымі. Яна і сама планавала ўвосень зрабіць сякі-такі рамонт. Нават дамовілася наконт дошак. Канечне, братоў клопат таксама не пашкодзіць.

— Мі-хал! — прашаптала Электра. Брат спуджана ўздрыгнуў, узняў галаву, і твар у яго пачырванеў. Відаць было — ён так разгубіўся, што мо хвіліну не мог падняцца на ногі. Урэшце ўсхапіўся і моўчкі сеў на ўслон, адвярнуўся ў акно. У Электры ад прадчування нечага благога ажно заныла сэрца.

— Што такое, Міша? — спыталася, крануўшы брата за плячо.

— Так...— ён узмахнуў рукой,— нічога сур'ёзнага.— Убачыў кветкі.— Куды гэта іх? На продаж?

Голас у Міхала быў вінаваты. Вочы чамусьці хаваў ад сястры. Як у маленстве, калі нашкодзіць.

— Мне падарылі...— Можа, усё-ткі ён здагадаецца, чаму менавіта сёння ёй падарылі гэты агромністы букет.

Брат і не паспрабаваў гэта зрабіць, штось пісаў на паперцы, нешта лічыў.— Мне... мне пяцьдзесят год...

— А...

Электра задрыжэлымі рукамі неяк прыладзіла кветкі ў вазу, пераадзелася ў кутку за печчу. Пачала збіраць на стол.

Міхал скончыў лічыць, уздыхнуў.

— Во, глянь,— паклікаў сястру,— сюды.

Яна паглядзела на паперу: на ёй быў намаляваны прамавугольнік ці квадрат, падзелены на чатыры часткі. Кожная частка была пазначана сваёй літарай: М, В, Г, Э...

— Што гэта? Задача ці гульня? — усміхнулася Электра.

— Якая гульня, якая гульня! — выкрыкнуў брат, дастаў цыгарэты і закурыў. Раней ён у хаце ніколі не курыў.— Разумееш...— ужо цішэй загаварыў ён,— мы ўсе, акрамя цябе, жывём у горадзе. І нам патрэбны... дачы. А дзе мы іх возьмем? Мы вырашылі падзяліць хату на чатыры часткі, каб у кожнага была свая.

— Якія дачы? — яшчэ не разумела Электра.— Прыязджайце, адпачывайце. Ці ж я не даю?

— Ты гаворыш абы-што,— перабіў яе Міхал і адчаканіў: — Нам трэба падзяліць гэту хату і агарод на чатыры часткі, каб кожны меў сваё. Ясна?!

— Ясна...— урэшце Электра даўмелася, чаго дамагаюцца Міхал з братамі. У вачах стала цёмна. Яна падхапілася з услона і, нібыта сляпая, выцягнуўшы перад сабой рукі, пайшла па хаце ўздоўж сцен. Ля печы спынілася, ёй здалося, што там яны з мамай і малымі хлопцамі схаваліся ад холаду. Мішка шэптам просіць, каб расказала якую казку.

Электра прыхілілася тварам да печы і заплюшчыла вочы. Вельмі моцна пахла кветкамі. Цішыня... Яна дома...

— Ты адна, табе многа не трэба,— пачула ззаду, і нібыта ёй забілі цвік у галаву. «Электра, Эля...»

— Чуеш ці не?

Яна нічога больш не чула, у галаве нібыта цыганскі табар: галёкалі людзі, іграў гармонік, крычаў певень, спявалі птушкі. Ногі дрыжалі, яна прымусіла сябе зрабіць тры крокі да стала. Павяла па хаце вачыма. Яна была адна. За акном загула машына. Міхал ад'язджаў. Пуста ў хаце, усё роўна як брата і не было, як не сядзеў тут. Адна паперка на стале з квадрацікамі і літарамі. І кожная — быццам нумар для чалавека. Яе нумар з літарай Э...

Электра з цяжкасцю паднялася з услона, выйшла на двор. Вароты былі расчынены, і слуп, на якім трымаліся веснічкі, нахіліўся. Мусіць, зачапіў яго Міхал машынай. Яна абкапала вакол слупа, выпрастала яго і ўтрамбавала зямлю, як гэта рабіў бацька.

Электра бяздумна хадзіла па двары, зазірнула ў хлеў, дзе пахла ўжо мышамі, а не каровай, пасядзела ля кастра дроў. Было б лепш, каб паплакала, але некуды прапалі слёзы.

На дварэ гусцеў змрок, а яна ўсё сядзела пад хлявом. Потым ачулася, зайшла ў хату і, не запальваючы святла, навобмацак знайшла ў шафе сваю лепшую сукенку. Яна пашыла яе з крэпдэшыну, які купіла ўвесну за прэмію. Электра накінула на плечы хустку, ад парога вярнулася і ўзяла яшчэ кветак. Адным вокам зірнула на сябе ў люстэрка, але нічога не ўбачыла. А мо гэта і добра? Ведала, што твар у зморшчынах і бяскроўны. Пра гэта падумала на вуліцы.

Міфодзеў Рыгор ляжаў на ложку і нібыта спаў. Мо разбудзіць?..

— Хто? — спытаў нейкім нежывым голасам і пазнаў яе.— А, ты? Сядай, чаго стаіш, у нагах праўды няма-шака.

Электра палажыла кветкі. У галаве па-ранейшаму быццам цыганскі табар. Яна маўчала.

Рыгор нічому не здзівіўся, прынёс з каморы сала, гуркоў, нарэзаў хлеба. Ёй здалося, што яго чорныя вусы ўсё роўна як пахудзелі, неяк сумна звісалі ўніз. Яна глядзела, як ён піў, еў, а ў вачах была паперка з квадрацікамі.

— Помніш, як у Леўкаў на танцах? — выдыхнула яна. Ёй захацелася, каб Рыгор пагаварыў пра той час, калі яны былі маладыя, а ён лавіў яе ў цемры, абдымаў і цалаваў. Яна ўцякала ад яго, а ён даганяў.

Рыгор спадылба глянуў на яе, звузіўшы вочы, і змоўчаў. Электра больш не гаварыла.

Яны моўчкі прасядзелі за сталом усю ноч. Электра ўспаміпала дзяцінства, матку, бацьку, братоў. Не было ні злосці, ні тым больш нянавісці. Яна бачыла іх зараз малымі і напалоханымі вайной. «Электра Іванаўна!..» — так назваў яе старшыня прафкома, якога яна лічыла непрыемным чалавекам, таму што ён за ўвесь час ні разу не павітаўся з ёй. Аднак ён гаварыў пра яе шчыра і букет падарыў. Яна адчувае, як пахнуць кветкі, і таму шчаслівая. Іх пах быў ужо і ў Рыгоравай хаце.

Мінала ноч, на дварэ шарэла. Электра выключыла святло, прыбрала са стала, але посуд не памыла. Рыгор, згорбіўшыся, нібы зусім стары дзед, ці то спаў, ці то драмаў. Яна асцярожна правяла рукой яму па валасах і, спалохаўшыся, што прачнецца ад яе дотыку, на пальчыках выбегла з хаты.

Рыгор глядзеў ёй услед...

## «Singen...»

Верыце ці не, толькі сабака застрэліў Міхея, школьнага сябра Браніслава Акімавіча. Самы лепшы пляткар такое не прыдумаў бы, але ж вось як яно можа быць.

Жыў Міхей у роднай вёсцы і рабіў у калгасе шафёрам. Любіў, калі дазвалялі, са стрэльбай пахадзіць па балоце, у лесе. Які ўжо там ён быў паляўнічы, мо за ўвесь час прынёс з дзесятак зайцоў і качак.

Вывазілі тады ў калгасе лес з-за Ясельды. Ну і ўзяў з сабой Міхей стрэльбу. Не паспеў зачыніць дзверцы, як ускочыў у кабіну да яго сабака. Прыехаў Міхей у Шчытнае, спыніўся на палянцы, дзе ўжо было некалькі машын, і шафёры, пастаўшы кругам, яшчэ пакуль расказвалі розныя байкі. Міхей вылез з кабіны са стрэльбай і выпусціў на волю сабаку. Той адразу заскакаў вакол яго, спрабуючы лізнуць у твар. Калі Міхей апусціў стрэльбу прыкладам на зямлю, сабака неспадзеўкі лапай зачапіў за спускавы курок, а стрэльба была зараджана. Грымнуў стрэл, і на вачах у нічога пакуль не разумеючых людзей упаў Міхей з акрываўленай галавой. Сабака спачатку спалохаўся і адбег, падціснуўшы хвост, а потым зноў пачаў скакаць ля гаспадара, здзіўляючыся, чаму ён не падымаецца з зямлі...

Пабыў на пахаванні старога сябра Браніслаў Акімавіч і вярнуўся дамоў у горад сумны, ціхі, як у ваду апушчаны. Здавалася, захварэў, а калі ўявіць, што наогул у яго выгляд не асілка, дык на рабоце пачалі думаць: нешта з ім здарылася. Але з далікатнасці нічога не распытвалі. Звычайна людзі імкнуцца зразумець міжнародныя праблемы, а тое, што баліць суседу, не надта іх турбуе і не цікавіць.

Браніслаў Акімавіч невысокі ростам, кульгае на правую нагу і на плячах — горб. З твару гэты чалавек нічога, можна сказаць, нават сімпатычны: чарнявы, валасы густыя, зрэдзь перасыпаныя сівізной, а вочы цёмна-сінія, ажно блішчаць. Штогод выклікалі яго на медыцынскую камісію, нібыта мог выздаравець, і зноў пацвярджалі другую групу інваліднасці.

Жаніўся Браніслаў Акімавіч позна, недзе пасля сарака гадоў, таму дзеці ў яго былі яшчэ малыя, нават не хадзілі ў школу. Наогул, быў ён чалавек вясёлы, ні з кім не сварыўся. Хоць ягоных жартаў баяліся, язык меў востры, дый галаву разумную. Нездарма заўважана: калі прырода адбірае адно, дык кампенсуе нечым іншым. Бывае жанчына прыгожая, але без цара ў галаве, а бывае розуму аж занадта, а на твар і глянуць нецікава. Тое ж і ў мужчын, усе ж — людзі...

Але ніхто на рабоце не ведаў і нават жонка Надзея, што гарбатым Браніслаў Акімавіч стаў з вайны. Было яму мо шэсць гадоў, і яны разам з Міхеем гулялі ў двары. Раптам адчыніліся веснічкі і ў двор увайшлі немцы. Кур паелі ўжо і, відаць, хацелі пацешыцца, паздзекавацца з дзяцей. Загадалі Міхею і Браніславу: «Aufschteen! Singen!» Што значылі гэтыя словы, хлопцам было вядома. Плачучы, скрозь слёзы, зацягнулі «Перапёлачку». Немцам іхняя песня не спадабалася, і яны пайшлі, але, адыходзячы, адзін з іх, даўгалыгі весялун з губным гармонікам, вінтоўкай перацягнуў па спіне спярша Браніслава, а потым і Міхея. Міхею дык і нічога ад гэтага, пабалела — і ўсё. Браніслаў ад удару страціў прытомнасць, бо фашыст трапіў прыкладам у пазваночнік,— і доўга хварэў. У вёсцы думалі, што памрэ. Аднак выжыў на шчасце ці на гора, толькі з гарбом на вузкіх, худых плячах, і правая нага зрабілася кароткая і амаль сухая. Гледзячы на яго вясёлы твар, ніхто дагэтуль не мог сказаць, што ён хворы ці пакрыўджаны жыццём.

Засумаваў Браніслаў Акімавіч пасля таго, як недарэчна загінуў Міхей. Быў ён адзіны сябра, перад якім можна было раскрыць душу, проста і аб усім пагаварыць. Дый шмат што яшчэ звязвала іх, як людзей блізкіх і параднёных вайной. Пахавалі Міхея, і мо праз месяц пачало сніцца: нібыта яны малыя і нехта вялізны, страшны камандуе ім: «Aufschteen! Singen!» З крыкам прачынаўся Браніслаў Акімавіч, палохаў жонку, дзяцей. Потым ляжаў да раніцы з расплюшчанымі вачыма і не мог болей заснуць.

Здавалася, што і свае бухгалтарскія абавязкі на заводзе ён пачаў горш выконваць, на дзень пазней тэрміну здаў справаздачу за квартал. І ўсе вырашылі: Браніслаў Акімавіч захварэў. Урэшце і яму самому ўжо так падалося, бо як надыходзіла ноч, у галаве гучала: «Aufschteen! Singen!» Цяпер ён нават баяўся класціся спаць. Дый нібыта зноў ачуўся боль на спіне, у тым месцы, куды стукнуў вінтоўкай немец.

Аднойчы, панура ідучы па вуліцы, Браніслаў Акімавіч апынуўся перад шыкоўным, поўным чалавечага гуду і музыкі, рэстаранам. Памарудзіўшы трохі, зайшоў у прасторную залу. Яму знайшлі месца, і ён заказаў сёе-тое паесці. Не спяшаўся, ні аб чым не думаў, проста адпачываў. Яго ўвагу прыцягнула група замежных турыстаў, якія сядзелі ў двух кроках ад століка і гучна весяліліся. Ён прыслухаўся да іх гаворкі і зразумеў, што гэта немцы. І, як бы пацвярджаючы яго здагадку, сусед па століку, малады хлопец у белай майцы з тыгрынай галавой на грудзях, сказаў:

— Турысты з ФРГ...

Больш з іх былі пажылыя людзі і, відаць, яны не адчувалі, што ў чужой краіне, паводзілі сябе спакойна і ўпэўнена. Гэта адразу заўважыў Браніслаў Акімавіч і між волі ўжо слухаў іхнюю гаворку, і з кожнай хвілінай нервы рабіліся ўсё тужэйшымі, а ў галаве запульсавала: «...Singen! Singen!»

— Што з вамі? Вам блага? — крануў яго за руку хлопец.

— Не, мне добра, вельмі добра,— прамовіў Браніслаў Акімавіч, і нейкая сіла падхапіла з крэсла і змусіла ісці да таго стала. Гэта было нешта такое ж, як, стоячы на балконе шматпавярховага дома, глядзіш уніз і хочаш скочыць, нібы магнітам цягне да сябе зямля. Магнітам былі для Браніслава Акімавіча людзі, чыя мова выклікала ў яго свядомасці словы, якія гучалі ў галаве, быццам молат аб кавадла.

Калі ён падышоў і ўтаропіўся цёмнымі ад прыхлынутай крыві вачыма, гамана за сталом сціхла і ўсе пачалі насцярожана глядзець на гэтага маленькага кульгавага гарбуна. Танклявым, амаль дзіцячым голасам ён выкрыкнуў:

— Aufschteen!

Якуюсь долю хвіліны за сталом яшчэ сядзелі, потым, разгублена пераглядаючыся, падняліся.

— Singen! — зноў крыкнуў ён.

Цішыня.

— Singen! — паўтарыў, махнуўшы рукой.

І гэтыя людзі заспявалі: спярша нясмела, нядружна, а затым усмешкі на іх тварах узніклі, і яны ў лад, узяўшыся за рукі, павялі з настроем сваю тамтэйшую, мабыць, вясёлую песню...

Неўзабаве з міліцыі на завод прыслалі паперу. Браніслава Акімавіча запрасілі на таварысцкі суд, які зацягнуўся надоўга, таму што падсудны на пытанні не адказваў.

**ЗМЕСТ**

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ

**Супрунчук В.**

С 89 **Недзе баліць ля сэрца: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 247 с.**

Галоўны герой аповесці «Недзе баліць ля сэрца» — старшыня калгаса Сяргей Сяргеевіч. Ён не шкадуе ні сілы, ні здароўя, каб абнавіць, зрабіць багацейшай родную зямлю. Аповесць «Кошык дробнай бульбы» расказвае аб тым, як дрэнны ўчынак, зроблены ў дзяцінстве, пазбавіў чалавека спакою на доўгія гады. У цэнтры аповесці «Лінія» — вобраз маладога сучасніка, які настойліва шукае свой шлях у жыцці. Гэтай жа тэме прысвечаны і апавяданні, што ўвайшлі ў кнігу.

**ББК 84Бел7**

**С $\frac{4702120200-163}{М\ 302(05)-86}$ 32—86**

**ВИКТОР ПЕТРОВИЧ СУПРУНЧУК**

**ГДЕ-ТО БОЛИТ У СЕРДЦА**

**Повести и рассказы**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *М. Н. Герчык.* Мастак *У. В. Адамчык.* Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Я. Ф. Харко.*

ІБ № 2526

Здадзена ў набор 25.02.86. Падп. да друку 20.10.86. АТ 00682. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,02. Ум. фарб.-адб. 13,02. Ул.-выд. арк. 14,37. Тыраж 10 000 экз. Зак. 2257. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня «Победа», зак. 2230, 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

